# ВАРЛЕН БЕЧЫК



# Радкі і жыццё

## СТАРОНКІ ДЗЕННІКА

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1993

ББК 84Бел7
Б 56

*Укладанне Л. Л. Кароткай*

*Прадмова П. Е. Панчанкі*

Варлен Бечик (1939—1985), чья преждевременная кончина больно ударила по нашей культуре, при жизни издал мало книг («Путь к океану», «Мир живой и близкий», «Пред высокою красой» и др.), но вклад его в белорусскую критику и литературоведение неоспоримо велик. Эта книга — страницы из его дневника, который он вел всю свою жизнь. Предельная искренность, глубокое и тонкое проникновение в жизнь и литературу, непринужденный, образный язык и многие другие привлекательные стороны этой книги делают ее желанной для широкого круга читателей.

Б $\frac{4702120201—015}{М 302 (03)—93}$ 131—91



ISBN 5-340-00770-1

# ВАРЛЕН БЕЧЫК



Ёсць людзі, якія валодаюць абсалютным музыкальным слыхам. Іх сэрцы поўняцца радасцю, калі яны чуюць бліскучае выкананне сімфоній, арый, песняў, яны чуйна ўлаўліваюць кожную недакладнасць, а тым больш фальшывую ноту, наогул фальш.

Вось такім абсалютным паэтычным слыхам валодаў выдатны крытык Варлен Леанідавіч Бечык, які заўчасна пакінуў нас. Так рана і так горка...

У яго чулае сэрца, у абсяг яго назіранняў, думак, радасці і трывог трапіла ледзь не ўся беларуская паэзія, а таксама руская, іншых братніх народаў. Многае з сусветнай класікі. Бечык прыводзіць словы, сказаныя пра іншага творцу: «Хворы на душэўную чэснасць». Гэта стасуецца перш-наперш да самога Варлена.

З павагай і любоўю Варлен піша пра сваё пакаленне (рознасць у некалькі гадоў не бяром у разлік): Хадановіч, Стральцоў, Вярцінскі, Гілевіч, Барадулін, Бураўкін, Зуёнак, Сіпакоў, Кудравец, Сёмуха, Янішчыц і іншыя. Свежа і пераканаўча аналізуе творы старэйшых паэтаў. Слова «аналізуе» не зусім падыходзіць да радкоў Бечыка. Гэта хутчэй суперажыванне, радасць адкрыцця, якой ён хоча падзяліцца спачатку з самім сабой, а потым і з усімі людзьмі: якія паэты, якія асобы, якая праўда, якая боль і справядлівасць!

Варлен Бечык быў добры чалавек. Ён амаль ніколі гнеўна не «распякае» аўтара, а нават у не вельмі адораных паэтаў імкнецца знайсці нейкія светлыя праўдзівыя радкі.

Тут друкуюцца толькі асобныя старонкі дзённіка. Але і з гэтых скупых запісаў перад намі паўстае жывы і непаўторны чалавек: разумны, глыбока адукаваны, прагны да жыцця, праўды, кніг і шчырага сяброўства. І вельмі самакрытычны, часамі, як нам бачна сёння, займаецца залішнім «самаедствам».

Але Варлен, нягледзячы на ўсе нягоды, застаецца аптымістам, улюбёным у жыццё, прыроду, людзей, таленавітыя творы. Такім ён стаіць перад нашымі вачыма — увесь у шчасці і захапленні «перад высокаю красою».

Не магу не перапісаць некалькі радкоў з дзённіка Варлена Бечыка, таленавітага мастака:

«Праўда заўсёды высакародная».

«Сёння на досвітку быў спорны цёплы дождж. Раніцой — бліскучыя лужыны, дух парнай вільгаці, цемната пад гушчынёй клёнаў. Росныя закраіны сцежкі. І спакойна-зялёная вада на рацэ. Я сказаў бы: хай будзе ўсё гэта — і до. Дык не: усё гэта заўсёды жыве ў нас разам з пэўным настроем. І калі гэта не частка асабістага зместу, дык — нішто... Каб крок, паўкроку — уперад».

«Кожны дзень без разгону, абвальваюся ў ненавісць да лгуноў, прыстасаванцаў, дэмагогаў...»

І многа добрых слоў пра любімую маці, накшталт: «Учора вечарам у мамы. Глыток чыстага паветра...»

*Пімен Панчанка*

# 1959



*25.III.*

Хочацца напісаць: «Давайце яшчэ раз пагаворым аб роднай мове!»

Горький (сыну): «Родной язык надо любить, как мать, как музыку, и надо уметь хорошо говорить, чтобы при случае передать свою мысль другому человеку ясно и просто».

М. Танк:

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага срэбра маланак-крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, —
Ты выткана, дзіўная родная мова.

Ён жа:

...О колькі яшчэ не адкрыта
Адценняў у ёй і блакіту,
Патрэбных народу, паэтам
Каштоўнай руды, самацветаў!

Тэма курсавой: «Слова і думка ў паэме «Сцяг брыгады».

Народная мудрасць: калі ў мяне загарэлася хата, я пазнаёміўся з маімі сябрамі.

У жанчыну нельга кінуць нават кветкай.

**М. Светлов:**

> Как мальчики, мечтая о победах,
> Умчались в неизвестные края
> Два ангела на двух велосипедах —
> Любовь моя и молодость моя.

Чытаючы такія вершы, хочацца думаць не пра паэзію, а пра жыццё.

# 1960-1962



## КЛАС ВОСЬМЫ, КЛАС ДЗЕВЯТЫ...

**Нататкі настаўніка**

Прыйшло мне пісьмо. Піша маладая настаўніца, з якой разам працавалі. Па аб'ектыўных прычынах ёй давялося пакінуць школу. На новай рабоце — свежыя ўражанні, новыя клопаты, свае будні і святы. Але ў пісьме мала пра гэта, а больш пра школу. «Я вельмі многа думала пра тыя тры гады, якія каштавалі шмат сіл, нерваў, здароўя. Гэта не паўторыцца. Нейкі кавалак сэрца — аддаць, лепшы — заўсёды будзе там...»

Ідуць дні, тыдні, месяцы. Заязджаюць, заходзяць, пішуць і званяць былыя вучні. «Часта ўспамінаю школу і вучняў, нават сны бачу па-ранейшаму школьныя»,— гаворыцца ў пісьме.

Трэба ж — працавала дзяўчына ў школе, былі самыя звычайныя будні, поўныя і нуднага карпення над сшыткамі, і сумнага пісарскага чыстапісання, і розных дакучлівых абавязкаў. Часам скардзілася: гінуць лепшыя гады... А сёння аказалася, што з тых гадоў і будняў пачынаецца след самых прыемных успамінаў.

Такая ўжо настаўніцкая работа. Цяжкая, карпатлівая і часта непрыкметная: няма ў ёй незвычайнай знешняй рамантыкі, «прадукцыя» яе не такая відавочная, як у ткачыхі, рабочага, даяркі. Работа неспакойная, напружаная, ненарміраваная. Працуеш немаведама колькі, хвалюешся ад рання да вечара, і, здараецца, не адзін раз на дзень балюча пакрыўдзяць цябе, а ты зноў трызніш школай і вучнямі...

Каля двух гадоў я працаваў выкладчыкам мовы і літаратуры. За гэты час прыйшоў сякі-такі вопыт, у памяці асела мноства ўражанняў. Пра тыя з іх, што хвалююць і зараз, хочацца расказаць у гэтых нататках.

## НАПАЧАТКУ

Мяне, навічка, прызначылі класным кіраўніком у восьмы клас. Выхавальнікам дваццаці пяці вучняў — трынаццаці хлапчукоў і дванаццаці дзяўчынак. Якія яны, якія ў іх узаемаадносіны, як яны сустрэнуць мяне? I як я буду з імі жыць? Ці прызнаюць яны мяне, ці станем мы ўзаемна блізкімі і дарагімі?

Памятаю, мне гаварылі: «Хваляваацца асабліва няма чаго. Ва універсітэце быў не горшы за іншых. Прадмет свой, здаецца, ведаеш. У часе практыкі ўсё было як у людзей. Сам быў вучнем, і вучняў зразумееш. Словам, смялей!»

А я ўсё-такі баяўся.

Я прыйду ў клас, і яны прыгледзяцца, як я апрануты і як выглядаю. Я скажу: «Добры дзень!» — і яны прыслухаюцца, які ў мяне голас. Я пачну ўрок, а яны будуць усё прыкмячаць і ацэньваць: як я хаджу, як гавару, як пішу і як стаўлю адзнакі. I хутка, не згаворваючыся, навучацца, як са мною трымацца, як мне адказваць, як паводзіць сябе на маіх уроках. А як я сам? Навучуся, здолею падружыцца, заслужыць аўтарытэт і ўвайсці ў давер?

Першыя крокі даводзіцца рабіць навобмацак, наўздагад.

Гаварыць «ты» ці «вы»? Звяртаюся заўсёды і ўсюды на «вы». Гэта азначае: я цябе паважаю, лічу самастойным чалавекам, і ты будзь варты маёй павагі.

Выбіраць старасту класа адразу ці пачакаць? Лепей было б пачакаць: адразу можна памыліцца. Рызыкую:

— Давайце выберам старасту. Каго вы прапануеце?

— Няхай будзе Маруся Рылько[1],— адзінагалосна вырашае клас.

Дзяўчынка, здаецца, добрая.

Што рабіць, калі будуць не слухацца, парушаць дысцыпліну?.. Рабіць заўвагі? Перасаджваць або выпраўляць з класа? Весці ў настаўніцкую, запісваць у дзённік, выклікаць бацькоў? У настаўніцкую рашыў не вадзіць. А як астатняе — хто яго ведае... Спачатку, відаць, буду дзейнічаць так, як калісьці лепшыя мае настаўнікі, і буду прыглядацца, як працуюць калегі.

А як быць, калі вучань не падрыхтаваўся да ўрокаў? А калі просіць адпусціць яго з заняткаў, са сходу, з

[1] Прозвішчы вучняў зменены.

работы?.. Безліч прычын, і, відаць, кожная патрабуе асобнага, пільнага разгляду. Стандартнага рашэння на ўсе выпадкі няма.

І даводзіцца штодзень вось так, не ведаючы яшчэ што і як, загадваць, правяраць, вырашаць, адказваць. І часта памыляцца, бо заўсёды нешта не ўлічыў, не ведаў, не здагадаўся. Ты яму паверыў і адпусціў, а ў класе гавораць: «Не балела ў яго нага, да вечара мяч ганяў». Паставіў вучаніцы двойку, пасля ўрокаў пакідаеш і — раптам чуеш: «Калі ёй вучыць, у яе маці хворая». А бывае і больш складана, калі адно неасцярожнае слова ўсё псуе, калі для правільнага рашэння патрэбны і вынаходлівасць, і цярпенне, і тактоўнасць.

Толькі пачаліся заняткі, а ўжо нахлынула:

«Нехта нагой адчыняе дзверы ў клас»;

«У Станкевіча двойка за двойкай»;

«Некалькі вучняў уцяклі з урокаў»;

«Па класе гуляюць запіскі»;

«Не ўсе дзённікі падаюць...»

Ты пакуль што нікога і нічога не ведаеш як след, а ўжо адказваеш за іх.

## ЗДАРЭННЕ НА ШКОЛЬНЫМ ВЕЧАРЫ

Помніцца першы школьны вечар. Усе апрануты святочна. Вучні трымаюцца неяк асобна ад мяне, я адчуваю сябе крыху лішнім і староннім. Вечар яшчэ не пачаўся, і мы рыхтуем залу, носім лаўкі, крэслы, сталы.

Я з цікавасцю прыглядаўся да сваіх вучняў і раптам заўважыў, што Лёня Петрыкаў чамусьці незвычайна рухавы, жвавы, гаваркі. Убачыў яго блішчастыя вочы і зразумеў: выпіў.

Няўжо?! На мінулым тыдні ён паабяцаў выправіць свае двойкі, і якраз сёння мы адзначылі, што ён свайго слова гаспадар. У класе яго, здаецца, любяць: дасціпны, талковы і вясёлы хлопец. Звычайна мне прыемна з ім гаварыць, але не сёння. Я адазваў яго ўбок і сказаў:

— Лёня, вы сёння падазрона выглядаеце. Разумееце мяне?

— Што вы, вам падалося, Варлен Леанідавіч.

У тоне, у голасе нешта зухаватае, непрыемнае, няпраўдзівае. Таму я не паверыў. Падышоў да купкі хлопцаў.

— Русаловіч! Скажыце, Лёня Петрыкаў часта прыходзіць выпіўшы на вечары?

— Ды не, гэта ён толькі сёння. Для смеласці...

Тады я яшчэ не ведаў, што ў гэты вечар наш Лёня паводзіў сябе з вучаніцамі задужа даросла. Але я ведаў, што мне тут жа, зараз, трэба зрабіць нешта такое, каб ні адзін наш вучань не пасмеў больш быць такі, як сёння Лёня.

Стрымліваючы гнеў, я папрасіў старасту сабраць увесь клас у вестыбюлі. Паклікалі Петрыкава. І вось ён стаіць перад намі. Я пытаюся, ці ўсе ведаюць, чаму мы тут сабраліся.

— Можа, вы скажаце, Петрыкаў?

Не, ён не адкажа, ён не ведае. Ну што ж — растлумачаць тыя, хто ведае. З мінуту ўсе маўчаць. Нехта з хлопцаў паціскае плячыма. Але я ўпэўнены: знойдуцца такія, што не пабаяцца сказаць праўду ў вочы. І нарэшце я чую голас Надзі Барысенка:

— Не ве-даюць... П'яны прыйшоў. Усе бачаць, а нечага прыкідваюцца...

Я пытаюся, хто сумняваецца ў гэтым:

— Вы?.. Вы?.. Вы?.. Ну, скажыце нам хто-небудзь, што ўсё няпраўда, што мы памыляемся. Хоць вы, Петрыкаў, скажыце...

І тады я, можа, і залішне жорстка, сказаў:

— Значыць, праўда. Вы зняважылі ўвесь свой клас. Зневажайце ж цяпер, гледзячы нам у вочы, кожнага паасобку — мяне, яго, яе...

Рашылі, што Лёню нельга больш аставацца на вечары, і ён пайшоў... Пэўна, ён і сёння памятае класны сход, на якім ледзьве не вырашылі «прасіць дырэкцыю выключыць са школы Петрыкава Леаніда». (Была такая прапанова.) Памятае, відаць, пра што мы гаварылі ў яго дома, пасля сходу, і тады, калі ён пайшоў мяне праводзіць. Пазней ні з ім, ні з кім-небудзь іншым з нашых вучняў такое не здаралася.

## ПЕРШЫЯ УДАЧЫ

Зроблены першыя крокі. Пабыў дома ў вучняў, пазнаёміўся з бацькамі, месяц быў з класам «на бульбе». Вучні прывыклі да мяне, а я да іх. Сёе-тое ведаю пра кожнага.

Вось Толя Бранавец — быстры, тэмпераментны, энергічны. Ганарлівы і самаўпэўнены, амаль усур'ёз называе сябе Анатолем Пятровічам. Самалюбівы і хваравіта перажывае за адзнакі, а любіць зарабляць іх «з шыкам», без падрыхтоўкі.

Валодзю Панамарова клас недалюблівае: ён можа нашкодзіць спадцішка, грубы. Надзіва паслухмяны і ветлівы дома, на вачах у бацькоў, затое капрызны і неспакойны ў школе, непаседлівы на ўроках.

Алік Смольскі — душэўны і таварыскі, яго паважаюць. Дрэнна толькі, што ён надзвычай непісьменны: робіць па дваццаць памылак у просценькай дыктоўцы і абсалютна не мае ўяўлення пра знакі прыпынку.

Надзя Барысенка — жартаўніца і разумніца, добра вучыцца, прынцыповая дзяўчынка, употай піша вершы, хоча іх паказаць і — саромеецца...

Словам, усе розныя па характару і паводзінах, і працаваць з імі цікава. Я стараюся быць з імі як мага болей. Хаджу на ўрокі, не вылажу з класа на перапынках, сустракаюся пасля заняткаў.

Першая чвэрць была для мяне вельмі ўдалая. Чаму? Відаць, таму, што спачатку многае для класа было новае і незвычайнае: самі вялі сход, пісалі пратакол, складалі план, «лупцавалі» двоечнікаў, рыхтавалі вечар. Перад тым як што-небудзь зрабіць, я ішоў у клас і сур'ёзна раіўся з кожным, чыёй падтрымкай хацеў заручыцца. Потым прыступаў да «рашучых» дзеянняў. Збіраў, напрыклад, клас і казаў:

— На ўроках гуляюць запіскі. У партах пасля заняткаў застаюцца горы паперак...

— Не будзем, досыць.

Праз дзень чую, як аднаму хлопцу гавораць на перапынку:

— Ты, браце, кінь Марусі запіскі пісаць. Сам абяцаў, за язык цябе не цягнулі...

А Надзя Барысенка, атрымаўшы ад хлопца запіску з суседняй парты, казала яму:

— Я табе так напішу, што дзесятаму закажаш...

Не стала ў класе запісак.

Я нават паспрабаваў адным махам, з наскоку, як кажуць, адвучыць і ад курэння. Бранавец кінуў курыць сам, а Станкевіч, апошні наш курэц, перад усім класам здаў старасту папяросы і партсігар. Паабяцаў: «Усё, болей не буду». Але прайшло тыдні са два, і ён прызнаў-

ся: «Цягаю...» А партсігар і папяросы зноў апынуліся ў яго...

Недзе тады мы сталі выпускаць сваю, «чытабельную» насценгазету.

## НАША ГАЗЕТА

Спачатку не хацелі пісаць заметкі. Пра што? У класе ўсё і так вядома. Я падумаў: тады няхай заметкі напішуць усе, і на нумар павінна набрацца цікавага матэрыялу. Пасля ўрокаў я папярэдзіў: газету робім не для формы. Даў зразумець, што не адступлюся, пакуль не напішуць заметкі.

Пасядзелі і пачалі прасіцца:

— Дазвольце, я напішу ў другі раз.

— Я заўтра прынясу.

— У мяне не атрымаецца.

— Не ведаем, пра што пісаць.

Тады я кожнаму падказаў тэму.

Я ішоў па радах і гаварыў:

— Вы лепей за ўсіх ведаеце Марыю, а ёй спаўняецца гэтымі днямі пятнаццаць гадоў. Напішыце заметку «Наша сяброўка Марыя». Раскажыце пра таварыша, з якім седзіцё побач... Апішыце асенні лес — вы часта бываеце ў ім... Што вам падабаецца ў нашым калектыве, а што не. Раскажыце пра цікавую кнігу... Хіба мала тэм вакол вас?

Тэмы знайшліся. Рэдкалегія атрымала цэлы стос заметак. Трэба было давесці іх «да кандыцыі», як хтосьці пажартаваў. Мы адкінулі ўсё лішняе, дзе трэба, падправілі, там-сям далі свой, часам жартаўлівы, каментарый. Затым спланавалі газетны ліст, прыдумалі загалоўкі, падзагалоўкі, шапкі, рубрыкі. Аня Хорашава стала запраўскім сакратаром: яна ўмела ўсё спланаваць, умясціць, разграфіць, прыдумвала трапныя загалоўкі. Два класныя мастакі — Валодзя Панамароў і Гена Далгоў — ілюстравалі газету. Малявалі яны стрымана, «эмоцый» не выказвалі: аднакласнікі «прапясочылі» ў газеце іх саміх.

І вось на сцяне застракацеў ліст, і на ім выразны загаловак-назва — «Мы вучымся». Як і водзіцца, рэагавалі па-рознаму. Але адчувалася: у жыцці класа гэта — з'ява...

Хутка выявілася, што аўтары заметак раўніва ўспрымаюць рэдакцыйную праўку.

— Стыль трэба берагчы! — абвясціў я.

Цяпер заметкі не ішлі ў «друк», пакуль аўтары іх не «завізуюць».

Газета стала састаўной часткай нашага жыцця. Калі «перыядычнасць» яе парушалася, усе дружна лаялі рэдкалегію. На лета ў нашага дзевятага класа з'явіўся «блізнюк», і мы ўвялі ў газеце яшчэ адну рубрыку — «На другім канцы калідора» (там размясціўся паралельны клас).

З-за аднаго нумара ўзнікла спрэчка. У школе быў «дзень завуча». Да нас прыехалі госці з усіх школ раёна — для абмену вопытам работы. Нехта з прыехаўшых угледзеў нашу газету. Кінуўся ў вочы зроблены па дыяганалі ліста надпіс: «Наша слова Бранаўцу». Ва ўсіх заметках гаварылася пра Толю Бранаўца: «Бранавец і правілы для вучняў», «Хто яго сябры?», «Мух у носе многа...». Быў сатырычны верш і рэдакцыйны артыкул.

Для аб'ектыўнасці змясцілі выказванні і ў карысць Бранаўца — з імі выступілі яго лепшыя сябры.

Але агульная думка класа была не вельмі прыемная для Толі.

Мне гаварылі тады, у «дзень завуча»: «Нельга выпускаць цэлы нумар для аднаго вучня. Вы адштурхнеце яго ад класа».

Я не пагадзіўся. Толя ўбачыў, што думае пра яго клас.

Спачатку, калі Толя даведаўся, што ўвесь нумар будзе пра яго, ён хмыкнуў і нават спрабаваў «фарсіць» гэтым. Потым занерваваўся, пачаў пытацца: «А чаму іменна пра мяне?» Урэшце зусім разгубіўся. Калі нумар быў выпушчаны, заявіў: «Усё няпраўда!» Калі так — склікалі класны сход. Зачытвалі кожную заметку і гаварылі:

— Скажы, дзе тут няпраўда?

Уставалі і пыталіся:

— А гэта памятаеш? А гэта было ці не было?

Я не магу сказаць, што з таго часу Толя Бранавец стаў іначшы. Ён і пазней бываў у «апазіцыі», вучыўся няроўна, на ўроках атрымліваў шмат заўваг, прыносіў мне і класу шмат непрыемнасцей. Важданіны з ім хапала. І хоць мы вылучылі яго ў старасты літаратурнага

гуртка, меў ён і іншыя адказныя абавязкі, але заставаўся ўсё такім жа.

Толькі я перакананы — змаганне з ім не прапала марна: выхоўваўся клас, вучні прывыклі гаварыць праўду ў вочы і несці адказнасць за свае словы. Ды і Толя многае зразумеў, хоць і не адразу.

...Адно здарэнне, звязанае з класнай газетай, змяніла мае адносіны да Валодзі Панамарова.

Была ў газеце заметка, дзе, у каторы раз, далёка не станоўчым героем выглядаў Валодзя Панамароў.

Трэба прызнацца, да таго часу Валодзя мне надакучыў. З першых дзён толькі і даводзілася чуць: «Валодзя двойку атрымаў», «Валодзя дзённік не падае», «Валодзя нагрубіў», «Валодзя пабіўся»... У класе яго не падтрымлівалі, і мяне спачатку радавала такая «ізаляцыя». Калі ўсе супраць Панамарова — значыць, можна спадзявацца на поспех.

Але мінуў год, а Валодзя нібы і не змяніўся.

Ён, праўда, удзельнічаў у некаторых справах: афармляў газету, выступаў у самадзейнасці. Але ніхто з ім не сябраваў. Пра яго гаварылі амаль са злосцю: надакучыла тое, што пасля заўваг ён прымаў выгляд несправядліва пакрыўджанага. Калі захварэў, наведваць пайшлі неахвотна. Толькі Аня Харошава згадзілася адразу: «Сходзім. З хаты не выганяць. Ды ён жа дома такі культурненькі...» У канцы ледзь не кожнай чвэрці гаварылі, што яму варта знізіць адзнаку за паводзіны.

Ужо неяк нібы і прывыклі да Валодзі як да парушальніка дысцыпліны. Нават у той газеце было напісана пра яго неяк абыякава, неахвотна: «Парушаюць дысцыпліну Валодзя Панамароў і...» (ішоў пералік прозвішчаў).

І раптам якраз гэтае месца ў газеце нехта густа замазаў мелам. У той дзень у класе было два маіх урокі. Паміж імі, у часе вялікага перапынку, калі ўсе пакідаюць клас, нехта і запэцкаў газету. Стала вядома, што на перапынку ў класе быў Валодзя Панамароў. Але Валодзя ўпарта сцвярджаў:

— Газету запэцкаў не я.

Яму не верылі. Надзя Барысенка, барометр класных настрояў, сказала:

— Зрабіў, а цяпер адпіраецца...

— Не, не я.

А я адразу паверыў: ён, толькі ён. У тым, што ён

маніць, я не сумняваўся. Але прамых доказаў не было, ніхто не бачыў Валодзю каля газеты. Тады, жадаючы прысароміць хлопца і яшчэ больш падкрэсліць недарэчнасць «відавочнай», як мне здавалася, хлусні, я сказаў знарок спакойна:

— Валодзя гаворыць, што газету запэцкаў не ён. У нас няма доказаў, каб настойваць на сваіх падазрэннях. Значыць, мы ўзводзім на яго паклёп, а тут сядзіць і маўчыць той, хто гэта зрабіў. Трэба, каб ён зараз прызнаўся.

І нечакана ўстаў Алік Смольскі:

— Я запэцкаў. Я выпраўлю.

У тую мінуту мы нават не паверылі, але Тамара Саковіч пацвердзіла: так, гэта зрабіў ён, Смольскі. Аказваецца, яна ўсё бачыла і штурхала Аліка, каб той сам прызнаўся...

Можа, і не засталося ў Валодзевай душы прыкметнага следу ад той гісторыі, магчыма, адбылася нейкая змена ў мне самім, нейкі няўлоўны паварот у маіх адносінах да яго, але праз якія месяц-два я ўжо адчуваў, што і Валодзя Панамароў — член нашага калектыву. У канцы года яго прынялі ў камсамол...

## АЛІК СМОЛЬСКІ

Мы рознымі спосабамі спрабавалі папярэдзіць двойкі. Часцей за іншых зараблялі іх Жукоўскі, Тумар, Куневіч і Смольскі. Тры першыя проста ленаваліся, і нам няцяжка было ўзяць іх «у абарот». Іх бралі пад кантроль. Адзін час Тамара Саковіч, Ліда Рудовіч і Маруся Рылько пакідалі іх пасля ўрокаў. Я нават пасмейваўся, калі бачыў, як прыдзірліва экзаменавалі яны Куневіча і Жукоўскага. Надзя Барысенка гэтай работы не прызнавала («Чаго з імі няньчыцца! Няхай дома не лайдакуюць»), затое ахвотна ўключалася ў праверкі, якія мы праводзілі перад урокамі. Быў перыяд, калі і я, каб ім памагчы, рашаў задачы па матэматыцы. Калі хлопцаў, як нехта з іх гаварыў, «бралі за жабры», яны, як ні круціліся і ні хітравалі (толькі хіба нашых дзяўчат ашукаеш!), урэшце, «выбіліся ў людзі» (так дакладвала класу Маруся Рылько).

Не змаглі выцягнуць толькі Смольскага. Спачатку я думаў, што ён проста нядольны. Таму ўсміхнуўся, калі

аднойчы пачуў, як бацька Смольскага гаварыў: «Ты, Алька, ого як мог бы вучыцца! Вунь брат твой дзесяць класаў закончыў без двоек, а ты ж куды больш здольны за яго». («Ну, — думаў я, — уяўляю сабе, колькі пакут было са старэйшым, калі нашага Аліка бацька яшчэ лічыць здольным».)

Час ішоў, а прыкметных змен у вучобе Аліка не было. Звычайна, у канцы чвэрці ён неяк «вылазіў», закончыў восем класаў, але ў дзевятым атрымаў за другую чвэрць нешта каля чатырох дрэнных адзнак.

Пасля зімовых канікул ён у школу не прыйшоў, а Тамара Саковіч, яго суседка, паведаміла, што ён рашыў не хадзіць болей на заняткі. «Я яму гаварыла, што трэба давучыцца. І бацька настойвае, каб ён пайшоў. А ён упёрся: — Не пайду, — і нічога больш не гаворыць».

— Як быць? — пытаюся ў класа.

— Трэба сур'ёзна абдумаць, — Толя Бранавец любіць выклікаць усмешку сур'ёзнасцю тону.

Ствараем «дэлегацыю» («Камітэт па вяртанні Смольскага ў школу», — жартуе Бранавец). Да Смольскага пойдуць: Аня Харошава (яна любіць «адказныя місіі» і крышачку любуецца сабою: «без мяне не абыдуцца»), Пеця Русаловіч (жыве непадалёку ад Аліка), Тамара Саковіч (агульнапрызнаны аўтарытэт) і я. Бранаўца не бяром — нам не да жартаў.

У той вечар мы доўга гаварылі з Алікам.

Я. Алік, трэба давучыцца да канца года. Вы былі членам нашага калектыву, і мы не хочам, каб у вас марна прапалі паўгода вучобы. Мы пастараемся памагчы.

Ён. Не хачу, у школу больш не пайду.

Аня Харошава. Вось жа ўпарты! Чаму не пойдзеш? З-за нейкага дурнога прынцыпу (я ажно здзівіўся: у самалюбівай Ані таксама ж хапае «дурных прынцыпаў» — капрызная дзяўчынка) хочаш страціць цэлы год. Астанешся недавучкам.

Ён. Няхай сабе.

Тамара Саковіч. Алік, я табе памагу. Ты адстаў, запусціў матэматыку і мовы, але мы з табой пазаймаемся, пачнём усё спачатку, і ты дагоніш.

Ён. Нашто мне!.. Не хачу, каб Міхаіл Яфімавіч называў мяне на геаметрыі зноў «палкай дроў».

(Я з прыкрасцю падумаў пра нетактоўнасць вопыт-

нага педагога, пра якога, сапраўды, гаварылі, што ён часам зневажае вучняў.)

Пеця Русаловіч. Дык з-за гэтага ў школу не ісці? Падумаеш... Ці ж цябе аднаго называлі?!.

Ён. Сказаў, не пайду.

Бацька. «Не пайду, не пайду...» Ты слухай, што табе гавораць. Гавораць дзённік паказаць — пакажы. Гавораць узяцца за справу — вазьміся. Я так хацеў, каб ты сярэднюю адукацыю атрымаў. Чаго табе не хапае? Абуты, адзеты, накормлены...

Цяпер я пераказваю гэта пятае праз дзесятае, і ў пераказе губляецца напружанасць размовы. Мы перабівалі адзін аднаго, спрачаліся, змаўкалі, зноў пачыналі спачатку. Збоку было б крыху і камічна: у размову ўмешваўся нейкі Аліка ў родзіч. «Я, Алік, вучыўся на двойкі і калы, але ж вучыўся. — Родзічу гэты экскурс у біяграфію здаваўся, відаць, важкім довадам, бо ён паўтараў яго раз за разам. — Выганяць — я пахаджу, пахаджу і зноў у школу іду. Цяжка было, а школу закончыў».

Можа, мы і пахіснулі Алікаву ўпартасць, закранулі нейкія стрункі, але знешне гэта ні ў чым не выяўлялася. Пад канец ён толькі і гаварыў: «Не, не, не».

Так ні з чым і выйшлі мы з хаты. Алік, — п настояў, — пайшоў нас праводзіць. Калі ўсе развіталіся і астаўся толькі ён, мы разгаварыліся. Гаварылі пра клас, пра нашых вучняў. Гаварылі проста і шчыра. Неяк незаметку знікла Алікава ўпартасць. На развітанне я сказаў: «Вы ж любіце свой клас, як жа вы кідаеце школу?.. Прыйдзіце заўтра ў клас, збяромся пасля ўрокаў, пагаворым. А там будзе відаць...»

Назаўтра ён прыйшоў. Стаў зноў вучыцца. Рашаў з Тамарай задачы, хадзіў на дадатковыя заняткі па рускай мове — тыя заняткі («Для ўсёй чэснай брацііі», — жартаваў Бранавец) праводзілі па чарзе лепшыя вучні. Вучыўся, як і раней, слабавата, але ў наступную чвэрць не атрымаў дрэнных адзнак.

## «МУЖЧЫНСКІ ВАРЫЯНТ» ПЕРАВЫБАРЧАГА СХОДУ

Да выбараў старасты мы заўсёды ставіліся сур'ёзна. Арганізацыя, стыль і тон нашага жыцця патрабавалі, каб стараста быў прынцыповым і сумленным вучнем.

Той, хто вылучаўся на гэтую «пасаду», праходзіў сур'ёзную праверку. Стараста вёў сход, яму неабходна было першаму адкрыта і чэсна гаварыць пра пасяховасць і паводзіны аднакласнікаў. Дазволь жа ён сабе якое-небудзь «грэхападзенне» (слоўца з лексікону Куневіча) — яму ні адзін з «пакрыўджаных» не спусціць.

Мы перавыбіралі старасту кожную чвэрць. Аднаму вучню можна было аставацца старастам не болей за два «тэрміны» («Як амерыканскаму прэзідэнту», — гаварыў класны «міжнароднік» Гена Далгоў). Такім чынам, у класе адбывалася карысная, гаворачы словамі Макаранкі, змена ўзаемазалежнасцей: новавыбраны стараста звычайна з энтузіязмам браўся за справу, імкнуўся пазбегнуць памылак свайго папярэдніка і ў рабоце абапіраўся на актыў, які папаўняўся цяпер яго сябрамі і сяброўкамі.

Першым старастам была Маруся Рылько. Выбар аказаўся ўдалы. Маруся смела вяла сходы, рашуча бралася за адказныя справы і мужна ваявала з усякімі «апазіцыянерамі», што ўхіляліся ад сур'ёзнай работы.

Але калі ў другой чвэрці мы выбіралі новага старасту, Марыі было сказана шмат непрыемных слоў.

— Маруся пад канец стала менш актыўная і не так, як у пачатку, дбае пра класныя справы, — сказала тактоўная Тамара Саковіч.

(«Нешта не тое, гм... не тое», — салідна пацвердзіў Бранавец.)

— Запісачкі пісала, дзе ёй пра клас думаць!.. — сурова сказала Надзя Барысенка, якая сядзела за адной партай з Марусяй.

— Ведаем, чаму яна тады супраць Петрыкава не выступіла, калі ён на вечар п'яны прыйшоў, — асцярожна падаў голас Коля Жукоўскі, але тут жа, злавіўшы незадаволены позірк Лёні Петрыкава, схамянуўся. — Ды я гэта так сабе...

«Сумбурнага» Колю Жукоўскага любілі, але слова яго значыла ў класе мала: звычайна — ён сабе пярэчыў.

— Далоў з трону, — азвалася Бранаўцова «братва», якая, я са здзіўленнем адзначыў, выступала на гэтым сходзе падазрона дружна і зладжана.

Хлопцы мае — народ не дужа надзейны, а тут нават гультаяваты Куневіч так чэша, што хоць ты яго ў старасты вылучай...

— Нам патрэбен новы стараста, і такі, які заўсёды помніў бы пра інтарэсы агульнай справы...

— Так... Якія ж будуць прапановы?

І тут выяўляецца хітрая задума нашых хлапчукоў. Пазней Сярожа Пpановіч расказаў мне, як распрацоўваўся «мужчынскі» план перавыбарчага сходу».

Напярэдадні сходу Бранавец, Далгоў і Петрыкаў склікалі «лятучку». Бранавец выступіў з цэлай прамовай:

— Братва! Нас болей палавіны класа. Пара падумаць аб самаарганізацыі. Хутка ж выбары старасты. Разумееце?..

— Разумеем, — адгукнуўся Жукоўскі. — Трэба зрабіць старастам хлопца. Але ж ці не ўсё роўна? Надзя Барысенка не стараста, а да мяне ўсё-такі прыдзіраецца: «Слухаць не даеш», «Які ў цябе дзённік...», «Чаму дамашнія заданні не выконваеш?..».

— Ну, вось бачыце: нейкі матрыярхат у класе, — падтрымаў яго Куневіч, які толькі што мусіў расказваць дзяўчатам, як ён падрыхтаваў гісторыю. — Будзе свой хлопец старастам — усё пойдзе добра.

— А што думаюць астатнія? — пытаўся Бранавец.

Сярожа Пpановіч пацісну ў плячыма. Нерашучы і асцярожны, ён не хацеў бы лішняга шуму. Затое астатнія загарэліся:

— Правільна. Даўно пара.

— Мы і рашылі: трэба дзейнічаць. — Бранавец верхаводзіў з поўнай сур'ёзнасцю. — Мы распрацавалі мужчынскі, так сказаць, план перавыбарчага сходу. Дэталі вам зараз растлумачыць Гена Далгоў.

— Значыць, так. У класе хлопцаў на аднаго больш, чым дзяўчат. Супраць іхняй кандыдатуры мы вылучым сваю. Калі паставяць на галасаванне, прэтэндэнтка ў старасты, як звычайна, сама за сябе галасаваць не будзе. А мы давайце прагаласуем усе. І, дзякуючы гульні ў дэмакратыю, з перавагай у два галасы выберам свайго старасту. Прапануем: па-першае, у дзень сходу пастарацца, каб усе былі ў школе; па-другое, старастам выбраць Лёню Петрыкава — ён свабоду любіць...

Спачатку ўсё ішло па «плане». Стала ясна, што хлопцы збіраюцца выкарыстаць сваю колькасную перавагу. Я занепакоіўся: Петрыкаў не будзе надзейным памочнікам у выхаваўчай рабоце. А яны ж, вядома, настойваюць на сваёй кандыдатуры не ўсур'ёз, хутчэй проста так — разабраў хлапечы азарт.

— Дык чаму не хочаце выбраць Надзю Барысенка? Хіба ж яна не будзе лепшым старастам, чым Петрыкаў? Яе, па-мойму, усе паважаюць.

— Ай, дзяўчына ўжо старастава́ла, хай пабудзе старастам і хлопец.

— А нашто вам такое супрацьпастаўленне: хлопцы — дзяўчаты? Вунь Соня Навіцкая пра вас шмат добрага напісала ў класнай газеце.

Асцерагаюцца доўга спрачацца.

— Давайце лепей будзем галасаваць.

Галасуем. Надзя Барысенка, парушаючы разлікі Далгова, таксама галасуе. Цяпер, паколькі і я за яе кандыдатуру, галасы раздзяліліся пароўну.

Зноў галасуем. Сярожа Грамовіч нечакана падымае руку разам з дзяўчатамі. За ім большасць хлопцаў. Старастам становіцца Надзя Барысенка.

І ўжо назаўтра пачынаюцца змены. Санкамісія наводзіць парадак у класе, а на стале ляжыць акуратна разграфлёны сшытак: «Для адзнак і заўваг». Коля Жукоўскі паслужліва паказвае, дзе запісаць ацэнку падрыхтаванасці і паводзін класа.

## ВЕЧАРЫ, КАНЦЭРТЫ, АДПАЧЫНАК

Першы класны вечар рыхтавалі дзяўчаты. Хлапчукі згадзіліся выконваць толькі «ролю хору і статыстаў», як выказаўся наш «адукаваны» Гена Далгоў. Пачаўся вечар вяла. Танцавалі адны дзяўчаты, а хлапчукі ціснуліся ў кутку, туляліся па калідоры і тоўпіліся каля радыёлы. Толькі ў гульнях і атракцыёнах прымалі ўдзел усе.

Але вечар быў задуманы так, што нікому нельга было астацца без занятку. Колю Жукоўскага прымусілі іграць на баяне. Смольскага і Куневіча ўключылі ў латарэйную камісію. Прановічу даручылі «арганізацыйную» работу з гасцямі. А Станкевічу і Далгову дужа хацелася прадэманстраваць сваё танцавальнае майстэрства, і неўзабаве Бранавец, падбіраючы пласцінкі, ківаў у іхні бок: «Класныя стылягі». Вечар наладзіўся. Танцавалі, разам спявалі. Было весела.

Захацелі згуляць у «пошту». Мне не падабаецца гэтая гульня, да таго ж, некаторыя хлапчукі, я ведаў, на школьных вечарах пісалі ў запісках непрыстойна.

Параіўся з арганізатарамі вечара, і мы згадзіліся зрабіць так: няхай гуляюць сабе ў «пошту», толькі запіскі і тэлеграмы будзем зачытваць уголас. Паштальёнам прызначылі СяроЖу Прановіча і папярэдзілі яго, каб глупства не зачытваў.

У паўзах паміж гульнямі і танцамі Сярожа абнародаваў смешныя, жартаўлівыя наказы і пажаданні, цёплыя і вясёлыя віншаванні «юбілярам» (мы адзначалі дзень нараджэння некалькіх вучняў).

Але ў канцы вечара паступіла некалькі запісак, якія Сярожа мусіў не зачытваць. У адной Гена Далгоў (мы пазналі) выкарыстаў для недарэчнага жарту, — не падпісваючыся, вядома, — радкі Сяргея Чакмарова: «Ты часто теперь хохочешь, улыбки роняешь с губ. Меня обмануть ты хочешь, но я не настолько глуп». Мне стала не па сабе: гэта ж я, расказаўшы пра жыццёвы і творчы лёс паэта, параіў прачытаць яго кніжку. І вось што Гена выбраў з яе!

А ў некалькіх запісках, адрасаваных дзяўчатам, пад чужымі подпісамі вар'іравалася адна фраза: «Пасля вечара я іду з табой».

Я добра ведаў почыркі сваіх вучняў і сам вяртаў ім тыя запіскі. Ніхто з іх не быў пашляком. Проста недарэчная хлапечая бравада. А ўсё-такі настрой быў сапсаваны, і ад першага вечара ў мяне засталося не вельмі добрае ўражанне.

Затое далей нашы вечары праходзілі слаўна. Асабліва цікавым, памятаю, быў вечар, да якога хлапчукі рашылі падрыхтаваць сваю праграму.

Збіраўся на рэпетыцыі іхні хор. Прановіч рыхтаваўся выступіць з чытаннем баек, Бранаўцова акружэнне рэпеціравала па ролях вясёлае вершаванае апавяданне, а спецыяльны камітэт разглядаў і ацэньваў прапановы, якія сыпаліся з усіх бакоў. Усё трымалі ў вялікай тайне ад дзяўчат, асабліва сатырычную газету, дзе хлапчукі самаахвярна высмейвалі свае ўласныя «грахі» і недахопы.

І вечар удаўся. Было весела і нашым гасцям (на вечар мы запрасілі маладых свінарак з калгаса).

Калі-нікалі мы рыхтавалі канцэрты для насельніцтва. Тут ужо дзейнічалі згуртавана: не да спрэчак. Аб'яўлялася мабілізацыя ўсіх класных талентаў. Колю Жукоўскаму строга загадвалі забяспечыць музычную частку канцэрта, а Ваню Куневічу і Паўліку Ждановi-

чу — нумары мастацкага чытання. І хлопцы сумленна рабілі сваю справу, хіба толькі спявалі часам крыху грамчэй, чым трэба, але так было яшчэ весялей...

Вясной мы хадзілі ў лес. Дурэлі, гулялі з мячом, збіралі кветкі.

У канцы навучальнага года рабілі «выпускны дзень». Ішлі на цэлы дзень у лес або на рэчку. Разам фатаграфаваліся. Прыдумвалі розныя гульні і забаўкі. Танцавалі, спявалі. Хлопцы, вядома, «рэзаліся» ў футбол. З апетытам упляталі паходны абед і весела падсмейваліся з тых, каму не шанцавала ў гульнях.

І тады здавалася, што ўсё ў нас добра, а мне было прыемна і радасна...

## ЗНОЎ ХЛОПЦЫ

У буднія дні зноў пачыналіся выхаваўчыя клопаты. У першую чаргу непакоілі мяне хлапчукі.

Раптам аказвалася, што Бранавец не толькі прысутнічае на ўсіх вячэрніх кінасеансах, але, як пагавораюць, стаў «нячыстым на руку» білецёрам. Гэта значыць, давядзецца не адзін раз гаварыць з ім самім, гутарыць з кінамеханікам і бацькамі. Загадваць яму, каб на тыя сеансы не хадзіў і ні ў якім разе не браўся прадаваць білеты. А ён усё-такі зноў ідзе і зноў прадае.

Тады мусіш звярнуцца да класа. А ў класе ўсе будуць мяцца: справа далікатная, неяк няёмка сказаць Бранаўцу, што думаюць пра тое, адкуль завяліся ў яго грошы.

Пеця Русаловіч нечакана захацеў у будаўнічае вучылішча. Бацькі яго не пускаюць і толькі рукамі разводзяць: урокі запусціў, сачыненне не здаў, дамашнія заданні не выконвае. І не вазьміся за яго зараз — астанецца на другі год.

Штосьці нядобрае робіцца з Паўлікам Ждановічам. Ён не толькі стаў горш вучыцца. Звычайна ціхі і паслухмяны хлапчук увачавідкі змяніўся. Стаў грубы, зласлівы. Самачынна пакінуў у полі трактар з незагружаным валакушай.

Больш таго, вечарам яго бачылі ў нядобрай кампаніі. Купка юнакоў і падлеткаў, сярод іх і Паўлік, пужала каля мосціка позніх прахожых.

Нешта я, здаецца, прагледзеў у Паўліку...

А з Колем Жукоўскім трэба няньчыцца, як з дзіцем. За сабою не сочыць: паліто без вешалкі, кашуля без гузікаў, абутак не чышчаны. Дзённік без напаміну ніколі не запоўніць. Прашу Марусю і Надзю (іх парта — за партай Колі), каб яны яго крыху тузалі. Ну, а калі яны паабяцаюць, што прынясуць у клас іголку з ніткай ды ваксу са шчоткай, Коля крыху прывядзе сябе ў парадак.

Шура Станкевіч зусім ад рук адбіўся. Маці сваёй не слухае, збірае дома вясёлую кампанію (вядома, без Бранаўца і Далгова там не абыдзецца). «Гуляюць у карты ды пласцінкі круцяць. Бывае, і кніжкі чытаюць. Але ці тыя, што трэба, я, настаўнік дарагі, не ведаю. Спытаю, а яны не адказваюць», — скардзілася мне маці Станкевіча.

Са Станкевічам зноў здарэнне — не прыйшоў на заняткі. Перадае — хворы. А на самай справе — каля рэчкі гуляе ў футбол...

Я іду да футбольнага поля і па дарозе распытваю, дзе знайсці насілкі. «А нашто?» — пытаюцца вучні, прадчуваючы нешта цікавае. «А хіба ж вы не ведаеце: Станкевіч сёння перадаў, што хворы, і на заняткі не пайшоў. Дык трэба ж яго з футбола прынесці, сам жа ён не дойдзе».

Маім хлопцам смешна: прыйсці па Станкевіча з насілкамі! Але нехта паспеў папярэдзіць Шуру, і той шпарка шыбуе дадому.

Назаўтра ён бяскрыўдна адмахваецца ад жартаў, а мне слёзна клянецца, што прапусціў заняткі ў апошні раз. Дзе там у апошні. Хіба ж я яго не ведаю...

Ну, і, вядома, нельга выпускаць з-пад увагі Гену Далгова. Даволі самаўпэўнены і крыху фанабэрысты, ён, спадзеючыся на свае здольнасці, пра якія яму часта гудзелі ў школе і дома, не вельмі каб у вучобе «браў на пуп», як аднойчы сказала мне маці Ліды Рудовіч.

Увесь год ён хадзіў без шапкі. На танцах разам са стрыечным братам-гараджанінам падшукваў дзяўчат — «на праводзіны». Потым толькі ўсміхаўся, калі выкладчык матэматыкі пытаўся: «Ну, як, Гена, не пакусалі цябе ўчора пчолы ў Сакаўцы?»

У класе Гена быў прыкметнай фігурай і падабаўся многім дзяўчатам, у тым ліку і Надзі Барысенка. Як жа, ён шмат чым цікавіцца, многа чытае, сочыць за газетамі і часопісамі (яго маці працуе паштальёнам, і дома бы-

ваюць ледзь не ўсе перыядычныя выданні)! Ды ён і прыгожы — высокі, стройны.

У раённай газеце калі-нікалі з'яўляліся інфармацыі, пад якімі стаяла Генава прозвішча. Праўда, калі вясной Гена бойка распісаў у раённай газеце, як мы абкопвалі калгасны сад, усе абурыліся: сам ён на той рабоце ні разу не быў.

Ён раздражняў мяне цынізмам асобных рэплік і пошукамі непрыгожай падаплёкі ў розных праявах нашага жыцця. Дзверы ў клас адчыняў нагой, пакуль не натрапіў на мяне. Аднойчы замест сваёй заметкі здаў у класную газету нейкую лухту, хлёстка падпісаную: «Аўтар і рэдактар — царскі цэнзар Далгоў». Мы рашылі: змесцім. І змясцілі, захаваўшы ўсе «асаблівасці» яго спецыфічнага правапісу і каструбаватага стылю. Дадалі толькі свой каментарый, назвалі: «Непісьменны опус Г. Далгова». Пазней у класе доўга пасмейваліся з незадачлівага «царскага цэнзара».

Свайго бацькі Гена слухаўся. І калі бацька, школьны заўхоз, салідна гаварыў мне: «Учцём», — нейкі час вынікі гэтай фразы адчуваліся ў паводзінах Гены.

Але ж хіба галоўнае для нас знешняя прыстойнасць паводзін або проста сама па сабе лепшая адзнака?

Весці ж барацьбу з тым наносным і нядобрым, што заўважалася ў характары Гены Далгова, было нялёгка...

## ПАРАЛЕЛЬНЫ КЛАС

У дзевятым класе ў Гены паявіліся пабочныя інтарэсы, пра якія выразна гаварылі белы каўнерык, добра адпрасаваныя штаны і, як ніколі, дагледжаны абутак.

У той год у нас з'явіўся паралельны клас. З выпуску васьмігодкі, якая размешчана ў зоне нашай школы, набраўся амаль поўны «камплект», як кажуць у настаўніцкім асяроддзі. «Нас забяспечылі дублёрамі, — абвясціў класу ў першы дзень заняткаў Коля Жукоўскі, які любіў касмічную тэрміналогію. — Хлопцы там міравыя, я ўжо з некаторымі пазнаёміўся». «А як там дублёршы, ты не разгледзеў?» — спытаўся Гена. І хутка падаўся на калідор: па апісаннях Колі, «дублёршы» мелі касмічныя прычоскі, пышныя банцікі і незямную прыгажосць.

Мне сказалі аддаць у паралельны клас двух-трох вучняў. Як толькі хлопцы пачулі пра гэта, то адразу ж,

доўга не думаючы, ледзь не ўсе выказалі настойлівае жаданне перайсці. Чаму? Апраўдваліся: «Той клас будзе рыхтаваць палядаводаў-механікаў, а нам гэта цікавей, чым жывёлагадоўля». (Наш клас рыхтаваў жывёлаводаў.)

А на самай справе, некалькі новых вучаніц запаланілі нястойкія сэрцы маіх хлапчукоў і на нейкі час прымусілі сяго-таго забыцца на вучобу, клас і ўвесь навакольны свет.

На перапынку мае закаханыя рыцары навыперадкі імчалі да класа «Б». Каб збегаць на другі канец калідора, яны знаходзілі безліч прычын. У іх раптам не стала ні падручнікаў, ні ручак, ні хрэстаматый і ўвогуле ўсяго, што можна было дастаць у надзіва запаслівых «дублёрш». Узятае вярталі з запіскамі. І пакуль я думаў, як быць, завязалася цэлая перапіска.

У гэты час Гену Далгову, вядома, вельмі хацелася вызначыцца, звярнуць на сябе ўвагу бойкіх заводскіх дзяўчынак (вучні паралельнага класа жылі ў пасёлку торфапрадпрыемства, таму іх звалі «заводскімі»). І выбраў ён не лепшы спосаб.

Неўзабаве калегі пачалі мне скардзіцца: «Ваш Далгоў зусім адбіўся ад рук». І выказвалі свае крыўды: пры тлумачэнні матэрыялу ўстаўляе недарэчныя рэплікі, наўмысна падказвае глупства, уступае ў спрэчкі з настаўнікамі, адказвае слаба, слухае няўважліва.

Было ясна: Гену імпанавала слава здольнага абібока і парушальніка дысцыпліны. Увесь гэты час я цярпліва вазіўся з Генам. Ведаў: не такія ўжо і страшныя хлапчуковы напуск і бравада. Толькі аднойчы не сцярпеў...

Але спачатку пра новую вучаніцу — Ніну Лашук. Ніна прыехала ў нашу Плісу з бойкага паўднёвага горада. Калісьці яна тут жыла і вучылася, была знаёма з многімі вучнямі і таму папрасілася ў наш 9 «А» клас.

Яна не вельмі зацікавіла мяне, калі здавала дакументы: непрыкметная дзяўчынка з пасрэдным табелем паспяховасці.

Але хутка — пазаймаліся мы ўсяго які тыдзень — Ніна звярнула на сябе ўвагу. На першым жа сходзе яна выступіла з цэлай прамовай.

Жывуць у класе, як ёй думаецца, сумна. Не бачна жывой работы, у якой усе прымалі б удзел. Носяцца з газетай, як з пісанай торбай, а выпусціць ніяк не збяруцца. Куневіч з Тумарам на ўроках гуляюць у «марскі бой»...

Па класе прайшоў лёгкі шумок. Пасыпаліся рэплікі. «А ты сама? Схаваешся за чыю-небудзь спіну ды ўсё ніяк не нагледзішся ў люстэрка на свой начос... Табе танцы дай, дык і стане цікава».

Рэплікі я не лічыў вартымі ўвагі: Тумару або Куневічу скажы адно слова, дык яны табе цэлых дзесяць. Праўда, у Ніным выступленні быў прыкметны негатыўны перакос, але я астаўся задаволены: баявая дзяўчына.

Хутка Ніна аказалася ў цэнтры класнага жыцця, і часам нават здавалася, што без яе нічога не зробіш — ні палітінфармацыі, ні дыспуту, ні дзесяціхвілінкі паэзіі...

Калі я прыгледзеўся да Ніны больш уважліва, то заўважыў: яе не вельмі паважаюць аднакласнікі. Трэба разабрацца, рашыў я. Можа, проста пакуль што не давяраюць навенькай.

Схадзіў да Ніны дамоў. Там, дома, я Ніну лепей зразумеў і крыху разгледзеў прычыны недавер'я да яе ў класе. Але зараз не пра гэта.

Калі я распытваў Ніну пра тое-сёе, мы гаварылі, вядома, і пра свой клас. І між іншым, Ніна расказала, як Гена Далгоў яшчэ летам агітаваў яе ісці вучыцца ў наш клас.

— Ідзі, Нінка, да нас. Здорава жывём. Хлопцы міравыя. Класны малады, можна яго не слухацца... Свабода.

Та-ак... Крыўдна. Як лёгка, дзеля звычайнай хлапчукоўскай брахні ахвяраваў ён павагай да класа і да мяне!

І калі я ўявіў сабе, як Гена пазіраваў і выхваляўся перад новай дзяўчынкай, крывячы губу і разводзячы доўгімі рукамі, прыйшло рашэнне: гэта нельга дараваць.

Як толькі ў класе ўзнікла размова пра Гену, я і расказаў вучням пра тое, як ён распісваў Ніне жыццё і ўзаемаадносіны ў нашым класе. Ніна пацвердзіла. У класе ўсталявалася цішыня. Усе позіркі былі скіраваны на Гену, якога нейкім чынам выпхнулі ўжо да дошкі.

Звычайна я стараўся памагчы вучням разабрацца ў акалічнасцях справы і падказваў, якое рашэнне лічыў бы правільным. На гэты ж раз сказаў: «Як быць, рашайце самі».

І пайшоў з класа.

Праз нейкі час клічуць мяне с настаўніцкай: «Хадзіце, калі ласка, у клас». У класе зачытваюць рашэнне сходу: «Таму, што Далгоў Генадзь не шануе гонар класа, вучыцца ніжэй сваіх магчымасцей і парушае дысцыплі-

ну, — усім класам просім дырэкцыю школы перавесці яго ў 9 «Б» клас».

«Што ж, згодзен, — сказаў я. — Можа, ён стане лепшы ў новым калектыве».

Паслалі дэлегацыю да дырэктара. Той нічога не зразумеў. Выклікаў мяне. «Бачыце, што робіцца ў вашым класе! Не можаце самі справіцца з вучнем. Нікуды мы яго не перавядзём. І што гэта яшчэ за дэлегацыі!..»

Я ведаў, што так будзе. Але ж затое як прасіўся Гена, каб яго не пераводзілі! Нейкі час яго зусім было не пазнаць — лепшы вучань у класе. У насценгазеце паявілася заметка, у якой ён прасіў прабачыць яму «ўсё тое, што непрадумана зроблена і сказана».

І што цікава, неяк адразу астыла ў нашых хлапчукоў жаданне перайсці ў паралельны клас. Перавялі толькі Петрыкава, сям'я якога пераехала на заводскі пасёлак.

## ЯШЧЭ ПРА ГЕНУ

На гэтым і скончыліся б нашы пакуты з Генам Далговым, калі б не адно здарэнне.

Я жыў і сталаваўся ў настаўніцы малодшых класаў Галіны Іванаўны Пракопчык. Галіна Іванаўна заўсёды вельмі непакоілася за адзіную ўцеху — дачку. І хвараві́та перажывала ўсе Ларысіны няўдачы, часам нават была схільна паверыць у чыесьці нядобразычлівыя адносіны. Ларыса была наогул-то дзяўчынай слаўнай. Але з ёй і з яе маці даводзілася крыху дыпламатнічаць.

Працаваць з бацькамі не лягчэй, чым з дзецьмі. Тут таксама трэба ўлічыць, калі можна і трэба іхніх дзяцей пахваліць і на што з карысцю для справы звярнуць увагу. Бацькі ж таксама розныя.

Адзін спяшаецца ўзяць у рукі папружку: «Я яму пакажу!»

Другі не дае слова сказаць: «Я вам дзяцей у школу прывёў, а вы іх выхоўвайце».

У трэцяй сям'і на сваё дзіця не налюбуюцца: і прыгожае, і разумнае, і працавітае. А што паводзіць сябе нядобра, дык сяброўкі ж вінаваты — зводзяць...

А то захоўваюць знешнюю «аб'ектыўнасць»: «Мы свайго хлопца не абараняем: цаца добрая. Але ж і настаўнікі лішне яго даймаюць».

Былі ў мяне свае клопаты і з Галінай Іванаўнай, асабліва калі справа датычылася адносін Ларысы з аднакласнікамі.

Аднойчы вечарам Галіна Іванаўна паскардзілася мне, што Ларыса моцна пабілася: Гена Далгоў наўмысна падставіў нагу.

Назаўтра я расказаў пра гэта ў класе. Рашылі разабрацца пасля ўрокаў. А на апошнім уроку мяне выклікаў дырэктар школы.

— Ведаеце, што натварыў ваш Далгоў?

— Калі вы пра здарэнне з Ларысай Пракопчык, то ведаю.

— Чаму ж не прымаеце мер? Прыйшла Галіна Іванаўна і скардзілася, што вы пакрываеце Далгова.

Ну, мне заставалася толькі сказаць, што якраз сёння пасля ўрокаў у нас сход. Дырэктар, відаць, лічыў здарэнне вельмі сур'ёзным, бо выказаў жаданне разам з завучам прыйсці ў клас, загадаў паклікаць на сход Галіну Іванаўну і Генавага бацьку.

...Пасля класнага сходу завуч школы гаварыў мне:

— У вас гнілой калек-ціў. Вучні не ацанілі належным чынам паступак Далгова.

— Ігнат Сцяпанавіч, а як жа вы хацелі, каб яны ацэньвалі? Дзеці не лічаць падножку вялікім злачынствам. Гэта лёгка зразумець — яны ж не дарослыя.

— Што вы мне гаворыце! — не сунімаўся завуч. — Вунь мінулы год у дзесятым класе вучні крэпка далі Кранцэвічу...

(Дзіва што: вучань кінуў чарніліцай у настаўніка!)

Далей я не спрачаўся. Па-мойму, вучні выступілі правільна. Абураліся, лаялі Далгова. І, разам з тым, гаварылі, што гэта ў класе не адзіны выпадак. Нават Коля Жукоўскі прамармытаў: «Усе грэшныя». А выступаць у прысутнасці дырэкцыі і бацькоў не дужа ж хацелася.

Выказаліся за тое, каб вынесці Далгову строгую вымову. Ну, а выключыць са школы — такога не бывала і за большыя «злачынствы» (скажам, Кранцэвічу ў свой час аб'явілі толькі вымову).

Дырэктар жа лічыў, што трэба сурова пакараць «патэнцыяльнага забойцу».

— Што вы тут развялі: «нашы хлопчыкі», «нашы дзяўчынкі»! Ведаеце, што магло здарыцца? Яна павалілася, магла пакалечыцца, магла зусім забіцца. Што б

далей было? Дырэктара — пад суд. Класнага кіраўніка — пад суд. Бацьку, маці таксама да адказнасці.

(Ну, хто ж устаіць перад такімі довадамі!)

Дырэктар закончыў:

— Мы сурова пакараем Далгова і тых, хто дзейнічае падобна. Дзесятаму закажуць...

Варта было б проста і чалавечна пагаварыць з вучнямі. У дырэктара часам так і бывала, але на гэты раз ён гаварыў пад настрой і не доўга думаючы.

Словам, пастрашыўшы вучняў, дырэктар і завуч, не пытаючыся маёй думкі і без абмеркавання на педсавеце, прынялі рашэнне: па-першае, Далгова выключыць на тыдзень са школы; па-другое, Русаловічу — за тое, што ставіў падножкі (у спешцы наблыталі — вучні называлі зусім іншыя прозвішчы), аб'явіць вымову.

Праз дзень загад аб'явілі перад усёй школай. І зноў завуч, на гэты раз ужо, як кажуць, усенародна, назваў клас «гнілым калекцівам». Я лічыў, што загад няправільны, і сказаў пра гэта. «Хочаце выглядаць добранькім», — пачуў у адказ.

Тыя дні цяжка было мне працаваць у сваім класе. Гена ў вачах аднакласнікаў выглядаў пацярпеўшым. Ларысай жа, наадварот, былі незадаволены. Лічылі, што з-за яе загарэўся ўвесь сыр-бор. Спала актыўнасць вучняў — усе хадзілі як у ваду апушчаныя.

* * *

Ніна Лашук нядоўга была класным завадатарам. Аказалася, што яна ў адносінах да сяброў патрабавальная куды больш, чым да самой сябе. І рэплікі пра танцы і пышны начос (існуе, відаць, такі тэрмін у класіфікацыі дзявочых прычосак) — усё было праўдай.

Калі аднойчы Ніну «пясочылі» за нейкія правіннасці, Сяргей Пранові́ч прабубніў: «Я адразу гавару, чаго яна варта».

Дзівак гэты Пранові́ч! Калі нешта пачынаюць, ён заводзіць: «Не выйдзе». Хваляць каго-небудзь, а Сярожа ўсім сваім выглядам паказвае: «яшчэ паглядзім, што будзе пазней». І калі пасля сапраўды што-небудзь здарыцца, чакай ад яго слоў: «Вось бачыце!..»

Аднойчы Пранові́ч прапусціў заняткі: «Стрыгчыся ездзіў»... Цяпер у класе смяюцца: «У Сяргея быў цы-

рульны дзень». Ён жа не разумее жартаў, крыўдуе і доўга даводзіць кожнаму, што былі «важныя прычыны».

Але калі даручаць Сяргею што-небудзь зрабіць — зробіць. Хоць і ные спачатку: «Чаму мне? Усё Прановічу...» А што ён скептык, дык за гэта на яго не злуюць: трэба, відаць, каб і скептыкі былі.

Толькі не заўсёды яго падтрымліваюць. І за Ніну Лашук заступіліся. Пеця Русаловіч павярнуўся да Прановіча і сказаў: «Ай, Сярожка, маўчы! Не такая Ніна і благая. Калі трэба, дык усім перцу даём».

Такія ў маім класе хлапчукі. І гарэзлівыя, і свавольнікі. І двойкі зарабляюць часцей, чым пяцёркі. І не за кожную добрую справу возьмуцца. А калі разабрацца — харошы, справядлівы народ...

## ВІЗІТЫ ДАМОЎ

Часта, калі я хаджу да вучняў, клікаў з сабою і каго-небудзь з нашых хлопцаў.

Прыйдзем у хату, я пагавару з бацькамі і, між іншым, скажу: «Вось бачыце, аднакласнікі непакояцца за вашага сына. Прыйшлі лепшыя вучні, каб паглядзець, што ён дома робіць».

«Лепшыя вучні» чырванеюць і неспакойна коўзаюцца на сваіх месцах. Асабліва калі бацькі прымаюць мае словы за чыстую манету.

Потым, па дарозе назад, хлопцы бурчаць, нашто я іх разыгрываў. Кажуць, што болей са мной не пойдуць. Я пасмейваюся: «Пойдзеце, даражэнькія».

Мы любім хадзіць разам. Колькі тады перагаворыцца самага рознага. Яны, як разгаворацца, раскажуць шмат цікавага пра сябе і пра сяброў, часам такога, што і не думаў, не здагадваўся, бо ў галаву не прыходзіла. І тут я неўзаметку нешта ім падкажу, параю, растлумачу з такога інтымнага, таварыскага, пра што ніколі не атрымаецца размовы ў школьных сценах.

А яшчэ хораша разам любавацца слаўным, прыгожым вечарам, гуляць, цаляючы снежкамі ў дрэвы або вылепліваючы смешную снежную бабу...

Пабываеш у вучняў дома, пагаворыш з бацькамі — і даведаешся шмат новага пра сваіх выхаванцаў, глыбей пранікнеш у іхняе жыццё.

Вось Тамара Саковіч засаромелася «няграматнай»,

простай гаворкі сваёй маці. Непрыгожа, Тамара! Трэба будзе пра гэта і ў класе пагаварыць.

Коля Жукоўскі з захапленнем майструе авіямадэлі. Я абавязкова дастану яму кніжкі пра тэхніку. А зараз тут жа, дома, складаем пералік Коліных абавязкаў па хатняй рабоце. Трэба, каб ён хоць вады прынёс, хату падмёў ды дроў насек. А то маці яму нават ложак засцілае. З гэтага можна будзе і ў класе пасмяяцца (нездарма некаторыя вучні такіх візітаў пабойваюцца).

Надзя Барысенка ходзіць у школу не снедаўшы. А са школы прыходзіць позна, бо ісці ёй далёка. Трэба прасачыць, каб пасля ўрокаў яна доўга ў класе не заседжвалася...

Гаварыць з бацькамі цікава. Спачуваюць: ну, і цяжкая ж ваша настаўніцкая работа. І пачынаюць разважаць, якраз як некаторыя настаўнікі: якія цяпер вучні пайшлі. «Гультаі, абібокі! Каб з імі працаваць, трэба незвычайныя нервы і здароўе...»

Разважаюць: не такімі метадамі цяпер вучаць. «От даўней настаўнік як возьме ў рукі лінейку, кантам некалькі разоў як усмаліць — любы свавольнік ці гультай шаўковым стане».

Даюць парады, просяць: «Вы майго хлопца ў кут стаўляйце. Ды выклікайце часцей. А калі што-якое дык вы яму па-бацькоўску, маёй рукой...»

Маці Надзі Барысенка гаворыць з хітрынкай: «Вучыся, Надзя! Вось спытай, колькі Варлен Леанідавіч вучыўся. Затое вывучышся, як настаўніку — нічога не трэба будзе рабіць...» Ведае яна, многа ці мала ў мяне работы!..

Колю Жукоўскага дома паблажліва ўшчуваюць: «Вось бачыш, Міколка, колькі з-за цябе клопату. Настаўнік дзеля цябе мусіў так далёка ісці! Дай жа слова, што будзеш вучыцца як след».

А ў голасе бацькі Пеці Русаловіча пераважаюць строгія інтанацыі: «Та-ак, Пятро! Значыць, на вучобу цябе не цягне. Ну, глядзі!»

Ідуць размовы і спрэчкі не толькі пра выхаванне і настаўнікаў, але і пра суседзяў, пра калгас, пра ўраджай, пра хваробы, пра міжнародныя падзеі. На некага скардзяцца, у нечым просяць падтрымкі, радзяцца па сямейных справах...

## «ЦЯЖКІ» ЎЗРОСТ

У мяне пытаюцца: «Што сталася з Надзяй Барысенка?» Скацілася з пяцёрак на чацвёркі, адказвае недарэчы. Заўсёды вясёлая і гаваркая, яна стала цяпер нейкая маўклівая і задумёная.

Што я магу ведаць пра яе думкі? Яна не расказвае іх мне, ды я цяпер яе і не трывожу.

Не з ёй адной, а з многімі маімі вучнямі, можа, толькі не так прыкметна, адбываецца нешта значнае і важнае. Спачатку гэта непакоіла мяне. Чаму ўвесь клас, у якім я ўчора, здаецца, адчуваў наймалейшыя змены і разумеў усе патайныя спружыны паводзін і ўчынкаў, раптам становіцца такі непаслухмяны, загадкавы? Чаму такія супярэчлівыя паводзіны вучняў?

Гена Далгоў спыняе мяне на калідоры і сарамліва просіць пачытаць ягоныя вершы. «Цынік, гультай», — гавораць на яго. А ў няўмелых вершах — чысціня, прыгожыя мары і імкненні.

Ваня Куневіч, які нядаўна нічым асабліва не цікавіўся, цяпер «запоем» чытае кніжку за кніжкай, чытае начамі, на перапынках, нават на хаду. Спрабуе чытаць нават на ўроках, праз шчыліну ў парце.

Алік Смольскі, які раней не асабліва клапаціўся пра свой гонар, стаў хваравіта рэагаваць на кожную заўвагу...

Усё гэта трэба ўспрымаць і разумець правільна. Нічога страшнага не адбываецца. Маім вучням па пятнаццаць. Узрост, які называюць «цяжкім». Пераломным. Канчаецца дзіцячая бесклапотнасць. Пачынаецца юнацтва.

Цяпер яны ўжо не заўсёды гавораць мне, што іх хвалюе і пра што думаюць. Я магу толькі здагадвацца пра гэта па пытаннях, якія яны падчас задаюць, па падбору кніжак, па выпісках і цытатах, якія выпадкова трапілі да мяне, па раптоўнай споведзі ў сачыненні, якое, вельмі вагаючыся, здаюць мне з просьбай не зачытваць перад класам і нікому не паказваць. Праз другія-трэція рукі даходзяць да мяне дзявочыя вершаваныя спробы, поўныя мар і летуценняў.

У маіх вучняў незвычайная цяга да паэзіі. Яны перапісваюць, завучваюць на памяць, гатовы бясконца слухаць і чытаць паэтычныя творы (а ўпотай і самі «гоняць

рыфму»). Ледзь не ўсе вершаваныя кнігі з маёй бібліятэкі разышліся па руках.

Паспакайнеў, стаў больш стрыманы і сур'ёзны Коля Жукоўскі. Калі цяпер я бываю ў Колі дома і ён ідзе мяне праводзіць, мы не гаворым з ім многа, як раней. Проста садзімся каля рэчкі, за мостам, і доўга моўчкі слухаем начную цішыню.

Як мне быць з ім, Колем? Ён зусім выбіўся з каляі, стаў дрэнна вучыцца. Маці скардзіцца, што ён не начуе дома...

Нядаўна мы з гаспадыняй жартавалі пра адносіны яе дачкі да хлапчукоў, і Ларыса смяялася разам з маці. А тут я ішоў з вучнямі, і яны далі мне новы повад пажартаваць. Гена Далгоў перадаў Ларысе на вечары запіску, у якой браўся правесці яе — як гэта ён пісаў — «праз усе страхі начной цемры». Ларыса ж адказала, што няёмка: класны можа ўбачыць, калі будзе дадому ісці. Яна заўсёды ўсё расказвала маці, толькі першы раз не падзялілася з ёю сваёй маленькай тайнай. Таму, калі я сказаў пра запіску, яна зачырванелася, схавалася, каб яе не бачылі, і заплакала. А гаспадыня і я сядзім моўчкі, і я адчуваю сябе няёмка.

Аднойчы Ларыса раптам з плачам пачала даказваць, што ёй ніяк не можа быць двойка за кантрольную работу па фізіцы: «Я ж усё рашыла!» У наступны дзень спакойна паведаміла: «Двойка». І смяялася са свайго ўчарашняга плачу.

Маруся Рылько, з якой у мяне заўсёды прыязныя і роўныя адносіны, раптам груба гаворыць: «Калі вам патрэбны дзённік, дык вазьміце самі». Запоўнач — мне чамусьці не спіцца — я думаю, чым заслужыў такую непавагу? А назаўтра, правяраючы сшыткі, у Марусіным знаходжу запіску: «Варлен Леанідавіч! Даруйце мне, калі ласка. Я сама не ведала, што гаварыла».

Звыш месяца ў нашым класе сядзіць новая вучаніца Тамара Скарабагатая. Сядзіць і маўчыць. Ціхая яна, непрыкметная. А ў характарыстыцы — зусім нядаўняй — напісана, што ў сваёй школе Тамара была весялухай. І ў яе дома мне гавораць пра гэта.

Спрабуем яе разварушыць, уцягнуць у грамадскую работу, а яна не мяняецца. Такі ўзрост — не разабраць, ці то яна не прызвычаілася да класнага жыцця-быцця, ці то таксама на пераломе.

**Адбываюцца змены і ў адносінах дзяўчат да хлопцаў.**

Гулліва, свавольна і самаўпэўнена пачынае гаварыць з хлапчукамі, ганарліва адмаўляецца танцаваць з аднакласнікамі Аня Харошава, якая з не вельмі прыкметнай школьніцы стала прыгожай, пышнавалосай, стройнай дзяўчынай. Дома яна, хаваючыся ад маці, узмоцнена трэніруецца, робіць гімнастычныя практыкаванні, каб трапіць на раённыя і абласныя спаборніцтвы, дзе будуць новыя ўражанні, знаёмствы, а хлопцы, на яе думку, больш цікавыя, чым у школе.

Маруся Рылько, Ларыса Пракопчык, Ліда Саковіч, наадварот, староняцца, пазбягаюць незнаёмых хлопцаў, замест стракатых кофт і сукенак сталі насіць строгую і простую школьную форму.

Пасля школьнага вечара некалькі дзяўчат трымаюцца на перапынках асобнай купкай і аб нечым сакрэтнічаюць. Я здагадваюся: яны гавораць пра зухаватага гарадскога хлопца, які з'явіўся на вечар з Генам Далговым. Гэта можна было пазнаць па тых імгненных позірках, якія яны баязліва кідалі ў мой бок, перад тым як ісці танцаваць з наваяўленым героем. Хлопец мне не спадабаўся, але я пакуль што не прыдумаў, не ведаю, як сказаць пра гэта сваім дзяўчынкам.

А хлопцы... Яшчэ нядаўна адносіны з дзяўчынкамі былі простыя і звычайныя, выяўленне сімпатый не ішло далей, як падставіць падножку і распусціць бант.

Цяпер жа за гучным бахвальствам, за хітрамудрымі выдумкамі, за самымі адчайнымі ўчынкамі бачна няхітрая падаплёка — быстры позірк у вельмі пэўны бок і насцярожанае чаканне: што скажа і падумае **яна**, гераіня мар і сноў?..

Бранавец, злавіўшы такі позірк, пачынае дэкламаваць: «Здавалася, што бачыць увесь клас, калі ў твой бок глядзеў я ненарок...» Але тут жа спыняецца. Я намякаю яму, што ведаю пра нядаўнюю сутычку нашых хлапчукоў (а сутычка была з-за шустрай ружовашчокай васьмікласніцы, якую за незвычайны спрыт у школе называюць «пстрычкай»).

З некаторымі вучнямі мае адносіны ўскладняюцца: там, дзе ўчора яны згаджаліся са мною, цяпер пачынаюць супярэчыць. Гэта зразумела. Яны прыглядаюцца не толькі да сябе, але і да мяне. Прыглядаюцца прыдзірліва, строга, нібы ацэньваюць, чаго я варты.

Мушу больш задумвацца над сваімі паводзінамі і ўчынкамі. Аднойчы на маім уроку Гена Далгоў запаў-

няў футбольную табліцу. Я пашкуматаў яе на кавалкі. Пазней жа, калі злосць прайшла, задумаўся. Сам жа быў такі, падлічваў на ўроках ачкі і галы. Прывёз з Мінска новую велізарную «лужнікоўскую» табліцу і аддаў яе Гену: «Бярыце, я і сам каліісьці... Разумею». Але папярэдзіў: убачу на ўроку — зноў парву.

Шырэй адчыняю ім дзверы ў сваю «выхаваўчую лабараторыю». «А што вы думаеце, сябры?» «Ці правільна я зрабіў?» Хай гавораць адкрыта — усё роўна ж яны ўзважваюць кожны мой крок.

Прапаную ўзяць шэфства над суседзямі — класам няўрымслівых «пятакоў». Хлопцы бяруцца з энтузіязмам, але — насуперак іх чаканням — не ўсё лёгка атрымліваецца. Пеця Русаловіч нават «па-шэфску» пабіў свайго брата. Апраўдваецца: «Нялёгкая работа...» Бранавец падхоплівае: «Цягнуць пяты клас з балота...»

## ВЯСНА, ЛЕТА, ВОСЕНЬ...

Хутка ляціць навучальны год. У яго свае прыкметы пораў году. Вясна. Паводка і бездараж. Вучні прастуджваюцца і хварэюць. Урокі і класная работа ідуць нармальна, і можна весці гуртковую работу, рыхтаваць самадзейнасць, арганізаваць паездку ў цырк або тэатр, даручыць вучню даклад і зацікавіць кніжкай. Але яны ўсё часцей паглядваюць у вокны і становяцца няўважлівыя, размарыўшыся ад вясенняга сонца. Нарэшце наступае час, калі на перапынках у класе пуста, а жыццё кіпіць на спортпляцоўцы. Гуляюць зараз ва ўсё — ад дзявочых класікаў і дашкольнага «квача» да валейбола і футбола. Цяпер наступае час подзвігаў Паўла Ждановіча: футбол і валейбол — яго стыхія. Гэта яму трэба ў першую чаргу тлумачыць, што нельга зняважаць тых, хто слабей гуляе, нядобра гуляць увесь час самому, не даючы астатнім. Сюды, на вуліцу, пераносіцца цяпер «цэнтр» выхаваўчай работы. Хлопцы любяць, калі наша каманда на чале з «самім класным» абгуляе моцнага праціўніка. Тады можна і патрабаваць ад іх, каб абавязкова ўрокі былі зроблены... Пачынаюцца веснавыя работы ў полі. Ідзе вясна. Эх, давайце сходзім у лес!..

Набліжаецца лета. Цяпер не варта даваць дамашнія заданні — іх выконваюць наспех, абы-як. Усе з нецярпеннем чакаюць канца вучобы. У вячэрнім змроку пры-

вабліва грае гармонік, і трэба змагацца, каб Станкевіч, Бранавец, Жукоўскі не гулялі дацямна. Вось настае дзень, калі ўсе, вясёлыя, святочныя, у апошні раз збіраюцца ў школе. Апошні наказ на лета. Да восені, дзеці!

У тую восень, калі мае вучні сталі дзесяцікласнікамі, я паступіў у аспірантуру.

## БЫВАЙЦЕ, СЯБРЫ!

Вось і мая трэцяя, апошняя восень. Ходзім капаць бульбу. У пагодлівыя дні збіраемся каля школы пагуляць у валейбол. Накідваем план камсамольскай работы, яшчэ нешта разам робім. Наступае дзень расставання. Я заходжу ў клас, вучні ўстаюць і не садзяцца. «Сядайце!» Апошні раз глянуў на прыціхлы клас. Пра кожнага нешта ўспомнілася.

І пра Шуру Станкевіча, і пра Марыю Рылько, і пра Бранаўца, і пра Панамарова, і пра Харошаву... І як мы ў цырк ездзілі, анкеты пісалі, класную бібліятэку стваралі...

Можа, мы яшчэ збяромся калі-небудзь разам і [illegible] зноў правяду пераклічку:

— Смольскі!

— Я!

— Пракопчык!

— Я!

— Навіцкая!

— Я!

— Барысенка!

— Я!

Перада мной звычайны клас і звычайныя дзеці. Але для мяне яны незвычайныя. З імі я пачынаў сваю самастойную працоўную дарогу. Вучыў іх і — вучыўся сам. З імі былі мае думкі, трывогі, радасці. І таму яны дарагія мне, я люблю іх.

Бывайце, сябры! Шчаслівых дарог вам у самастойным жыцці!

# 1966



*8.V.*

Па небе плывуць воблакі. Я тут нерухомы. Ты ўжо далёка адплыла ад майго неба?

У мяне сіняя форма адзення і мяне не брыюць. Я доўга не пабачу цябе.

Дождж і рыдлёўкі ўзрыхляюць вясеннюю зямлю. Ты ўзрыхліла маю душу, быццам кінула ў ваду камень цераз плячо не гледзячы — вада разышлася кругамі.

Цяпер мяне наведваюць сумныя думкі і сябры. Хочацца свежага паветра, цёплай зямлі пад босыя ногі, купацца, бегаць, круціць гантэлі і быць з табой.

Памыты, без гадзінніка і аўтаручкі, я ўсё ж яшчэ ішоў, як не ў палату. Зашчоўкнуліся дзверы, і паласатыя постаці акружылі мяне.

— Цябе завуць не Ігар?

— Варлен.

— Яго завуць Варлен.

Прывялі ў палату. Я маўчу другі дзень. Праз вокны відаць глухія куткі жыцця. Каля рэчкі мілавалася ашалеўшая парачка, а хворыя давалі свой каментарый.

З дня ў дзень упарта стаіць цудоўная пагода. Раніцою з форткі на мяне б'е адбітак сонца. Я гляджу на фанары ў палаце — у іх таксама неба разліцеена кратамі акна. У думках пачынаю хістаць ліхтары. Зялёная паласа раздзяляе фарбы палаты. Паласа высока. Я ж апусціўся значна ніжэй жыццёвай лініі.

Добрая С.! Прашу Вас хаця б зменшыць дозу дабра, інакш яно пераўтвараецца мне ў зло.

Ваша добрая ўвага наскрозь высвечвае маю душу, і мне становіцца страшна ад неадпаведнасці маіх душэўных якасцей высокай мерцы Вашай агульнай высакароднасці.

Удзячнасць Вам змешваецца з тугой — тугой ад майго мінулага, у каторым я набыў куды менш розуму, да-

браты, вартасці, чэсці, сумлення, чым усе вы, як мне падалося, прыпісваеце мне ад свайго ўласнага душэўнага багацця.

Мне здаецца, я жыву на працэнты добрай памяці Ігара — на мяне пераносяць частку яго абаяльнасці. Такім чынам і ў маім нездароўі вызначаецца нейкая пераклічка з няшчасцем Ігарка...

*11. V.*

Прывітанне рэспубліцы, на сцягу якой напісана «ЛіМ»! Ці скора самакіраванне заменіцца дыктатурай?

Я ў сваім неапалітанскім каралеўстве сам сабе галава. Пакуль што не прыняў каралеўскіх паўнамоцтваў. Як прыму — перадайце ласкаваму Ст. П-чу — дазволю яму сядзець у маёй прысутнасці.

Тут ніхто нікому амаль не зайздросціць. Арганізаванай грамадскасці няма. Апазіцыя мае пэўную свабоду (пабіліся тапкамі: стары з маладым хлапцом: «Мне 53 гады, а ён мяне называе Махном...».

Неапалітанская экзотыка: ёсць і маўр, і балюча глядзець на яго, калі ён пачынае маліцца багам сваёй далёкай радзімы.

Ахвотна і лоўка рыфмуюць «Манька-манка». Я таксама вучуся складваць словы: палаты-халаты, Генадзьгнаць.

Народ тут бывалы, не раз наведвалі буйнае каралеўства «Навінкі». Я яшчэ юнга. Гэта мой першы экватар.

Я ўжо зразумеў, чаму імкліва ходзяць тыгры ў клетцы. Прывітанне А. І. — мудрацу з Анатоліі.

*7. VI.*

Вершы сняцца ўжо другую ноч. Першы раз снілася: мае ўдалыя вершы набраны, але ў гранках начыста перароблены. Нават у сне ў мне гаворыць крытык: я лаўлю недахопы.

Мама прыносіла мне пачытаць лісток з сшытка сына нашых суседзяў Сярожы Г. (10 гадоў). Перапісаў сюды: лісток мама забрала: «Няхай маці неўзаметку пакладзе яго туды, дзе ўзяла, а то хлопчык не стане больш нічога пісаць». Баюся, што і паклаўшы лісток, маці С. не вытрымае, пачне гаворку з хлопцам, і стыхійна пачаты ім дзённік закончыцца гэтай, першай і апошняй старонкай. «Я учусь в музыкальной школе. Учиться интересно,

особенно по баяну, по сольфеджио очень скучно, но преподаватель по сольфеджио молодой и веселый. В общеобразовательной школе я учусь не очень плохо, но бывают тройки. По белорусскому языку обычно тройки, бывают даже и двойки, но двоек у меня немного, всего только две.

Я думаю, почему я так стараюсь и все равно все плохо. Сколько ни старайся — все равно все плохо. Сяду играть на баяне, а папка не знает, правильно или неправильно я играю, и ругается. А сегодня папа сказал мне, чтобы я пришел помогать складывать дрова, а мамка сказала, чтобы я надел новые штаны. Ну, мы, в общем, поспорили с ней. Но это все мелочи. Мне учитель в музыкальной школе сказал, что если я сдам экзамены за первый класс на пять, то получу путевку в Ленинград, но и все другие, кто сдаст экзамены на пять, поедут. Но папка, как узнает, то будет заставлять играть. Меня всегда ругают за то, что я потею, но я ведь не виноват, что с меня идет пот. Я играю, как все дети, но с меня все равно идет пот. Папа меня подстриг под Котовского, а мама была недовольна. А мне что: мне никто за это ничего не сделает, не убьет и не повесит, хоть бы папа с мамой не спорил. — В музыкальной школе преподаватель сказал, что в Ленинград могут поехать Пунтус и я».

*16. X.*

Былі Толя Псікаў і Света Марозава. Дзень спатканняў. Аслабла вераснёўскае сонца — частку яго паглынулі плады і загарэлыя людзі.

З кніжкі В-га я ўзяў вельмі многа радкоў і вершаў для сябе. Для складанай работы думкі і душы так мала даюць прапагандысцкія стандарты.

«Ночь-то темна, лошадь-то черна: еду, еду да пощупаю, тут ли она».

4. Зак. 192.

# 1967



*7. II.*

Я — у Маскве. Маскоўскае неба шэрае, —8°. Хачу пад ім прабыць як паболей. Урэшце з мяне хопіць адной толькі высокай столі Ленінскай бібліятэкі. Я ў бібліятэцы без места. Чытай, дзе хочаш. Капаюся ў бібліяграфіі...

Пісаць і друкаваць трэба болей, а страчаны каштоўны-каштоўны час...

*20. II.*

Сонца ўсё больш асляпляюча вісіць над зямлёй.

Кнігі і часопісы ўзмацняюць прагу работы. Але толькі тады, калі пачынаеш пісаць, — пачынаеш пасапраўднаму думаць.

Мне здаецца, я начынены стылем, а трэба насыціцца глыбінёй.

Усё чытанне, усе роздумы — гэта трэніроўка; сапраўдны спорт вянчаецца спаборніцтвам.

Учора я быў у Васілёнка Сяргея Іванавіча — ёсць такі цікавы чалавек на зямлі. Ён вазіўся са мною многа, ахвотна, настойліва. Можа быць, мая пачцівасць выклікала ў яго жаданне нацэліць мяне на сваю трактоўку тэмы. Толькі тут нічога не выйдзе: наша нязгода ў кожнай думцы, у кожнай фразе...

Але ж — дзякуй чалавеку. Ён надпісаў мне свой «Словарь атеиста», чытаў мне Аношку (цікава, але непераканаўча) і Маркса (усё вядомае, але напамін дарэчы).

У яго — вялікая культура працы над кніжкай, даволі шырокія інтарэсы, але спрашчэнне. І — як гэта ў людзей заўсёды выразней праступае ў размове з малодшымі — думка, што ісціна належыць толькі яму, ім адкрыта, яму адкрыта.

Калі многа формы і мала зместу, слабее і форма; на яе мускулы мала нагрузкі.

*21. II.*

Прыгажосць, «черт побери!», не абагуліш.

Жаночае хараство («миловидность», наш густ непатрабавальны) мы ўспрымаем лягчэй, чым хараство ў мастацтве (уласна, і тут павярхоўна), але прагнем яго неймаверна.

Лічыцца непрыстойным заглядвацца на жанчыну, прыгожую дзяўчыну. Дарэмна. Гэта ўзвышана, калі не сумяшчаецца з распуснай похаццю.

Жанчыны, дзяўчаты ўпрыгожваюць наша жыццё. Усе нашы эстэтычныя ўяўленні — ад формы і зместу жыцця, прыроды. Дзяўчына (прыгожая) — вянец мастацкай формы. Гэта — выключны мастацкі твор, бо незвычайны каталізатар нашай энергіі, нашага ўнутранага жыцця, бясспрэчны ўзбагаціцель нашага зместу.

У адносінах да дзяўчыны — найяскравейшы прыклад сілы імкнення да прыгожай формы.

Прыгажуня заўсёды ў цэнтры ўвагі.

Без дзяўчыны, жанчыны, яе ласкі, увагі мы жывём у шчымлівай адзіноце.

(Дарэчы, калі галоўнай — няма, увага ўсіх астатніх яшчэ больш трывожыць, нервуе адзіноту, мучыць нас, непакоіць.)

Тады, можа быць, для нас справа, літаратура — наша ўсеабдымная любоў і дарагая каханка. Мне ў ёй (неабавязкова) і па-за ёй (відаць, заўсёды) адзінота астаецца... Калі доўга баліць душа, пачнеш адчуваць боль сэрца. Нават і правяраць не трэба.

Мяне прарвала, я набухаю думкамі. Ахоплены прагай работы. Дзе знайсці сілы, каб адолець недамаганне...

В. Вярба не паўтараецца. Яе аглядка на мінулае азначана роздумам іншага ўзросту і вопыту, іншай настроенасцю на паэзію. Радкі пражытых дзесяцігоддзяў адгукаюцца ў нас, даюць жывую душу свайму часу.

Шмат разоў, калі хаджу, самі сабою складаліся вершы, нібыта незалежна ад мяне. Сёння ўпершыню ўдалося падчапіць пяром пару радкоў, мо таму, што я ў Маскве, на рускай мове. Не дужа змястоўныя, але няхай будуць.

Мне ни к чему поспешная работа
И суета корыстного расчета,
Но, кажется, и я от них устал.

Ігарок, пра цябе:

Увесь у пошуках, неспакойны, настойлівы і мэтаімкнёны, ён хацеў жыць па вялікаму рахунку і надоўга ўперад загадваў сваё жыццё.

Але здарылася так, што яго сучаснае і стала яго будучыняй...

*23. II.*

Што лепей — нечым займацца ці нічога не рабіць? Сёння ў сталовай вайсковыя п'юць віно, стынуць машыны на вуліцах, я — нічога не раблю, бо галава барахліць.

План: пастрыгчыся, памыцца, з'ездзіць на Нова-Дзявочыя могілкі і Барадзінскую панараму, адпрасавацца, адпачыць. Пісьмы...

«Вялікая» праграма сведчыць выразна аб узроўні майго сённяшняга інтэлекту.

Учора я — у складанай сітуацыі ў К-на. Той — у сварцы з жонкай. Я — між імі.

З неадпраўленага пісьма:

«Гэтае пісямцо — яшчэ адзін усмешлівы і непатрэбны момант у мітуслівым нашым жыцці.

Я аддаў табе ініцыятыву развітання і пачаў яго, так сказаць, забываць.

«Раз уж я капрала палюбила, не размениваться же на вас»... Дай Бог, каб ты была шчаслівай і знайшла свайго капрала.

Я забываю цябе і ўспамінаю цябе. Успамінаю імгненні колішняга шэпту маёй душы. Я жыву новай, ужо маскоўскай мітуснёй і адзінотай».

З пісьма Кудраўцу:

«У Ленінцы — чарга за ведамі.

Звычайна свежыя ўражанні адкрываюць перспектыву жыцця — тую, што часта губляецца за будзёншчынай. У Маскве думаць няма калі. Віруе натоўп на вуліцах і ў метро, штуршкамі перапыняе імгненні працы душы...

В-ку я ўдзячны і маральна абавязаны прыплюшчваць вочы, каб не вельмі бачыць яго мінусы.

Хоць пагода і добрая, а сонца вясновае, з мяне хапіла б высокай столі Ленінкі. Але благія ночы, пасля якіх я разбіты, не даюць разгону.

З вялікіх, я ведаю, хіба што Хлебнікаў не жыў мітуснёй. Але ж яго геніяльная праца аказалася малапатрэбнай, асталася малазразумелай... У гэтым напрамку

і пацяклі мае думкі, на жаль, не насычаныя зместам, які варта было б пераказваць.

...Драўляная эстэтыка блукае па — ізмах, а пра ўздзеянне на псіхіку і ўнутранае жыццё прыгажосці жаночага цела ні гу-гу.

...Няма асаблівай злосці на забойцаў Ігарка: калі прыгледзецца, у іх не было выразных прыкмет індывідуальнага злачыннага крэтынізму; яны — звычайнае параджэнне жорсткасці дэмагагічнага часу, калі ўпарта славім гуманізм і поспехі, прыхоўваючы і замоўчваючы мінусовы цяжар. «Глаза туманит от печати, и закружится голова, когда и кстати и некстати все те же прыгают слова...»

*24. II.*

Не бачыў маскоўскага салюта. Колькі думак, часу і бяссонніц патрачана на друтіх, а ніхто, акрамя Толі Псікава, бадай, ніколі мяне не праводзіў.

М. Цветаева. «Поэт о критике» («День поэзии — 65»): «Не вправе судить поэта тот, кто не читал каждой его строки.

Красивость — внешнее мерило, прекрасность — внутреннее.

Судить о качественности, сущности, о всем, что не видимость вещи, может только в этой области живущий и работающий.

Чтите и любите мое, как свое. Тогда вы мне судьи.

Кто в критике не провидец — ремесленник.

С правом труда, но без права суда.

Критика большого поэта, в большей части, критика страсти: родства и чуждости.

...Оценка есть определение вещи в мире, отношение — определение ее в собственном сердце».

Форма — спосаб зносін з навакольным светам, спосаб зносін з часам.

Форма накаплівае свае ўмоўнасці. Накаплівае, такім чынам, і змястоўнасць. Але бываюць і безгустоўныя ўмоўнасці. Няправільны выбар формы — не толькі памылка адзення. Памыляліся за чужы кошт.

Письмо Петрарки к Боккаччо, 28.IV. 1373. «Нет ничего легче пера, ничто не действует столь ободряюще.

Другие удовольствия исчезают, оставляя после себя подавленность духа; перо же манит, когда берешь его в руки, и восхищает, когда его откладываешь. И оно вознаграждает не только своего владельца, но и многих других, кто далек, а иногда и людей будущего, через тысячи лет. Я думаю, можно сказать, что из всех земных удовольствий нет ни одного, достойнее, чем литература, ни одного столь долговечного, приятного или более постоянного».

К. Федин. «О соотношении света и тени. Ответ читателю» («Лит. газ.,» № 8—67):

«Читатель требует от литературы талантливости. Позвольте потребовать талантливости и от читателя. Потому что дело читателя отличать плохое сочинение от хорошего и не валить все в одну кучу».

Паеду з горада, і ён знікне, астанецца ў душы, у мінулым.

С. Бальмонт. «К молодым поэтам»:

«Поэт — стихия. Ему любо принимать разнообразнейшие лики, и в каждом лике он самотождествен».

*25. II.*

Моцны сюжэтны стрыжань, на якім я, Таня і яе сяброўка Валя — гэта мая субота. Сустрэліся каля кінатэатра «Космас». Няўпэўненае пазнаванне. Бадзянне па метро і вакзалах, камера захавання; буфет, цыганка разліла каву мне на паліто, на Курскім вакзале згубілі Валю. Электрычка на Балашыху. Таня і я глядзеліся ў шкло электрычкі. П'яны спіць на падлозе. Некалькі прыгожых дзяўчат (прыгажуні Масквы ў электрычцы). Маўчанне. Прыезд. Цёмны лясок з засохлымі пасадкамі. Размова ў пад'ездзе. Мне ясна, што мы разыдземся назаўсёды. Маніць не хачу. Я гэта ведаў амаль што і да сустрэчы. Але ж я паабяцаў сабе, што падарую дзяўчынцы ўвагі, ласкі як паболей. Для канцоўкі: «Яны дамовіліся сустрэцца заўтра, хоць ведалі, што не сустрэнуцца ніколі». Момант: ён ведаў, што думаў ён; гэта трэба падкрэсліць — не ведаў, што думала яна, і баяўся, што ўсё не так, як яму здаецца.

*28. II.*

Быў на прыёме ў неўрапатолага... Колькі можна! Сам вырашаю свой лёс.

Канчаткова саспела рашэнне стаць працоўным чалавекам. Досыць спаць! Прыеду — штодня гадзіна фізкультуры. Нам не хапае кахання, любві, увагі. Нас ніхто не праводзіць і не сустракае. Па крайняй меры, не сустракае той, каго мы хацелі б сустракаць і праводзіць.

Ну, адважыўся. Што будзе, хай будзе. Пішу Міколе наконт працы ў «ЛіМе»:

«Я не хачу новага зігзагу ў сваім не вельмі дарэчным лёсе. Маскоўская мітусня, у якой глынуў я трохі навукі і шмат адзіноты, штурхае мяне да новага рашэння. Жадаю сталай работы. Выключаны з працоўнага рытму, я страціў і нейкую ўнутраную ўстойлівасць. Паводзіны і ўчынкі (гэтых мала) — мізэрныя патугі не згубіцца ў бяздзейнасці.

Парады маскоўскіх лекараў і «знахароў» таксама падтрымліваюць маё жаданне падключыцца да чагонебудзь істотнага і пастаяннага.

Я ведаю, што ў «ЛіМе» было (на вашым аддзеле) пастаяннае месца з акладам і работай. Калі яно не занята, ці згодзіцца гэтая арганізацыя ўзяць мяне, прытым — зусім не часова?

Само сабою, скардзіцца, што галава не цягне, я не буду, ды і маё адчуванне абяцае быць лепшым, чым мінулагодняй вясною, калі я нейкім чынам праходзіў пэўную «пробу» ў газеце.

Хай падасца дзіўным, але на «ЛіМ» я разлічваю як на пэўную пляцоўку росту. Бо спадзяюся, што змагу тут пераадолець двухгадовую (ці болей) спячку.

Аднак натуральна спытаць: а што з аспірантурай? Спакуса самаадукавацца ў спакойных умовах аказалася не па мне. Глядзець на дысертацыю як на скачок пешкі ў ферзі — прыніжэнне годнасці навукі і насмешка над ацэнкай вартасці чалавека.

Я спрадвеку быў містыкам, і праскапія (здаецца, такая назва) — адчуванне ўласнай будучыні — была мне здаўна ўласціва. Калі паміж намі, то ты, пэўне, памятаеш той «вопль», якім я ацэньваў свой «майбутні» лёс у аспірантуры (адразу пасля паступлення)...

Сугуба паміж намі:

Я лічу, што дысертацыя мною ўжо зроблена — часткова на паперы, поўнасцю ў галаве. Праецыруючы яе на агульны ўзровень, спадзяюся, што абарона прайшла б. Але — па безлічы прычын — спяшацца не хачу і не магу. Калі кінуць вокам на рускія, украінскія і беларус-

кія даследаванні таго часу, то, спадзяюся, па крайняй меры ў абагульненнях я болей паслядоўны і настойлівы...

...Я не паэт, не празаік, не крытык і як чалавек — мнагазначны мінус... але літаратуру я люблю, ёю жыву. Любоў гэта большая за лагічную неабходнасць адмовіцца ад кніжак і пашукаць нелітаратурнай сферы прылажэння сваіх сіл.

Пісьмом я апераджаю свой прыезд з Масквы, каб потым, калі месца ёсць, не пытацца знянацку...»

*5. III.*

Тут і заканчваецца мая Масква — у Мінску. Вечарам я выйшаў з бібліятэкі і пехатою ішоў да Беларускага вакзала. З Масквою, з якой я, здаецца, не дружыў, было шкада развітвацца: цяпер усё здавалася мілейшым, яшчэ больш вясновым: і скразнякі метро, і хітрыя позіркі масквічак, і людскі тлум, і бязмежнае мора дамоў, і featuresрознахарактарных вуліц, вуліц, на якія пала ў апошнія дні процьма талага снегу і тры тыдні майго жыцця. Ад'язджаць не хацелася, і я збіваўся, блудзіў, без мэты і сэнсу заходзіў у магазіны, па дарозе пра нешта разумна і лірычна думаў, пакуль не спахапіўся: мала часу. Давялося рэшту дарогі праскочыць у метро.

Шукаю форму і збіраю думкі для паслядоўнай, рашучай і настойлівай барацьбы з дэмагогіяй. 67-мы год — двайная гадавіна. 50, але яшчэ 30 ад 37-га. У імя пяцідзесяці будзе жывой хай нашая памяць аб 37-м годзе. Нельга выпрамляць і падчышчаць дарогу гісторыі, як і не дазволена заасфальтаваць, як гэта зрабіла пад прыезд М. С. Хрушчова Мінская РОС...

М. Проботов. «Московский школьник» («ДЛ», 2—67):

А ты все смеешься, не хочешь мириться,
Тебе ненавистны фальшивые лица,
Тебе непонятны трусливые души,
Пустых разговоров не хочешь ты слушать.
Чего же ты хочешь? Не знаешь, приятель.
Спроси-ка у девочки в пепельном платье:
Она тебе скажет, чего тебе надо,
А может быть, скажет, что выпить бы надо.
А это не дело, не дело, ты знаешь,
Живешь ты, смеешься, минут не считаешь,
А время еще не ушло, но уходит,
А ты не моложе становишься вроде.

Ты старше становишься, старше и хуже,
И ты никому абсолютно не нужен;
И хоть ты на свете все видишь и слышишь,
Ты книг настоящих уже не напишешь.
Ты знаешь неправду, а правды не знаешь.
Живешь ты, смеешься, минут не считаешь.

Сюжэт: перад аўтобусам сустракаюцца два былыя сябры, інтэлігент і рабочы. Рабочага высяляюць з кватэры (4 чал. сям'я), бо ўстанова перадала ведамасны дом прыватнай асобе. Рабочаму набалела, ён расказвае, потым маўчыць, палячы сябе клопатам. Інтэлігент разумее яго, спачувае, але ён стомлены, хоча змяніць прадмет гаворкі. У машыне ён рашае чайнворд, але, каб як супакоіць сябра, хоча яго разварушыць. З намаганнем жартуе, далучае яго да рашэння чайнворда. Рабочы глядзіць са злосцю, успрымае жарты як самадавольства і г. д.

*11. III.*

Са стэнаграмы аб'яднанага сходу секцыі прозы, секцыі крытыкі і літаратуры Саюза пісьменнікаў. 3 сак. 1967 г.

**Скрыган:** «Упоравень са словам Радзіма заўсёды стаіць мова. Без мовы не можа быць народа. Калі памірае мова, памірае народ, сходзіць з гістарычнай сцэны.

Добра ведаючы гэта, ад бязроднага нігілізму перасцерагаў Францыск Багушэвіч: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі», — пісаў ён у прадмове да сваёй кнігі.

Афарыстычна і разумна сказаў пра гэта і ірландскі вучоны Дэві: «Кожны народ павінен аберагаць сваю мову больш, чым граніцы, бо мова — галоўная яго абарона, куды больш моцная, чымся ўсе цытадэлі»...

Я не магу ўявіць сабе ні аднаго рускага, які сказаў бы, што ён не любіць рускай мовы, ні аднаго француза, ні аднаго немца, італьянца, які дазволіў бы сабе нешта нядобрае сказаць пра сваю мову. Затое іначай выглядаем мы, беларусы.

З беларускай мовай наогул было многа метамарфозаў... Пасля памятаю часы, калі небяспечна было сказаць «маці-Беларусь».

А далей сталася так, што сталі непатрэбны і беларускія школы, расце пакаленне, якое і мову, і літарату-

ру, і наогул культуру рэспублікі будзе ўспрымаць як анахранізм...»

Гэта — баліць, і баліць многім.

*17. IV.*

Кніжка мілага Ігара, табой пачну гэту запісную. Зноў са мною Ігар — як у рэальным, не прывідным сне. Сне — бо ведаю, што І. — толькі ў кніжцы. Тут, у кніжцы, — частка маёй душы, майго сумлення.

Ігарок умеў вучыцца ў нас. Я знаходжу ў кніжцы і нешта сваё, што ўплывала на яго клопат і роздум. Цяпер ён вучыць нас, вучыць мяне. Чалавек трапяткога сэрца, пастаяннай узрушанасці і натхнення, ён такім існуе ў гэтай кніжцы. І тут, не тоячыся, ён выходзіць на чытача. А што было яму хаваць?

Чытач, да якога прыйдзе гэтая кніжка, які не ведаў раней Ігарка, адчуе, уведае, які быў — як у кніжцы, так і ў жыцці — непадзельна: чалавек і пісьменнік — Ігар Хадановіч. Успрыме гэта як асабістую вялікую страту, кніжка адзавецца ў яго душы стратай блізкага цудоўнага чалавека, асабістаю тугою і смуткаваннем.

Гэта кніжка густа пераплецена з нашым, сяброў, унутраным і знешнім светам, яна пойдзе так і да чытачоў, высвечваючы душы тым праменлівым святлом, якое — пра параўнанні не думаю — нечым нагадвае трывожны свет пагаслай зоркі.

Я трымаў непрашытыя лісты гэтай кніжкі з пачуццём асаблівым. І прадмова Вярцінскага, дакладна выявіўшы асноўную сутнасць гэтай кніжкі, ішла ў душу па адзінай, ледзь не самай дакладнай дарозе. Сапраўды, ён радаваўся б. Сапраўды, яго мэта была — стаць пісьменнікам. Сапраўды, гэта быў незвычайны талент — «талент, арганічна звязаны з яго асобай, з яго маральна-духоўнай сутнасцю, з яго перакананнем, што жыць трэба лепш, што «ў чалавеку ўсё павінна быць прыгожым».

Яшчэ ў крытыцы — яго тонкасць душэўная ў адносінах да блізкіх, да родных. Яна прапушчана ў кнізе праз дастаўернасць яго сапраўдных адносін з людзьмі.

Ёсць сляды літаратурнай нявопытнасці, але няма штампа — ён нідзе не адыходзіць ад сваёй душы.

«Хворы на душэўную чэснасць». Гэта наш ідэал.

Усім нам хочацца і патрэбна прычасціцца ў яго чысціні.

*18. IV.*

Дарагая М. І. Пасылаю Вам балючую радасць — Ігараву кніжку. Відаць, ужо зусім хутка яна пабачыць свет. Даруйце, я затрымаў яе на адзін дзень. Дрыжэлі рукі, дрыжэла душа. Кніжка пабыла ў мяне адзін дзень, але яна надоўга зробіць мяне лепшым. Так цяжка яе адсылаць, быццам адпускаю самога Ігара, але ж я адпускаю яго да Маці. Вы таксама прысутнічаеце ў гэтай кнізе, і я думаю, што гэта будзе хвалюючым не толькі для аднаго мяне.

Слова В-га запала ў душу і адзываецца там вялікай удзячнасцю. Добра, што ён паможа чытачам зразумець і ўбачыць І. такім, якім ён быў для нас.

Я прачытаў ужо і рэцэнзію Мехава. І зноў дрыжэў, ледзь не плакаў: пазнаваў Ігара, які ён быў, які ён ёсць, будзе для нас назаўсёды. Ігарок, яго кніжка падымаюць у сэрцах такую любоў і пяшчоту, што, відаць, мы будзем хадзіць да яго, як да прычасця. Рэцэнзію для «Дружбы народов» у Маскву пашле, мабыць, Стральцоў. У «ЛіМе» — збіраецца напісаць Бураўкін. Я дамовіўся пакуль што на «рэцэнзію» (усё гэта, зразумела, будзе пакуль што не рэцэнзіяй, а водгукам, болем) з «Полымем».

Не толькі чытаць кніжку Ігара — пісаць пра яе хочуць многія. Я спадзяюся, шасці тысяч кніжак не хопіць — яна павінна разысціся.

Ёсць хлопцы, якія пішуць больш умела, чым пісаў Ігар, але кніжка І. невымерна большага кошту: Чалавек, Ігар — стаіць за ёю.

Мне дык гэта кніжка становіцца праверачным крытэрыем: я харошы настолькі, колькі знаходжу ў ёй святла душы, сваіх пачуццяў, і хочацца, каб маё было там — у Ігаравым, а Ігарава — у мне.

Кланяецца Вам Толя Кудравец — ён і прынёс гэты отціск.

Ю. С.:

> Ты мужна ўсё перанясеш, Радзіма,
> (А мужнасці табе не пазычаць!)
> Табе не раз
> З паэтамі сваімі
> Да ісціны кірункі вызначаць.

З нагоды гэтага верша рэдактар сказаў: «Падышоў певень да паравоза і гаворыць: — Давай разам працаваць».

*24. IV.*

Гібель Камарова. Столькі забрала ад душы. Цярэбяць чуткі і домыслы, але ўвесь гэты пярэсты свет бясконца далёкі ад той вышыні, на якую яго ўзнесла смерць. І ўжо гавораць, што ён быў самы разумны і самы прывабны сярод касманаўтаў. Можа, і сапраўды так.

Халодная вясна. Страсці вакол футбола, вакол лухты і дробязей.

Мэтазгоднасць формы, даказуемая толькі і толькі інтэлектуальным, ідэйным зместам — этап, які пачынае В-скі. Поўнае і сталае выяўленне сталага інтэлекту і характару, усхваляванага роздуму, пачуццямі натхнёнай думкі. Адносіны да свету, эмацыянальнае ўспрыняцце з'яў жыцця, іх грамадскай сутнасці і чалавечага зместу — праз глыбокую думку. Роздум услых, пачуццё і роздум.

Новы сацыяльна-псіхал. узровень: «Найскладніша людина проста», і ён аддае ўсе сілы свайго сэрца, усю сваю волю гэтаму арганічнаму свайму пераконанню. Ён прыбаўляе нашаму духоўнаму жыццю свайго зместу: розуму — разумовага, пачуццям — пачуццёвага (разумею ўсю ўмоўнасць падзелу гэтых паняццяў).

Людзі паверылі ў чутку, што Камароў жывы.

*25. IV.*

Няма сцягоў. Не бачу і жалобы. Людзі не ўглядваюцца доўга, дзе, каму і чаму баляць душы. Чаму смерць твайго сваяка — тваё гора, а майго — маё? Мы — людзі. Мы выйшлі з прыроды. Мы былі калісьці стадам, у стада быў важак, у нас былі інстынкты стада. Стадны інстынкт астаўся, ён яшчэ непераборны, дадзім яму духоўную падтрымку і зробім з яго калектывізм.

Тое, што дорага мне сёння, — не пакідай мяне заўтра.

Калі інстынкт стаднасці выразна авалодвае людзьмі, іх твары здаюцца мордамі. Морды...

«Били Деникина, били Махно...» Час прымацца за Есакова, Кучара і Сахно.

«ЛіМ», 1937. А.-Е.-Е.А. (Есакоў); Кучар. 23.III. «Бязладдзе ў Бел. радыёкамітэце».

24.VI. «Даваць адпор варожай агітацыі».
30.VII. «Вораг пад маскай драматурга». — Пра Галубка.
30.VII. «Ачысціць саюз кампазітараў ад контррэвалюцыйнага ахвосця». — Пра Чуркіна і інш.
16.VIII. «Шкодная пісаніна».
«Паклёп на савецкую рэчаіснасць». — Пра Г. Шведзіка і інш.
23.XI. «Злачынныя справы ў тэатры оперы і балета».
30.VII. «Ліса ў творчай скуры». — Пра Г. Раманоўскую.

«На працягу апошніх 9 месяцаў, як раней на працягу многіх год, яна не парывае сувязі з выкрытым органамі пралетарскай дыктатуры контррэвалюцыянерам Шушкевічам. За гэта яна была выключана з камсамола. Аднак і пасля гэтага контррэвалюцыйны нягоднік Шушкевіч застаўся ёй даражэйшым, чым пісьменніцкая арганізацыя».

*28. IV.*

На прэзідыуме абмяркоўвалі («Дзень паэзіі — 66»). Я падрыхтаваўся, напісаў тэзісы. Намер быў такі: сказаць пра паэтычную макулатуру, затым пра крытыку ў «ДП», а найбольш пра Е-ва і культаўцаў.

Макулатуры №-х да т. п., лічу, ацаніў правільна. Потым пра Е-ва («знойдзе дзейнік, няма выказніка, знойдзе выказнік, няма дзейніка», успаміны — «Ехала деревня мимо мужика»).

Выдаў іх «перлы» з газет 30-х гадоў: «Контррэвалюцыйны нягоднік С. Шушкевіч» і т. д.

Выключная кульмінацыя: пытаюцца, хто пісаў пра Раманоўскую, ганіў яе за тое, што наведвае зняволенага, патрабаваў выключэння з камсамола. Я мыкаю. Уваходзіць Кучар. Павальны рогат.

Былі апладысменты — яны часткова і шкодзяць справе, надаючы сенсацыйны прысмак.

Кучар ездзіць на «Волзе», а Раманоўская ледзь ногі валачэ.

Паказвае Харужую ў берыеўскіх засценках. Рабіў і робіць сінекуру з культу.

Ён любіў абсмоктваць купалаўскія словы:

Яшчэ прыбавіце скананне —
Прадсмертны вашых рук абраз, —
Нядоўга ж ваша панаванне —
Загуба прыйдзе і на вас.

Загубу крыўдаю, слязамі
У магільны выкапалі ніз;
Людской расплаты ўжо над вамі
Тапор адточаны завіс.

Сіняўскія экспартавалі дэмагогію за мяжу, яны ж спрабуюць знутры навязаць нам яе.

Быкаў паказвае Сахно, яны злуюць на Быкава, а не на Сахно.

У маленькім апавяданні В. Цельпугова («Снежныя горы») у старога горца пытаюць, колькі вёрстаў да гор.

— Одну половину, наверно, забыл, а в другой верст восемь, не меньше.

Мудры стары. Якраз такія мудрацы ёсць у нас — хітра замоўчваюць жахі часоў культу.

Р. Рождественский:

Поперед батьки
В пекло не лезть?!
Кто ж его
от пули
закроет
тогда?

Гэта адказ маме на яе перасцярогі.

А. Вярцінскі:

Дзень першага весняга промню —
дзень паэзіі.
Дзень першага весняга грому —
дзень паэзіі.
Дзень першых дажынак —
дзень паэзіі.
Дзень першых сняжынак —
дзень паэзіі.
Дзень першай сустрэчы —
дзень паэзіі.
Дзень светлай любві чалавечай —
дзень паэзіі.

Подзвіг несумяшчальны з траскатнёю. Траскатня, шуміха — я сказаў бы — апашляе яго.

Абавязкова на ўсё неабходна свежае вока: на газетную паласу, на падзеі (свежы погляд), на літаратурны працэс, на будні, на наваколле, быт. Узнавіць стан, калі ты пабываў спачатку збоку, потым — унутры, але ўнутры яшчэ не прыцёрся, не абвыкся.

У мяне прапалі параўнанні. Думка прагне чыстага слова. Сучасная метафара — два кадры. Кадр: пчаліныя соты; кадр — капсюлі патронаў; метафара — пчаліныя

соты патронаў. Метафара злучае не дзве рэчы, дзве з'явы (нават рэчы-з'явы). Дае кантэкст сінтэзу, злучаючы два рады асацыяцый.

І ўсё гэта — пярэстыя думкі, якія па адной закідваю ў памяць (выдумваю хутчэй) у Купалаўцы.

*1. V.*

Ёсць падставы, што — нягледзячы на ўсю немач — «квартал» пражыты адносна добра. Тое-сёе зрабіў, тое-сёе сказаў, набраў пэўны разгон і маю планы.

І сённяшні дзень быў адносна плённы. Я чытаў Дарыа і пераклады Савіча. Гэта была паэзія.

А вечарам, у гадзін сем, я пайшоў гуляць і быў па-новаму запалонены вясною, яе паэзіяй.

Цеплыня вярнулася і суцішыла ветры. Парасклейваліся першыя лісточкі. Бярозавыя яшчэ ліпкія — я іх мацаў. Я хадзіў у мясцінах найпрыгажэйшага роднага краявіду — там, дзе мурожная трава ляжала светлай зелянінай на леташняй жоўці, дзе стаяла рэчка з ціхай зялёнай вадою, дзе было незвычайна хораша бачыць сонца праз дрэвы, дзе абрасталі зелянінай стаўкі. Здалёк і адусюды ішоў птушыны шчэбет. Яго перабівала адна там нейкая маленькая сінічнага выгляду «пічужка». Я хадзіў там, дзе дзіўна, непрывычна сустрэць другога чалавека. Па-свойму нават абразліва: а што ён тут робіць?

Выйшаў ад узлеску ў лагчыну, да рэчкі, на луг. Ішоў мяккаю падатлівай сцежкай і дзiвіўся, круцячы шыю: даўно не ведала душа мая такой радаснай, простай і адкрытай прыгажосці, якую адкрывала вока ў маленькай крапіўцы, у дробным яшчэ конскім шчаўі, у сухім лапушынні.

Сцяжынка, адолеўшы некалькі ручайкоў, па мяккім, падатлівым грунце вывела мяне да вёскі. Лецкаўшчына шырокім развароТам ляжала ўверсе, на хрыбтавіне гары. Ціха, нерухома, задумліва стаялі дамы, а ўніз спускаліся апрацаваныя прысядзібныя шнуры, а па мяжаніцы ішла ўверх сцежка. Усё было спрадвечным, нерухомым, некранутым. Здавалася, што тут існуюць вось гэтыя дамы, шнуры, нерухомыя каровы на лузе (пастушку я не адразу разгледзеў). Потым вуха пачало лавіць і чалавечую прысутнасць: нёсся з вуліцы бесклапотны смех нейкай кампаніі, злева вока ўгледзела кампанію рознакаліберных жэўжыкаў з вудачкамі.

Я пайшоў уздоўж рэчкі, якая набыла тут рух у вузенькім рэчышчы, забруілася ручаінай. Суха дзынкнулі прывязаныя — на павадку дашчыны кладкі; уся вёска пасунулася ўправа, і адкрыўся новы краявід.

І зноў ад узлеску глядзеў я ўжо на некалькі вёсак, раскіданых па краях і акаймаваных лясамі. Адзінокі брэх сабакі, рэдкія падарожнікі — і ўсё сцішанае, маўклівае, разлічанае на ўспрынящце аднаго.

І пры ўсім гэтым добра думалася, хадзілася. А потым — цудоўны падарунак: бусел, крыку якога я нават адразу не пазнаў. Я напрасткі папёрся да яго і — дарэмна. Спужаў. Але ўсё было здарава. І хацелася гуляць, маўчаць, кідаць кветкі ў ваду і біць пошасць, якая не мае правоў на такі мудры і з усімі добры, неварожы, прывабны свет.

*2. V.*

Добры, раніцаю без ветру, дзень. Першыя спробы загару. Людзі корпаюцца на агародах. Я выходзіў таксама. Пакуль капаў, успомніў тыя вёсны, калі я капаўся ў градах. Паўтарэнне — зварот успамінаў, якія ляжаць нерухома.

Вялюгін — павышаны тонус жыцця, самабытнасць, свежасць.

Адчуванне цэлага і цэласнага, пранікнёны лірызм і напружаная інтэлектуальнасць.

Складаныя міжнародныя абставіны патрабуюць глыбокага вывучэння і асэнсавання працэсаў, звязаных з праблемамі вайны і міру.

*4. V.*

Сонца адтаяла палонку ў воблаках і раскідала пунцовыя промні.

У Купалаўцы ідзе перастрэлка вачэй. Я, здаецца, таксама прымаю ўдзел.

Біялагічная мяжа ўзросту ледзь не ўсюды лічыцца — 28 год. Я падыходжу да мяжы.

*7. V.*

Дзень радыё. Гарачы, сапраўдны дзень лета. Я акунуўся, загараў. Хацеў апісаць усё гэта — цяпер адчуваю, што самаадчуванне не тое.

*15. V.*

Адбыў Брэст. Значны і дарэмна не запісаны кавалак жыцця. Істотны па насычанасці і зместу.

У Мінску бачыў летнюю раніцу. Цёг у Прылуках (з прыгодамі) цяжэзныя чамаданы бездапаможнай бабулі з Сухініч, і яна ўсё хацела мне заплаціць.

*20. V.*

Няўжо ўсё жыццё пройдзе з надламанай памяццю і бясконца будзе мучыцца болем, бяссонніцамі і туманам стомленая галава?! А жылося...

Напісаў Калесніку. Паслаў кніжку. Паслаў кніжку Ігара Салыку. Заўтра едзем з В-м да Ігаравай маці.

*26. V.*

Ідзе пісьменніцкі з'езд. Я ўчора быў «букашкай», якая пакінула ў выглядзе косак свой след на старонках газеты.

Варта было б запісваць гаворкі з разумнымі людзьмі. Не пра што, а што гаварылі.

Паэт, які па штампаванай і зручнай для рэтраградаў звычцы не значыцца ў першай абойме, стаіць па-за меркамі гэтых абоймшчыкаў і непараўнальна вышэй. Не ўключаць «Рэквіем» і мацярынскі цыкл у школьныя праграмы — грэх.

*29. V.*

Раніцаю прыехаў у «ЛіМ». Прыйшоў Сіпакоў, за ім — Быкаў. Быкава слухаў упершыню. Сапраўдны мастак. Чалавек сярод людзей. Без аніякай позы, без дыстанцыі, без фальшывінкі.

*31. V.*

Гаварыў па тэлефоне з Рытай і Светаю. Цяжка, нялёгка, вінавата. Света — адзіная на ўсім свеце, хто за нешта мяне прызнае. Ва ўсякім разе — за большае, чым я ёсць. Тое, што яна не ведае аб'ектаў для параўнання прапорцый і маштабаў — не апраўданне.

*4. VI.*

Абпалены гарачынёю і няшчасны ад ляноты, ледзьве прымусіў сябе сесці за стол. Я пайшоў на рэчку, згуляў за «пенсіянераў» у футбол (прайгралі 2 : 1), дзе я вызначыўся толькі тым, што не заслужана зарабіў пе-

нальці. Звычайныя пераджартачкі з Хмылём і Жаўрыдам. Добры дзённы сон. Прыпякае абсмаленая скура. Пішу.

Кафка — праблемы адчужэння людзей, адзіноты, фатальныя, неадольныя законы, у якіх блытаюцца людзі, не разумеючы, чаму яны ўсё жыццё нясуць пакаранне за нязробленыя злачынствы.

Дзяцінства добрае тым, што пасля найцяжэйшага «гора» прасынаешся бесклапотна шчаслівым.

Добрае лета. Ціхі чэрвеньскі вечар, калі — пасля спёкі — лёгка гуляць у валейбол і ва ўсе тонкасці юначых і дзіцячых адносін тым, хто пасля вячэры — з піянерлагера. Паднялося ў памяці сваё. Лагернікам — зайздрошчу. Свой мікрасвет, свая грамадскасць, свае інтарэсы.

Мая паэзія: А. Вярцінскі.

### СКАЖЫ МНЕ, МАМА

*Памяці І. Хадановіча*

Ён нарадзіўся вельмі рана.
Ён нарадзіўся на зары.
А на зары — яшчэ туманна
І яшчэ золка на двары.
Ён нарадзіўся вельмі рана,
Калі яшчэ зашмат туману —
Туману фальшы і падману,
Зашмат імглы і слепаты;
Зашмат усякай свалаты.
Ён нарадзіўся вельмі рана.
З душою — чуйнай, як мембрана,
Ён успрымаў удары зла,
Як рана — вастрыё ляза.
Так, ён прыйшоў да нас заўчасна.
Таму пытаўся ён так часта:
— Чаму яшчэ жывуць няшчасна?..
Чаму? Чаму? Чаму? Чаму?
Чаму ашукваюць, не вераць?
Глядзяць на праўду, як на ерась?
Чаму жыццё так дробна мераць?
Чаму?!
Што скажаш ты яму.

Так, ён з яго жывым сумленнем,
З яго высокім уяўленнем
На многае глядзеў з здзіўленнем,
Ён, як дзіця, пытаўся ў нас:
— Навошта гэта — асцярожнасць,
няшчырасць,
жорсткасць,
і варожасць?
Навошта? Дайце мне адказ!
Навошта! Ну, скажыце прама.
Навошта? Ну, скажы мне, мама,
Мне, мама, многае няўцям.
Навошта? Ну, скажы мне, Рыта...
Скажыце шчыра і адкрыта, —
Навошта гэта ўсё людзям?!
Навошта столькі ім туману —
туману фальшы і падману?
Халоднай чэрствасці імгла?
Ці, можа, я радзіўся рана
і ўжо зашмат хачу святла?..
...Яго ўдарылі з туману,
з імглы ўдарылі, з імжы...
«Навошта, мама, адкажы?»

*17. VI.*

І без абы-чаго ёсць сёння такое, што вартае запісу. Устаў сёння рана — да шасці. Хадзіў у лес. Думаў, што дарэмна не запісаў, калі апошні раз чуў зязюлю. Ажно раптам яна падала голас.

Рваў суніцы. Мокнуў у расе. Радаваўся лесу і раніцы, хаця адчуваў сябе вяла. Набрыў на званочкі (колокольчики) і прынёс дахаты букет. Хадзіў босы — падзея.

Муштраваў Віньку. Мылі і прыбіралі ў хаце (сёння субота), потым пакорпаўся на агародзе.

Напісаў Вярцінскаму ў Ялту, Ігаравай маці.

Хорошо, когда для счастья есть причина...
Но нет ничего счастливей
Беспричинного счастья.

Непачаловіч:

Птушыная, кажуць, трывога —
Прадвесніца новых трывог.
І сёння замест эпілога
Мне хочацца бачыць пралог.

*20. VI.*

Хачу жыцця поўнага, чыстага, святога, а сяджу ў драбязе, лухце, мітусні. У жыцці кіравацца толькі лепшымі пачуццямі.

С. Наровчатов:

Пожалуй, в дорогу с собой возьму,
Все остальное брошу,
Свои зачем, отчего, почему —
Единственно ценную ношу.

Матфея, VII:

«Входите тесными вратами: ибо широки врата и пространен путь, ведущие в погибель; и многие идут ими: ибо тесны врата и узок путь, ведущие в жизнь, и немногие находят их».

*2. VII.*

Напісаць апавяданне: Ён і Яна едуць побач у аўтобусе. Яму і ёй здаецца, што яны разумеюць па дотыку локця ўсю сутнасць былога жыцця, адносін і т. д. Баяцца загаварыць — раптам гэта кожнаму з іх толькі здаецца. Тым больш што ад няёмкасці кожны імкнецца паказаць выпадковасць гэтых дотыкаў. Ці бяда герояў — занадта развітае ўяўленне.

Абкрадванне прыгажосці: прыгожая дзяўчына ў абдажным маце і спрошчаных адносінах з жулікаватай кампаніяй.

Твор, яго змястоўнасць залежыць ад колькасці і сілы, якасці сувязей з намі, з людзьмі, з часам, з гісторыяй, з эстэтычным вопытам. Тое, што пазбаўлена духоўнасці, стаіць за межамі паэзіі.

*12. VII.*

У душы то пуста і глуха, то несутрымны думак разгон. Пісьменнікі шчаслівейшыя — яны пішуць творы, дзе гавораць з сабою і другімі, пра сябе і пра другіх. А тут душэўнае жыццё астаецца па-за рэцэнзентскай шумяццю.

Не ўсё запісваю і не тое запісваю. Можна было б шмат цікавага занатаваць пра Вярцінскага, Чыгрынава і іншых. Толькі ж хай застаецца агульнае ўражанне, а рэшту — не для «ўспамінаў» жа.

*14. VII.*

Размова ў аўтобусе: «От жа рыскнула — на чацвёра (дзяцей) пайшла».

*15. VII.*

Сутыкі прыгод. Вядома, каля дзяўчат. Лёгка, быццам няма мяжы, знаёміўся я з дзяўчатамі і пажынаў станоўчыя вынікі ўпэўненай бесклапотнасці. Як добра і лёгка ў стане бяздумнай іроніі браць лёгкія падарункі жыцця. Толькі яны адвяргаюць тое, істотнае, чым мы жывём.

*3. VIII.*

Добры дзень, Нарач! Гэта запісная — на Нарачы. Будзь ты ў гэтай запісной. Аўтобус закінуў нас лёгка і плаўна. За вокнамі — быццам нічога і не было. Хаця — быў сонечны дзень з неабсяжным жытам, бульбай і лесам па баках: усё гэта, плывучы за вокнамі, заўсёды хвалюе. Мінск быў у аўтобусе, пакуль не было нарачанскіх уражанняў. Тады — пачалася Нарач.

У доме адпачынку аказалася «пуста» — толькі Танечка на пошце і ўсё такая ж гаротніца. Вечар — турбаза, Ґ. на краі веранднага гарызонту танцуе, вяртаючы мне велічэзны пласт мінулага, на які яшчэ наслойваецца ўсмешка: для яе гэтыя танцы як наркотык. Зорка турбазы.

Мінулае ходзіць па слядах і прыходзіць здалёку. Тут і Тома Даўгяла, якая памалу дапамагае прыпомніць Плісу.

Вечарам — Бугаёў. Яго ўрачыста прыводзіць у сталоўку Шэйнеман... Гуляем у шашкі, я прайграю. Садзіцца нейкі піжон, і Бугаёў наўмысна блазнее, сыпле паўсялянскімі прыгаворкамі. Здорава.

«С неба полуденного — жара». Учора гарэў дом у Сцепянёве. Дзецям не дазвалялі раскладваць агонь на двары, дык яны — у хляве, у сене.

*17. VIII.*

Столькі сплыло часу, а ў мяне не прыбавілася амаль ведаў, уражанняў, думак. Я многа бадзяўся, але неяк нясвежа. Мала і кепска спаў. Не ездзіў на рыбу. Толькі аднойчы вясляры на лодцы. Грабіў сена М-м. Ягады. Жахлівая трата нервовай энергіі. Барацьба за духоў-

насць у другім чалавеку — няўжо яна заўсёды такая бессэнсоўная? Пільман; мая латынь. Сябруем.

Р. Гамзатов. «Мой Дагестан». Надпись на кувшине:

Самые прекрасные кувшины
делаются из обычной глины.
Так же, как прекрасный стих
создают из слов простых.

Гаворка з жанчынай, якая збірае жывіцу. Спецадзежа, мыла, карасіна. Што шыллё (ігліца) — цудоўнае ўгнаенне. «Конскі навоз кепскі — дае каросту бульбе». Як яе суседка, немаладая жанчына, пайшла замуж за маладога («Застарэла, піцулецка (маленькая), на 15 лет яна за яго старшая») і добра жылі. «У 39-м гаду, калі гэта Саветы ішлі, як сталі сыпаць салдаты як мак па нашых шнурах, заняло ёй мову. Вечна балела, гнілая была. А як выйшла замуж, пайшлі дзеці — зрабілася як печ».

*5.IX.*

Ліст Г. М.:

«Табе — 20, і каб вярнуць да цябе асеннюю раніцу з мяккім туманам, вільготны пясок, прэлыя жоўтыя лісці на ўзбоччы дарогі і таго бестурботнага хлапчука, позірк каторага ты злавіла... — патрэбна ўжо не толькі табе, а і мне зрабіць душэўныя намаганні.

...Калі б мне зараз было толькі 20, быў бы я бесклапотным хлапчуком, але не такім, як на той, дзе мы ўпершыню ўбачыліся, дарозе — я б угрызаўся ярасна ў кнігі, лёгка і проста думаў бы пра спатканні, падлічваў, ці хопіць грошай да канца месяца, і весела заігрываў бы з сімпатычнымі дзяўчатамі.

Адышло. «20 год — незабыўная казка, а праз год гэтай казкі не будзе...»

Я шчыра жадаю табе многа дабра, адмеранага па самай шчодрай мерцы, а не маёй, якая, ведама, звузіла і пажаданні маім асабістым хаценнем быць тваім дарагім і галоўным.

Стаіць добрая цёплая сонечная пагода. Там у вас, можа, яшчэ траскацяць конікі, асеннія дачнікі п'юць асенняе хараство і сонечную цеплыню, мякчэюць душы, яснеюць галовы. Я жадаю табе яснай, цёплай, сонечнай жыццёвай пагоды.

Хай не тужыць твая душа ад абыдзёншчыны і пустэчы, хай лёгка адкрываецца ёй светлая радасць гэтых засланых жоўтым лісцем дарог, ляснога разгулу баравікоў і лісічак, сіняга святла ласкавага месяца, прыгажосць спелых садоў і спакой азёрнай вады...

Хай бяруць тваю душу ў абдымкі багатыя і прыгожыя чалавечыя душы.

Я жадаў бы табе шчасця, але не ведаю, якім ты яго ўяўляеш.

Па-мойму, шчасце — ахвотна жыць, не паддавацца надоўга адзіноце, суму, не стамляцца душою надоўга...

Змагацца і душэўна расці, павялічваць веды, быць незадаволеным сабой, загартоўваць волю. Мець добрае здароўе. Нешта шукаць, ведаць, куды ісці, і бясконца асэнсоўваць, для чаго ўсё ж такі трэба жыць на зямлі. І трапляць у нешта невядомае, непрывычнае.

І яшчэ: ведаць, што ёсць на свеце людзі, якім не ўявіць жыццё без цябе.

Калі табе шчасце ўяўляецца інакш, то хай Гасподзь і лёс надзеляць цябе шчасцем па тваіх уяўленнях. Толькі, гэта добра вядома, пастаяннага трывалага шчасця няма, асабліва для людзей, пазбаўленых абмежаванасці і самазадаволенасці.

Як пісаў адзін разумны чалавек, беражы маладосць, каб жыццё было доўгім; беражы раніцу, каб быў добрым дзень! Вельмі!»

*7—20. IX.*

Пераплятаюцца даследаванні, успаміны, творы. На паштамце дзяўчына чытае добрае і шчырае пісьмо ад салдата сваёй сяброўцы і пошла, нядобразычліва каменціруе. А знешне такая, што паклікала б — пайшоў бы. Толькі дробныя сувязі, думаю, яшчэ памоцнілі б прагу духоўнасці і чысціні ў адносінах з прыгажосцю лепшай, большай, адухоўленай.

Які прыгожы ходзіць і жыве навокал свет! І яго прыгажосць трывожыць, калі суадносіш са сваёй знешняй і ўнутранай беднасцю. Абяцаеш сабе жыццё і барацьбу, не маючы мужнасці змагацца за свае намеры, планы, імкненні.

Добра блукаць у маіх лёгкіх і рассеяных думках, якія, знімаючы цяжар наўмыснага думання, выводзяць на прасторы інтэлекту.

Напісаць у апавяданні, як едуць людзі ў аўтобусе. Для прыкладу: цётка вязе свае бідоны і клункі разам з думкамі пра базар, выручку і тое, як яна выкарыстае выручаныя грошы.

Стомлены пажылы афіцэр чытае механічна газету.

Прыгожанькая маладзенькая дзяўчынка з асалодай збірае зацікаўленыя позіркі хлапцоў і мужчын. Хлопец, што сядзіць поруч з ёй, востра адчувае дотыкі яе лакцей і, усё болей поўнячыся трывожнай цнатлівасцю, не можа пераборaць сваю няўпэўненасць, каб пачаць гаворку.

Пенсіянер глядзіць, як бесклапотна сядзяць, не аддаючы старэйшым месца, хлапчукі, і, наліваючыся злосцю, думае: які час, якія дзеці і т. д.

Гэты фон памацняе адчуванне адзіноты ў героя апавядання, і яго думкі тонка і востра ідуць у глыбіню душы і адносін з бясконцым россыпам сваіх супярэчнасцей, памылак, сваіх ваганняў паміж высокімі ідэаламі ўвагі, чалавечнасці, дабраты і пошасцю, на якую ён часам пагаджаўся.

Найбольш беспрынцыпная сфера — палавыя адносіны.

Псіхалагічныя гарызонты сучаснага чалавека неабмежаваныя. Юнацкія адносіны да свету вельмі суб'ектыўныя. Юнак пакуль не мае такіх глыбокіх і шматлікіх карэнняў, якія звязваюць з акружаючым светам дарослага чалавека.

Чалавек можа аб'ектыўна меркаваць аб сабе толькі па выніках сваёй дзейнасці.

*24. IX.*

Аказваецца, можна прывыкнуць да запісаў. Без іх нечага не хапае.

Нарачанскі эпізод, які кладзецца пад апавяданне: маладая (16 гадоў) і высокая дзяўчынка. Як знаёміўся на кіно, як ішоў на Сцепянёва і ўсё далей, возера. Саромеўся сам сябе, узросту, банальнасці, як росціў удзячнасць за ўвагу, давер. Потым аказалася (у аўтобусе ехаў ужо дахаты), што яна змяніла імя, прозвішча... Не магла яна істотна змяніць толькі гады — сапраўды ў яе было іх мала.

На дварэ жыве ў добрым разгоне вясёлы верасень. Вецер ганяе жоўтае лісце па вуліцах, неяк маркотна туляцца парачкі на лаўках, пад вясёлым сонцам выбі-

ваецца бульба з барознаў, начамі высока ходзіць месячная поўня, без стомы працуюць людзі. Усё гэта прайшло міма майго настрою і стану.

У нашых дамах труцілі мышэй. Загінулі Мушка (мілы быў сабачка) і Дымка (кошка з рэдкім самастойным характарам).

Выберу як-небудзь вальнейшы дзень, пайду ў лес і расхіну душу сіняму небу.

Мабыць, асаблівасць развітай літаратуры — пагроза павышэння рамесніцкага ўзроўню і большае прадонне паміж дасягненнямі і слабіной.

*29. IX.*

Апошнія дні з Вярцінскім у «ЛіМе».

Пра што напісаць, каб у часе пісання ажыць душою і варухнуць чужую свядомасць, каб яна адазвалася пачуццём.

Думаў пра дзеда свайго Лявона Кандратавіча Кароткага. Сялянскі сын, скончыў царкоўнапрыходскую школу. Асірацеў, але на здольнага юнака выпадкова звярнуў увагу мінскі архірэй і ўладкаваў яго ў фельчарска-акушэрскую школу.

І гэта — яго, дзеда, вялікая ўдача, шчасце: як медык ён быў маг. Чуйны, з гумарам, беспамылковыя дыягназы. Імперыялістычная вайна. Лютаўская рэвалюцыя. Дзед — старшыня салдацкага камітэта. Потым — служба ў Чырвонай Арміі. Усё жыццё лячыў вайскоўцаў. Шчыры, адкрыты, бясконца добры. Любоў і пашана людзей. Магу даць яго характарыстыку, але як мізэрна мала, урыўкамі ведаю яго жыццё.

*8—17. X.*

Вельмі дарагія — агульныя ўспаміны.

Фэст (святога Роха) у Кабыльніку. Ксёндз пачаў: хто верыць у Бога — будзе кучаравы, ні адзін волас не зваліцца.

Падслухаў:

— Вы не пойдзеце ў касцёл, бо камуністка.

— А што мне пропуск нада выпісваць?

«Не пайшоў у Армію. Меў 17 дзесяцін. Ежадneўна чытаў малітву. Хаваўся ў падпол. Сталін усё мне даравў, бо я ў Бога веру».

*18. X.*

На календары надпіс: «Скука — это украденное у жизни время». Як спецыяльна мне пад настрой. Няма калі хадзіць, званіць, пісаць, гаварыць, а чытаць яшчэ ж хочацца страшэнна.

*29. X.*

Смерць нашай былой суседкі Соф'і Флораўны. Пры смерці добрае пераважвае. Становіцца ясным, што галоўнае — заслугі чалавека. Яе клопат пра дзяцей. Яе трывушчае цярпенне.

Ляжыць нябожчыца ў чырвонай труне, а побач шэпчуцца то з сумнай развагай, то з ціхаватым прысмехам людзі. Пра радню, пра цяперашні свет. Падносіць нізенькі чалавечак дзетак да труны, паказвае і гаворыць: «Яна цябе лаяла ў дзетсадзе, а зараз не будзе». Плача Кітаіха, яе сяброўка, супакойваюць. Ставяць свечку ў шклянку з зернем і таўкуць, таўкуць сваё і чужое жыццё. Паміраючы, ідзе чалавек, перад тым як знікнуць у небыццё, на вялікі суд і стаўляе яшчэ пад яго і радню. І даюць чалавеку столькі душэўнай і рытуальнай увагі, што і частка б яе палепшыла б яму на свой час жыццё.

Я бачыў, як лянотна пазяхала ад абыякавасці прыгажуня. Знікала яе хараство. Знікаў дух, аставалася матэрыя.

Абнаўлення хачу я, хачу абнаўлення,
Ад сумоты, нудоты, ад ляноты збаўлення.
Хай пакута, хай радасць, хай бессань трывог.
О, вясновае поле! Абноўлены плуга нарог...

# 1968



*24. III.*

Подпіс пад карцінкай: «Мгновение задумчивости, летнее поле, юность, светлые девичьи глаза...» На карцінцы больш таго і няма нічога. Чаму ж тады шчымiць?

*26. III.*

З пагодай, як і з вясной, пагаджаешся насуперак усякай логіцы: душа ў іншую пагоду не верыць.

Абваліліся ад берагоў глыбы ільду. Мутная хуткая рачная вада. Мутнае, як зямля з вясновым снегам, неба. Жывыя і гаманкія ручаі. Радаснае прадвесне паветра. Пухлы снег выяўляе старасць зімы. Дзеці перагараджваюць ручаінкі.

Думкі пра тое, як жыць, працаваць, запісваць. Трэба б завесці нейкую картатэку ці слоўнік «Людзі 30-х гадоў».

*31. III.*

Нядзеля. Цёплыя дні. Вялікае сонца. Прасторны свет. Сухая дарога. Першы вясновы футбол. Вялікая радасць — гуляць, бегаць. У ёй няма стомы, тугі, клопату, і ты роўны тады з усімі людзьмі.

Ломоносов: «В любви от страха тихо тайте». (!)

Не запісваць — кепска — мозг як у бяздзейнасці, нерухомы, свядомасць не фіксуе арыенціры думак і ўражанняў, за спіною астаецца пустэча.

Я ўбачыў свет і нешта зразумеў у ім тады, калі пачаў пісаць пісьмы ў розныя куткі; я назбіраў уражанні і кампанаваў іх у адпаведнасці з настроямі маладога, закаханага ў невядома што і каго, чалавека.

Тады досыць было астацца аднаму, зірнуць навокал, і пачыналіся адкрыцці, якія на сёння, можа, мізэрныя (можа, сёння я нават іду шмат хутчэй), але ад іх радасна пахла пачуццём, адчуваннем адкрыцця.

Кожная драбяза наваколля заходзіла ў счапленне з душой і вопытам...

Кантакты з Сёмухай падмацоўваюць думку, што ён шчыры, прыязны і сумленны хлопец.

Для мяне важная думка аб «нейтральной порядочности». Я ж не подлы, у мяне няма жадання некага пакрыўдзіць, адпіхнуць. Я не даю дарогі зайздрасці. Так ці не? Але ўсё гэта нейтральна-абывательскі стан. І калі на большую сумленнасць я не здольны, маё душэўнае жыццё заўсёды будзе бедным.

Лётаць я не здольны? Поўзаць не магу. Разважанні — гульня ў словы. Чалавек павінен знаходзіць у сабе сілы для свабоднага жыцця, незалежных думак.

Сітуацыі — не галоўнае. Галоўнае — душэўны змест сітуацый. Здаралася, я адступаў і пагаджаўся з нязгодай у душы, адчуваючы ўнутранае супраціўленне.

*13.IV.*

Назіранні над тварамі.

Абаяльная дзяўчына з вялікімі сінімі вачыма паварочваецца ў профіль, і твар раптоўна робіцца адштурхоўваюча вялым і тупым.

Воддаль — чалавек бывалы, са спакойным і роўным выразам твару, прамымі брывамі, ледзь пазначанымі жалвакамі, ды яшчэ ў скураной куртцы — такія заўжды ведаюць, як трымацца ў любой, нават непрадбачанай сітуацыі — раптам, падышоўшы бліжэй, — выяўляе рысы аморфнага, хлапечага, бесхарактарнага твару.

Вяртаюся ўвесь час да сябе — чалавека, які едзе са зняволення (бальніцы), думае, што колькі мінут гаворкі з маладой і прыгожай дзяўчынай — шчасце, што пах свежага хлеба — шчасце, што шчасце — несці кветкі дзяўчыне, ведаючы, што гэтыя кветкі яна возьме радасна і пяшчотна. Магчымасць даваць другім радасць — шчасце.

Як цяжка пісаць пра тыя пачуцці і думкі, што ты ўжо некалі памацаў прыблізнымі і выпадковымі словамі.

Як сужываецца з узростам і вопытам сфера магчымых кантактаў з якойсьці часткай свету — раней так лёгка і бесклапотна было ўваходзіць у любыя знаёмствы.

Купка дзяўчынак з музычнай школы. У адной — гэтак рана падкрэсленая прыгажосць (двайная прыгажосць — узросту і будучыні), такая арганізаванасць

адзення: сіняя сукенка, чырвоная шапачка і ўсё іншае — так ідзе гэта пад ружовыя яе шчочкі, сінія вочкі, алыя губкі. А ўсё «афармленне» — шыкоўная папка, узорны кашалёк, столькі інтуітыўнай — яшчэ ж, вядома, зусім-зусім несвядомай какетлівасці. А побач жа з прыгажуняй едзе шэранькая дзяўчынка, якой будучыня — ужо не туды.

Супярэчнасць: прысутнасць шчасця побач і яго недаступнасць, немагчымасць. Адны нараджаюцца, каб увасабляць гэта шчасце, другія — вечна жыць з тугою і па недаступнасці яго і па несправядлівасці жыцця, лёсу.

Хараство ў «непритязательном» выглядзе: дзяўчынка з дробным, але жывым тварам, белая простая блузка, сіняя кофтачка з камсамольскім значком, жывыя вочкі, але такія рухавыя, што, здаецца, з імі хадуном ходзяць і шчочкі, і падбароддзе, і броўкі. Востры носік, вострыя губкі.

Поза: думае чалавек аб сваім, але не забываючыся паглядзець, як ён выглядае.

*20.IV.*

Калі б запісаць усё жыццё, усе пачуцці і думкі — стала б мне страшна ад нікчэмнасці большай часткі, ад драбнаты, мітусні і т. д. «Морда, як мундзір» (гэта нехта трапна пра суседа?).

Маці расказвае К. нешта смешнае, але чыста бытавое. Той спачатку абдумвае, перш чым засмяяцца, як трэба рэагаваць з вышыні свайго старшынёўскага становішча.

Ідзе п'яны дзядзька ў шэрым капелюшы, пахістваючыся; моршчацца зялёныя калашыны; не разбярэш — прывалоквае нагу ад чаго ці толькі гарэлка. Мае нейкі маршрут, і гэта, мабыць, адзінае, што зараз разумее і ведае яго п'яная істота...

Бесклапотнасць танцаў, пацалункаў, вечаровых гулянак і ўсё такое ўжо належыць іншым...

Электрык з Сенніцы мне: «Муж сястры, панімаеш, шышка — літсатруднік у райгазеце».

*9.V.*

Е. Астахов:

...А ты, коль пулями не сбит,
Ты, мне когда-то руку жавший,
Ты всем скажи, что я убит,
Что я не без вести пропавший.

Скажи, что мы убиты все.
Плечом к плечу на дне лощины
Собой закрыли Туапсе
Двадцатилетние мужчины.

*30.V.*

Маю — канец. У маіх бязлюдных днях сёння — густа. Гаворка з найразумнымі і найсумленнымі людзьмі — Брылём і Панчанкам. Панчанка, калі гаворыць, — з табой і душою. Мучыліся, вынуджваючы «Мерапрыемствы...».

*3.VI.*

Ішоў пасля работы, дзень цёплы, сонечны. Гул, рух, адцяплелая свежасць колераў, гукаў, жыцця. Я нёс у сабе багатае ўражанне ад гэтага разгулу, разнастайнасці, разнаквецця. І нанізваў усё зусім не на сум, як звычайна, не на тугу, а на ўсмешку. І не пры цяжкой быў і стомленай галаве, а здаецца нішто сабе.

Дзень быў спакойны і лёгкі. Крыху патрывожыла яго нейкая... Яна пакульгваючы хадзіла, пазірала на мяне, але — пэўне — і міма. Ёй недзе круціць галаву каханне, яна вышуквала вакол сваю лодку, а я пад той час быў толькі шчэпкай.

Мне работа знесла гэту маркоту. Дамашэвіч і Шкраба рэгулярна напамінаюць, што трэба пісаць пра Куляшова.

Як толькі паяўляюся ў Прылуках на якой пляцоўцы, усе дзеці чапляюцца на мяне і шалеюць ад радасці. Я і не чакаў такога поспеху. Вельмі цешаць іх «вершыкі», прыкладам, «Сядзіць Галя на траве, скубе смецце ў галаве»...

Думка: а ісці трэба толькі цяжкім шляхам; асцерагацца спроб і жадання палёгкі. Болей бываць з самім сабою, але адпраўная да сябе справа.

Справа не ў тым, абганяюць ці адстаю; пра ўсё думаць, не спыняць работы; судакранацца з усім няспынна і настойліва, не замыкацца, бо — гэта будзе толькі падкормліваць самалюбства. Думкі трэба далучаць да дзеяння. Тут, як і ва ўсім, кепска без прапорцыі, трэба жыць заняткам, але мець час, каб думаць...

*6.VI.*

Інтэрв'ю з Панчанкам зрабіў, здаецца, кепска.

Учора ў сталоўцы іняза ў чарзе гаварыў з дзяўчын-

кай. Мая па знешнасці, па голасу, па характару, па жывінцы. Дробязі: час, абставіны, нерашучасць — зрабілі недасягальнай. А такіх сустрэч і не было, бадай, у мяне.

Гаворка ў «ЛіМе» (Адамовіч, Кіслік, Гіль, Яфімаў) пра надпісы на магілах. Бярозкін успомніў: у Берліне на сабачых могілках — «Ты всегда, Джек, на полшага впереди своего хозяина».

У бібліятэцы ад кароткіх дзявочых сукенак — страхоцце: сядзяць да пояса амаль голыя.

Маякоўскі: «поэзия — каждый день по-новому любимое слово».

Бялінскі: «Произвол не производит ничего великого».

Л. Леонов («Лит. газ.»., 9—67):

«Литература есть такая важная сторона народной жизни, что небрежно обращаясь с ней, можно свести народ на несколько биологических ступенек ниже».

Вітка: і старыя, і маладыя, мы будзем шукаць марна, бо нічога не знойдзем у тэарэтычным космасе, дзе няма нават адзнак самой літаратурнай атмасферы.

Капыловіч пасля планёркі (рэдактар некуды меўся ехаць). Было жаданне пагаварыць, нават, здаецца, ўзаемнае. Не пагаварылі — паелі. Можа, няма ў нас сумежнасці для размовы. Ці яшчэ што?

У лесе немагчыма разглядаць асобныя дрэвы. Можа, толькі тыя, што каля твайго дому — душы тваёй.

А. Твардовский. «Памяти Гагарина»:

Ах, этот день двенадцатый апреля,
Как он пронесся по людским сердцам.
Казалось, мир невольно стал добрее,
Своей победой потрясенный сам...

И неизменен жребий величавый,
На нем горит печать грядущих дней.
Что может смерть с такой поделать славой?
Такая даже неподсудна ей.

*8.VI.*

Праўда заўсёды высакародная. «Голой правды сила» — Кантемир.

«Долг поэта в мир правду вещать» — Державин.

Я. Купала:

Не пагасіць вам праўды яснай,
Жыў беларус і будзе жыць.

Учора былі (Толя Кудравец з дачкой, Мікола Гіль) у кіно, «Лясная сімфонія». Лента пра жыццё звяроў. Сімфонія хараства і жорсткасці. Ліса выпалёўвае качанят, рысь палюе на аленя, ваўкі загналі аленя. Думаў, што Толева Верка надрыжыцца. А ёй проста былі цікавыя звяры.

*25.VI.*

Мне 29. Ці было дзяцінства? Не стала і юнацтва. І ўсё скончана, а нібы толькі пачынаецца.

У дні нараджэння — толькі мама...

*1.VII.*

Цяжка бачыць, як мама шые, мые, корміць, ездзіць і паспявае хлапатаць за Ц., К., Б., наведваць Р., у нейкіх клопатах і перапісках трымаецца за сотню людзей...

Цярпенне мамы: зрабіла сняданне мне. Потым В., яшчэ падыдзе — Я.

Памылка імкнуцца як хутчэй сцвердзіць свае погляды. Трэба даваць людзям пагаварыць, раскрыцца. Пабольш слухаць. Колькі разоў ты пачынаў лічыць сябе вышэйшым за некага — столькі ты быў ніжэйшы.

Не раз хочацца сказаць: жыццё, прынось мне столькі радасці і шчасця, колькі кнігі.

*6.VII.*

Субота. Пякельная гарачыня. Прыехаў Толя Кудравец і прывёз нейкі сэнс дню. Мы нешта вымяркоўваем на абед, гуляем у футбол, ходзім за аернымі шышкамі. Лета, лета, лета. Цвіце бульба. Сабрана сена. Канчаецца клубніка. Пачаліся парэчкі.

*9.VII.*

Паветра вые, і шкло аж стогне ад напінання. Расшчапілася яблынька.

Калі запісваць жыццё, дык трэба было б занатоўваць і тое, што паўгода ўжо жыве з перасаджаным сэрцам Блайберг, што робіцца ў В'етнаме, Кітаі і т. д.

Дзённік — не газета.

Р. Гамзатов:

Ценить не научились мы поныне
Высоких слов и запросто порой,
Что произносят тихо на вершине,
Выкрикиваем громко под горой.

*11.VII.*

Адкінуўся яшчэ адзін тэрмін на Куляшова. Але спяшацца не трэба.

Брыль: «Пражыта, здаецца, мала, а ўжо так прыемна бывае вяртацца ў думках да вытокаў нялёгка заробленай сталасці».

Размова Бярозкіна з N пра яго вершы: «Не разварочваецца ў маім сэрцы, напружанне без прычыны, канфлікт без зерня. Мне шкада і Вашага ўмельства і мовы... Гэта нарадзілася не ў Вашых кантактах з жыццём, а ў горных высях».

*29.VIII*

Сёння па пасяджэнні Прэзідыума прынімаюць у Саюз Кудраўца. Ездзілі з В. да М. І. Хадановіч. Там начавалі. Шмат гаварылі пра чэхаславацкія падзеі, узаемаадносіны літаратараў. Не спалася да 5 гадзін. Убачыў досвітак. Напачатку — залкавата, потым — сонца, цяпло.

*9.IX.*

Сёння ў аддзеле Вялюгін, Гілевіч. Чыталі пароды Юрчанкі (ёсць удалыя, хоць і гоніць часам жывасілам).

Вялюгін расказваў, як Бялевіч прыставаў у рэстаране, ці добры артыкул. Яму: тут і тут слаба.

— Дык вы супраць лініі ЦК!.. (На ўвесь голас.)

Сталі людзі паварочвацца, дык сабутыльнікі ўсе наўцёкі.

Вялюгін — носьбіт процьмы гісторый, анекдатычных выпадкаў, жартаў, эпіграм, але — крыху ці многа — дапрыдумана, што немагчыма не заўважыць.

Бярозкін сказаў, што шмат анекдотаў і жартаў складалі пад час дэманстрацый, чакаючы сваёй чаргі ў тупічках (ён, Самуйлёнак). З гэтага, маўляў, вырасла «Хто смяецца апошнім»: гісторыя з косткай, іншыя сітуацыі.

Шмат гуляю з дзецьмі. Каля дома навыперадкі імчаць да мяне дзяўчынкі, на радыёцэнтры сябрую з усімі хлапчукамі (Малаткоў, Таркоўскі, Чашчыхін). Ужо не купаюся.

Тыпаж: Ф-ў. Яго п'яныя купанні (потым, апавязаўшыся рубахай, галяком, хістаючыся, брыдзе дахаты і на ўсё горла: «Вижу чудное приволье»...), прычэпкі да прахожых.

С. Цвейг — тонкі псіхалагічны малюнак і востры драматычны сюжэт; якая-небудзь таямніца людскога сэрца, той вырашальны момант, калі схаваная ў сэрцы страсць шалёным патокам вырываецца наверх і калечыць чалавечае жыццё. Страсць усеўладная, мацнейшая за чалавека, але і сіла яе — руйнуе, падмінае людскую долю, ніколі не даючы шчасця. Людзі самотныя, няшчасныя, скалечаныя грамадствам.

*18.IX.*

Роўная, пажаўцелая і пазмрачнелая восень. Суха, пыл вісіць туманамі. Калі і хаджу, то душа ўсё роўна мала бывае сам-насам з прыродай. Не адкрыў сабе нічога, нічым не ўзрадаваны. Халоднай штампоўкай выстукваю нейкія водгукі на Чыгрынава...

Учора былі ў Лецкаўшчыне (мама хадзіла да сваіх студэнтаў). Тры дзесяткі мілых, простых і шчырых дзяўчынак, якіх я раптам засаромеўся. Хлопцы — трэба ж — прасілі настаўніцу О. Ф. дастаць ім самагонкі.

А. Пысін:

Час адлічваюць новыя дрэвы,
Што ў сярэдзіне веку ўзышлі.
У часіну душэўнай патрэбы
Ўспамінаем мы тых, хто ў зямлі.

Пад карэннямі, пад малачаем
Ёсць у кожнага хтось дарагі.
«Ушануем мінутай маўчання...»
Мы маўчым, як маўчаць берагі.

Два светы ў памяці і зроку,
Мяжою — вастрыё ляза.
Ды я скажу святлу і змроку:
Дабра больш сеецца, чым зла.

Не кожны сейбіт. Суцяшэнне
Магчыма знойдзецца і ў тым,
Што сціпла ты паднёс насенне,
Згінаўся ў клопаце адным.

*20.IX.*

«ИЛ», № 9—68: «В середине 30-х гг. именно Брехт написал полные горьких сомнений стихи, посвященные незаконному аресту и гибели своего друга сов. писателя Третьякова. Стихотворение кончалось вопросом: «А что, если он невиновен?»

*22.IX.*

Сёння прыязджаў Толя Кудравец. Мяне не застаў і пакінуў сваю кніжку з добрым сяброўскім надпісам. Мілы, чэсны, шчыры і сумленны Толя.

*1.X.*

Здаў нарэшце рэцэнзію на Куляшова. Мама сцвярджае, што добра, а мне нешта боязна, сорамна. Ніякавата перапрошваўся ў Шкрабы...

«Звязда» перадрукавала рэцэнзію N на Быкава, хаця N толькі што зняты за крадзеж ганарараў. А NN праядаў нават замежную валюту, у выдавецтве махлявалі на аплаце... Абышлося вымовамі, папярэджаннямі...

*5.X.*

Чытаю перапіску Шоу з Кемпбел. Як Шоу піша пра смерць і крэмацыю сваёй маці: драматург, а не сын. Як выказвае спачуванне, калі ў яе загінуў сын.

Перапіскі людзей, як і ўсё жыццё, цікавей і складаней за самыя выдатныя раманы.

*17.X.*

Гутарка Бярозкіна з N.

З жыцця робіце карціну (Урубеля). Гэта сама мова зарыфмавала: насенне-сумненне. «Як кветка з дрэнным пахам» — вам не падабаецца дзяўчына, пакіньце яе ў спакоі. Нашто вам капацца ў чужой душы.

Кожны наш капрыз, кожную... на п'едэстал. «Прыгожая, гарманічная, як статуя» — але статуя холад. Што вы нашы недахопы прыпісваеце боскаму свету? «Мароз-распуснік...» І — усе штампы грамадзянскай лірыкі. Усё трэба зрабіць да верша і пісаць потым у нейчай чалавечай норме...»

Мітусня з кааператывам. Мана Клаза. Нарэшце — развязка.

Запіс, пісьмо, нататка — усё патрабуе падрыхтоўкі і засяроджанасці.

*2.XI.*

Юбілеі, святы, урачыстасці... Ці грэюць яны хоць каго. Калі б грэлі!

А ўвогуле — у жыцці маім мала грамадскага сюжэту (ну, К., ну, пэўнае апірышча на праўду — але не было вялікай рызыкі). Чаму? Разлік? Асцярожнасць?..

Вельмі страшнае: калі нашы пачуцці разыходзяцца з «лініяй», то не хочуць верыць нашым пачуццям, нават апаганьваюць іх.

Кітайскія балбатушкі: «разгромим решительно, окончательно, начисто и полностью».

Кіно наша слабое і нашмат слабей літаратуры. Столькі бачыў нашых хвалёных фільмаў, а ўсяго толькі і засталося — «Летят журавли», «Баллада о солдате». Можа, яшчэ што.

*15.XI.*

Дурнотны, цяжкі дзень. Доўгая, заядлая гаворка з Н. І. Шэўчыкам, які ўпарта даводзіць, што «Тартак» — жахлівая моўная з'ява. Прытым — праваты ў яго няма, здаецца, ні ў адным нюансе спрэчкі.

*16.XI.*

Дзень без справы. Субота, нудота. А на вуліцы — добра марозна, свежа. Калі не мне, то многім дае бадзёрасць і сілу гэта роўнае сонечнае свячэнне, ціхі настой марозу, цвёрды наст і гулкі лёд, рассыпаныя дымы і лёгкае, тугое паветра, адгалоскі свабоднага і чыстага, бесклапотнага жыцця — вераб'і і дзеці.

Ш. гэтымі днямі расказваў мне пра адзін свой сон напярэдадні арышту: прыляцела восем птушак — не птушак, птушыных шкілетаў. (8 гадоў.)

*17.XI.*

Сёння з мамай — у бабкі Пад'ельскай. Трапілі на гарэлку (сышліся бабульчыны дочкі). Адна — белатварая, рухавая, паўнаватая, мажная; мужа няма, сын памёр. Яе вострая і спрытная гамана. Мама злавіла кірунак яе клопатаў, і пілі за тое, каб «нікому бяды не прынесці, але і ад свайго шчасця не адмовіцца». Гаварылі пра п'яніц.

Маці В. таксама хітраватая, але ўжо зусім па-свойму. Манера — чарка пасля ўсіх.

Яшчэ жанчына — «мне водка на карысць, але па глыточак, дробненька; есці не магу, але п'ю».

Мама мусіла з імі піць разы чатыры, памалу змяншаючы дозу.

*31.XI.*

Пленум Саюза 30—31. Даклад Брыля, які надоўга запомніцца. Палёт касманаўта Берагавога Георгія Цімафеевіча. Куляшову і Танку — народнага паэта.

Л. Царанкоў. «Слова міма не ляціць» («Полымя», 10, 1968).

Мароз сем баб вёз, на восьмай сам ехаў.

На свой хвост не брашы. Не з тваімі лыткамі ў крапіву лезці. Неспадзеўкі дзіця ў дзеўкі. Пагрэўся, як у крапіве. Памяняў плеш на лысіну. П'яны і слуп будзе цалаваць. Сабакам ён быў заўсёды, але забрахаў толькі цяпер. Сіраце і ў раю самотна. Чакай зімою зязюлю. Чужая жонка мёдам мазаная, а свая — смалой.

З кнігі Дамашэвіча «Абуджэнне».

Зацягнулася бросняю (дзірка ў бярозе); мінулае прасілася на язык; усе вы халасцякі каля чужой спадніцы; прасунешся па жыцці, праміне шмат добрага; дарогі назад жыццё яшчэ не прыдумала.

Янкоўскі. «Роднае слова».

Званіць языком; язык па-за вушшу ходзіць; ездзіць бачком: чортам падшыты; розум прыходзе па шкодзе; адносячы пірагі...

Раман Сабаленка.

Не адзержаліся там; мянушка прыкіпела; устабурчаны казырок; ашчаперыла; мацунак; паглядны хлопец; запраторылі; чырвоны, як альховы карэц; перадасенняя суцішнасць, ушыўся ў гурт, у вачах — слупы; гаварылі пошапкам; ніякай правінкі няма...

*8.XII.*

У саюзе вечар Віткі, Загнетавай. Як Данута чытала, якое было сцішанае, ласкавае, шчырае пачуццё, як слухала, прымала зала. Потым яна сядзела, нешта перагаворвалася, некуды ўзіралася, а ўся сутнасць, увесь сэнс вечара былі, здаецца, у ёй.

*21.XII.*

Субота. Масква.

Пас. Дзяржынскае каля Люберцаў, дзе былі і хлеб-соль, і прывітанні, і плакат, і некалькі мілых, шчырых, прыгожых людзей.

Дзяўчынка, што давала хлеб-соль — прыгажуня, уся абаяльнасць, свежасць і прастата яе ўжо не згубяцца ў

памяці. Захацела б — забрала б усяго адразу. Але і хлопец, што быў з ёю, — таксама рэдкі па роўнай і чыстай ветлівасці, нейкім унутраным высакародстве. Тры мінуты з ім былі вартыя доўгага знаёмства.

Касмічны карабель «Апалон-8» пераведзены на траекторыю месяца.

*25.XII.*

А. Вярцінскі. «Савецкая ўлада». Трыпціх:

...Вы знайце: могуць трапіць у Савет
свае тыранчыкі,
макіявельчыкі свае
і талейранчыкі.
І будуць, як заўсёды, як калісь, —
што ім Саветы! —
пра сілу сваю думаць, пра карысць,
пра свае мэты.

---

Савецкая — ад слова Савет.
Ад слоў —
парада, нарада, рада.
«З кожным раіцца як след!» —
такі быў ленінскі запавет.
Ты помніш яго, Савецкая ўлада?

---

З тымі, хто да сутнасці дабіраецца,
Асабліва трэба раіцца.

Вера Полторан. «Моя застольная» («Правда», 27 дек. 68 г.):

«Я смотрю на них всех — и народных певцов, и народных артистов, — и мне начинает казаться, будто здесь обнажился в разрезе лучший слой сегодняшней белорусской культуры: вот — исток, вот — вершина, и между ними — кровная связь.

Подает свой голос известная белорусская веселуха и печальница — дудка. И звук ее, и напев — как дыхание времени: в них собрано в одно великое средоточие то, что было, есть и будет, что жило и будет жить в памяти, в душе, жечь в крови людей, вскормленных родимой землей белорусской.

Касары кося-аць,
Вецер павява-ае...
Шаўкова трава-а
На косу наляга-ае.

...И вот уже нет ни шумного зала, залитого ярким светом, ни высоких стен с зеркалами, — перед глазами мир, где текут такие реки, шепчутся с ветром могучие пущи, где люди сеют хлеб и песни и где черпает красоту и мудрость душа, взмывая в небо вдохновения...»

**Дануце Б.-З.** Пішу, бо не напісаць не магу. Хочацца неяк сказаць Вам, што даўно захоплены Вамі, Вашай шчырай і чыстай паэзіяй. Не адважваўся пераводзіць гэта захапленне ў словы, ды ўсяго, чым поўніцца душа, ні ў якія пісьмы не ўвесці.

Адзін за адным прапускаў повады, калі, здавалася, «можна» было напісаць.

Вашы вершы жылі і разгортваліся ў душы і давалі радасць. Нарэшце гэта перамагло няёмкасць і сорам. Яшчэ і старагрэчаскія словы: наверно, твое чувство дурно, если ты боишься сказать о нем.

Вечар, калі ўпершыню слухаў Вас (гаварыць пра гэты вечар не стану, бо ён — цэлая асобная кніга ў душы), Ваша чыстае святло і абаяльная жаноцкасць.

Люблю і шаную Вашы вершы. Сярод многіх кніг, у якіх загнездавалася надоўга і надзейна мая душа, Вашы кнігі мне па-асабліваму дарагія — сваёй крынічнасцю і няшумнай гаворкай-гаманою пра тое, без чаго душа не бывае душою.

Не стану гаварыць, якою душэўнай роднасцю шчымяць і трывожаць тыя вершы, дзе Вашы словы маюць як адзін адрас: «А ты ўсё думаеш, што я такая ж, што я вясновая твая дзяўчынка». Каб мог, я не дазволіў бы нашай натужнай крытыцы з яе сілагізмамі-прапісамі і блізка падыходзіць да такіх вершаў.

Калі шукаю ўзлёту і бадзёрасці, радасна бывае прачытаць Вашы вершы. Яны заўсёды даюць душы нейкі асаблівы стан мяккасці, даверу, прыязнасці, асвятляюць шчодрым, як дзяцінства, сонцам. Колькі разоў, дзякуючы Вам, пабыў я сёлета, пасля ўсялякай мітусні і тлуму, у роднай хаце, прычасціўся да блізкага і дарагога спеву і простага вясковага шчасця — з птушкамі, кветкамі, дрэвамі, матчынай ласкай і дзявочай усмешкай. Так лёгка і прыемна дыхаецца ў воблаку не засмечанай мітуснёй і банальнасцю Вашай душэўнасці.

Верыш у аўтара, як у чалавека, якому і па-за вершамі блізкае тваё чытацкае хваляванне.

Дзякуй Вам, што ўсё наша роднае ўзята Вамі ў душу

і асвечана ёю. Ад Вашых вершаў неаднойчы поўнішся шчасцем, што ёсць яшчэ тут, каля нас, з намі і ў нас — буслянкі, росныя сцежкі, баравыя сасонкі, веснавая рунь, сцябліны на градах і чыстая беларуская мова, з якою вырастаюць і жывуць такія прыгожыя людзі.

Разумею, што любыя мае словы будуць далёкія ад чысціні і святасці Вашай паэзіі. Мне заўсёды чуцен Ваш голас, запаветна-блізкі, як пошум дрэўца, што калісь расло ля акна.

Каму дудка паслушна,
Ды іграе спеўна,
То й душа дабрадушна
І шчырая, пэўна...

Каханне, лёс, родная зямля з яе мацярынскімі і дочцынымі пачуццямі, пошук і адкрыццё душэўнай гармоніі — гэты Ваш свет шчодра дадае мне свайго багацця.

Дзякуй і дзякуй.

Хай чытачы ніколі не перагортваюць Вашы кнігі няўважліва і абыякава.

*29.XII.*

50-годдзе БССР і КПБ.

Учора сумеснае пасяджэнне Вярх. Савета і ЦК у Палацы спорту. Уступнае слова Машэрава — па-беларуску, а потым — усё па-руску. Шэлег сказаў па-беларуску адну фразу.

Для адных вера ў Бога — прывычка, для другіх — унутранае апірышча.

# 1969



*4.1.*

Янка Брыль. «Пра здзіўленне і зайздрасць». «ЛіМ», 3 студз. 69 г. (Пра Кудраўца).

Добра ўваходзіць у бачанне свету, у мову, у душу сваіх герояў. Вельмі нядрэнна праверыў чыстым вокам, чыстай душой свайго хлапчука паводзіны чалавека дарослага, шырэй — праверыў складанасць жыцця, не сарваўшыся ні на момант, ні на драбніцу ў фальш.

У Панчанкі:

«А на якой рацэ плыве к нам столькі пошасці? Як мельнік у муцэ свет у хлусні і пошласці».

Мне сорамна народ агітаваць,
Каб людзі больш і больш штодня рабілі,
Мясілі гліну, валуны драбілі:
Ён ведае і сам, як працаваць.

Ідэал паэта — гэта ўжо рэалізаваная ў вершы рэчаіснасць, зямное жыццё.

Хтосьці сказаў, што ссеклі дрэўца і прыгажосці меней стала на зямлі.

*12.1.*

Учора, субота. Прыгожы, светлы, сонечны дзень — рэдкі, бо было лёгка, бо бачыў лес, поле і сонца так, што на іх прыкладваліся іншыя думкі, пачуцці і была надзея, што расхінецца калі-небудзь імгла.

Няразвітасць маіх уяўленняў: мне заўсёды апошнія гады бачыцца толькі адно: іду з натугай па раўніне, и здаецца, што асільваю круты і не па сілах пад'ём.

*15.1.*

Інтэрв'ю з Глебкам (пра шматтомнае выданне беларускага фальклору).

Учора запушчаны касманаўт, сёння — яшчэ трое.

Свет сапраўдны і харошы існуе паўсюдна і мнагаліка, але ж адкрываецца мне толькі скупою і адваротнаю радасцю — недастачай хараства, прагай, крыўдай за несправядлівасць боскую да лепшых і свяцейшых людзей. І яшчэ — кнігамі.

Хачу чытаць і ведаць Пысіна. Пакуль што ёсць толькі настроі і ўражанні, што мучаць нявыказнасцю, неарганізаванасцю.

*16.I.*

Чыстая, простая, строгая чэснасць Быкава. У «НМ» ідзе яго аповесць «Круглянскі мост». Рэдагаваў сам Твардоўскі.

*26.I.*

Было столькі незапісаных дзён. У іх — перагаворы на пераход у «Неман».

*17.II.*

«ЛіМ» — у сваіх буднях, ад якіх я ўбаку.

Дастаеўскі пісаў, здаецца, так: «Чалавек найбольш жыве іменна ў той час, калі чаго-небудзь шукае і дабіваецца».

Сёння гадзіну чакаў Рыту Марозаву, каб наведаць Свету. Стукаў зубамі, лічыў тралейбусы, пераглядваўся з красунямі. Не жыў.

Зараз Купалаўка. Не працуецца, я ўзвінчаны вуліцай, прыгажосцю, уласнай бесталеннасцю, яшчэ абвеяны гадзінай мярзляцтва і холаду, зануджаны адзінотай.

Успомніў зараз К. — гэта было як дзяцінства, ды я зрэшты і адчуваў сябе дзіцёнкам між «даросласці» вучоных мужоў, большасць якіх — я пазней пераконваўся — мела самавітасці нашмат больш, чым розуму.

Сёння жыць, ісці ўперад — пісаць пра Пысіна. Кожны раз пачынаю як наноў. У мяне ёсць душа, якая адгукаецца на кожны такт прыгажосці і праўды, але няма, здаецца, дастатковых унутраных багаццяў і ведаў для шырокай, гнуткай і рознабаковай канцэпцыі...

Як важна быць усюды як свой, але істотна ведаць вострае ўспрыняцце нязвычнасці.

Бярозкін усміхаецца, ставіцца да мяне добра. Я, здаецца, выразней адчуваю набліжанасць яго чалавечнасці.

*21.11.*

Бярозкін парадзіраваў Г.: «Дзед Даніла жыў на ўскраіне вёскі. Жыў заможна, як усе. Калі прыйшла фашысцкая навала, ён узняўся на ворага як адзін! Выбраўшы зручны момант, ён спляжыў у лазні шайкай немца з малой, як у вужакі, галавой, запёр дзверы калком і ўцёк у лес да партызан».

А. Эйнштэйн. «Физика и реальность». Сб. статей. «Наука», 1965:

«Радостное и вдохновляющее чувство испытываешь, видя проблему изложенной кратко и живо во всем ее разнообразии и во всех связях».

О. Кюри: «Моральные качества выдающейся личности имеют, возможно, большее значение для данного поколения и всего хода истории, чем чисто интеллектуальные достижения. Последние зависят от величия характера в значительно большей степени, чем это обычно принято считать».

Перамена ў лімаўскім тонусе — мне стала псіхалагічна нашмат лягчэй рабіць, чым да заявы, і, адчуваю, ужо і было б — у сэнсе скаванасці — лягчэй заўсёды.

Перавесці сябе на мэтаскіраваную, паслядоўную і прадуманую працу — ...

Хемінгуэй у «Непераможаным» піша, што матадор (Мануэль) думаў спецыяльнымі тэрмінамі. Калі ж, здаралася, той не мог знайсці адпаведнага слова, думка абрывалася.

Як Бяр-н гэтымі днямі гаварыў з С. З. «Нельга доўга трымаць рукі над агнём — або агонь бенгальскі, або рукі гумовыя».

А. Кучар умешваўся ў «покровительственно-поучающей и приятельской» манеры.

М. Светлов: «Прежде всего лирика не может и не должна быть благополучной. Ты любишь ее, она любит тебя? Ну и целуйтесь на здоровье. При чем здесь читатель?..»

Поэт не может пробавляться пустяками, не имеет права терять критерий ценности сущего.

*28.11.*

Пысін — сённяшняя і заўтрашняя радасць.

*2.III.*

Вось і сакавік. Сёння раніца апушыла зляжалы наст новым снегам, які стаў радасцю для лыжнікаў.

Былі К. Мама папракала мяне, што я не ўгаворваў іх астацца. Я ж непрыгожа агрызаўся, і ўвогуле я часта пераводжу ганебна сваю зласлівасць на маму. Вядома ж, даючы гэтай зласлівасці чэпкую аргументацыю, што — яшчэ большая крывадушнасць.

Я пачынаю ўсё болей і болей схіляцца да думкі, што жыццё — любое, нават самае пакутлівае — шчасце. Уся каштоўнасць жыцця толькі тады і мае меру, калі зведаны трывогі, сумненні, пакуты.

Шчасце — жыць сумленна і без зайздрасці.

*3.III.*

Эйнштэйн — з выгляду просты, добры, крыху дзівакаваты стары. Без пробліску геніяльнасці. Але глянеш на некалькі фатаграфій — усюды ёсць нейкая рознасць, што падказвае невычэрпнасць яго ўнутранай сутнасці.

*5.III.*

Сёння ў рэдактара — ініцыятыўная група дыскусіі па апавяданні. Брыль, Мележ, Яскевіч, Хадкевіч — цікава кожная пазіцыя. N., як адчуваючы, што і яго зачэпяць: цяпер не тая сацыяльнасць, у Тургенева ўсюды каханне, сёння мы лепш апранаемся і ядзім. Потым: каб хоць адно бытавое апавяданне, як «Пяць лыжак заціркі». Рэд: «Дык мы ж цяпер кілбасу ядзім».

*14.III.*

Пачынаць жыць трэба раніцою. Тады ёсць нейкае адчуванне з'яднанасці з агульным гулам. Так жа — асобнае церабленне ўбаку. Страшна быць старым, адзінокім, непатрэбным, адсталым.

Яшчэ недарэчнасць: у мяне жыццё — ланцуг рэцэнзій, скляпаных высільваннем.

Зайздрошчу сужыццю зведзеных каханнем і згодай людзей і праз зайздрасць сам на гэта галодны яшчэ болей.

Асэнсоўваць, улоўліваць грамадскае жыццё зусім не навучыўся — ні ў палітычных формулах, ні ў чалавечай свядомасці.

Учора Вінька сустрэў мяне каля аўтобуса без шапкі (растапыраны чубчык). Шчымела душа — ён здаваўся мне навылёт развеяным ветрам.

Двайное адчуванне: быццам заўсёды апярэджваў я свой узрост і заўсёды адставаў, што адчувалася нашмат вастрэй, асабліва сёння.

*15.III.*

Бяр-н пра Няхая: прачнецца ноччу і — «Як добра, што наш Дняпро-Славуціч цячэ на Украіну». Хваліў Пысіна (мой артыкул): «Вы выраслі вельмі, Б., і пішаце жыва».

Правда, 14 марта 69 г., Шолохов:

«Я глубочайше убежден, что подавляющее большинство сидело и сидит напрасно, они — не враги».

«На Сталина обижаюсь. Как он мог такое допустить?!.. (...) Он, безусловно, крупнейшая после Ленина личность в нашей партии, и он же нанес этой партии такой тяжкий урон. Я пытаюсь объективно разобраться в нем и чувствую, что не могу. Мешает одно, мы с ним не на равных условиях...»

*12 марта:*

«— А я так своим простым умом прикидываю: у товарища Сталина помаленьку глаза начинают открываться.

— Ну, знаешь ли... Что же он с закрытыми глазами страной правит?

— Похоже на то. Не все время, а с тридцать седьмого года».

*17.III.*

Бярозкін — Г. (цясляр з Нясвіжа). «Жывяце на двух паверхах адразу. Такая святочнасць, урачыстасць, хоць сцягі вывешвай».

*7.IV.*

А. Твардовский:

К обидам горьким собственной персоны
Не призывать участье добрых душ.
Жить, как живешь, своей страдой бессонной —
Взялся за гуж — не говори: не дюж.

С тропы своей ни в чем не соступая,
Не отступая — быть самим собой.

Так со своей управиться судьбой,
Чтоб в ней себя нашла судьба любая
И чью-то душу отпустила боль.

Усе раслі і рана, як вясновае смецце. Жаданне жыць працуючы і працаваць не робячы. Душна і млосна, а жыццё без добрых, разумных рэчаў.

Адчуванне такое, быццам ідзеш недзе па ваколіцы, блукаеш, праходзіш зноў жа каля тых самых мясцін, не дасягаючы сутнасці.

Учора капалі з Ражанскім хрэн на падгайскіх горках і пачыналі новую вясну.

Цеплыня правейвае ўсяго і трывожыць чароўнай і да шаленства недаступнай прыгажосцю.

Адчуць, пражыць усёй істотай нейкі перапад вышынь — тады можна выйсці да новых думак.

*15.IV.*

Апошнія дні ў «ЛіМе». Сёння — усё.

*17.IV.*

Усё-такі, што «Неман» — добра. Варта паспрабаваць прайсці яшчэ адну жыццёвую мерку.

В. Маяковский:

...Устаешь
отбиваться и отгрызаться.
Многие
без вас
отбились от рук.
Очень
много
разных мерзавцев
ходят
по нашей земле
и вокруг.

«Нету им ни числа, ни клички, целая лента типов тянется. Кулаки и волокитчики, подхалимы, сектанты и пьяницы, — ходят, гордо выпятив груди, в ручках сплошь и в значках нагрудных... Мы их всех, конечно, скрутим, но всех скрутить ужасно трудно».

*28.IV.*

Слаўная Жэня! З вясной цябе, з Першамаем! Хай табе шчодра свеціць сонца, хай лёгка дыхаецца, вольна ляціцца. Хай не бывае табе трывожна ад чужасці і

адзіноты, хай кожны твой чытач будзе ён — адзіны, галоўны, дзеля каго варта цярпець любыя пакуты, шукаць ісціну і браць у рукі пяро. А мо — каб збавіць крыху віншавальную ўрачыстасць — да толькі адной добрай усмешкі? Усміхніся. І бывай здарова.

*2.V.*

Дні з сонцам і цеплынёю, хуткім разгонам зеляніны.

Першыя аблокі зеляніны на ўзлесках, мяккая падатлівая зямля на дарозе каля Пцічы, абвейнае паветра, нарастанне суму ў веснавой радасці — вяртанне ўсіх смуткаў былых вёснаў, падсвядомая вера ў цуд і адмаўленне цуду: вось зараз з гэтага сонца і ляснога шуму, з кветак, з праменняў, лугавой свежай зеляніны выйдзе радасць інтымнасці, пяшчоты, юнацтва...

Жыццё выйшла на паветра, прастор: галасы дзяцей, птушкі і жабы, стук мяча і — больш, многа рознага, што адчуваеш; бачыш нават, што твая адзінота абложана і сціснута жывым існым светам...

Пры ўсёй палёгцы, што пакуль даў «Неман» — нейкая незадаволенасць сабой, нават сорам перад усімі — ад Пашкевіча і Бярозкіна.

Размова з Надзеяй Іванаўнай Ячэня пра буслоў. (Сёлета бусел пасядзеў, прымерыўся, але не асеў на нашай буслянцы.)

— Пра бусла, які зімаваў у чалавека, а ўвесну кінуўся ў агонь.

Б. Пастернак. «Хлеб».

Ты понял блаженство занятий,
Удачи закон и секрет.
Ты понял, что праздность — проклятье
И счастья без подвига нет.

Что ждет алтарей, откровений
Героев и богатырей
Дремучее царство растений,
Могучее царство зверей.

Что первым таким откровеньем
Остался в сцепленьи судеб
Прапращурам в дар поколеньям
Взращенный столетьями хлеб.

*8.V.*

*Пісьмо ў Прылукі:*

Што там у вас за горадам?
Вясна? Вяселле?!

Пераблытала поры года.
Я ў Асеннім.
Перапоўнены вільгаццю вочы.
Пэўна, выплеснуць хочуць
Паводкай вясенняй...
Пераблытала дні і ночы.
Я ў Асеннім.
Тут мне добра. Цяжка унікнуць
У сэнсе існавання. Адчай.
Па начах твае ананімкі
Беларускай чайкай крычаць.
Ўдаль працягнуты тонкія рукі.
Гаварыце, Прылукі!
Вам — бяссонніца. Мне — разлукі.
Гаварыце, Прылукі!
Што за горадам спее зараз?
Клопат? Натхненне?!
Пераблытала час і адрас.
Я ў Асеннім.

*9.V.*
М. Стральцоў:

...Згасаеш? Ну, згасай! Навошта варушыць
Вуголле шэрае, каб іскарку пабачыць?
Згасаеш? Ну, згасай! Хоць горка на душы,
Хоць ведаю, што ўрэшце гэта значыць.
...Не, плакаць не хачу, смяяцца не хачу,
Зацяўся і маўчу. Хай так цяжар спадае...

Свежая сонечная раніца. Светлая зеляніна. Ноччу чуў клёкат буслоў і лётаў, лётаў. Ляцеў з падгайскай гары, пералятаў рэчку. Адно толькі — зваў сведкаў і, пэўна, хваліўся. Але пад канец палёты ўжо не клеіліся.

*20.V.*
Учора ў запоўненым аўтобусе кароткае трапятанне і самая добрая, святая туга. Чаго няма, а хочацца: быць школьным выпускніком, кахаць, хадзіць саромеючыся пад чужыя позіркі... Рабіць ад душэўнай патрэбы, па неабходнасці толькі ўнутранай.

Ф. Искандер: «И еще одно я твердо понял: все потерянное можно найти — даже любовь, даже юность. И только потерянную совесть еще никто не находил».

Супражэнне свайго жыцця з кніжным. Бязмежжа няведання. Як лёгка пабочнае, выпадковае адносіць

убок. Пастаянная думка, лейтматыў: не спрабуй вяртацца ў былое, любы зварот — абавязковы смутак.

Зрэшты, смутак — мабыць — самае сапраўднае пачуццё ў літаратуры. Радасць, шчасце — рэдкасць, нават ідэал.

*14.VI.*

Не запісана і ўжо не ўспомніць, што было за гэтыя паўмесяца. Службовая ніякаватасць у «Немане»...

Апошнія дні — сонца, сонца, сонца. Гарыць спіна, плыве чырвань у галаве. Горача, аж задушна. Усё — на вуліцы. А дванаццатай гадзіне ноч яшчэ не мае поўнай перамогі перад днём: усё жыве і поўніць свет вечаровымі гукамі — птушкі, сабачы перабрэх, галасы людзей, нейкае тупаценне, ледзь чутны шэпт лісця — і шчымата ад адзіноты, і напамінкі сабе, што трэба арганізоўваць жыццё воляй і справай.

Учора доўгая размова са старой Ганчарыхай. Згадвала дзяцінства (прыбірала ў школе, слухала дзяцей. Залой (цемнатою) рабіла. Як у спёку бралі праз хустку ваду з купін, каб напіцца. Як у Сібіры абыходзілася беларускай мовай).

*20.VI.*

Зайздросна гляджу на ўзаемнае шчасце: дурнаватая (што псуе крыху яе акрасу), па ўсім відаць, дзеўчына пырхае раз за разам шчаслівым смехам, глядзіць з пяшчотай і любасцю на свайго хлапца, і туліцца, і хінецца, а ён — шэры, невыразна-бесхарактарны з твару, расказвае нейкую прасцяцкую гісторыю, і гэта гісторыя, гэта бесталач патрэбна ім для шчасця болей, чым усе «рифмованные речи», чым уся наша заядлая талкавітасць, разумнасць. Чорт што! Хоць не мець з сабою, дык хай жа даць якой дзеўчынёсе крышачку такога шчасця. Бывала? Неяк выпадкова, не стойка. Ды, мабыць, і не гэтак.

Дзень за днём — Ігар, Ігар, Ігар. Які ўяўляецца як лепшы варыянт уласнага лёсу.

*25.VI.*

Дзень майго нараджэння... 30 гадоў...

Сёння на досвітку быў спорны цёплы дождж. Раніцой — бліскучыя лужыны, дух парнай вільгаці; цемната пад гушчынёй клёнаў. Росныя закраіны сцежкі. І спа-

койна-зялёная празрыстая вада на рацэ. Я сказаў бы: хай будзе ўсё гэта — і до. Дык не: усё гэта заўсёды жыве ў нас разам з пэўным настроем. І калі гэта — не частка асабістага зместу, дык — нішто... Каб крок, паўкрока — уперад. Ні ведаў, ні думак. Мяне няма, і дзіўна, што пры маёй адсутнасці нехта, падобны нібыта на мяне, уступае ў службовыя і таварыскія зносіны з людзьмі, нешта сумна-нудна робіць, некуды пнецца.

Такія дні, як сённяшні, патрабуюць рыўка, душэўнага ўзлёту, прыўзнятасці над мітуснёю і дробязямі. Але вывады, якія можна ўзяць з жыцця, ужо зроблены.

*26—27.VI.*

...Упершыню ўбачаная бярозка на гары — на віду і — незаўважаная. І ў ёй, з ёй: настроі ўсіх Левітанаў, туга ўсіх песняў, усе мелодыі разам.

Я нарадзіўся ў сузор'і Цяльца. Калі разбіралі нейкі польскі жартоўны астралагічны каляндар, спыталіся ў рэдакцыі, калі я нарадзіўся. І не заўважылі, што дата — побач.

*10.VII.*

Як мог даць сабе права столькі часу не думаць, не пісаць, не шукаць. Знемагчыся і быць у знямозе. Сёння «Новый мир», № 4, дзе пісьмы Цвятаевай.

Паэзія — «это действие, чистота, страсть, сущность». Гэта — наогул пра паэзію. Але думаеш пра гэта, чытаючы Пысіна. Як дастасоўваецца ўсё гэта да яго?

Каролина Павлова: «О ты, чего и святотатство Коснуться в храме не могло — Моя напасть, мое богатство, Мое святое ремесло».

Ахматова: «А если я умру, то кто же Мои стихи напишет Вам?»

*14.VII.*

Ірыне Кароткай — ліст.

«Здаўся ўспамінаць свае 17 гадоў, на якіх у свой час прыкметна не затрымаўся душою. Быў тады другакурснікам, жыў драбязою і лухтою, неакрэслена чакаў нейкіх поспехаў у гадах дарослых. Але амаль несвядома пачынаў разумець, што пражытае павінна ўжо мець нейкую каштоўнасць. Завёў — запісныя, у якіх занатоўваў, канспектаваў кавалкі біяграфіі; перапісваўся з адной цудоўнай дзяўчынкай з-пад Вільнюса (яна ў мяне верыла

гадоў 4—5, пакуль час не прымусіў яе ісці замуж), любіў «Марціна Ідэна» Джэка Лондана, вучыў на памяць Ясеніна і Баратынскага і бесклапотна транжырыў час. Па сутнасці быў яшчэ натурай і поглядамі школьнік, а студэнтам стаў пазней — з 18-ці, а ў дарослацсь неахвотна зазірнуў у 21 (школа), але тады яшчэ трымаўся па-школьнаму перад людзьмі паважнымі, санавітымі, нават не даючы ацэнкі іх нікчэмнай тупасці.

...Я і тады нешта шукаў, да нечага імкнуўся, але вельмі няспешна, неабдумана, пра што шкадую зараз. Бо я зараз — як тэнар, сіл хапае толькі на абмежаваную працу.

Зрэшты, што табе да гэтага. Пад твае 17 гадоў ты жывеш, мабыць, разумней, хаця — я так думаю — любосці цябе яшчэ ой пакруцяць. Пакуль што я рады, што Ты разам з усімі скарбамі маладосці — сонцам, бесклапотнай добрай верай у будучыню — не лянуешся браць і багацце кніг, усялякай надзейнай і карыснай навукі».

*21.VIII.*

За спіною месяц адпачынку, 17 дзён — Нарач. Я згубіўся ў знаёмым нарачанскім, згубіў сябе ў душэўнай бяздзейнасці. Хацеў вызваліцца ад думак, кніг, трывог і — так і выйшла. Толькі чамусьці не стала лягчэй, а на пласты былых хваляванняў наслоілася новая туга.

...Спякотныя дні, зольны пясок, ціхае цёплае возера — пачатак. Валейбол, спартлагер, плюс дзеці... Толя Кудравец, з якім шмат хадзілі, дружылі, гаварылі. Ён — са сваёй заўсёднай роўнасцю гаворкі і справы. Можа, нават адзін другога вызвалялі ад адзіноты.

*28.VIII.*

Невыносны цяжар хатняй блытаніны, у якім умее неяк трымацца толькі мама... Так, даўно мне патрэбна кватэра.

Гэта — самая бедная мая запісная. Як быццам не жылося, ні пра што не думалася... Мімалётная думка, што туга — маё і не толькі маё галоўнае, бо без яе яшчэ нічога я не ўбачыў новага і не правёў старога, праз яе не прайшла ніводная навіна, ніводзін факт...

Ажыўлены перадвераснёўскі горад. Нейкая сытнасць і заможнасць. І адусюль — штуршкі бяды, гора, зло. Злачынствы, аварыі, катастрофы,.. непаразуменні. На-

прыклад — учора авіяцыйная аварыя: самалёт рассек агароджу, пакалечыла лётчыкаў (у момант пасадкі асляпіла маланка).

*5.IX.*

Імклівы бег жыцця. Рэцэнзія на Кісліка, стол завалены кнігамі.

Ахматава:

Одни глядятся в ласковые взоры,
Другие пьют до солнечных лучей,
А я всю ночь веду переговоры
С неукротимой совестью моей.

*23.X.*

Катушок, у які я пасяліўся на Даўгінаўскім завулку, надарае жыццём, несумяшчальным настолькі з маім здароўем, што я быў у роспачы і, не бачачы выхаду, стагнаў ажно ад пакуты. У гэтай хаціне, адчулася адразу, жыць не змагу.

Вялізны ложак, які служыць сталом. Клетка-камера. Нашу з сабой у папцы кефірную бутэльку. Звечара — духата, пад ранак холадна.

Верш Зуёнка «Соль» — гімн працы і чалавеку. Дабрата і ласкавасць супакутаваныя. Цудоўны верш, які сведчыць, што не знікае і не знікне вышыня думкі ў сапраўдных паэтаў.

Я пачаў думаць і гаварыць, што «Неман» не па мне. Так. Але што рабіць? ...Ніколі не хацеў бы, каб жылося лягчэй, а толькі — каб справядлівей... Нам наканавана жыць лірычна — са смуткам, тугою, скрухаю, журбою, маркотай.

Радаваўся, што «пайшоў» Хадыка.

«Недаром его (Камю) как философа и как художника так сильно занимал конфликт между абсолютным принципом личной морали и конкретными требованиями жизни, — подобный конфликт он пережил сам и до самого конца своей жизни не нашел удовлетворяющего решения...» Дзіва што! Я скамечаны яго «Падением» — прытым не думалася, не аналізавалася, а толькі раскрылася прорва ўласнай душэўнай цемнаты. А яшчэ — я згубна бяднейшы аналізам, пошукам, іроніяй, розумам, чым гэты герой, носьбіт і выкрывальнік грамадскага і асабістага амаралізма.

Нашы каты: Дым (паважны, прыстойны і адчувае сябе гаспадаром) і Мурзік (жоўты, сквапны, бурклівы, нахабны прыблуда).

Антон Бялевіч. «Жывыя людзі».

Чаму ты, мой друг, невясёлы?
Пахмурны, як ельнік глухі?..
Мы, братка, з табой не анёлы:
Нам д'ябал адпусціць грахі.

*30.X.*

У «Полымі» (№ 10) артыкул Кучара «Трывожная памяць». Побач з праваламі, нацяжкамі, апалагетыкай ёсць здорава пра Пташнікава, часткова — пра Стральцова, нават пра Сачанку.

Там жа — у «Полымі». «Справа аб замаху на Леніна» В. Хомчанкі. Яд курарэ ад высокай тэмпературы, якая ўтварылася пры стрэлах, страціў свае атрутныя ўласцівасці.

«Нет в нашей огромной, много читающей стране сегодня такого поколения читателей, сердца которых не сжались бы горестно от печальной вести — на 88 году жизни после тяжелой болезни скончался Корней Иванович Чуковский»...

Не прайшло і месяца, а час правёў рэзкую мяжу пораў года, на вуліцы стала зусім няўтульна, думкі загнаны пад страху. І думаецца: прыйдзе час, калі праніклёная крытыка зможа вызначыць па вершу не толькі настрой аўтара, але і ўсе вытокі настрою і прадвытокі яго творчага выяўлення на паперы і тое, дзе — у хаце ці на вуліцы, пад дождж ці ў сонца пісаліся вершы, быў аўтар стомлены ці свежы (стомленасць як стан трэба таксама пісаць пры творчай, духоўнай свежасці?) і т. д. і шмат чаго. А яшчэ думаеш: прыйдзе час, калі ты з недасяжнай крытыкі выйдзеш на самы пэўны шлях да самога сябе. Выйдзеш? Каму знаць.

*7.XI.*

Што свята — шум у чужых кватэрах, і людзі на падпітку, мітусня. А тут — хата, кнігі, самота, адзінота. І ўсё. У мінулую нядзелю радаваўся, што «пайшоў» Хадыка. Але — хутка знямогся, скончыў высільваючыся, а цяпер прачухаюся і пакутую, што напісаў кепска. Чытаў гэта Грачанікаў. У яго — як прарыў — нейкія добрыя

вершы (трыпціх — чаму?). І па-дурному выпілі мы ў сталоўцы (а Пісьменная Ірына Леапольдаўна крыкнула: — Что вы делаете?)...

Я жыву так, быццам няма куды падзецца. Месяц, як я — «на кватэры». Недарэчна ўлез, і трэба як хутчэй вылазіць.

*8.XI.*

Такая кароткасць і хуткаплыннасць дня. Цяжкі сон, марудны пад'ём, валачэнне без мэты і сэнсу.

Зноў — з кнігамі, з беспрабудна п'яным Я... з мітуслівым Віськам. І так страшна, так невыносна глядзець на ўсё гэта наканаванае лёсам, і яно пражэцца ў адно з усімі няшчасцямі, якіх так многа ў людзей добрых і чэсных...

А калі я сёння хадзіў у прырэчча, а потым — у лесе — у мне чамусьці нішто не разгортвалася. Неяк так, без удзелу душы бачыў я сонечны прастор (чамусьці без сонца — сонца не помню), адчуваў непадаткасць памёрзлай зямлі і лугу, хацеў радавацца (але не радаваўся) марозцу, чыстаму паветру і магчымасці быць вольна з самім сабою. Але нішто ў душу не ішло, нічога не адбывалася, і недзе спела памалу на самога сябе крыўда, што так папусціўся, так счарсцвеў.

А думкі варочаліся да тых каардынатаў, на якіх я па-рознаму, але як разам, дык шмат вінен: Вера Фамінішна, Разалія Герасімаўна, Антаніна Аляксееўна, Краўцовы...

...Вось сяджу ціха ў хаце, чытаю і пішу, а душа памалу паварочваецца на нейкае новае жыццё — прасторнае і пэўнае, тое, што ў планах і думках ужо не раз бывала, але ніколі не стала явай, бо дужанне з сабою ніколі не вяло да перамогі.

Ліст Жэні Янішчыц:

«Значыць, свята? Так, так — свята! Так рэдка бывае адчуванне ажыццёўленага ў душы свята і ніколі не прыпадае яно на тыя загадзя падрыхтаваныя нам, абведзеныя чырвоным дні, якія павінны быць вольнымі, вясёлымі, шчодрымі на добрае і памятнымі надоўга.

Ёсць ці няма ў мяне зараз свята? Я думаю не пра гэта, а пра тое, што мала знаходзіў я апошнім часам у сваёй душы чысціні, дабраты, што вінаваты перад сабою

і ўсімі... А калі жывеш нікчэмна, не разумееш, не дужэеш, не дабрэеш — адкуль тады быць святам. Усё парожняе і нерухомае.

Не, я гавару не дзеля скаргі. Разлікі з сабою трэба весці сам-насам, і тым больш не ў віншавальных пісьмах. Але вось выдадуцца гэтыя тры вольныя ад усяго (і ад справы) дні, і душа правеецца на свежым ветры.

І адчуваючы гэты блізкі ўзвей-перавей у сабе, я менавіта аб гэтым думаю, калі іду за сваёй віншавалкай на Паркавую м-ль, каб сказаць, што хай табе будзе добра на святы — гэта значыць — і вей-перавей у цябе адбыўся, і вольны лёт у душы, і да людзей гарнуцца лёгка, і яны — у прыязнасці, а не ў абыякавасці. Ці самазамкнёнай бяздумнасці, і пісаць хочацца, і пішацца (ці будзе пісацца) свабодна і многа, а за напісаным будзе расці і доўжыцца адчуванне свята і шчасця, бо ўсё, што пішацца, залежыць поўнасцю ад таго, былі мы добрымі ці благімі, ці ўмелі мы жыць з поўнай душэўнай аддачай. Хаця — для паэтаў самае сапраўднае і поўнае жыццё бывае, мабыць, толькі пад час пісання. Словам, жадаю табе самага сапраўднага і поўнага жыцця, душэўнага лёту, адчування шчасця.

Не перачытваю, што напісана, бо магу падгладзіць словы, але сутнасць — не зменіцца.

Бывай здарова».

Усё ў жыцці — прасцей і складаней, чым у кіно, кнігах, усякага роду імітацыях яго. Галоўнае — покрыва будзёншчыны, будзёншчыны ў нас і вакол нас; часам гэта нават глушыць, не дае прарасці сапраўднаму. Трымаю ў памяці розныя перыпетыі свайго жыцця і бачу, як многае зменшана было ў жыцці дробнасцю асобы. «Ўстрывожу, прывяду да ладу спрытомленую смагу дней...»

*16.XI.*

Усё-такі — неаспрэчна існуюць толькі недасяжныя геніі. Ужо таленты — так часта сыходзяць на банальнасць.

«Диавол — отец гордости». Гэта нічога. Горш быць яе сынамі.

Гавораць, што Ал-р Ісаевіч Салжаніцын выключаны. У мясцовай арганізацыі ў Разані сказаў: «Вас большинство. Голосуйте (исключайте?). Но помните, что история

может заинтересоваться сегодняшним голосованием» (прыблізна). Звярнуўся з пісьмом да праўлення СП РСФСР. «Сотрите пыль с ваших часов. Они показывают давно прошедшее время: Некоторые были бы рады стереть свои подписи под исключением Ахматовой и Пастернака»... Потым аб тым, што «здоровому обществу необходимо открытое, свободное слово без оглядки на то, что услышит кто-то на Западе, а не злобствующая (злобная?) бдительность»...

*22.XI.*

Сяргей Антонаў, Булат Акуджава і яшчэ нехта звярнуліся нібыта ў СП з патрабаваннем надзвычайнага з'езда. Пра гэта — увогуле шмат.

...Ігар Хадановіч. Я з ім увесь час тут — у гаворцы, успаміну, пісьме, у сонцы і непагадзі — і... сказаў бы — **там,** але гэта, мабыць, кашчунна. Не даводзілася бачыць болей паэзіі і чысціні ў адным чалавеку, і такое вынішчэнне дабраты пакуціць бясконца.

Увесь апошні час у палоне геніяў Багдановіча і Дабралюбава.

*22.XI.*

NN пакутуе недзе ў Бараўлянах, а на ўсю сям'ю несутрымны смерч бяды: малы ўсё закінуў, сам N звольнены за п'янства, а дачка не ў пару гуляе. Наведаў яе. Вясёлая, смяецца, а — змучаная, знядужаная. Потым у мяне доўга не праходзіла дрыготка...

*23.XI.*

Юная — якое чароўнае слова, не ўжываў, а ў ім — дрыготкае, свежае, нядоўгае шчасце, акіян святла.

Як мы не ўмеем глядзець. У бібліятэцы, адседзеўшы больш за дзве гадзіны, убачыў у суседцы-дзяўчыне вельмі сціплую, простую і спакойную прыгажосць — таму асабліва прывабную. І радасна стала, што такая прыгажосць ёсць, і гэта — прыгажосць натуральнасці, чысціні, — прыгажосць, якая не ўсведамляе сябе прыгажосцю; прыгажосць, з якою лёгка быць самім сабою, не тапырачыся, не становячыся на дыбачкі. І якое акрыленне ў тым, што адчуваеш: магу і павінен быць варты гэтай прыгажосці, чысцееш, яснееш.

*1.XII.*

Патузаны драбязой, думаеш пра дробнае. У рэдакцыйным тлуме — таксама дробязь. Кожны выходзіць з яе па-свойму.

В. Ж., калега па аддзелу прозы, прывабны сціпласцю і натуральнасцю паводзін.

Няма нічога больш значнага, чым дзеянне, якое патрабуе цябе ўсяго.

Гэтыя дні — клопаты пра помнік Ігару. Помнік, нарэшце, стаіць.

# 1970



*15.I.*

Лакшын піша: «В записных книжках Чехова есть поразительно смелая догадка: «Быть может, то чувство, какое мы испытываем, когда бываем влюблены, и есть нормальное состояние человека». «Поразительно смелой догадки» я тут не бачу: гэта, так ці іначай, ведаюць вельмі многія людзі, гэта «здагадваліся» многія пісьменнікі.

*16.I.*

У запісной цесна. Цесна і ў чыталцы. Цесна ў самім сабе — хочацца расхінуцца, пайсці ў чужыя душы, разгарнуцца — застаючыся з сабою, з маці, з гэтым светам, дзе радасць і святло прыглушаны, але не вынішчаны.

*24.I.*

Такі на вуліцы вясёлы, радасны дзень: спакойнае сонца, лёгкі мароз, дзіцячая гурма, людна, шумна, па-зімняму святочна. У мяне — канькі, лыжы. Паўтарэнне кароткіх мінулагодніх святаў. Ціхая прахалода лясных суцемкаў, крохкі наст. Далячынь — з марознай дымкай, ціхім паўзуном-самалёцікам, нячутным гулам святой пагоднасці, калі ўсё жыццёвае хараство пярэчыць нашым нягодам і няшчасцям.

Часта апісваецца апошняе імгненне гібелі. Хто яго ведае. Я сем разоў паміраў ад «электрычнасці» — электрашокаў. Усё знікае адразу.

Ці паспяваюць нервовыя імпульсы апярэдзіць ход кулі ад скуры да сэрца?

Па-сутнасці, маё жыццё бязмэтнае, бо жыць сумленна, шчыра (я далёкі нат ад гэтага) можна яшчэ і філіна. Вось аддаць усе сілы, напал, энергію істотнай і сцёру. Вось аддаць усе сілы, напал, энергію істотнай і грамадска значнай мэце, ахвяроўвацца па вялікім рахунку — іншае.

На сталe завалы тоўстых кніг — урокі працы і розуму.

У «ЛіМе» (20.I) — апав. Тэрэня Масэнкі «Галінка барбарысу», слабое, «робленае». Але верш, прысвечаны пляменніцы Купалы — сапраўдны:

Не барися, дівча, не барися,
Відчини оцю хвіртку стару.
Червоністі гілки бирбарису
На прощання мени подаруй.
За лісами твоіми скучати
Буду я в степовій тишині...
У стипах світлоокі девчата,
Але ты — найсвітліша мені...
І немае межі и безгомонкі
Поміж лісом і степом ніде.
Де кінчаеться Украіна,
Білорусь починаеться — де?
В нас едина вітчизна і слава,
Неосяжна земля голосна...
Вацлаво моя, Вацлаво,
Білорусю моя ясна!

Недзе каля 20 снежня 1969 памёр Сяргей Адамавіч Гусак, рэктар Брэсцкага педінстытута, харошы і просты чалавек, свойскі дзядзька, якога ведаю не па артыкулах і кнізе, а па нарачанскім доме адпачынку, дзе яго запомніў з прыязнасцю.

*25.I.*

П'янеў ад шчодрай пагоды, зімовай свежасці і няздзейсненага шчасця. Скразны навылётны жыццёвы гул, раскашаванне бесклапотнасці, поўня ў арэоле вясёлкі, нябесная сінь, запарушаная аблокамі. Мы з Ражанскім дзве гадзіны на лыжах: Каханаўка, Бабавозаўшчына, Лявонцавічы, распушаныя кіяхі. Нейкая спрэчка пра раман Скобелева, «палітычныя» размовы, каханне, а ўсё як няіснае — плыло і сплывала, быў добры белы сон, што роўніць усіх людзей адным — здаровaю дружбаю з прыродай, снежным святлом.

Каля глыбокіх (чышчаных) ачарнелых дарог ціха туліліся падчаркі стагоддзяў — родныя вёсачкі. Кудысьці пераходзілі рэдкія людзі, а дзеці малымі купкамі ладзілі сваё зімовае свята. Я думаў пра гэтых дзяцей як пра сябе, пра тую малечую адзіноту, што бярэ толькі ад сябе і праз сябе жыццёвы змест, яшчэ — пра тое, што не маю я ні вясковай, ні гарадской прапіскі...

Караткевіч — паэт жыццёвага шчасця, пераможнай

рамантыкі, вольнага і гарманічнага і ўсеабдымнага кахання. Вольна яму насяляць нашу гісторыю замкамі і прыгодамі, вольна славіць жыццёвае свята, стыхію, нечаканыя сустрэчы, шчымлівыя разыходжанні, каб за ўсім уславіць галоўнае, што ў чалавеку ёсць: сілу яго пачуццяў, стыхію жыцця, каханне. Усе мэты, справы, абавязкі — умоўнае, няіснае, побач з гэтай плынню развызваленых пачуццяў, вызваленасці ад дробязнасці, мітусні, бесталковіцы. Яго неразуменні, разыходжанні — шляхі да згоды, перадвеснікі шчасця.

*27.I.*

Доўгая, нудная размова з нейкім Саульчанка. Артыкул супраць фальсіфікатараў сав. літ-ры. Штрых. Я: Вы можаце назваць у нас крытыкаў-дагматыкаў і вульгарызатараў? Ён: «Анічкін (?) — Аннинский? — Да, кажется. Надо посмотреть в картотеке».

Пісьменнік любога маштабу можа, мабыць, гандляваць сумленнем і праз сябе пазнаваць, **што** гэта такое. Урэшце, адкуль любая наша пранікнёнасць? Ад наяўнасці ў нас саміх патэнцыяльнага зла, якое мы носім у сабе, хоць шмат разоў і пераборваем.

*5.II.*

У «Маладосці» № 12 за 69 г. надрукавана эсэ Караткевіча «Званы ў прадоннях азёр». Божа мілы, якая свабода, лёгкасць, паўната — гісторыя, літаратура жывуць разам у чалавеку, грамадстве. І яшчэ — герой т. ск. лірычны: вясёлы хлопец, проста зух, дасціпны, свойскі, глыбокі і тонкі знаток усяго на свеце. «Прыўкрасна»! А сакратар гаркома Шарапаў крытыкаваў у дакладзе. І вось рэпліка ў «ЛіМе» 3.II-70. за подпісам: Л. Жога (Л. Прокша, гал. рэд-р?). У ёй: «Дабіраўся туды паэт не з такім камфортам, як нашы падарожнікі. І яшчэ: «Аб гэтым трэба пісаць сэрцам, а не жоўцю. І адлучаць адно ад аднаго, зацямняць мінулым сучаснае, мякка кажучы, нельга».

*11.II.*

Некалькі (пару) дзён пагоды з вясною, сонцам, талым снегам, веснавым рэхам. Перад гэтым — суботні і нядзельны цуд зімовай, снежнай, без намёку на капяжы, казкі.

Сёння ў СП — усесаюзны сімпозіум аб рабочым кла-

се. Усё гэта будзе неяк асветлена ў друку, але знікнуць дасціпныя рэплікі Брыля, некаторыя аспекты выступленняў В. Хомчанкі (пра працэнт рабочых сярод злачынцаў) і Маўзона (пікіроўка з дырэктарам ін-та філасофіі Буславым). Б.: «А почему же л-ра отстает?» М.: «А потому, что и-т философии еще не разработал рецепты, как создавать л-ру...» Б.: «А кто же строит коммунизм?» М.: «Строители коммунизма»).

*15.II.*

Малы чорны беспародны сабачка. У сям'і дзве клічкі: Куцька і Цёпа, бо ў хаце разлад. Усе камічныя і драматычныя адценні гэтага разладу.

Так многа з дзецьмі (пагубляюцца, разбягуцца імёны і лёсы), што Ала Мядзведзева: дзеці яго цікавяць больш, чым дзеўкі.

Ну, вось: нібыта 13 лютага гал. рэд. «Нового мира» А. Твардоўскі пайшоў у адстаўку. Завірушны, зменлівы люты. Кідаеш вокам назад: Пастэрнак, Ахматава, Эрэнбург, Маршак, Паўстоўскі, Чукоўскі мерлі пры маёй сталай памяці. Адыход кожнага з іх яшчэ болей падкрэсліваў значнасць папярэднікаў, а яшчэ — трывожыў: хто наступны? і хто застаецца?

*5.III.*

Н. С. Я помню той першы сакавік, калі давялося вас віншаваць: прыбыванне сонца, лапінкі сухой зямлі і лужыны, пах талага снегу, гул чыгуначнага палатна і школьнага жыцця. Перадачка, у якой (чытаў Валіцкі, здаецца, не вам — не ён): «Мы знали не всегда урок, читали Горького по выбору и сочинение не в срок сдавал опять вам после выборов...»

Шмат жывём мінулым — школа, чорная сцежка, конкурс чытальнікаў, Ігнат... і ўсё такое. Як быццам няма сённяшняга дня.

А бярэцца новая вясна, дзень прыбывае — хай прыбывае і для вас і дзень і сонца.

Пасля гэтых разглагольстванняў прыміце працейшае і шчырэйшае — сардэчнае віншаванне, добрыя пажаданні.

*7.III.*

Пачаўся дзень дрэнна. Відаць, ад перамены пагоды — раздражнёнасць, недасып. А было сонца, адкідаўся лёг-

кі начны марозік. Пазней я думаў нешта пра тое, што сонца і ўсяго іншага знешняга існуе мала, калі мы апустошаны або заглыблены ў нешта іншае, затое як многа часам бывае ўсялякай знешняй жыццёвасці, сплаўленай з унутраным.

Зайшоў Р., засядзеўся, заразглагольстваваўся, і я юшыўся і таптаўся з кута ў кут. Наогул, пакуль дома Я., увесь час вісіць нейкая трывога, насцярожанасць і ўсё такое. Потым — Віня (ангіна) і я віншавалі маму — усё так будзённа. А людзей такой спайкі з іншымі, як мама, не ведаю я — па цярпімасці, зычлівасці, спагадзе.

А я прыпорціў сябе эгаізмам, аслабіў спасылкаю на нястачу сіл і аддаліўся ад многіх, хто мяне цэніць.

Чытаў «Дневник Нины Костериной» («НМ», № 12—62) з яшчэ большай шчымлівасцю. Якая яснасць і вышыня чалавечнасці, якая шчырасць і прыгажосць сталення, якое счапленне з душэўнасцю, якая дакладнасць у разуменні сябе, у паказе свайго руху і спроб яго асэнсавання. Які круты жыццёвы нахіл і якая жорсткая канцоўка. Грамадзянская наіўнасць і высокая цэльнасць, мужнасць рашэнняў, стойкая барацьба з адзінотай.

Яшчэ: якія добрыя кадры вынішчаліся пры Сталіне (бацька Ніны, сваякі).

Ніна з класам майстравала альбом аб Хрушчове.

Хотела вычеркнуть и раздумала: если я буду вычеркивать все глупости, придется вычеркнуть половину дневника».

Ніне адмовілі ў інстытуце: «Ввиду отсутствия общежития».

Бацька Ніны спяваў некалі на Дал. Усходзе:

> Я живу близ Охотского моря,  
> Где кончается Дальний Восток,  
> Я живу без нужды и без горя,  
> Строю новый стране городок.

У «Завещании» Ніна гаворыць: «У меня одна мысль в голове: может быть, я своим поступком спасу отца».

*18.III.*

Маці — як дрэва, якому ўвесь час заціскалі карэнне, мянялі зямлю і насупраць усякай логіцы крэслілі тапорна-нажовыя меткі.

*20.III.*

Жах і бяссэнсіца: памёр Анатоль Сербантовіч, 41-га года нараджэння. Я ведаў яго і шмат гадоў актыўна трымаў у сабе ціхае непрызнанне. Ах, якія ўсё гэта дробязі, калі быў ён сынам (а ў маці ягонай, мілай вясковай кабеты, я прымаў уступныя экзамены), мужам, некаму, можа, незаменным сябрам.

*28.III.*

Кожны дзень без разгону абвальваюся ў нянавісць да лгуноў, прыстасаванцаў, дэмагогаў. Усё гэта сінонімы — кар'ера, дабрабыт, выгода вымагаюць адразу ўсяго, бо інакш не папхнешся. На гэта гледзячы даходзіш да няўцямнай нерухомасці, бо ўсюды чэсным, сціплым, ціхім людзям — цяжка.

...Праваліўся, як у палонку, у аповесць Айтматава «Белый пароход» («НМ», N1) — холад праўды, аблажнае мора агрэсіўнага нахабства і брыды, бездапаможнасць, безабароннасць дабра. Ледзь не малітвеннае жаданне: дай палёгкі, не губі ў пакутах; веданне, што калі зробіць так — пачне хлусіць.

С. 57: «Э-э, сын мой, худо, когда певцы состязаются в славословии, из певцов они превращаются во врагов песни».

Прыгожы прастатой і чысцінёй твару, нейкай годнай сціпласцю хлопец устае і раптам ламае ўсе ціхія адносіны да яго жаласцю: кульгае. І такая прыкметная кульгавасць, што начыста з'ядае гарманічнае натуральнае жыццё. Кульгае, ламаючы чужыя і свае позіркі.

*8.IV.*

Адна з неверагоднасцей — смерць (ці пагібель) Сымона (Сені, Сенькі) Блатуна.

А якім ён помніцца прыгожым і таленавітым у гады маладосці. Усё трэслася, перaтрасалася і вось так скончылася.

І неяк усе як махнулі рукой. Гнётна лягло гэта на сёлетнюю вясновасць...

Дэмагог выкарыстоўвае ісціну, праўду з большым яшчэ нават спрытам, чым няпраўду.

*8.VIII.*

Яшчэ адна Нарач — з утульным неспакоем і ціхай трывогай. Малліннік на балацянках, рэдкая перраспелая ягада, журавіннае балота...

«Сотнікаў» Васіля Быкава — аповесць, якую я намеўся рэцэнзаваць.

Не прашу и ў Бога нічога, а толькі цяжкой і строгай дарогі, але з імгненнямі шчасця, што дагэтуль усё яшчэ ў недасяжнасці...

Пчала, якую я дастаў з пушыстых валасоў — цуд, які варты і доўгай памяці і высокага натхнення... Тая пчолка сабрала так многа — знойнае неба, нястомную надзею, прагу на пяшчоту... такая бяскрыўдная неджалючая пчолка.

Дзяўчына без капрызу і какецтва — добра і проста... Пчолка ты мая!

Мізэрнасць раскошы — ратуй Божа ад прыжымістасці багацеяў.

*4.IX.*

Пачаліся і пайшлі дні мінскага жыцця... Вяртаю за свой цудоўны, паліраваны і вельмі прыемны стол (больш за мару) тое-сёе з мінулых гадоў. Адлучым канчаткова N. Хаця б таму, што бібліятэчныя штампы на яе кнігах? Душэўная вышыня несумяшчальна з гэтым?..

Толькі не маніць і ў прынцыпах не хістацца! — вось што важнае мяне зараз турбуе.

Учора з Лявонавым у Батанічным садзе, у яго стракатым і абжытым цудзе. Барбарыс, кветкі, стаўкі, апенькі і сыраежкі, чужая запісная кніжка — кавалачак наіўнага дзявочага свету, з саматужнымі няскладнымі вершыкамі, з глухімі адгалоскамі рэальнага жыцця (адрасы) і крэмзамі-метафарамі: «апельсин горького цвета», «облако мысли», «смех в полоску» (усё гэта, зрэшты, магло аднекуль выпісвацца. І такое: «И все равно я люблю только Колю, а все остальное просто шутка от нечего делать».

Здаецца, ніштавата (калі сама напісала): «Столько нам нужно разных дождей, чтоб наша дружба стала сильней...»

...Пачалася асенняя нудота, але для мяне яна новая, бо надта добра ў кватэры. Не хапае Ражанскага і ўсяго прылуцкага — Сагінора, Грывянёва, Русаловіча і ўсяго іншага: горак і рэчкі, блізкіх дрэў, пясчаных да-

рог, незалежнай, не заціснутай людзьмі і дамамі вольнасці.

У 20-м годзе Вера Інбер напісала:

Слишком быстро проходит жизнь моя,
Редеет лесной опушкой,
И я — вот эта самая я —
Буду скоро беленькой старушкой.

Бясконцае дзіва чужога ўмення і ведаў прыходзіць штодня... Ю. Левитанский:

И, участвуя в сюжете, я смотрю со стороны,
Как текут мои мгновенья, мои годы, мои сны,
Как сплетается с другими эта тоненькая нить,
Где уже мне, к сожаленью, ничего не изменить.

*24.IX.*

Такі вялікі пропуск — ад стомы і спустошанасці. Цяпер не знайсці парадку ў прыпамінанні гэтых дзён.

Галоўным было — рэцэнзія на Сотнікава, і пры звычайнай нездаволенасці я ўсё ж лічу справу зробленай (падтрымаў і Вярцінскі). Пісаў ноччу, губляў і таптаў думку ў нявывераных словах.

Выдавецтва падпісала дагавор на Куляшова (клапацілася Клара Міхайлаўна Смірнова, і я папрасіў перадаць ёй, што заўсёды помню дабро).

Цяжкая каўзаніна па чужых рэцэнзіях — колькі ўжо наварочана за гэтыя тры гады...

Дні позняй восені — з туманамі, што ўзыходзілі ўверх, адкрываючы сонца, з духам яснасці і бадзёрага святла, з водбліскамі шчасця на прыгожых дзявочых тварах. Пара спакою для пенсійнай старасці і бесклапотнай волі для юнацтва. Але гэта заходзіла ў мяне мала — не пускалі стомленасць, клопаты, непатрэбныя гаворкі.

Я быў благі і гідкі, калі разлічваў на нейкія гадзіны ўцехі, а цяпер зноў — няпэўна і няўпэўнена — вяртаюся да трывалай стойкасці і паслядоўнага аскетызму.

Кожны чалавек заслугоўвае найвялікшай увагі, дабраты да яго і шчырасці. Але ж нават лепшым і адораным амаль што не перападае сціплага самага разумення. Вось нават Жэня Янішчыц — мела столькі пахвал за вершы, а хто зразумеў і хоць крыху акрыліў яе душу (акрылялася сама і памылялася шмат, знойдзенае — з ёй, але колькі — і якіх — страт!).

*10.X.*

Сёння ў газетах: А. Салжаніцын — лаўрэат Нобелеўскай прэміі.

Пасля цёмных халадоў, стылай і змрочнай пагоды зніклі аблокі, расхінуліся туманы — прыйшлі цяпло і сонца, раскрыліся вышыня і бязмежная далячынь.

Заняты рэцэнзіяй на «Сотнікава», я вымушаны аддзяліць сябе ад гэтага ўсеагульнага шчасця, ад жыццёвай паўнаты і свабоды, але і мне так патрэбен быў гэты дотык — хай толькі беглы — да сіняга неба, да спакойнай ціхай жоўці, да рассеянай надакучанасці гэтага кастрычніцкага цяпла і святла. Як да надзеі, да магчымасці жыць інакш і інакшым...

Учарашняя лёгкасць у філармоніі, дзе чытала засл. арт. рэсп. Давыдава Бергольц, Ахматаву і Цвятаеву. Ад гэтага была тады вечарам вастрыня і прасторнасць думкі, хуткая дакладнасць розных меркаванняў пра паэзію і паэтаў, і я, нязгорблены і годны, багацеў душою.

*16.X.*

У Саюзе было абмеркаванне творчасці маладых крытыкаў Андраюка, Бечыка і Жураўлёва. Цяжкі груз пахвал. Побач — Толя Кудравец. Рады за сябе і за хлопцаў. Хаця пра ўсіх нас — з відочнымі перабольшаннямі.

Два літоўцы — бацька і сын — захапілі наш самалёт АН-2, забілі сцюардэсу Надзю Курчанка (20 гадоў!), паранілі некалькі чалавек і прымусілі экіпаж пасадзіць самалёт у турэцкім горадзе Трабзоне. Суд першай інстанцыі адмовіў пракурору даць ордэр на арышт гэтых самых Бразінскісаў...

...Днямі — дзіўны стары ў рэдакцыі. Кій з жалязякай. Прасветленая яснасць твару. Старое зімняе нехлямяжнае паліто. Пачынае гаварыць, і знікае ўражанне юродзівасці. Самавук — прапаведнік, багамолец, філасаф са сваімі ўяўленнямі пра старасць, небыццё, пра ўладу, ісціну і праўду.

Еўтушэнка піша:

> Голос мой в залах гремел, как набат.
> Площади тряс его мощный раскат,
> А дотянуться до этой избушки и
> пробудить ее — он слабоват.

Моцна сказаная праўда, але ў нечым праў і Перэдрэяў: аўтар пастаянна помніць, «кто он». А ў мяне яшчэ пытанне: «в залах» — набат?» На сябе пародыя.

*25.X.*

...пакуль што толькі ліст Анастасіі Раманаўне Адзінец (пра помнік Паўлу Максімавічу Дубовіку), што сціплы, просты і надзвычай удалы — асабліва кніжка і беларускі надпіс; як гэта добра зроблена — ад беларускіх літар ішло святло нейкай роднасці і добрай прастаты, і гэта так стасуецца да духоўнага аблічча П. М., да яго культуры, што не адрывалася ад роднай мовы і народа).

*30.X.*

Цяжкі і нечаканы быў гэты тыдзень. Тэлеграма вечарам ад Мардуевай: Вера Фамінішна ў бальніцы. І адразу стала жыць і цяжка і безвыходна. Паехала мама ў сераду, а я меўся ў панядзелак.

В. Ф., паралізаваная, слухала маму і давала знакі поціскам рукі. Адпусціла маму і тут жа неўзабаве памерла.

Чацвер — чорны, замглёны нейкай агіднай халепай, гнілым надрывістым ветрам, быццам усё стала няісным, што варта жыцця і радасці.

Першыя пахавальныя клопаты — вянок і гарэлка. За імі — клубілася і адкладалася ў душы сапраўднае гора, што і не валіць з ног, але застаецца назаўсёды як горкая віна і шкадаванне. Ішлі, ішлі, і здавалася, што музыка хістала чараты на сажалцы і гусціла пахмурнасць.

Іван Апанасавіч Будай, дырэктар школы, прыняў удзел, сказаў добрыя і дакладныя, нягучныя словы, сказала мама і я.

Самае страшнае — думаць, як жыла і чым маркоцілася яна ў апошнія дні гэтай сваёй адзінотнасці.

Сёння я прачытаў у «Ліме» Брыля («Дажджлівы, сонечны поўдзень»): «Разлука з блізкімі, любімымі, разлука назаўсёды і туга па іх — гэта таксама адчуванне абавязку. Перад галоўным у жыцці. А разам з тым — і абавязак перад тымі, што нас пакінулі. Паколькі я не ў зямлі, а пакуль што наверсе, у шчасці свядомых дзён і хвілін».

Сам я В. Ф. нёс, сам закопваў. Кідаў капейкі ў магілу — сказалі, так трэба.

Феня і Лена Гарошкі. Многія твары напаўзабытага Гарадка.

Дома позна гаварылі з мамай. В. Ф. выратавала мяне і маму: «Калі б яна не ўзяла цябе (сама прапана-

вала!), не ўцячы б мне ад паліцыі... Расстралялі б нас разам, сынок». Жонка камісара часоў грамадзянскай вайны. Ездзіла за мужам па франтах. Потым ён быў пракурорам (ці не ў Чавусах). Потым у Гарадку нашым дырэктарам лесазавода. Памёр вясной 41-га: сухоты. Усё жыццё аддаў новаму, сапраўдны камуніст ленінскага гарту... Канчалі гаварыць пра В. Ф. і зноў пачыналі — пра годна пражытае, поўнае прыстойнасці, гонару і дабраты жыццё.

Успаміналі. У 1944-м. Мама ўжо з намі. Жывём разам усе трое. В. Ф. узяла мяне да сябе пад коўдру, туліла, песціла, прыгаворвала: «Зайчык мой маленькі».

Я. Моркавінка Вы мая! (Моркавінка — самае смачнае тады для мяне.)

Я н а. Верабейка ты мой...

Я. Партрэцік Леніна Вы мой...

Пра што б ні ўспамінаў — у памяці той апошні кароткі прыезд летам, спешка. Здавалася, буду бываць часцей...

*8.XI.*

Пабрыў (двойчы) на могілкі. Сёння — з мамай. Адзінотнасць здавалася нейкай безнадзейна-заўсёднай. Зманлівы кантраст святочных кампаній заходзіў у душу.

Але душа прасіла не столькі кампаній ці (яшчэ чаго!) кахання, колькі адпачынку і спакою на гэтыя два дні. Такое, здаецца, дасягнута. Я адпачываў, паспаў і, можа, яшчэ змагу і жыць, і пісаць.

Успомніўся — на бакавых сцежках — той хлопец Ц., якога на цаліне мы падазравалі ў прысваенні нашых грошай. Падазрэнне гідкае, ганебнае. Мы былі ўсе разам, вясёлыя сабе і не так ужо натруджаныя, а ён соўгаўся адзін па сваіх кухонных справах.

6-га ў «ЛіМе» надрукаваны «На паўмільярдным кіламетры» (пра Куляшова), і дзяўблася ў галаве фраза: «Бо і што такое паэзія, калі не вечная адданасць жыццю і ёй самой — дарога ў акіян чалавечнасці...»

Ренан:

«Чтобы идти в этом мире верным путем, надо жертвовать собой до конца. Назначение человека состоит не в том только, чтобы быть счастливым, он приходит в мир не затем только, чтобы быть честным, — он должен открыть для человечества что-то великое, утвердить бла-

городство и преодолеть пошлость, среди которой влачит свою жизнь большинство».

Белинский: в произведениях искусства идея — это не отвлеченное понятие, выраженное догматически, но состояние души.

...Выйшла кніга Жэні Янішчыц «Снежныя грамніцы». Напісаў ёй кароткі ліст, у якім, у прыватнасці: чытаў душою, сёе-тое душа прамінала, але многае западала ў яе так дакладна і адзіна магчымым азначаным шляхам, калі, здаецца, да гэтага і без гэтага не ўявіш сябе ў свеце паэзіі і чалавечнасці...

«Уліваецца, нібы ручай, у мову палескі нетаропкі гаварок». Душэўна дакладна ў дачыненні да ўсяго настрою, тонка, проста — і нібы нават без замілавання...

*14.XI.*

...Прыезд Еўтушэнкі бударажыць рэдакцыю. Ліхаманка з білетамі ў філармонію. Ускочыў у пакой, спехам паціснуў рукі, гледзячы міма, зачараваў нашых жанчын. Усе былі фонам, і неўзаметку прайшоў Васіль Быкаў, хаця ў ім столькі істотнасці...

*15, 16, 17.* Усе дні — Еўтушэнка. Ён сапраўды ўвесь у вершах.

Учора (16) у рэдакцыі сустрэча з ім, з дамешкам няёмкасці і брыды. Ёсць людзі (жанчыны), якія гатовы і лашчыць, і лізаць, што несумяшчальна з сапраўднай любоўю да паэзіі і пашанай да яе творцаў.

Я не раз ужо думаў, што яму проста немагчыма пісаць новыя вершы — усё перамацаў, сказаў. Тут ён сам загаварыў пра гэта — буду пісаць прозу, мучыць рытм і ўсё такое... (Голас — б-р-р: «Не бросайте поэзию; ой, мы так вас любим...») Сказаў, што прапаноўвалі сыграць Ісуса Хрыста, і рэжысёр (здаецца, італьянскі) напісаў ліст у Мін. культуры: фільм, маўляў, будзе марксісцкі. Фільм зроблены. Калі Хрыста вядуць на Галгофу, хор спявае: «Вы жертвою пали в борьбе роковой». Чытанне часта таленавітае, акцёрскае, але ж — эстраднасць, эстраднасць...

З усяго, што чытаў, больш-менш цэласныя (ды што там — сапраўдныя) — «Флорентийские слезы» і «Идут белые снеги» (тут, праўда, крышку і павеў самалюбавання).

*20.XI.*

Прыезд да мамы Лідзіі Яфрэмаўны Тарасавай — з Арла. Жанчына настолькі гаваркая, што спасу няма. І гэта — ускладненне хатняга побыту. Але затое ёй абавязаны я і горкім позіркам на сённяшнюю нашу заможнасць — у людзей яшчэ столькі гаротнасці і цяжару, і скупая капейка, і нішчымны стол, і безабароннасць перад гнётам сытай і хцівай нахабшчыны...

«Слова́» Сартра — іх іранічны інтэлект, гнуткая і глыбокая іронія, шырокая кніжнасць і недасяжнасць. І лёгкі пылок нуднасці.

Чытаючы Сартра, дзівіўся разбежцы насычанага інтэлекту з жывымі ўражаннямі. Адзіныя каштоўнасці, знойдзеныя ім кнігі, але і на іх лёг цень сартраўскай іроніі. Гэта аўтабіяграфічны трактат — пра дзяцінства. Канечне, інтэнсіўная мысліцельнасць кнігі сапраўды, відаць, пачалася там, у дзяцінстве, і зафіксавана тонка...

Мы не занатоўваем і забываем многія і нечаканыя хады свайго мыслення, мала сумуем вопыт, не ўмеем адысці ад сябе. Беднім уласную духоўнасць сурагатнай, перажаванай малаадукаванымі тлумачамі культурай.

У нейкай аповесці Жычкі сярод пералікаў страт, нанесеных вайной з фашыстамі: парушылі севазварот.

Мы самі, на жаль, свой севазварот парушаем занадта многа.

*19.XII.*

А мяне, выходзіць, любяць паэтэсы. Жартую, не, але так складваецца. Усіх іх шкада, хаця мо яны і пакрыўдзіліся б на мяне, калі б так ім сказаць. І ўсё ж не стае ім ласкі, увагі сапраўднай.

*20.XII.*

У роднай мовы — асаблівае, светлае цяпло. Па-руску я магу напісаць лірычна, але гэта ўжо, як горныя высі— не відаць усіх гэтых узлескаў, горак, не чутно роднай гаворкі, няма самай натуральнай арганічнасці — адпаведнасці слова дыханню, першаснаму прадвытоку думкі і пачуцця.

Усе мае артыкулы, рэцэнзіі — голас адзіноты, якая горнецца да розуму, дабра і чалавечнасці.

*22.XII.*

Падзеі ў Польшчы — такія цяжкія для душы.

20 снежня сёмы пленум ЦК ПАРП зрабіў аналіз сітуацыі ў краіне і прыняў неабходныя рашэнні. Перамены ў Палітбюро, у складзе сакратарыята.

Самая доўгая мая ноч — самая доўгая ноч года. Месяц і птушка. Знямога і баязлівасць, палоханне ўсякай небяспечнасці.

*28.XII.*

Сіпакоў цытуе Блока: «Штодзённасць, будзённасць дзень пры дні — подла». Колькі ж у мяне подласці.

Сіпакоўскі пераклад Блока:

...А я сабраў душы збалелай
Гады, дзе цені і святло;
Да болю стала зразумела:
Жыццё адпела і прайшло...

...І яшчэ раз успомніўся той дзіўны стары, што забрыў у рэдакцыю. «У времени времени нет» (гэта пайшло ў артыкул пра Вярцінскага). Дзіўна, як дакладна вымавілася ў здольнай, але наіўна-бесталковай Ганчаровай: «Значит, нет и возникновения».

А стары сваё далей — блытана, але не заблытваючыся: «Мне вот интересно. Не я это говорю, а разум предвечный. Разум — всё: и мотылек, и цветок — всё разум. Разум не дает права так отвечать, что нет творца, потому что я сам из некоего источника. Человек создает человека, но он прячется. Первый учитель природа, затем уже учит человек человека... Будет только закон божий и его исполнение, главным образом Христа. Конец будет греха. А то и Бога не видно, и правды нет...»

# 1971



*1.I.*

Трэба зноў пачаць жыць па-новаму. Навагодняя ноч занесла мяне ў свет, дзе я быў не свой, выпадковы і да ганебнасці ў недарэчным становішчы. Там жа, застаўшыся адзін (і гэта было — дзякаваць Богу), рабіў першы запіс года.

Усё не так проста — перавесці цяперашняе ў мінулае, пераіначыць бесталковіцу на толк, знайсці свой розум і даць яму новае развіццё. Недарэчны дом. Нешта непапраўна страчанае і святое без святасці. Мне не свеціць ні сонца, ні месяц, ні новая радасць.

Папярэднія дні, званкі, званкі, званкі. Я заблудзіўся ў палкіх словах, жаданнях, капрызах... Я паўначы ішоў дамоў, потым не спалася. Я валяўся ў сваім кутку і думаў адну крыўдную, спустошаную, сумную думу, і гэтая дума не скончана... Бяру ў рукі пяро і стану́люся чысцейшым, інакшае жыццё сходзіцца са мною. Я магу яшчэ гэтым пяром кіраваць, завірухамі рассыпаць лісты, выпраменьваць усмешку, ціха свяціць маркотай. У мяне няма свабоды таленту, а душа распылена хваробай, нудой, адзінотай, але ў мяне добрае кітайскай ручкі пяро. Яно яшчэ не канчаткова спісалася. І ўсё-такі адно ў мяне сёння добрае — востры сум, які можа абяцаць праніклівасць. За гэта трэба плаціць, плаціць!

Ва ўсёй заблытанай бяздумнасці быў учора адзін кароткі пробліск: я нешта лёгка быў падумаў пра артыкул для «Литературки» («Связь опор»).

Добрая і тужлівая віншавалка Ніны Сярмяжка. Сёння сентыментальна чытаў «ЛіМ». Усё падабалася: і новае апавяданне Гіля, і вершы Янішчыц, і яшчэ — Звонак. У падборцы Ж. Янішчыц ёсць радкі, якія расчульваюць сентыментальную маю душу — «На пачатку красавіка»:

Люблю, адышоўшы з марозу,
Бясконца раздольны прастор —
Зялёную радасць бярозак
І сінюю радасць азёр.
Я сінюю радасць вітаю
І клічу зялёную ў сны.
І песні з душы вылятаюць,
Як ластаўкі з гнёздаў вясны.

---

Не раскажу, не даскажу,
Таму што болей не вярнуся.
Я па-асенняму тужу
І па-вясенняму смяюся.
Што збудзецца — не мінаваць.
Між намі шлях святла і ценяў.
Нашто, забыўшыся, вяртаць
Кароткі, пошум летуценняў?!
Нашто захмурваць галаву
І думаць, што яшчэ кахаю...
Але, наіўная, заву,
Але, трывожная, шукаю.
Яшчэ твайго імгнення час,
Майго святла не закрануўшы.
Ды штосьці тайнае для нас
У адно злівае нашы душы.

У Ж. Я. арганічны — птушыны, сонечны, вольны талент. Не разважанні, а пачуццё — з падводным сумненнем, трывогай, з хісткай бойкасцю да банальнасці... Талент — сапраўдны. У яе навагодніх вершах і знутры здабытая душэўнасць, выведзеная напаверх, зведзеная з задуменнай восенню, высокімі травамі і надрэчнымі дрэвамі; з сінім, зялёным, пунсовым светам — прасветленая сумам.

Кранула ў Звонака:

Стаю адзін, як слуп на скрыжаванні,
Скрозь белы сон лаўлю нясмелы гук
І множу слодыч радасных спатканняў
На гаркату няпрошаных разлук.

Не можа быць канца жыццю і свету, і не можа быць канца трывогам, радасцям, клопатам — абы толькі заставалася вастрыня і свежасць кожнага імгнення і кожнай справы, абы не ішло наўскос тое, чаму я абавязаны як самастойная асоба. Аднаму не здраджваць — даўняму свайму прынцыпу: лепей менш ды лепш.

*5.I.*

Раман працягваецца. Звоняць мне. Я, дзівак, іду ў прадонне. З рук усё валіцца.

«Ныне отложите вы та вся гнев, ярость, злобу, хуление, срамословие от уст ваших».

*12.I.*

Брыдота ў форме амаль непрыстойнай.

Дзіўна. Нягоднік, ілгун, назола, злодзей і г. д. — за тое, што выдаткуеш душу, што неабыякавы сэрцам. Табе, калі трэба, усё залічыцца ў мінус. Логіка здрадлівых і зманлівых жанчын, якія ўсё, што трэба сказаць на сябе, пераносяць на іншых. Брыдка. Ці канчаткова?

*13.I.*

Трынаццатае, а ніякіх няўдач. Нават пэўная палёгка — здадзены нумар, які рыхтаваўся нялёгка... Мне кепска, патрэбна новая галава, новы рэжым, новыя веды, думкі і кнігі.

Неабходна вольна і думна сустрэцца з сонцам, ціхай прыродай, снежнай свежасцю і вынесці іх на аркуш паперы ненатужна, лёгка, як роздум пра жыццё, пра паэзію.

Ніколі не было ў мяне акрыленай любові, што давала радасць, пяшчоту і гармонію. Заўсёды была цяга, якой пярэчыў розум. І нічога не абяцалася добрага, а толькі благое.

У свеце дабро і зло пераплятаюцца. Хочацца шчымліва любіць усё прыгожае — прыгожае чысцінёй, сонечнасцю, цнатлівай сціпласцю і высокім гонарам.

Дзеці коўзаюцца з горак. Чаму заўсёды з дзяцінства было са мною адчуванне цяжкасці і небяспекі?

На небе няма сонца. У душы таксама чорна. Але суцяшэнне вось якое: колькі на свеце людзей, якім горш, чым табе. І наколькі горш.

*31.I.*

У адносінах з жанчынамі трэба быць сумленным і высакародным, але трэба яшчэ мець свядомую сумленнасць.

*2.II.*

Што мне так хочацца сабраць у сабе ўсю чалавечую тугу і пакуту? Чаму так верадліва, чаму душа цягнецца

да ўсяго балючага, што ёсць у кнігах? Быццам хоча яшчэ большага аб'ёму і большай варыянтнасці. І думкі аб недарэчнасці пакут. І прыгаворванні: «Но надо жить».

Мы кепска разумеем і ўяўляем працу літаратурнага крытыка, не здагадваемся пра яго жыццёвы, эмацыянальны тонус. Ап. Грыгор'еў пісаў артыкулы, замучаны няўдалым каханнем. Рассадзін заўсёды піша так, быццам трымае ў руках ісціны, быццам ні ад чога не пакутуе. На самай справе — чым жыў, напрыклад, Бярозкін, калі пісаў пра Панчанку, Цётку, Багдановіча?

*6.II.*

Брату 21. Ён не паяўляецца, і гэта трывожыць маму. Тамара Мікалаеўна Дудко ідзе на пенсію, і трэба сёння быць. Гэта — цудоўная жанчына, надзвычайнай сумленнасці і чуласці чалавек, якому наканавана было ісці дарогай гаротнасці, нястачы, пакут і якая ішла ціха, без скарг, нараканняў... Увесь наш дарожны рух — Гарадок, Талька, Прылукі, Мінск — судакранаўся з ёю і чамусьці павінен быў мяне вучыць.

Я ўсе гэтыя дні, многія дні — ад 14 студзеня — пытаўся ва ўсіх, у чым сэнс жыцця, хоць ніхто і не мог даць адказу. І вось у «ЛГ». Жарт: робат пытае ў робата, у чым жа сэнс жыцця.

*11.IV.*

Многа — два месяцы — прапушчана. Тым часам адбыў месяц за свой кошт у Пухавічах і на Свіцязі. На Свіцязі цяжка захварэў і поўзаў амаль на карачках.

Адна асоба зацята і многа гаворыць, што любіць мяне, а я — без радасці і шчасця.

Стаў загадчыкам аддзела ў «Немане» (з 1 красав.), прыняты ў Саюз (9-га, у пятніцу). Перайначаны артыкул у «Литер. газете» — пакрыўджаная Лось. Надпіс Караткевіча на кнізе.

Было ўвесь час нешта і добрае, і благое. На банкеце ў «Журавінцы» было ўсякае.

Самае іранічнае: у бяздарнасці дапякалі адзін аднаго найбольш «роўныя» таленты. Чаму? Чаго? Што кіруе людзьмі? Я думаў пра многіх з іх: дзе ваша грамадская і чалавечая скіраванасць? А былі людзі, за якіх балела душа.

*18.IV.*

...Я іду з «Немана». У заяве: «Сердечное спасибо Вам и всем добрым людям «Немана» — работа в Вашем коллективе была полезной и интересной для меня...»

*30.IV.*

Ліст Лойку: «...я рады, што няма ў Вас ні ценю пыхі і чыннасці, што Вы жывеце гэтак душэўна шырока і ў простай штодзённасці, і ў літаратуры, адмаўляецеся ад крыжавых пуцінаў, спакус нялюдскіх і трывог».

*30.V.*

Зноў «ЛіМ», аддзел літаратуры: Гіль, Стральцоў і я. Прывыкаю.

Май з апальным сонцам, гарачынёю. Кніга пакуль адкладаецца. У імя чаго? Ды вось жа: суботня-нядзельныя выезды ў Прылукі, на мора. Сёмкава — нязнаны раней прыгожы куток з ціхай рачулкай, лугам, які робіць шчымлівымі ўспаміны пра дзяцінства, спакойнай вечнасцю прыроды. Тут у дзіцячым доме рос Толя Пысікаў, ён сюды і падахвоціў. Натыкнуўся на стральцоўскі верш:

Няхай у гордай паняверцы
Сабе мы кажам: трын-трава —
Зусім не тое тчэцца ў сэрцы,
Чым часам трызніць галава.

*8.VI.*

За два тыдні «ЛіМа» напісаў 2 заметкі, утрос выдавецкія справы.

У Будапешце ва ўзросце 86 гадоў памёр Дзьердзь Лукач. Ад паўдня — у Сёмкава, у цеплыню, зеляніну, рэчку, ціхі і шумны тлум жывой прыроды. Яшчэ ў дарозе — цёмныя хмары, густая навальнічная цемната, потым — ледзь не шквал вады, што біла, секла, мяла, несла ўрачыстасць, чысціню, свежасць усім травам, дрэвам, кветкам і самой зямлі.

Босы. Цеплыня пад нагамі ад слізкай сагрэтай зямлі, прыемны халадок змакрэлай травы. Гулкія грамы, рэзкія сполахі, вясёлы шабаш птушак і жаб. Змакрэлы дзівак шмель капашыўся ў кветках.

Густыя дрэвы парку ў Сёмкаве — як клубы вады.

Клубілася зеляніна альшэўніку і вербаў у прырэччы. Званочкі, смолкі, шчаўе, канюшына і ўсё рознае святка-

валі гэтую цёплую дажджавую радасць росту і выспявання.

Прыгнаны дажджом пад прыстрэшак канюшні, дыхаў дажджом і вёскай. Ляскалі парасчыненыя вокны недабудаванай хаты, ахвотна макрэлі на прыпасе коні, пастух тырчэў, як бусел, на абшчыпку зарэчнага лугу.

Я туляўся між хмарамі, дажджамі, сонцам у гэтым прырэччы і быў амаль шчаслівы паўнатой нечакана далучанага да душы раскашавання лугу і быў босым вольным сынам зямлі без абавязкаў і прытулку. І паколькі былі са мной літ. знаўчыя кнігі, яны радніліся з зямлёй і светам, як гэтакія ж выпадковыя беспрытульнікі — свет іх расхінаўся ўшыркі, падыходзіў да рэчкі, лугу, збажыны, расады, канюшыны і галак, велічы старога парку, што надаваў урачыстасць усяму наваколлю і абяцаў злучыць сваёй даўнасцю тысячагоддзі. А потым наступіла пара сонца і нерухомасці. Можна сказаць, што сёння ў Сёмкаве была вечнасць, так паабкрадзеная апошнім часам мітуснёй і хуткаплыннасцю індустрыяльных змен.

Ішла новая навальнічнасць. І была ўпэўненасць, што шумець новым дажджам і грымотам, што ўсё будзе расці і свяжэць, што можна і заўтра знайсці шчаслівыя дачыненні з абрыдлым ужо светам.

А потым людзі выйшлі на двары і ў гароды, разгуляўся салавей, густа запахлі крапіва і лапухі.

Зноў — Блок:

Рожденные в года глухие
Пути не помнят своего.
Мы — дети страшных лет России —
Забыть не в силах ничего.

Испепеляющие годы!
Бездумья ль в вас, надежды ль весть?
От дней войны, от дней свободы —
Кровавый отсвет в лицах есть.

Мінулы тыдзень — артыкул з Гілем пра «Дзень паэзіі».

*2—3.VIII.*

Дажджы — і дробныя, і густыя, і зацяжныя, і кароткія, і цёплыя, і халодныя. 17°—22°. Хістанне ад сонечнага цяпла да прахалоды.

Пры ўзрыве атамнай бомбы над Нагасакі. Адзін

хлапчук нырнуў да ўзрыву, а вынырнуўшы ўбачыў усё панішчаным.

V з'езд пісьменнікаў. Прывітанне касманаўтаў — 29-га. А потым — паведамленне аб іх трагічнай гібелі (Дабравольскі, Волкаў, Пацаеў).

Даведаўся я пра гэта ў сярэдзіне дня, па дарозе на Камароўскі рынак, і стала жахліва сорамна за ўсё сваё дробязнае, а напачатку роспач і жах. Узрушэнне было агульным. Стральцоў на кавалках газеты ў скверыку напісаў: «Мужнасць». І, не губляючы таленту, сказаў (надрукавана ў «ЛіМе» другога): «Іх называлі сокаламі. Саколікамі назаве цяпер іх не адна маці». І яшчэ: «Іх няма. Сваім мудрым і трагічным лёсам яны кажуць нам: будзьце мужнымі!»

*6.X.*

Сёння ў Акадэміі навук размовы з Яскевічам, Андраюком, Ярошам, Мушынскім. Усе клічуць ісці туды працаваць. То як быць?

Ужо шмат разоў, калі выказваўся я па псіхалогіі сямейнага жыцця, мне казалі: «Адкуль ты ведаеш? Начытаўся?» Як быццам пра гэта начытаешся.

У Някрасава:

От ликующих, праздно болтающих
Обагряющих руки в крови,
Уведи меня в стан погибающих
За великое дело любви!

Адна з гераінь Дастаеўскага («Ідыёт»): «Я не о труде с презрением говорю, а о вас, когда вы о труде говорите».

*31.X.*

Сёння (нядзеля) — недарэчны выпадак, поўная бездапаможнасць. П'яны нацкаваў на Толю сабаку (баксёра? бульдога?). І зрабіць нічога не маглі — было двое здаравякоў з сабакам.

Пра X. Сёння захацелася напісаць некалі яго творчы партрэт. Сказаць усё добрае, а заадно: пра тое, што ідэалізуе сябе ў творах, няма самасуду, самаацэнак, пакутлівых шуканняў, стрыжнявой скіраванасці. Абавязкова напісаць. І адкуль у яго гэта раздражнёная злосць на крытыку?

*18.XI.*

У В. Сёмухі ў малога было спынілася сэрца — спазмы. Ён сам не ведае, як даўмеўся зрабіць штучнае дыханне.

*3.XII.*

Прайшоў конкурс у Акадэмію.

Ліст Я. М.

«Я адчуваю кантактнасць з Вашым паэтычным светам, душой і думкай спяшаюся за галоўным у Вас і не вельмі трымаюся за дакладнасць сваіх заўваг і ацэнак.

У Вас ёсць схільнасць да засяроджанасці і самапаглыблення, жаданне расхінуць мітусню, дробязі, не пусціць іх да душы, а будзённасць урываецца, тузае, замінае, распыляе. Вы палемізуеце з ёю сваімі вершамі (можа, не думаючы пра тую палеміку). Вы хацелі б (магчыма) палемізаваць з ёю і сваімі чалавечымі паводзінамі... ...Вы назвалі мяне крытыкам, але я чытач. За крытыку бяруся толькі таму, што крытыкаў не хапае, яны рэдка нараджаюцца і часта прадаюцца поспеху, кар'еры, выгодам...»

*27.XII.*

Усюды столькі цяжару, гора, а я разумею гэта толькі праз свой эгаізм.

# 1972



*23.I.*

Вось і дваццаць дзён адбыў у Акадэміі. Што зрабіў? Нічога. Нават прыватных маленькіх адкрыццяў — не. Сёння (нядзеля) і ўчора ачышчаў душу ад эгаізму.

Некрасов — матери:

> Великое чувство! Его до конца
> Мы живо в душе сохраняем,
> Мы любим сестру, и жену, и отца,
> Но в муках мы мать вспоминаем.

Да 10-га не было снегу, потым суровы і стойкі мароз, халадзела ў хаце. Цяпер маласнежная марознасць з цудоўным паветрам, прасветленым небам, прырода кліча да бадзёрай спартыўнасці. Людзі ў рассеянай засяроджанасці спажываюць усе гэтыя раскошы: лыжнікі затрамбавалі ўвесь навакольны снег, лёд кіпіць дзятвой.

Закончылася гісторыя з сабакам, якога нацкаваў нейкі тып. Збрыў бараду, пазнаць яго было цяжка, і я пакутаваў два дні. І ўсё ж — ён! Жыве блізка. І што яму? 30 рублёў штрафу.

З «ЛіМа» праводзілі добра, узялі на маё месца Веру Вярбу. Пакуль у акадэмічным будынку жыву бяздзейна і крыху сіратліва.

Свабода бескарыслівасці — мабыць, і для мяне яна недасяжная, хоць і не трэба мне пасад, узнагарод і ўсяго такога.

*30.I.*

Мароз, вецер і снег. Няўтульна і мрочна ў хаце. Недзе на ніжніх этажах гармонік даводзіць, што магчыма і весялейшае ўспрыняцце жыцця.

У Вялікім Свеце — В'етнам, падрыхтоўка Еўрапейскай нарады, працэс над Анджэлай Дэвіс.

Вымярзае пшаніца на Кубані.

Разважанне Талстога: «У каждого человека должен

быть свой врожденный стыд, и это прекрасно, что он закрывает одеждой все то, что не нужно, и оставляет открытым только то, в чем выражается духовное, т. е. лицо».

Творчы эгаізм, відаць, непазбыўны ў нас (у мне). Радасць сваёй творчай удачы, безумоўна, большая, чым радасць за іншых. Ды справа не ў мерцы: больш-менш, — а ў самой сутнасці ўспрыняцця.

Творчасць, як і адносіны да жанчыны, выдаюць нашу эгаістычнасць. Недзе ў 2-м класе (7 гадоў) я збіраўся напісаць заметку ў піянерскую газету пра тое, што ў нашым класе вучыцца на двойкі «Белка» (здаецца, нават мой таварыш па парце). Я пачынаў і кідаў, было незразумелае мне гідкае адчуванне — хацеў, каб была заметка з маім імем, і адчуваў нікчэмнасць гэтага стымулу.

Сярод рабочых загатовак Чэхава: «О пошлые женщины, как я вас ненавижу!»

Так, так. Але чым лепш пошлыя мужчыны.

*15.II.*

У «ЛіМе» — II артыкул Замскага «Жорсткасць», дзе апісана, як на Толю Урбановіч нацкаваў сабаку. Пра мяне: «стаў прасіць». Не мог чамусьці зразумець, што прасіць (калі твая правата) — прыніжэнне.

Схадзіў яшчэ раз на могілкі да Ігара і Сербантовіча. Цудоўны партрэт Сербантовіча і надпіс:

Тых, з кім дзеліцца неба сакрэтам,
Маладым забірае зямля.

*8.III.*

Быў на могілках. Схадзіў да ўсіх «сваіх». Плач — галашэнне ішоў за мною метраў сто ад могілак; а затым сустрэўся з вясёлай песняй радыёлы, і быў нейкі момант балючай раўнавагі.

У тэатры Купалы «Залатая карэта», слабы спектакль з рускім вымаўленнем, натужнае абмеркаванне.

Напісаў для «Немана» пра «Тартак».

*1.IV.*

Адбылася аварыя, абваліўся футлярны цэх Мінскага радыёзавода. Трывожна і горка было каля магіл загінуўшых — я тройчы хадзіў на могілкі.

Навокал распаўсюджваецца ржавая ілжа, буяе пры-

стасавальніцтва, угодніцтва і г. д. Не прыніжаць свае прынцыпы прыстасаванствам і адступніцтвам!

У «Полымя» напісаў пра нарысы Сіпакова. Зараз апошняе слова пра Сербантовіча.

З музея Купалы — Юрэвіч, каб выступіў і сказаў пра Куляшова.

*1.IV.*

Учора — больш за тры гадзіны размовы з Арк. Куляшовым у яго дома. Тыдзень раней я выступаў з «дакладам» пра яго ў Купалаўскім музеі. Патрапіў некалькі істотных момантаў.

Вольга Васільеўна Казлова, мой даўні універсітэцкі куратар. У сэрцы ўдзячнасць ёй (здаўна) за ўсё добрае, гаварыла мне добрыя сардэчныя словы.

Учора ж вечарам радыё і тэлебачанне паведамілі пра вынікі расследвання аварыі на радыёзаводзе. Праектныя парушэнні і тэхніка бяспекі.

Я. Брыль. «Сцежкі, дарогі, прастор» («Полымя», 3—70). «Веліч смутку і подзвігу».

«І дзве бярозы... такія, што ў нашых лясах, пры дарогах, такія, што гарэлі разам з хатамі, з людзьмі... Яны, бярозы, сказалі мне тут, здаецца, найбольш».

*24.IV.*

У суботу ноччу трапіў у Першамайскую міліцыю (хлопец біў на вуліцы дзяўчыну; потым высветлілася, што гэта яе муж; болей таго — сёння запісаліся; болей таго — біў і ўчора; а яна толькі выйшла з бальніцы — кесарава сячэнне). Была ў непрытомнасці, але ў міліцыі стала прасіць, каб адпусцілі яго. Адпусцілі. Было шкада гэтай непуцёвай дзяўчынёхі (сірата, працуе з шаснаццаці гадоў, была ўжо на лесараспрацоўках у Карэліі). Людзі, лёсы.

Нагледзеўся (крыху) чыста міліцэйскага. Старшына тыцнуў кулаком — такі сам мешкаваты, нягеглы — хлопец паляцеў як пёрка. Расказаў, як адзін пасля ўдару не вылазіў з-пад канапы.

*27.IV.*

Праблема: жаніцца ці не жаніцца? Стаіць роўны, трывалы, нязменны холад. Сталі зноў тапіць батарэі.

*1.V.*

Доўга гаварылі з N. Ён не прызнае «Тартак» і многае іншае. Яго шырыня — у нечым тая ж абмежаванасць.

Творчасць, вядома, заўсёды цягне мастацтва на эксперымент — гэта не толькі патрэба зместу, але і жаданне праверыць свае магчымасці; увесці ў лексікон новыя словы, апрабаваць новыя сітуацыі, пераставіць хады. ...Але ў канчатковым пошук павінен быць апраўданы, эксперымент — не адчувацца.

*5.V.*

Майскі вечар, калі неба лягло на шыбы і ваду, і здавалася, зямля люстрылася ў небе, ціхая спакойнасць ішла ў паветра і душы. Але душа не ведала ўжо маладога трымцення, а толькі памятала яго.

*19.V.*

Духотна, млосна. Пануе сонца, раскашуе трава, ніяк не збяруцца дажджы. На лёс Раскольнікава ўплывала тое, што лета было спякотнае, а пакой нагадваў дамавіну. Лёсы людзей вырашаюць і духата, дажджы, сонца...

Усе дні выклёўваем з Вярцінскім у яго дома дыялог аб паэзіі. Дыялог скончылі. Вярцінскі думае шырока, глядзіць у розныя бакі, попусту не чытае. Адчуванне грунтоўнай пісьменніцкай зацікаўленасці ў сэнсе быцця і яго праяў.

Любая сутнасць — дыялектычная, з палярнасцю, супрацьлегласцю адзінства. Вымысел і вернасць рэчаіснасці:

1) Мастацтва без вымыслу не існуе;

2) Не існуе мастацтва без вернасці рэчаіснасці.

*27.V.*

Перад смерцю Платон памыў сам сябе, каб другім не давялося. Трэба абмываць сябе кожны дзень. Мне здаецца, што я не вытрымаю новай восені — пустаты і сцюдзёнкі, а між тым і вясна ідзе наўскос.

Учора запрасілі мяне да А. К. і была з ім доўгая размова. Я чытаў яго новую рэч — «Варшаўскі шлях», напружаную і духоўную. Ён быў абураны, пакрыўджаны за артыкул у «Немане», дзе адмоўна ацэнены «Далёка да акіяна».

З вялікай ахвотай ва ўсім ідзе насустрач. Пісьмы, артыкулы, тэксты. Твардоўскі гаварыў, якія вершы напіша на яго смерць: лічыў, што К. — слабейшы і больш хваравіты. І вось — «пагаворым аб часе, аб Твардоўскім».

Паказаў два вершы Германава ў перакладзе Ніла Гілевіча («Полымя, № 5). І сапраўды былі чыстыя, добра гарманізаваныя, не выкручаныя вершы.

Гаварылі яшчэ пра яго ўменне **вязаць** і звязваць. Я яшчэ падумаў сёння пра гэтае яго ўменне вязаць, зводзіць у адзін клубок літ. тэмы; на яго некаторых рэчах ёсць халадок духоўнасці, але ўсё ж **зроблены яны натхненнем**, бо іначай іх зрабіць немагчыма. Дарэчы, і жыццёвую радасць браў ён як радасць духоўную, перпасныя ўражанні ў нешта больш агульнае.

А. В. даў мне добры ўрок сваімі пошукамі мудрасці, сваёй увагай да філасофіі, сацыялогіі — няспыннасцю і шырынёй гэтай увагі.

*5.VI.*

Размова з Пташнікавым па тэлефоне (пішу пасляслоўе да яго кнігі). Ён кажа, што часам нават плакаў над рэц-яй аб «Тартаку».

Два выхадныя — пустыя, як пасьянсы. Хаця быў на якую гадзіну і лес з яго нядзельным шматгалоссем...

Два малышэнкі, падышоўшы да маёй посцілкі, разважалі між сабою: — Што гэта ў яго — дзве каўдры-ны. — Не, у яго знізу кляёнка, а на ёй — адзеяла, бо ён пісаецца...

Чытанне Байрана — Дон-Жуан, уражанне свежае і лёгкае, а калісьці — як не было!

У артыкуле «Отношение к Байрону» Гётэ ўсведамляў, што «о столь редкой жизни и поэзии во всей их эксцентричности» нельга судзіць меркамі мінулых часоў, т. ш. у мінулым не было нічога падобнага.

*13.VI.*

Учора паехаў днём у «ЛіМ», а там прыйшоў у «Полымя» А. К... І паклікаў у рэстаран (Крук, Вера Вярба, я). Потым у яго дома маленькай чарачкай я наканьячыўся і ноч ледзьве спаў. Прасынаўся ад крыку, закрыў балкон; потым здавалася, што прыставілі мне фінку і не даюць варухнуцца. Глушыў седуксен...

К. вельмі гарманічны і ў сваіх паводзінах: стрыма-

насць і азарт, разумнасць і эмацыянальныя «захлесты».

Казаў, што на паэзію (па Бялінскаму) патрэбен талент: можна быць вельмі разумным і не разумець паэзію.

Не піша прозу, маўляў, таму, што не мае памяці на дэталі. У яго дэталі эмацыянальныя, прыходзяць у галаву знянацку. А вось Твардоўскі мог бы (прывёў прыклад з «Краіны Муравіі» пра самавар).

*25.VI.*

Такая ўзроставая пара — і без сталасці, без прытулку, без узаемнага кахання, без сцверджанай уласным характарам і паслядоўнымі паводзінамі чал. праўды. Пішу ў лесе, думаю пра купалаўскі верш «У лесе», вяду рахункі сваім марудным і рэдкім духоўным парыванням.

21-га зноў быў у Арк. Алякс-ча Куляшова. Гаварылі аб сумленнасці, аб «благім» у паэце (наводзіў я). Зноў ён аб паэме — наўрад ці магчымы чысты эпас (калі магчымы — то аб вайне).

Аб Твардоўскім: няма характараў у паэмах «Василий Теркин» і «За далью — даль». Аб тым, што ён у душу не пускаў і бываў бязлітасны. (— У чым? — у праўдзе!)

*27.VI.*

За шклом — жывы і рэальны свет, з радасцямі і смуткам і большай істотнасцю, чым сваё. Любое атрыманне выгод, паляпшэнне ўласнага дабрабыту — пры любой ступені гуманістычнасці і болю за тое, што іншым людзям горш, — усё ж (хоць падсвядома) і ганебна ўзвышае цябе над людзьмі, дае адчуванне нейкай перавагі, большай уласнай значнасці. Гэта, мабыць, абсалютны закон, як бы мы з сабою не змагаліся.

*30.VIII.*

Сёння ў калідоры выд-ва ў Доме друку сустрэў Міколу Л. Кароткая размова, гаворыць, што цяжка хворы. Працуе ў Оршы, у школе № 7 (атрымаў вымову за вечар удзельнікаў Аршанскага семінара). Між іншым сказаў, што ў Аляхновічах дзве нейкія дзяўчыны заступіліся за мяне перад хлопцам, які бэсціў. Хто тыя дзяўчаты? Я сказаў, што правы і тыя, хто гаворыць пра нас благое, а зараз усё думаецца аб сваім благім. Перад новай даро-

гай у сталасць востра думаецца пра свой эгаізм, пра ўсё горшае, што ведаю ў сабе, але не зжыў, што нават яшчэ больш развілося.

*6.IX.*

Першы дзень работы. Увесь час неяк мала па-густому думаў, шмат часу ішло на сямейныя трывогі і іншую бесталковіцу.

Памалу тое-сёе праклюнулася, верш С. Гаўрусёва «Я вырас пад гарматнымі стваламі» (супадзенне настрою і вопыту). Біяграфічны абсяг, пэўная маштабнасць абагульнення і ўсвядомленасць яго, шырокі і вольны сінтэз асабістага і агульнага; значэнне верша не толькі для пакалення, але і для ўсіх; нявыказаная думка аб адказнасці, непрамыя, душэўна-лірычныя формулы жыццялюбства, складаны рух перажыванняў; рэцэнзія Бярозкіна; псіхалогія і адчуванне новага пакалення: яго трудны і складаны вопыт; радасць і паўната, і ўсведамленне перажытага; ёсць яшчэ прыўзнятасць, рамантычная размашыстасць вобразаў.

Я і сёння паўтарыў бы яго, і калі б мог — напісаў бы так, сказаў бы тое ж; можа, таму, што ён знайшоў мне іменна гэта.

І ўжо калі так, то хочацца сказаць пра лепшае ў Гаўрусёва, пра яго здольнасць яднаць тонкае і трапяткое перажыванне з пачуццём маштабным і значным, надаць зместу выразную ідэйную істотнасць, шукаць для лірычнай з'явы такія вымярэнні, якія б выразна паказвалі яе надзённасць і агульначалавечае значэнне; ён часам трапіць меру, калі перакazвае гэта сваё жаданне ў знешні пафас, у вонкавую маштабнасць, затое, калі ён бывае праніклівым, дакладным, — яму даецца слова, душэўна пранізлівае, гармонія падначальваецца і нараджаецца тая паэзія, аблічча і змест якой маюць душэўную шматмернасць, глыбокую ўнутраную перспектыву. (Сінь юначага, дэталі, якія былі, адухаўляла сімволіка.)

**Сымон Блатун.** Загаловак будзе — «На перасмяглай ноце». Напішу, мабыць, пра нізку, якую ён прынёс аднойчы ў «ЛіМ» для нас з Міколам. Яе этапнасць. Яе біяграфічны змест, яе актыўную душэўнасць, той яе эстэтычны момант, які нідзе як быццам не вылучыш са зместу, але які адчуваеш і не можаш не адчуць пры суперажыванні — лірычную ўсхваляванасць паэта, багатую

многімі адценнямі: немалая доля гаркоты і суму, хваля чалавечай спагаднасці, **адчуванне творчай перамены і душэўнага палёту, прынесеных гэтай хваляй, і радаснае адчуванне душэўнай паўнаты і змястоўнасці сваёй усхваляванасці, унутраны рух да шырэйшых душэўных абсягаў**, да народнага, агульнага; далучэнне да вытокаў, адчуванне (можа быць) сваёй душэўнай перамогі над будзённым і дробным, выпадковым, яшчэ, на жаль, замнога благога для таленту, здароўя і душэўнага самаадчування паэта. І прыліў сіл, які **абяцаў нешта большае**, чым толькі гэту прыватную ўдачу, а меўся стаць новым этапам, калі сталасць дае выразную меру адчування сваіх творчых магчымасцей і свядомую творчую скіраванасць; цэльнасць і акрэсленасць творчых намераў.

Цуд роднай л-ры тварыўся так — у духу нацыянальнай міфатворчасці, дзе ўсё надзвычай простае і свойскае, роднае з саламянай страхой і не вельмі ўрадлівым шнуром сялянскага поля і дзе ўсё — легенда. Стаіць і глядзіць добрымі вачыма Цётка — асветніца, бунтарка, патрыётка; сумна думае думу Багушэвіч; цяжка дыхае змучаны трагічным лёсам Багрым; як Страцім-лебедзь, развінаюць крылы Багдановіч, Купала і Колас.

*20.XII.*

«Раскіданае гняздо» ў пастаноўцы Луцэнкі. Спектакль уражвае, але як літаратурна-музычная кампазіцыя. Яе сцэнічнае дзеянне пачынаецца трагедыйнай патэтыкай, сімвалічна-алегарычным стылем. Цяжка сказаць, ці можа быць ажыццёўлена вялікая пастаноўка гэтай драмы. В. А. Каваленка, па-мойму, пераацэньвае яе, узносіць надта высока. Сумняваюся, ці доўга працрымаецца ў рэпертуары.

Спрабаваў піць праполіс.

Нацэльваюся на верш Куляшова «Сноп апошні залатога жыта...».

Марына Мікітаўна Барсток заўсёды расказвае, што напісана, дзе надрукавалася — добра, шчыра, не без самалюбства. Хто ў яе ёсць на свеце, чым яна жыве ў хатнім коле? Як мала мы ведаем... У яе ёсць і душэўны талент, і ясная шчырасць, і настраёвасць, і дасціпнасць — не абы сабе якія вершы...

**Дзіўны, добры і цікавы чалавек Генадзь Шэршань.**

*28.XII.*

Распісаны віншаванні, адпраўлены лісты і скончаны год з вельмі няпэўным балансам.

Кватэру не далі — аддалі Скрыгану.

Сёння ў нашым кабінеце спрэчкі вакол «Сотнікава». Аргументацыя Чыгрына, Шпакоўскага і ў нейкай ступені Віктара Антонавіча ў дачыненні да Рыбака — вытлумачальна-апраўдальная.

# 1973



*4.I.*

Трывожна перажытае адчуванне некалькіх катастроф. Купляю «недвижимость» у Л. — чалавека, як відаць, з моцнай хваткай і ўпартасцю.

У Андраюка пасля прыёму ў Саюз быў Быкаў. Вялікі гонар. Божа, колькі трэба зрабіць, каб вось так пагаварыць з ім па шчырасці.

Адзіны чалавек, які мог быць у творчай і іншай дружбе, — пайшоў у начальства... Людзі, не створаныя для кіравання (хоць маглі б) — Хадановіч, Блатун, Гаўрусёў, Свірка.

Шумела сёння В. Г., што ёй у «Немане» замест артыкула даюць рэцэнзію на Вярбу, што яна забярэ, аддасць у «Полымя», што ў Маскве ахвотна надрукавалі б... Што маглі б прытрымаць Адамовіча...

*5.I.*

Навучыцца жыць без пустой балбатні. Не навучыўся.

*10.I.*

Акно расчынена ў вялікі дом з яго шматаконным жыццём і ледзь прыснежаным падворкам, у кавалак шэрага неба і непрытульнай зямлі, у выпадковасці дарожнай каўзаніны, а між тым — працуецца.

Учора перабіраў карткі і зноў убачыў дакорлівы позірк Н. А.

Нясветлая, нячуйная, безадказная адзінота — ох, як многа яе. І якая гэта праверка. Не трэба істэрычнасці, не трэба бязволля. Трэба пераводзіць яе ў чуйнасць і праўду, у пазнаванне і разгон.

Характэрны штрых: столькі ў жыцці пазычаў розным людзям грошай (і колькі не аддавалі), а вось спатрэбі-

лася самому — ніхто не даў. Праўда, Ч. сказаў, што, калі не знайду, дасць. Давялося ўступаць у касу ўзаемадапамогі.

Вярнуць назад былое — здаецца, перамог бы зараз усе выпадкі неўзаемнасці, але ж і сам быў няўхільны, калі адмовіўся ад сціплай надзейнасці В., ад самазабвейнай адданасці Л., ад пяшчотнасці і веры М. У думках трымаецца Г., хаця яе ніколі не было ў планах.

Думка аб тым, як драматычна, жорстка, несправядліва складваюцца адносіны людзей, якія пастаянна раняць, крыўдзяць, крывяць адзін другога ў вайне і міры, у любоўных сустрэчах, у побыце, у пагоні за хлебам надзённым ці выгадай.

К. Камейша («Полымя», 1971, № 1):

Верабей пагрэецца ў следзе
Цёплага чужога капыта.

Добра, толькі ці дакладна.

«Против супружеской неверности, как против смерти, нет никаких средств» (Ф. Энгельс, т. 21, с. 73).

А. Маруа. «Из писем незнакомки» («ИЛ», 1974, № 1, с. 116):

«Мужчина ищет в любви мира, а не войны. Счастливы женщины нежные, ласковые. Ничто так не раздражает мужчину, как агрессивная женщина». Але ж у яго пры гэтым: «Мало принимать людей такими, каковы они есть, но хотеть их такими — вот истинная любовь...»

*17.I.*

Хадзіў я ў панядзелак, 15-га, у Саюз, а там гаварылі пра кватэру з Грачанікавым і Мележам. Абяцалі падтрымку. З Іванам Паўлавічам — прыемны тон, добрая зычлівасць, яго ўменне без дыстанцыі і бюракратычнасці пагаварыць і паабяцаць. Паглядзім, як жа збудзецца абяцанне.

Сёння ўспомнілася, як у 68-м г. узнагародзілі да Юбілею рэспублікі групу пісьменнікаў. Сярод іх — грамата — Чыгрынава. Прыйшла ў рэдакцыю Е. Лось. Хадзіць, і скардзіцца, і злуе: — як там гэтыя граматы даюць. Чым гэта так вызначыўся Чыгрынаў, што яму далі, а мне дык не.

Бярозкін узяўся суцяшаць: — ці варта перажываць, што там ужо ўсе гэтыя граматы. Вот былі юбілеі Скрыпкі і (яшчэ некага). Ім далі граматы, а мне — не. Яна не

слухала (ды і асаблівай несправядлівасці ў ягоным выпадку не бачыла).

У 71-м г. летам узнагародзілі і Лось. Зайшла ў рэдакцыю. Я павіншаваў. Яна: — Дзякуй. А вот жа свае таварышы дык і не парадуюцца за мяне.

Адсюль зачапілася думка, як істотна стала для ўсіх: дзе пахваляць, каб паміналі, каб далі партрэт і г. д. У артыкулах і рэцэнзіях цікавяцца не сутнасцю доказаў, а чыста прэстыжнымі меркаваннямі.

Як добра, што купіў некалі летам кнігу Николая Рубцова «Сосен шум». Вось адтуль «Зеленые цветы»:

Светлеет грусть, когда цветут цветы,
Когда брожу я многоцветным лугом
Один или с хорошим давним другом,
Который сам не терпит суеты.

За нами шум и пыльные хвосты —
Все улеглось! Одно осталось ясно —
Что мир устроен грозно и прекрасно,
Что легче там, где поле и цветы.

Остановившись в медленном пути,
Смотрю, как день, играя, расцветает.
Но даже здесь... чего-то не хватает...
Недостает того, что не найти...

Пашарпаная кніжка — прынёс Вік. з воінскай бібліятэкі: Виктор Финк. Иностранный легион. Судьба Анри Ламбера. І што ж — настолькі цікава, што раззлаваўся на цёмнае сваё няведанне. Ёсць у «Иностр. легионе» некалькі навел, што сказаць, не адмовіўся б і Быкаў: «Живой немец» і інш.

Сёння — 30 гадоў з дня прарыву блакады Ленінграда. Блакада — тое, пра што найбольш часта думаецца.

Барацьба амбіцый урасла ў жыццё і літаратуру і нават стала літаратурай. «На преуспевающих почти всегда печать снисходительности» — колькі разоў бачыў я гэта і ўлоўліваў. І не то што там, напрыклад, Х, а нават, скажам У ці Z — і то.

Часопісна-кніжны навал, перад якім разгубіцца павінна старасць.

*26.I.*

Спяшацца і пісаць. Толькі як пішаш, разумнееш трывала, ва ўсім астатнім прачытанае рассейваецца.

Тютчев:

Когда сочувственно на наше слово
Одна душа отозвалась —
Не нужно нам возмездия иного,
Довольно с нас, довольно с нас...

*29.I.*

Сёння — на рэдакцыі «Дня паэзіі» (Лось, Агняцвет, Спрынчан, Панчанка і я). Панчанка — свежы, чысты, даволі вясёлы, удумна прысутны на гэтым, шмат гаварыў і раіў.

А так — дзень няскладны.

*31.I.*

Чытаў: за ўсю другую сусветную вайну на тэрыторыю ЗША трапіла толькі адна бомба: японцы падвязалі яе да паветранага шара і з падарожным ветрам адправілі праз Ціхі акіян. Гэта бомба, даляцеўшы да ЗША, упала ў штаце Арэгон і забіла 6 чалавек.

*23.III.*

Дырэктарам інстытута стаў ужо І. Я. Навуменка. Учора выходзілі з В. В. Барысенкам, і ён, замаркочаны, сказаў: «У вас ужо новы дырэктар». І гаворка была ўжо нейкая элегічная, і гаварыў ён як нясмела. Было пасяджэнне рэдкалегіі «ДП». Самы ўнікліва быў Панчанка, уражанне ад яго чуйнасці да вершаў вялікае. Лавіў на слых самае істотнае (нават у накатным чытанні Спрынчана).

Учора ў нас Р. Я пазнаў яго не столькі па голасу, як па тым, што гаварыў увесь час ён адзін і не было чуваць маці.

«За те годы, Л. Л., что мы не в Прилуках, это наша первая просьба». (Зрабіць водзыў на рэферат жанчыны з Данецка.)

Брыль: «Хачу спяваць пра ўсё, але пра тое ўсё, чаму належыць будучыня».

«Праўда заўсёды была і будзе самым сучасным і неабходным».

Рудакі.

Меня не любишь, а моей любви ты ждешь
Ты ищешь правды, а сама ты — ложь.

*30.V.*

Нічога не можа быць так сабе, несур'ёзным. Колькі ні заракаўся не браць да сэрца розныя жыццёвыя акалічнасці — усё ўваходзіла ў душу з самай цяжкай сур'ёзнасцю.

І размова аб тым, што дачка любіць бацьку таму, што той ёй усё купляе.

— А што, хіба любоў купіш?

— Да, все продается и покупается.

Быццам і яна куплена, а вось толькі мала заплочана.

Сёння напісаў у выд-ва «Народная асвета» заяву на кніжку пра Пімена Панчанку.

На в. Астроўскага свой, быццам умураваны, жыццёвы свет: там і рахманая, памяркоўная і добрая, Анна Іванаўна, драпежная птушка, кіпцюрыстая В. — уся ў камерцыі... Як дзялілі кухню, каб паставіць газ.

Кароткі наплыў мінулага. Мне гадоў з восем (меней?). Я кволы, малы, але ўжо з дастатковым унутраным гонарам, безабароннай духоўнай самастойнасцю. У Астрашыцкім Гарадку на правулку да лазні звялі мяне большыя (не раз было) з некім біцца. Было крыўдна, што звялі, абразілі, што я пабіты. Я кінуў абутак, пакрыпаў расплаканы і босы па халодным чырвоным пяску, які мяне яшчэ больш раскрыўдзіў.

А потым — лупцоўка дома і — хвароба, на доўгі час — запаленне лёгкіх. Праваліваюся ў невядомасць, раз за разам выплываю адтуль. Ні школы, ні вучобы. Прыязджае дзед — фігура для мяне міфічна магутная. Ставіць дыягназ — крупознае запаленне лёгкіх. Лечыць.

У восьмым класе выпадкова на рэнтгене выявілі ачагі, а столькі часу я валачыў за сабой тэмпературу і вяласць.

*5.VI.*

Самае істотнае ў леце — вось гэтая чэрвеньская цяплынь з сонцам, з адкрытай жаночай прыгажосцю. Усё гэта нахлынае і прамільгвае, як уздых, ідзе шырока, прабіваецца нават праз стомленасць і недасып. Учора вечарам прабіліся і лісты Н. А. — як чыста гаварыла яна са мною і як шмат абяцала... Я ж выбраў свой, касматы і недарэчны шлях...

*7.VI.*

Катастрофу ТУ-144 назіралі 300 тыс. французаў. Выказваюцца меркаванні, што лётчык Казлоў ахвяраваў жыццём, каб не рабіць пасадкі на гледачоў.

Як промельк: як быў я аспірантам, жыў у нашым пакоі (на сесіях) дзіўны завочнік, лесаруб аднекуль з-пад Смаленска — Аркаша. Згубілася прозвішча, рассеяліся падрабязнасці, а гэтакі каларытны быў чалавек. Жыве ўжо не ён, а толькі воблака памяці з нейкім халодным замгленнем. Юродзівы, упарты — а вось ішоў у навуку, насуперак усім відавочным адхіленням. І яшчэ ўнутраны дакор: я падражніваў яго, быццам вымацваючы, дакуль яны, межы яго цярпення і дзівацкай прагнасці.

І каханне і не каханне, а толькі нешта-нейкае, супутнае хваляванню і неабыякавасці, для мяне — даўкая ўсепранімальная трывога, яна ўсё жывое зносіць, нішчыць; застаюцца толькі адзінота і стогн.

*9.VI.*

Я зрабіў рэзкі скачок пасля хваробы: выраслі, узмацнелі не розум і здольнасці, ■ душа. Я трымаў яе ў дастатковай чуйнасці і жывым кантакце з светам.

І вось цяпер, ззгаслы і затуманены, знайду новае святло, а што ўжо толькі не адыходзіла ў прошласць.

Ці ўспамінае мяне Г.? Як, з кім, чаму? Не дано ведаць у гэтым свеце душэўных законаў. І Дастаеўскі прапаноўваў таксама толькі версіі, хай сабе геніяльныя. І Талстой геніяльна раскрываў і тлумачыў толькі зразумелае, а ўсё астатняе — наўздагад, вобмацкам.

*11.VI.*

Горкая яснасць. У доме ўсё ідзе сваім шляхам, хоць разбіся я ўшчэнт. Такая залежнасць прыніжае, і, хто ведае, якія будуць яе маральныя вынікі. Галоўнае — я звязаны сваёй дабрачыннасцю...

Быць высакародным! Быць заўсёды высакародным. З жанчынамі мы бываем абыходлівымі, а высакароднымі каб жа.

Быць высакародным тады, калі гэта за кошт тваіх інтарэсаў, а так — якая ж высакароднасць!

*28.VI.*

Сёння падзея — вершы Алега Чухонцава ў «Дружбе народов», 4—73. Раскаванасць і дакладнасць душэўных

рухаў, упэўнены і напружаны псіхалагізм, сур'ёзнасць, значнасць і строгасць выказвання, глыбіня і т. д. Мабыць, выдатнейшае з усяго, што ішло ад маладых апошнім часам.

...А в эти дни горели за Шатурой
Болота и стояла мгла в Москве.
И скрип травы, иссохшейся и бурой,
Был жесток при неслышимой листве.

А со степей казахских и сибирских
Ползла беда, как пламя по стерне.
Душа болела о родных и близких,
О матери я думал, о жене.

Нет, не любовью, видно, а бедою
Выстрадываем мы свое родство.
А уж потом любовью, но другою:
Худа недоля, да родней всего...

У букварь Сімяона Полацкага:

Розга ум острит, память возбуждает
И волю злую к благу прилагает.

*29.VI.*

На пасяджэнні рэдкалегіі «Дня паэзіі» Панчанка — усмешлівы, лаканічны, мудры. Усе, само сабой, чакаюць яго ацэнкі і рашэння. Пра X і У: канкрэтная рыторыка.

— Дык што выбраць?

— Выцягніце наўздагад.

Звяртаючыся да мяне. — У нас дзіцяці гавораць: «Дзевачка, не хадзі каля дзвярэй, там скразняк». — «А я, мамачка, спіной прайду». — Вось так і мы з нашым «Днём паэзіі» — спіной да паэзіі».

•

*15.VII. Нарач.*

Сустрэўся недзе каля 12.VII. з Арк. Ал. Куляшовым. Гаварылі з гадзіну. Расказваў, як пісаў «Маналог» і «Варшаўскі шлях». Пра Ал. Т-га: «Здаецца, гатоў пісаць, але яшчэ біялагічна арганізм не саспеў, быццам нейкіх солей не хапае».

У «Правде» гэтымі днямі паведамленне пра мемарыяльны комплекс на месцы Дальвы. Не аддзяліць ад нашага лёсу загінуўшых і памёршых.

Учора вечарам кароткая размова з В. А. Каваленкам — вельмі сімпатычным чалавекам і крытыкам на нашым небасхіле.

А. Пысін («Полымя», № 10—72, с. 97):

Хоць сэрца хтось лічыў жывым,
Быў дух мярцвячыны ў ім:
Жыло сумленне, ды яно
Забіта ў сэрцы тым даўно —
Забіта сытасцю,
Забіта хітрасцю,
Забіта сквапнасцю,
Забіта святасцю,
Забіта хіжасцю
І іншай пышасцю...

Толькі і клёку, што язык у завушшу ходзіць.
Цыць-мыць, і няма чаго гаварыць.

Рене Шар (из совр. фр. поэзии):
Согласие озаряет лицо. Непримиримость придает ему красоту.
Поэт — хранитель бесчисленных лиц.
Слезам не укажешь дорогу, как заезжему страннику.

Существует порода людей, вечно опережающих собственные экскременты.

*15.VIII.*
Гесиод:

Лучше хорошей жены ничего не бывает на свете,
Но ничего не бывает ужасней жены нехорошей.

*17.VIII.*
...На стадыёне каля Палаца спорту. Ціхі вей вечара аж да ламоцця ў плячах. Спакойнае суладдзе нябеснага і зямнога, а я — з думкамі, са свежым уражаннем ад пісьмаў Дастаеўскага. Учарашняя эсейная думка: напісаць артыкул «Хачу быць паэтам». Я ў тым, што пішу, губляю множнасць і шматварыянтнасць свету, бо таўкуся на мною абагуленых формулах. Трэба больш навізны хадоў.

Нечаканасць не злятае з нябёсаў (свежанькая, нявыверанная), а вымучваецца — у яе ўжо не тое. Думка не адгаліноўваецца ў нейкія вертыкалі, яна ўжо тады не думка, а канстатацыя, пераказ, лірычная вада. Ёй не стае глабальных ведаў і шырокіх адкрыццяў...

У Агарова ёсць шмат такога, што мае сучасную ці-

кавасць; бляск дасканаласці. Дастаеўскі паўтараў яго вершы:

Я в. старой Библии гадал
И только жаждал и мечтал,
Чтоб вышли мне по воле рока —
И жизнь, и скорбь, и смерть пророка.

*29.VIII.*

Учора ў Каралішчавічах, куды ездзіў да Майі Львовіч. Дагнаў Брыль на таксі, так і перабылі з Іванам Антонавічам палову дня. Незаўважна бралася на ўсё лепшую пагоду, і ішла размова, якая, спадзяюся, застанецца ў памяці.

У газетах новая хваля паведамленняў пра Салжаніцына, Сахарава.

Николай Крючков у «ЛР», 10.VIII.73 («Жить на своей улице»): «Помню, еще в тридцатые годы мне рассказывали, как Михаил Александрович Шолохов получил от очень авторитетного лица пожелание: «Жаль, что ваш Григорий Мелехов так и не пришел окончательно к нам, в Красную Армию». Шолохов подумал-подумал и ответил: «Посылал Мелехова в Красную Армию. Не идет».

Расул Гамзатов. «Мой возраст»:

Не все из смертных старятся, поверьте.
Коль человек поэт, то у него
Меж датами рождения и смерти
Нет, кроме молодости, ничего.

*30.VIII.*

У газетах зноў новая хваля паведамленняў пра Салжаніцына і Сахарава.

Засмыленне сіл успрыняцця.

Письмо членов Академии наук СССР:

«...А. Д. Сахаров фактически стал орудием враждебной пропаганды против Сов. Союза и других социалистических стран».

*31.VIII.*

«Известия» — «На судебном процессе в Москве»: «На процессе в Московском городском суде, где слушается дело по обвинению П. И. Якира и В. А. Красина, закончился допрос подсудимых и продолжаются показания свидетелей.

...Выступивший на процессе в качестве свидетеля вид-

ный психиатр действ. член Ак. медиц. наук СССР А. В. Снежневский заявил, что за пятьдесят лет работы в сов. здравоохранении он не знает случая, когда бы здоровый человек попал в психиатрическую больницу». А я знаю.

Вадим Кожевников. «Кому вы служите?»:

«...Сахаров и Солженицын взяли на себя право указывать другим, какой должна быть политическая система.

За всем этим я вижу истощение научной и творческой силы, геростратовское желание сжечь священное чувство Родины, стяжать себе зловонную славу. Иначе — зачем все это?» А я этого не вижу.

Пімен Панчанка:

Абагачальныя фабрыкі
Патрэбны не толькі рудзе.
Абагачальныя фарбы
Патрэбны мастацкай нудзе.

Самі сябе падправім,
Каб кожны быў свецел і дуж.
Тады заваюем права
На ўзбагачэнне душ.

*10.IX.*

Былі ў Кудраўцоў на наваселлі... Быў Анатоль вельмі нейкі свойскі, прыгожы гэтай свойскасцю.

*13.IX.*

Сальвадор Альендэ, прэзідэнт Чылі, забіты. Уладу забрала хунта. А перад гэтым за дзень-два паказвалі чылійскіх дзяцей, што прыехалі вучыцца ў Маскву.

*21.IX.*

Бескватэр'ем можна знявечыць.

Жыву жахліва ва ўсіх адносінах. Штосьці істотнае з дня ў дзень растрачваецца, быццам мозг аддзяліўся ад сэрца. Пад ногі бяжыць жыццёвая плынь, аглядаешся па баках, здаецца, усе вяслуюць; нібыта і сам трымаеш вясло, але гэта толькі бачнасць. Наўкол ледзь не ўсе скубуць — хто якія — выгады.

М. Луконин:

Безумная затея нами движет:
Чтоб каждую строку прожить собой
И самому еще при этом выжить.

*25.IX.*

Сёння ў газетах паведамленне аб смерці Пабла Нэруды.

Умирал я со всеми, кто умер,
Поэтому я и выжил,
Упорный в летописанье,
В своей нерушимой надежде.
Смертный среди смертных,
Я уверенно предрекаю:
Несмотря ни на что,
несмотря
На представление света —
Человек
бесконечен!

Быў справаздачны сход. Мяне вылучалі на гал. рэдактара, і дырэктар інстытута сказаў: «Трэба каго больш салідната». Хоць дужа не хацеў я — калі тут быць рэдактарам, але ж нешта кальнула: дажыў да 34-х гадоў, а ўсё несалідны, нават для насценгазеты. ... Паміж прымітыўчыкамі Франсуазы Саган («Немного солнца в холодной воде») сентэнцыі мярзотнікаў: «Когда чувствуешь себя умным, предателем себя не чувствуешь»; «Любовь к людям делает человека благородным, а любовь к деньгам — богатым».

*27.IX.*

На пахаванні Пабла Нэруды спявалі «Інтэрнацыянал».

*11.X.*

Было (і яшчэ не зусім скончылася) вялікае хараство восені, і яно яшчэ ўчора шапацела мне сухім і свежым барвовым лісцем у прыазёрным парку; у нейкім загусцелым празрыста-блакітным паветры была радасная самота, міма бегалі (фіззаняткі) чародкі школьнікаў, і гэтае «міма-міма» мела сімвалічную значнасць, душа ўздымалася ад кнігі пра Блока да верхавінаў дрэў, і хацелася самому пабегчы міма, каб згубіць, згубіцца, растрэсці стому даросласці і кніжнасці ў самых простых і наіўных радасцях «звычайнага» існавання.

Сімпозіум перакладчыкаў з беларускай. З дакладамі — Арочка і Андраюк. Як хлопцы налаўчыліся гаварыць — разумна, адукавана, свабодна.

*12.X.*

Я звярнуў увагу, што ў вершах, прысвечаных Чылі, шаноўныя нашы паэты (нават Куляшоў) дужа пераацэньваюць магчымасці паэзіі — гэта асабліва відно перад рэальнасцю фактаў. На сённяшні дзень паэзія не можа спыніць арыштаў, забойстваў і г. д. Такое — не першы раз. Сёння ў «Звяздзе» Бураўкін:

А над зямлёй і пад зямлёю Чылі
Няруды песня гнеўная гучыць.
Навек з жыццём паэта разлучылі,
Ды з песняю жыццё не разлучыць.

*13.X.*

«Этос — привлекательность духовная, этическая (в отличие от эроса)».

И. Мечников, «Этюды оптимизма» (с. 245);

«Любовь возбуждает певца и поэта, и поэтический гений, несомненно, тесно связан с половым чувством».

Саша Черный:

Как наполненные ведра,
Растопыренные бюсты
Проплывают без конца —
И опять зады и бедра...
Но над ними — будь им пусто! —
Ни единого лица!

Вычытаў: сланы баяцца шчыкоткі.

*17.X.*

Учора ў «Маладосці» чытаў карэктуру («З вечнай прагаю ў вачах...»). Быў Грачанікаў. Расказваў, як Ж. прачытаў яго вершы і сказаў: «Пара б навучыцца нашым маладым кіраўнікам пісаць партыйныя вершы». N беспардонна захвальвае кнігу артыкулаў NN. Ганебнае ўгодніцтва.

*26.X.*

Учарашні (на вул. Каліноўскага) промільк думкі пра хату — як важна ў дзяцінстве застацца ў ёй аднаму. Пераглядзець усе куткі, адчуць нейкую таямнічасць усяго яе жыцця, прыслухацца, прыгледзецца — быццам разабраць цацку, будзільнік (колькі я меў некалі ад мамы непрыемнасцей за будзільнік).

За дзень учора зрабіў, можа, больш як за месяц.

# 1974

*9.1.*

Ва ўчарашніх газетах — зноў пра Салжаніцына: «выдаў на Захадзе свой новы антысавецкі пасквіль «Архіпелаг Гулаг...».

Кароткі паход у лес. Шэрае змаганне цемнаты і белі, яловыя шышкі на снезе. Дзень спакваля большае.

У апошнім «ЛіМе» былі санеты Валасевіча. Радок «Хтось піў віно, хтось цалаваў жанчыну» Ж. нібыта паправіў: «Хтось сталь варыў, хтось выпускаў машыну».

*15.1.*

Зноў цяжкая бяссонная ноч. А. З. канфліктуе і канфліктуе з-за бяссонніцы. Апошнія суткі халадоў, і мароз раніцою заказытваў да спіны і каленак.

Аляксей Пысін:

Добраму вучыла ты, дабро,
Як жа ведаць, хто перад табою:
Сапраўды баліць яму альбо
Стогне, каб не ўчуць чужога болю.

*24.1.*

Прабег думкай у паэзію вайны. Усякі фармальны пошук адыходзіў на задні план, перад непасрэднай эмоцыяй, з тым часам як ніколі працвітала ўмоўнасць. Праўда, вырашчаная на традыцыі, але ж найбольш і праходзіла выпрабоўку ўсё традыцыйнае, спрадвечнае.

Гарачым словам піша мне ў пісьме Толя Псікаў: «Мне кажацца, што шмат я ўпусціў у жыцці. Цяпер ужо і кірунак ці возьмеш патрэбны, ці надарыцца калі скрозь нясвойскія, але патрэбныя намаганні прама глянуць на сонца». І яго ж вершы:

Забудка — страта.
Няўжо і ліха мала.
Ой, каб толькі згубіў,
Надзея б не прапала...

І згублена — як страчана,
Цяжэй цяпер знайсці,
І ношка ямчэй ускладзена,
А гне так да зямлі.

Трапная заўвага ўсё таго ж Толі Псікава: лімаўская, дыскусійная рубрыка «зовет бойцов совсем не тех».

Апавяданні Кудраўца. Асабліва «Мікола вярнуўся», дзе ўсё — з выдатнейшым майстэрствам, самай чыстай дакладнасцю, у кожным — мастацкая нечаканасць, а затым: гэта толькі так; усё чыста падмецена — хоць без якой лішняй парушынкі; шматзначны рознаплынны дыялог. І канцоўка: «Не-е-е, браце, што ні кажы, жыццё, — як харошая жонка: яно праўду любіць, ой любіць».

*21.II.*

Даводзіцца саступіць В. І. Гапавай кнігу пра Панчанку. А так шкада! Усё-такі хацелася яе напісаць.

Вельмі цяжка выхоўваць Сяргея. Асабліва кепская сістэма бабіных патачак, матчынай непаслядоўнасці.

*27.II.*

Учора ў Саюзе — справаздача «ЛіМа». Даклад Жычкі — «ЛіМ» на пярэднім краі літаратуры». Потым даклад Гардзіцкага, шмат сур'ёзных заўваг, але шмат што ўпушчана, здробнена. І. Маркевіч патрабаваў зрабіць сход закрытым («Не крытыкаваць камуністаў»), гаварыў, што «Лысагорская паэма» — ганьба для нашай арганізацыі, а ў слабасцях «ЛіМа» вінаваты найперш Каршукоў.

А затым Каршукоў сказаў, што Маркевіч за год не даў ніводнага артыкула; не справіўся ў аддзеле культуры — перавялі на пісьмы. Мальдзіс, Вярцінскі, Шаўня крытыкавалі розныя аспекты, аднак Жычка сказаў пад канец, што гэта не дужа сур'ёзна. Не было адчування, што Жычка разбіты, а так — паклёваны.

Ні слова Гілевіч, Бураўкін і многія іншыя, каго маглі б слухаць і чуць.

Між тым газета сёння — шэрая, дылетанцкая, правінцыяльная.

«Совесть тактична: замолкает, когда ее не слушают».

*18.III.*

Мама ўвайшла ў пенсіённы ўзрост.

Успамін: гатовы сюжэт для нялёгкага апавядання. Але справа не ў прозе, а ў жыццёвай сутнасці. Як прыехаў да нас у 55-м з Кіева В-ч. Купаўся ў копанцы. Хацеў падарыць мне гадзіннік. Гэты прыезд — на таксі, не хацеў браць здачы (з сотні). Усё гэта было нейкім невядомым, загадкавым, ледзь не ўпершыню невытлумачальным. А ён лічыў, што мама ўсё яшчэ не замужам, што яна пойдзе за яго. У яго быў такі стан — нейкая збянтэжанасць, няўпэўненасць, але працягвала дзейнічаць (ужо пры поўнай расчараванасці) і інерцыя ранейшых планаў.

У свой час (ужо, здаецца, пры Пашкевічу) працаваў у «ЛіМе» І. С-ў, затрымаўся ў памяці. Чалавек без жыццёвай праграмы, пэўных планаў і акрэсленых прынцыпаў. Абы быў заробак і жыццёвыя даброты. Але ж між тым прапанаваў, што прапіша мяне ў цяжкую мінуту.

Кватэрныя клопаты з Г-м і В. Ж-ай. І там, і там аблапошваюць.

Трэба — паверх бар'ераў. Мы зусім мала думаем аб смерці, адсоўваем яе — яна для нас заўсёды застаецца нерэальнасцю, фікцыяй, як у самым няспелым дзяцінстве. А між тым адусюль вее яе суровы холад, яе нефальшывая і неабвержаная праўда.

Не разважаннямі аб смерці, вядома, канчаць трэба гэту запісную. Але вось патрапіла меркаванне: мы развітваемся не з жыццём, не з людзьмі — бо яны застаюцца. Мы развітваемся з сабой, са сваім целам, са сваім імем, і гэта прыводзіць у недаўменне.

Нішто так не старыць, як адказнасць.

*5.IX.*

На дачы, пасля ўсіх перыпетый абароны, наваселля, будоўлі — пад ціхі дождж, спакойнае шэсце восені. Абстругваўся тут Сяргей, які ўжо ўпарта гаворыць, што больш за ўсіх любіць папу.

Мільганула: што разумеў я калісьці сваёй цёмнай свядомасцю да школы, калі прыехаў з вайны мой бацька. Дарэчы, Рыгор Няхай гаворыць, што мой бацька чэсна ваяваў.

У адной з бяссонніц (у абодва акны свяціў бела-сінім святлом месяц) думаў і думаў я пра сваё дзяцінства і бяссонны абвостраны розум гнаў старонку за старонкай з назвамі, эпізодамі, перыпетыямі...

Як доўга чакаць зарплаты, новых грошай — гэта таксама клопат, якога З. не хоча ведаць.

*23.XII.*

Пазаўчора — пры пераходзе з адлігі на мароз — было добрае самаадчуванне. На ўсплёску — у выдавецтва, па званку Алены Сямёнаўны Васілевіч. Там размова з Верай Сямёнаўнай Палтаран. Як заўсёды — на светлай, чыстай хвалі (дзе крыху маркоцішся ад сваёй будзённасці, непрасветленасці). Часам адхінаецца і, прыўзняўшы сінія-блакітныя вочы (а голас спеўны, чароўна тонкі), уся захопленая быццам новай суперажывальнай хваляй, гаворыць пра інтэрв'ю Чынгіза Айтматава ў «Новом мире» (№ 12), аповесць Маха, пра публікацыю ў «Маладосці» раздзелаў пра ленінградскую блакаду — Граніна і Адамовіча. Гаворым пра бацькоў.

— Як ваша маці, Варлен? Перадайце ёй нізкі паклон.

Я: — Дзеці сама меней ведаюць пра сваіх бацькоў...

— Праўда. Вось да нас зойдзе Брыль, пасля тры дні, тыдзень адчуваем нейкую зарадку. А для яго Наташы (дзяўчына неблагая) — нічога асаблівага.

Пытаюся, што піша. — Нешта пра быт, пра тое, як ён забірае чалавека...

Гаворыць, а я шкадую, што нельга запісваць, што не затрымаю ў памяці словы і думкі, разгублю той настрой і лад...

Размова падбадзёрвала, штурхала, абнадзейвала. Пры ўсёй ласкавасці, прывабнасці — строгасць пазіцыі, характар.

*30.XII.*

Набегла мінская пара — з мітуснёй, з новымі непаразуменнямі... Газеты пішуць: «В Австрии зеленые лужайки до сих пор еще не покрыты снегом». Але навошта ж Аўстрыя — у нас цёпла і бясснежна.

Радок Р. Баравіковай: «Адны складанасці, а проста не выходзіць...»

Пахвала Вярцінскага ў «Лит. обозрении».

У Маскве: чамаданы А. Г. Накупляў, напакаваў. Мне: «У цябе яшчэ свабодная рука...» Цягнуў яму. Намучыўся.

...Карэктура рэцэнзіі на Ліхадзіеўскага — знята ўсё пра круты паварот у лёсе.

# 1975



*13.I.*
Ноччу прысніўся В. Аскоцкі, які прывёз тры гадзіннікі. Усё трывожней цікаюць гадзіннікі, час ідзе.

Л. Толстой: «Чтобы поверить в добро, надо начать делать его».

Учора ў «Вячэрнім Мінску» агляд М. Барсток «Адкрываючы новыя шляхі». Дзве тэмы адкрэсліў тут П. Дзюбайла: 1. «Жыццё наша становіцца больш практычным, дзелавым, усё меншае месца займае ў ім ідэальнае, рамантычнае — тое, што нараджае паэзію, з'яўляецца для яе добрай глебай. 2. Вельмі слаба растуць маладыя. Чым тлумачыць іх такі запаволены рост? Магчыма, той уніфікацыяй у думках і пачуццях, якія адмоўна ўздзейнічаюць на развіццё асобы. Бо многія слабасці маладой паэзіі якраз і звязаны з беднасцю ўнутранага свету творцы, з анемічнасцю асобы».

...Еш, сват: хоць рэдка, зато шмат.

*21.I.*
Учора паштоўка: Прэзідыум ВАК 27.XII.1974 г. «...разрешил выдать диплом кандидата наук».

*3.II.*
...Когда Магомет женился, его жене было 11 лет, и она любила играть в горелки. И пророк бегал с ней и нарочно отставал, чтобы доставить ей удовольствие победы.

З. здае сесію, а С. хварэе грыпам, і я ў клешнях дзвюх гэтых падзей.

Анатоль Вярцінскі стаў аргсакратаром СП. Гэта — справядлівасць. Вельмі добра, што так.

*18.II.*

Пачынаецца кніга — праз стомленасць, недасып, халодныя дажджы, што ідуць адзін за адным...

Выезд у Салігорск, дзе плакалі жанчыны, як чытаў вершы пра вайну.

*23.IV.*

Учора — выезд у Зялёнае. Цёплая свежасць вясны, пралескі і медуніцы, радасная пераклічка шпакоў — яны так спакойна і ўпэўнена сядзелі на шпакоўнях, — усё гэта давала свабоду сэрцу і імчала непрыкметна да вясны і адкрыццяў.

*11.V.*

Былі Каралішчавічы (тры дні) — з сонцам, смаржкамі, страчкамі. Размовы з Вярцінскім — падарыў мне сваё «З'яўленне». Неяк добра і ціха сябраваў з намі Рыгор Яўсееў (Рыгор Мінавіч). І сказаў Сярожка: «Я хачу, каб маім папам быў толькі ты або Рыгор Мінавіч».

А дні Перамогі — незвычайна шчымлівыя, такія — як ніколі — цёплыя і сонечныя, чыстыя, святочныя ў чыстай вясновай зеляніне, у сваёй аб'ектыўнай радасці, да якой прырастаюць усе людзі, і свет такі ж малады, як у ранні юнацкі час, і такі для свядомасці лірычны, што хочацца і ўсміхацца і плакаць, каб убачылі ўсе, хто гінуў і мёр у вайне, як усё навокал здарова расце, квітнее. У самай плыні свята я быў зноў адзінокі, але ж гэта была адзінота дрэва, што расце на сваім месцы, са сваёй кронай.

У густазмешаным лесе — усе дрэвы шумяць па-свойму, толькі адчуць, як расходзіцца кожнае.

Вострае адчуванне віны, нейкай пяшчоты і шкадавання і да тых, хто загінуў, і да тых, каму вайна далася дорага.

И. Шкляревский:

Но по дороге вновь и вновь
Шептал мне тайный голос грустно:
Есть счастье — выше, чем любовь.
Есть сила — выше, чем искусство.

Я не ў кнігах, а ў свежым паветры.

... Сон, што раптоўна памёр Аркадзь Куляшоў, а я — як асірацеў, хаця ён, гэты сон, хутка мінуўся, але было ўсю ноч горкае адчуванне...

Жуковский (письмо Саше Воейковой, 14—16 янв. 1845): «...в свете, который тебя окружает, нужно иметь и свой собственный, отчужденный от внешнего света, свет внутренний, свет души...»

*24.VIII.*

Цяпер на дачы — дзе так цёпла, утульна, вольна, сонечна. Нячутна ідзе час, падштурхоўваючы турботы і трывогі.

1) Тэма; 2) артыкул для «Литературного обозрения»; 3) артыкул для «Сельской газеты»; 4) кніга; 5) артыкул для «Полымя»; 6) рэцэнзія на Ласкова; 7) для «Маладосці» — 2—3 партрэты.

Можа, з усім гэтым удасца сабраць разгубленыя мабілізаванасць і сабранасць, настойлівасць. Працаваць!

*29.VIII.*

Такое лета — як шчасце; калі прыходзіць, не ведаеш, што рабіць. Ідзе цяпло, святло, вольнасць, а ты раскідаешся ў нешта мітуслівае, выпадковае — газ, тахта, смятана. Рынак, магазін, абед і г. д.

Сёння ўвечары адзін на дачы, дзе нерухомы змрок сыходзіць ціха-ціха, змешваецца з цяплом. Разрэджаныя гукі ад суседзяў, дымкі кастроў з пахам паленых перапрэлых траў (канапля, клубнічны ліст, бульбоўнік).

Сутык жніўня з вераснем, шмат разоў незабыўна сустрэты і на Нарачы, і ў Прылуках, і ўжо аднойчы нават тут, у Зялёным.

Калі ў Эйнштэйна спыталі, як усё-такі яму ўдалося адкрыць тэорыю адноснасці, ён адказаў: «Усе адкрыцці ажыццяўляюцца ў дзяцінстве. А я ў гэтым узросце, напэўна, крыху затрымаўся».

С. Городецкий. «Печальник»:

Уж и как же ты, даль,
На Руси далека!
Уж не будет ли жизнь
Для меня коротка?..

*8.IX.*

Дзень за днём у вострым цэйтноце.

А між тым ішло, ішло цёплае і сонечнае лета, у якім, як у лірычным воблаку, асабліва прагнеш кахання і натхнёнасці, усё чагосьці смуткуеш і не верыш у смерць...

Тым часам яно скончылася. Спачатку крыху пахаладнела было для дажджу — ноччу ён ціха і нягуста сышоў на зямлю два-тры разы. Потым зноў на дзень распагодзілася і было добра і весела дзяжурыць у Батанічным садзе ў дружыне. А вось сёння ўжо няма лета. Ясны асенні холад са змрачнаватымі воблакамі. Ад лета засталіся два-тры апошнія ўражанні — ціхая цёплая дарога на Зялёнае, зліццё халодных і цёплых струменяў у лагчыне і агульнае «цёплае» ўражанне, у якім мала дэталяў, але стойка трымаецца нешта добрае.

*21.IX.*

Столькі дзён — сонца, гарачыня, быццам самы час лета. На волі было б лёгка, прасторна, а тут, у горадзе, — быццам уздзеты не тыя адзежыны, неяк няўтульна.

Раптоўна, кароткі час уздыму: ад ранку і да вечара ў Ленінцы, захапіўся Вялікай Айчыннай...

*23.IX.*

Пазаўчора памёр Міхась Ціханавіч Лынькоў — такі добры, ціхі, спакойны.

*29.IX.*

Гэтая восень — як радасць. Махнуў на ўсё і паехаў у суботу ў Зялёнае. Светлае сонца, чыстае неба, цёплы шэпт асін і бярозак, сухая ўзлашчанасць лісцяў, бесталкова-прыемны дачны тлум, россыпы яблык пад дрэвамі (у суседзяў), лёгкае дыханне восені і лёгка-смутковая прага душы да прасторнасці, вольны разгон цяпла (усё яшчэ бярэцца знекуль) і святла.

Гнуткасці думцы ўсё яшчэ не стае і прыходзіць толькі думка, што ачышчацца трэба штодня.

Такія дні восені — багацце для душы, цяпер бы ў Прылукі, дзе хадзіў я ў лес, глядзеў на дол і ў неба і адкрываў прасторы ў вершах і знаходзіў словы для артыкулаў...

Василий Казанцев:

Тропинка узкая со мною
В одно сливалась существо,
И между мною и Землею
Не оставалось ничего.

*23.X.*

Навуковая канферэнцыя аб мастацкім мысленні і жыццёвай праўдзе.

Інтэлектуальная шкатулка — галава N з яго тупалобай упэўненасцю.

Плынь гаварыльні. Тэарэтыкі (умоўна-патэтыкі) пачынаюць ад Буало.

З прыездам з Адэсы (усесаюзная навуковая канферэнцыя) — шчыльная культурная праграма (балет на лёдзе, слабы спектакль «Зацюканы апостал» у Беларускім тэатры — русяць, атлусцелы Малыш).

*29.X.*

Учора вечарам і сёння раніцой — актыўнае дзеянне прыроды. Яе холад і яе цеплыня рухаліся наўсцяж па небе і душы: былі блакіт і сінь, выразныя і чыстыя, былі хмурынкі, што выпукляліся лесвічкай, і было змрочнае захмар'е, а душа прагла волі, свабодных гадзін дзе-небудзь у лесе і на полі, свабодных думак і нязмушанага дзеяння. Штосьці ішло і рухалася, халадок закрадаўся ў калошыны і рукавы...

У «Вячэрнім Мінску» з артыкулам аб кнігалюбах. Усё талкова і хлёстка, але і піша той, хто і сам кніжны драпежнік...

*31.X.*

Усё розныя дробязі. Не дробязь толькі сонца (з марозам), але яно — міма, міма...

*2.XI.*

Вялікая сіла, якая належыць сапраўднай літаратуры (большая, чым подзвігу!) — жаданне паўтарыць твор, напісаць нешта падобнае, і больш поўнае і вострае адчуванне жыцця, чым да твора (нават на аналагічным участку жыцця). Можа, гэта толькі для чалавека, што піша? Не, хутчэй для кожнага, хто чулы да літаратуры.

Чытаў сёння Траяпольскага «Белый Бим Черное Ухо». Упарціўся раней — нешта не браўся. А тут — хлынула і ўсё змяло. На супярэчлівым пачуцці — хутчэй дачытаць і — каб не хутка скончылася, гнаў і гнаў старонкі, а час стаяў (толькі пакрысе рухалася ўперад стрэлка). І ўсё літаратурнае змылася: толькі б Бім дайшоў, знайшоў Івана Іванавіча. І нельга яму загінуць! Загінуў... І іначай было нельга.

Аўтар забраў ад мяне ўласнае апавяданне пра Бульку — даўно яго я задумваў і прыцэльваўся, а потым прыглушыў у сабе мастака.

Паэзія — не прыватная справа аўтара, мы павінны разглядаць яе з дзяржаўнай заклапочанасцю.

...Евгений Викторович Тарле часто повторял: «Человек слаб и может ошибаться, но по крайней мере в двух областях ошибки для мужчины недопустимы — в выборе профессии и в выборе жены»...

Ліст ад Ліхадзіеўскага з вершамі «Жаню сыноў» і «Ташкент — Мінск». («...Прымаю экзамены тут ад узбечак, а ў Мінску мой поступ даследуе Бечык».)

*15.XI.*

Усё ўнутры сабрана тэмай, той самапаглыблены стан, калі знадворнае існуе асобна, без дачынення да мяне: святло яснага сонечнага дня, рух машын і людзей, шум вуліцы. Рухаюцца стрэлкі гадзінніка, а ўнутры — без вымярэння часу — дзеецца адна толькі справа: тэма.

*17.XI.*

Дзень замгліўся. Унутры ўсё заслана такой нудою зялёнай. Пісаць? Толькі тое, што графін побач, ды вазон, ды стол, ды шэрая прастора, ды шараваты праём акна...

Вятры, што дуюць, — міма,
Кнігі, што выходзяць, — міма.
Жыццё — міма, міма.

Выйшлі ўспаміны пра Купалу. «Такі ён быў». Ці такі? Пакуль што ў нас яшчэ кволая мемуарыстыка — бесстылёвая, немастацкая, з агульнапрапіснымі ісцінамі, з павярхоўнай эмпірыкай выпадковых прыватнасцей.

Адзін з аўтараў успамінаў, як Купала гаварыў пра Зошчанку ў 1941 годзе — амаль што па пастанове 1945-га.

Стаяць вышэй хвілінных слабасцей. Здавалася б, што лягчэй — дык не, няма нічога цяжэйшага.

Імгла суб'ектыўнасці, барацьба самалюбстваў... Чытаю дысертацыю Э. Даволі густа збіта, але разанула: бярэ мой пераклад Гегеля і дае як свой...

Сёння, 20-га, рэдкалегія «Полымя». Вырашаюць пытанне аб прэміях. Таксама: дадуць ці не? Дарэмна папусціў сябе да гэтага. Драбнець — нельга!

Памёр дыктатар Франка.

*3.XII.*

Таптанне і рыўкі. У дзяцінстве, помню, разважаў: калі нехта хутчэй за ўсіх прабягае сто метраў, то ён увесь час павінен усіх апярэджваць. Перагнаў — пачакаў, зноў перагнаў.

Сам бегаю так, толькі даганяючы. Пратапчуся — рывок. Цяпер — бяздзейнасць...

Евангелие от Иоанна: «Совершенная любовь изгоняет страх».

«Двойственность в человеке возможа, — говорил Лесков, — но глубочайшая суть его все-таки там, где его лучшие симпатии».

У Партугаліі — цяжкія дні, пагроза перавароту, выгнанне левых.

*22.XII.*

Званок Пташнікава: тайным галасаваннем яму («Найдорф») і мне (рэцэнзія на «З'яўленне» Вярцінскага) прысудзілі гадавыя прэміі «Полымя».

Учора ў нас — Т., караліщчанскі стораж і бібліятэкар, больш за паўдня, чытае і піша, і прагне большага («Я пишу и дневник, но хочется всем сказать»), але — пры веданні, шчырай і высокай цікавасці да літаратуры — налёт інфантыльнасці і дылетантызму. Расказаў, што Лынькоў аднойчы запрасіў на Новы год. Натуральна, Т. адразу сароме́ўся. Прыйшоў ужо ў пачатку першай. А яго чакалі і не пачыналі. Выдатны штрых.

У прыродзе — вецер і рух, трэба і сабе не дазваляць застою.

«Зорны спеў» Ул. Калесніка — радаснае і нязвыклае чытанне, хоць я ўжо ведаў і добра помніў многія старон-

кі. Вельмі па-свойму, шырокія абсягі зместу, разнастайна па форме, нечакана ў падыходзе і стылістыцы, псіхалагічна пранікнёна (наўрад ці можна ўжо іначай уявіць постаць Засіма). Як гэта плённа чытаецца. І лад развагі, і характар мыслення, і тон размовы — усё такое немітуслівае, груднае, істотнае.

*28.XII.*

Некалькі ручаёў жыцця. П. жыве надзеяй на кватэру (і яна патрэбна яму) — зносяць іхні дашчанок. Хлапатаў за партызанку Соф'ю Паўлаўну Таргонскую — з дарослым сынам і хворым мужам на агульнай кухні (плюс яшчэ чатыры сям'і).

Самае галоўнае: кітайцы адпусцілі экіпаж нашага верталёта, што прабыў у іх ад сакавіка 1974 г.

# 1976



*4.I.*

Помню, як у 1950-м мне здавалася, што 50-ты год — незвычайная гістарычная вышыня. Цяпер газеты пішуць, што 3-я чвэрць стагоддзя пражыта намі без войнаў.

Важныя думкі пра артыкул у часопіснай чарзе, потым — працяг з томікам Буніна ў руках, далей — кінафільм «Человек, которого я люблю...».

Пісьмы Г. з іх складанасцю, так шмат нязнойдзенасці, хістанняў ад веры ў сваю сілу да адчування бездапаможнай бесталеннасці, заблытанасць лёсу ў руска-польска-літоўскім (ні там, ні там).

...Яшчэ ўчора ўсё так выразна адчуваў і лёгка думаў, а сёння ўжо ў галаве закарэласць, нерухомы стаўбун.

Чытанне Жукоўскага — ніякай архаікі. Шчыміць. І шчымленне — неад'емная частка пражытага.

Гукавыя заканамернасці пры аналізе трэба ўлічваць, толькі вельмі тонка, яны — як атмасферны ціск для чалавечага ўспрыняцця.

Зорны час Ч. — фігуруе ўсюды, асабліва ў лімаўскай падачы. З узнятай галавой.

Віншаванне ад Алы Сямёнавай, маёй рэдактаркі.

*5.I.*

Мароз, зімніца. Учора ў сектар прыйшла паэтэса Аўгіння Кавалюк. На яе амаль 10 гадоў назад напісаў я рэцэнзію ў «ЛіМе». Цяпер — знаёмства, з кампліментамі, лёгкая збянтэжанасць. Рыжскі бальзам, цукеркі.

Аднойчы сустрэў Рыгора Саламонавіча: — Што новага, Бечык? — Нічога. — Капусту даюць, дэфіцыт.

*8.I.*

Учора са Шпакоўскім дуэтам — лекцыю настаўнікам Савецкага раёна.

Прасіў К., каб напісаў рэцэнзію на яго першую кніж-

ку. Было няёмка адмаўляцца, і не было магчымасці напісаць. Але ўзяўся Р.

*9.1.*

10 год з дня смерці-гібелі Ігара Хадановіча. Тады было холадна.

П. далі кватэру.

Кожнае лішняе слова — бруд. Я ўвесь у брудзе. Маўчаць.

Жуковский: «Всякая манерность есть, я полагаю, ошибка».

*15.1.*

Стойкі мароз, можна было б добра свяжэць на гэтым холадзе. Але ж усё не тое: дома... Нікуды не збегчы і ніяк душы не адвесці. Заўсёдны довад: так жывуць усе.

Жукоўскі: «Женитьба есть товарищество для совершенства».

Яго ж юнацкі запіс: «Научиться обращать зависть в соревнование или искреннее и приятное удивление». «Каждый день — доброму делу, мысли или чувству».

Яшчэ з Жукоўскага (пісьмо А. Зонтаг):

«Жизнь моя была вообще так одинакова, так сама на себя похожа и так однообразна, что я еще не покидал молодости, а вот уже надобно сказать решительно «прости» этой молодости и быть стариком, не будучи старым» (20 февраля 1833).

«Для сердца прошедшее вечно».

*21.1.*

Новыя снягі без марозу. Свежа, толькі патрэбны лыжы і прастор. На карнізе акадэмічнага акна — гурба снегу.

Начны сон — мара аб нейкім шырокім і важным каханні.

Дзіцячая кніжачка Міколы Гіля «На лясной вуліцы» — удача. Толькі ў мове хочацца дзе-нідзе зняць сляды «дарослласці».

*22.1.*

Выказванне алімпійскага чэмпіёна, яхтсмена Манкіна: калі ён ідзе на яхце, то бачыць вецер.

Так і ў паэзіі — бачыць вецер жыцця. Крытык, які піша пра паэзію, таксама павінен бачыць яе вецер.

Прынята пастанова: выдаць поўны збор твораў Лынькова. Поўны? Хіба гэта сёння магчыма?

*29.I.*

Анкета «Молодого коммуниста» «Что читать». 1. Быкаў. «Яго батальён»; 2. Куляшоў. «Хамуціус». 3. Барадулін. «Свята пчалы».

Памёр з тыдзень назад Поль Робсан.

«Бурная речка существует, пока течет; смысл человеческой жизни в том, что она проходит».

*4.II.*

Учора ў Саюзе секцыя крытыкі разам з прозай, паэзіяй, драматургіяй.

М. — аб усім, у сваім ключы.

Клышка: «Практыка рэцэнзавання». Рэцэнзія — барацьбяны жанр, сумленне літаратуры і г. д. Крытыкаваў рэцэнзіі ў «Беларусі» і асабліва «ЛіМ» (за апошнія 20 гадоў сама горш). Вельмі пашчапаў М. — непрафесійны, безаблічны, бяздумны. Прывёў прыклады і ў «Беларусі», і ў «ЛіМе».

*3.III.*

У СП — пра творчасць Міхася Тычыны.

У тым, што сёння тут абмяркоўваецца крытычная творчасць М. Т., няма выпадковасці. Гэта не той, стаўшы ўжо звычным выпадак, калі нехта трапляе ў крытыку і залічваецца ў крытыкі толькі таму, што, дзякуючы прыстойным адзнакам і больш актыўнаму, чым у іншых, жаданню трапіць у аспірантуру, становіцца спачатку аспірантам, а затым, зрабіўшы дысертацыю, набывае ўпэўненасць, што мае дастатковыя праявы, каб лічыць літаратурна-мастацкай крытыкай усе свае публікацыі, дзе выкладаюцца так-сяк свае і пазычаныя меркаванні пра літаратуру.

І хоць Міхась Тычына таксама быў аспірантам і стаў кандыдатам-навукоўцам, яго заручыла з літаратурай не дысертацыя, а прызванне.

Крытыка — занятак цяжкі, складаны, часта няўдзячны, прычым, як у кожнай важнай справе, чалавеку, які не шкадуе сябе, не спрытнюе, не прытвараецца, такому чалавеку жывецца не лёгка. Ведаючы і разумеючы гэта,

мы з тым большай годнасцю гаворым: «Крытык — гэта гучыць горда».

Заключэнне: М. Т. — літаратар, крытык з немалым ужо творчым набыткам, з добрай падрыхтоўкай і харошай дапытнасцю, з тонкім разуменнем і адчуваннем мастацкага слова, крытык з добрай літаратурнай будучыняй.

(Яшчэ: І творчай індывідуальнасці, і агульнай заканамернасці літаратуры, і спроба прагнозу; раскрыта складанасць працэсу, складанасць творчасці, складанасць і справы крытыкі. Гнуткасць падыходу, імкненне пазбегнуць прыблізнасці, спрашчэнняў.)

*9.III.*

Кінафільм пра Ганну Мамонаву, маладую ўрачыху, якую фашысты расстралялі з двума дзецьмі. Хлопчык прасіў фашыстаў: «Глыбока нас не закопвайце, каб папка знайшоў».

Жанчына расказвае: — І яны іх разрыўнымі кулямі... І яны іх разрыўнымі кулямі.

*16.III.*

Снег, густы і ліпучы. Млосна, марнуецца дзень. А раней было — у нядзелю, вельмі добрае сонечнае жыццё. За горадам — пушысты і белы снег, такое ззянне іскрынак, што зліваласяя з музыкаю лагернага рэпрадуктара. Усё было ў душы выразным і пэўным, а цяпер расплывістае.

*17.III.*

Ліст ад Антаніны Нілаўны Седаковай, якая да сёмага класа вучылася з Твардоўскім.

*19.III.*

Ліст Жэні Янішчыц — у Магілёў, у бальніцу, дзе яна з пераломам бядра. Адна і гаротніца.

Спірыдон Дражжын:

> У народа взял я счастье
> И безмерное страданье...

*28.III.*

Ліст ад Жэні Янішчыц: «...Ліст, што адшукаў мяне тут, як быццам прыляцеў з таго ўяўнага мною калісьці

загарада. Таму гляджу на радкі, як на суцэльныя празрыстыя жылкі таго ліста».

У акне то святло, то захмар'е. Плыткі нядзельны рух людзей, гадзіннік пераменьвае адны лічбы на другія, а я — у свеце кніжным і творчым, пры спыненым часе, пры розных планах і як быццам — у перадnatхненні, але каб жа было галоўнае...

*15.IV.*

Учора паспрачаўся з О. Аднабаковая шчырасць — як распрананне, ты голенькі, цябе крытычна разглядваюць і — не дай Бог — разглядваюць незычліўцы.

Не, шчырым быць трэба, але не перад кожным вывярочвацца.

*27.IV.*

У магазінах стала пуставата: не хапае мяса, каўбасы, яек. Пайшлі анекдоты. Але ж, як падумаць, што ў іншых гарадах, то сорамна і так: ямо добра пры такім неўраджаі.

Аддаў у «Полымя» рэцэнзію на «Балады мужнасці і адвагі», узяўся напісаць пра Кудраўца.

*28.IV.*

Быў у інстытуце В., які хутка выйдзе на абарону кандыдацкай. Ён мне ганіў вершы К. Трымаецца паважна, усім умее нешта сказаць. Я ўспомніў, як калісьці студэнтам ён прынёс нам у «ЛіМ» вершы. Чыталі я і Гіль, прапаноўвалі пачакаць: надрукуем падборку. Але чакаць не захацеў, пайшоў у «Чырвонку».

*10.V.*

Прайшоў Дзень Перамогі. Учора зноў глядзелі «Ляцяць жураўлі» і плакалі. Доўга ноччу думалася, напружана і выразна ішло многае, што было звязана з жыццём і вайною, і ўсё абавязвала да шчырасці і сумлення і — працы, працы, працы.

*1.VI.*

Холад і зябка, а перад гэтым — радасць паездкі ў Зялёнае. Усё цвіло, усё было пад сонцам, і здавалася, што ў лесе чую ўсе пахі. Смолкі водар сасны, ліпкае дыханне бярозы, мяккую гаркавасць асіны. Спыніўся мо-

мант, калі клубіліся воблакі цвету — у нетрывалым, хуткаплынным заўсёды свая ўрачыстасць...

...Прыспешваць сябе немагчыма. Мова не вучыцца спехам, літаратура не асвойваецца на хаду. Іншая справа — настойлівасць, мэтаскіраванасць, рашучае адхіленне марнаты, пераадоленне.

Учора вечарам у мамы. Глыток чыстага паветра...

*7.VI.*

Усе дні халодныя, 13—18 градусаў. Але зялёнае і свежае быццё дрэў і паветра вымагае ад душы вольнасці.

«Жестокая поглощенность внешним успехом или приближение его изо всех сил» — добра некім сказана: людзей з'ядае прага вылучэння.

А ўсё здаецца, што вось-вось збудзецца вясёлы дождж і ўсталюецца цеплыня, якая злучыць цябе з светам. А ўсё веюць вятры, раскалыхваюць верхавіны, і толькі вечарам — цішыня, але сціснутая халадамі.

*9.VI.*

Прымалі Тычыну ў Саюз пісьменнікаў. У «Журавінцы» вячэра. Размова з Кулакоўскім. Памёр Машара. Пра тое, што няхай бы ўсе жылі — нават тыя, хто нас не любіў і каго мы не любілі.

Усё холад. Не ідзе напісанне. Маі Львовіч ніяк не магу напісаць.

Барадулін:

А быў я ў вясне палонны,
Ды стукалі шчасця колы:
Хоць восеньскі ліст зялёны,
Але не такі вясёлы.

Вось і першы заход у балгарскае (усё такое роднаснае, шчыра-сціплае, моцнае блізасцю да народнай культуры).

Христо Ботев. «Хаджи Димитер»:

Тоз, който падне в бой за свобода,
той не умира, него жалеят
земя и небо, звяр и природа
и певци песни за него пеят...

Навал літкрытычнага клопату: рэцэнзіі на Стральцова («У полі зроку»), Кудраўца («Дзень перад святам»), Ласкова, артыкулы пра Вярцінскага і пра паэзію.

*15.VI.*

Усё часцей наварочваюцца слёзы на вочы, калі чытаю ці бачу кранальнае. Чуласць? Але як сумясціць яе з няжжытым, нават узрослым эгаізмам, якога ў мяне так многа.

У мамы — іначай — у яе і жывуць і гасцююць, яна нічога, што трывожыць і клапоціць іншых, не адхіліць.

Характар шчыльнасці жыцця, інтэнсіўнасці спраў.

Мастацтва, літаратура — справа бязмерна, бясконца складаная. Але нельга пераўскладняць. Проста і выразна сказаць. Акцэнтавацца на галоўным, без патуг да ўсеабдымнасці.

Думкі ў электрычцы пра кніжку Кудраўца, іхні асаблівы рытм — з настроем, зааконнымі ўражаннямі. Лёгкае дапасаванне кніжнага зместу да вёсак, жытняга поля і дажджоў.

У бальніцы (як часта я бываў сёлета ў розных людзей), як звычайна, самае самотнае — дзеці. Сорам і гарката за тое, што ў цябе клубніцы, апельсіны, а яны вось не ўсе гэта маюць.

Мы плачамся ад балячак, а людзі з сапраўдным горам, з найвялікшай бядою не ломяцца, не скардзяцца і ўмеюць радавацца жыццю...

У застоллі, як прымалі Тычыну ў СП, сядзеў побач з Сіпаковым і гаварылі пра celebr рознае, шчыра і проста. Ён пра Клышку: вельмі таленавіты, але незвычайны гультай. Сам Сіпакоў, канечне ж, работнік з актыўнай душою і добрай творчай воляй.

Нечакана Вярцінскі (гаварылі і пра яго, у гэты момант Янка сказаў: ёсць усё ж біяток): «Давай, Варлен, чокнемся і вып'ем. — Да Каржанеўскай: — Вось хто не прывыкнуў і да гэтага часу, што ён у Саюзе. А як тонка і глыбока разумее ён паэзію...»

Навал клопатаў: для З. кнігі і падручнікі, яе блізкая сесія, рэцэнзійны тлум, тэма ў катастрафічнай незавершанасці.

Учора на адкрытым партсходзе (зноў пра дысцыпліну, яўку і г. д.) — пра тое, што зняты раздзелы ў «гісторыі...» (Гапавай, Казберука, Барысенкі). Але ж (мільганула) хіба ў нашай справе толькі ад нашай дысцыпліны залежаць удачы, хіба талентам гарантавана заўсёдная ўдача...

Шуміць на вадасцёках дождж, шапаціць па лісцю, шчабечуць і ціўкаюць птушкі, то гусцее, то прасветліва-

ецца імгла, а я, нарэшце, у пэўным і арганізаваным настроі, і нешта магу — і думаць, і перажываць, і пісаць.

*18.VIII.*

Была Нарач — 12 дзён у доміку турбазы. Спакойна, лёгка, бяздумна. Некалькі кніжак (Грыгаровіч, Мамін-Сібірак, Вайновіч). Цудоўны мілы лес з чарніцамі, пляж — нішто не псавалася нават хмарнасцю і холадам. Добра было лайдачыць...

Там з газет уведаў пра смерць Івана Паўлавіча Мележа — 9 жніўня, раптоўна.

Мала даводзілася з ім гаварыць, але ён адразу ўмеў узяць даверліва-шчыры тон, наблізіць да сябе простай свойскасцю — быццам чалавек, якому ты блізкі і душэўна патрэбны.

Шкада ўсіх, хто памірае, але яго як нікога. Ён умеў быць адкрытым, шчырым з трыбуны, як ніхто шырока з сучаснікаў прычыніўся ён да жыцця народнага.

Вось мама прыехала з Прылук, гаворыць, што Васіль Паўлавіч Краўцоў смуткуе, беражэ пісьмо Івана Паўлавіча. Многа-многа думалася пра Мележа, згадвалася і ажывала.

Сустрэчы і размовы на двары з Бярозкіным. Выгаворваў за тое, што расхваліў Стральцова:

— Дзе трэба тры словы, дык у вас дзесяць. Са сваёй сарданічнай ухмылкай: што вы ні скажаце, я ўсё ведаю.

На наступны дзень агаворкі: «Умее ставіць слова, як ніхто ў вас у акадэміі. І не так, як у Лужаніна, што спецыяльна вышуквае словы. Выдатны стыліст і эсэіст, хоць нічога новага».

Пра Куляшова: навошта яму драма. Шмат ішоў за часам.

Перабівалі нам размову машыны і рамонтнікі. Мы перасоўваліся з ім з месца на месца (я — трымаючы ў руках вядро са смеццем).

15 жніўня званок і візіт Льва Аннінскага. Збянтэжаны сваёй нясвецкасцю, я не так гаварыў і няўмела трымаўся, хоць адразу быў рады. Дамовіліся пра тэму — «Непереводимый поэт».

*26.VIII.*

Канец адпачынку блізкі, і блізкі канец адкладу ўсяго многага, што трэба было неадкладна рабіць. Як толькі

ў прыродзе добра, як учора, сёння: цішыня, сонца, роўнае цяпло, птушкі — не хочацца нічога рабіць, а толькі бяздумна аддавацца гэтаму нячутнаму і непрыкметнаму быццю: хістанню травінак і дрэў, марудна-хуткаму руху сонца і пераходу ценю, глядзець сабе на кветкі і птушак, сачыць вокам лёт матылька, растварыць у гэтым душу, свядомасць... Але ўнутры ўсё ж нешта дзеецца — нейкае чаканне і нецярпенне, прага нейкіх адкрыццяў і перамен расце, расце...

*31.VIII.*

Ліст ад І.

«Мне хацелася б, каб Вы знал, што ў Pacii... у старажытнай Тверы жыве чалавек, гатовы аказаць Вам любую дапамогу, калі яна Вам спатрэбіцца»...

Раптам наблізілася мінулае, тое, што так помніцца і без напамінкаў. Мне хораша жылося і працавалася тады, у тую пару. І яна, і Ленінка, і першыя артыкулы, і агульная работа душы — усё шчасліва з'ядналася. Радасна было ісці ў бібліятэку, знаючы, што яна там, радасна было браць кнігі: свет кніг быў цудоўны, але цудоўным была і прыгажосць і прыветлівасць казачнай дзяўчыны з ласкавым, харошым прозвішчам.

Пра гэта можна было б больш напісаць, але няхай дапоўняць ёй тыя вятры, дажджы, сняжынкі, якія, быць можа, прыносяць ёй у розную пару радасць і смутак (смутак, смутак — яго заўжды больш...), як мне сёння вецер, і сонца, і птушкі гавораць пра яе...

*12.IX.*

Бабіна лета, цяпло, сонца, ціха і добра ў Зялёным. Неспрыяльны мой аналіз — трэба лячыцца.

Паездка 9-га з балгарамі ў Хатынь. Палчаў, Паптонеў, Незнакомаў.

Хатынь — як нешта неверагоднае. Не магло гэтага быць, каб палілі, нішчылі, гарэла жывое, дзеткі крычалі і курчыліся...

С. Гудзенко (перед смертью):

Но даже если жизнь мгновенна,
Я счастлив жить.
И вновь, и вновь
Твержу: да будь благословенна
Жена, хранившая любовь.

Б. Олейник (перевод Л. Смирнова):

Весть мне принесли сороки: «Сорок!»
Поглядел назад — и померк:
Я все себе думаю — еще вторник,
А оно уже, хлопцы... четверг.
Я еще примериваюсь к встрече в среду,
А оно уже, хлопцы, четверг.

...Вось і цяпер я пішу і хвалююся, быццам раптам узнікла магчымасць падысці да кніжнай полкі ў Ленінцы, нядоўга паразмаўляць з прыветнай, цнатліва-прыгожай практыканткай з Ленінграда і — пайсці, панесці ўсё ў далёкія-далёкія і хуткія-хуткія гады, з дваццаці год — у трыццаць сем.

У Гейне:

Зовет ее ангел блаженством небес,
Мучением адским зовет ее бес,
Зовут ее люди любовью.

*4.XI.*

Такія сонечна-халодныя дні, ружовае святло на дамах і на дрэвах. Памерзлі яблыкі, слівы, нават, дзе неглыбока сядзела, — бульба.

Здаровая яснасць вабіла, адхінала трывогі, быццам давала надзею, што час не памчыцца хутка, а тым часам падкрадвалася перамена. Што запомнілася — ідзеш па дарозе, бачыш навокал узгоркі, дрэвы ў добрай восеньскай прыгажосці і хочацца пайсці да іх, быццам толькі тады дападзеш да гэтага ўсяго і сальешся з ім.

Першае, што сёння ў інстытуце, — памёр (2-га, у суботу) Навум Саламонавіч Перкін.

# 1977



*21.III.*

Праз ўсё, што прайшло, пераходжу ў сёння, у сакавіцкі няцёплы дзень (учора сонцастаянне), у чарговую стому, у новыя зрухі і канфлікты.

Даклад 18 сакавіка. «Рух часу — рух паэзіі». Шмат што прапусціў, у многім — праслізнуў (рэпліка Вялюгіна).

Пасля размова з В., якая пакінула ў душы самоту і адчуванне страты (хіба можна падзяляцца на лагеры, абгароджвацца барыкадамі, калі асабістыя сваркі ўзводзяцца ў грамадзянскія прынцыпы).

Пасля — розныя тэлефонныя званкі. Зноў жа — нагаворы, плёткі. У душы прыкрасць. Прыпамінанне пралікаў: не знайшоў момант назваць Семяжона, не дайшоў да Віткі, Русецкага, Грахоўскага — нават тактоўнасць вымагала, спахмурнелы Камейша, ці не з дакорам Паўлаў...

«Ты не хочаш зразумець, што Х., У. насаджваюць школу бяздумнасці ў паэзіі: А, Б, В, Г, Д і Е». Недарэчна-абразлівыя павароты. Нават: «у цябе ж быў час падрыхтавацца...»

Але нязменны прынцып: ідзі сваёй дарогай, не прыстасоўвайся, ігнаруючы іх узаемаадносіны. І — не зніжай крытэрыяў, а заўсёды — аб'ектыўную праўду.

*31.III.*

Ранняя вясна. Некалькі разоў з цеплынёю, надзеямі. Сёння — маркотна-цёмны снег, з халадэчай парывістага ветру, завірушка.

Парадоксы Шоу, Мапасан, Жуковіч (прыслаў кнігу «Мелодыя святла»), Галіна Каржанеўская «Мой сад». ...Скрозь ад вершаў расчараванне — адны матывы, няма

нечаканасці, афармленне выпадковага. Як быццам і шчыра, і цёпла, і з парыванием да сутнасці, і з палемікай, але неяк не ўздымна, не ўзлётна.

Драма — няпоўнага ведання, страты эмацыянальнасці.

Шырэй, шырэй! Такая неабходнасць жыцця. Мы ж усё болей хілімся да звужэння — агарадзіць побыт, зменшыць колькасць званкоў, абмежаваць трывогі...

*4.IV.*

Зноў з добрых намераў пачынаецца дзень: буду, маўляў, і пісаць, і працаваць, і думаць няспынна. Проста паляпшэла: быў добры сонечны дзень, уздымаўся парад снегу, пахла снежнай вільгаццю, як быццам бы запеў жаваранак. Сонца — усюды, і хацелася некуды ісці... А вечарам лёгка чыталася, і былі ўжо новыя надзеі, мацнейшыя за цемнату паўсядзённага вэрхалу...

Майстэрства не толькі набываецца, але і растрачваецца.

*16.IV.*

Многа дажджоў — штодзень, не давалі перад Раданіцай прыбраць магілы. Астрашыцкі Гарадок. Было там сумна, не ўдавалася з ім счапіцца душою. Здавалася, што ідзе штучнае, умоўнае жыццё. У пустой кнігарні дзве дзеўчынёхі. Састарэлыя хаты ў цэнтры. Возера як збруднелае. Усё непадступна чужое, а на ўсё глядзеў так, быццам кожная горка і лясок нешта скажуць ці само скажацца. Састарэлы, абшарпаны клуб — а для мяне ён быў новы-новы.

«Северная пчела» № 154 за 1832 г.: «Какой-то мистик напечатал в баварском календаре за 1832 год, что 20 марта в 3 часа пополудни начнется осень».

Алеша Карамазаў: «Всегда помните эту минуту, когда были такими чистыми, добрыми, любящими».

*5.V.*

2 мая — аварыя ў Крыжоўцы. Пасажырскі поезд наляцеў на электрычку. Трывогі, званкі на вакзал (А ваша должность?). Раструшчаныя вагоны. Машыны з уключанымі фарамі. Усе ў прыгнечаным настроі — так было кепска...

*3.VI.*

Пытанне сабе: Ты выйграеш ці прайграеш у гэтай агульнай плыні разліку і выпінання? Адказ у другой плоскасці: — Ты мала працуеш...

У інтэрв'ю «Вернасць аднойчы і назаўсёды» (ЛіМ», 13.V.77) І. Шамякін гаворыць пра свае адносіны да рэцэнзіі А. Рагулі і В. Каваленкі на яго аповесць «Гандлярка і паэт»: «На правах старэйшага таварыша хочацца параіць маладому крытыку Рагулю не брацць напракат чужыя тэорыйкі і не падганяць іх пад жывую ткань мастацкага твора. Не лішне папярэдзіць каго-нікаго і ад іншай крайнасці — ад выцягнення на свет божы даўно асуджанай партыяй і ўсёй практыкай савецкай літаратуры вульгарна-сацыялагічнай метадалогіі разбору мастацкага слова».

Надта сур'ёзна, надта важка і грозна. Лепш было б пажартаваць, ухіліцца.

Збор твораў Твардоўскага. Выдатная свежасць. Складанае ўражанне — хваляванне з дамешкам нейкай ці не тугі, што не дадзена гэтакая безадносная здольнасць быць істотным у слове, у выяўленні свету, бачанні і перадачы жыцця.

*18.VII.*

Так многа было дажджоў, і цяпла, і холаду, і трывог. Трэба было пісаць, але ішло іншае, і даводзілася то ісці, то бегчы.

Вера Сямёнаўна Палтаран прыносіла мне чытаць на дачы «Вячэрні цягнік» Панчанкі. Асабліва ёй спадабаўся верш «Пенсіянеры».

Размова з А. Куляшовым пра «Хамуціус» (рабіў матэрыял для АДН). Спытаў яго: «Ці даводзілася вам пісаць з адчуваннем, што трэба нешта пераадолець ранейшае?» — «Не». Цікава...

А сёння паведамленне: 15 ліпеня пасля цяжкай працяглай хваробы на 86 годзе жыцця памёр К. А. Федзін.

А яшчэ было ўзрушэнне — раптоўная смерць Еўдакіі Лось. Усё чуецца ў вушах яе непаўторны голас.

Лепшыя рысы сучасніка, чалавека: духоўнасць, ахвярнасць, высакароднасць.

*27.VIII.*

Змена ў аб'ёме асобы, нават у адчуванні сутнасці. У час узлёту духу, светлага празарэння — расцеш, чуеш

сябе значным і цікавым, многае можаш — усё, што захочаш (і хаценне згоднае з тваімі магчымасцямі). Бяздзейнасць прыніжае, сілы слабнуць, кожны павеў жыццёвага ветру здаецца небяспечным скразняком. Страшнае — чыёсьці падазрэнне. Тут адразу сам сабе здаешся фальшывым, дробным, бездухоўным. Такі ж — як нешта даводзіцца прасіць. Таму кожны, хто гоніцца за выгодай, прыстасоўваецца, угодніча, хітруе — кім бы ён ні стаў, да якой прэстыжнай вышыні ні дапяў — драбнее.

Зрэшты, колькі разоў і сам я адчуваўся ніякавата перад людзьмі, якія жывуць упарта, трудна і незгінальна — яны мелі права на дакор, а ў мяне не было апраўдання.

*1.IX.*

Тыдзень ружова-цёплага сонца, якое хвалюе і трывожыць усім, што прыгожа, усім, што нязроблена — як працаваць, калі за акном такая рэдкая радасць, такі спакойны і добры рух цяпла і святла, столькі надзеі, столькі магчымага. Хочацца быць адразу ўсюды — тут, у горадзе, дзе зараз студэнцка-школьная пара адсвечвае маладосцю, у лесе, на полі, скрозь, скрозь. Бо ўсюды непаўторнае, хуткаплыннае хараство, якога заўтра-пазаўтра ўжо не будзе.

Яшчэ адно рэдкае шчасце наведвала некалькі разоў у апошні час: прачнуцца нястомленым, свежым, з ахвотай зрабіць зарадку, хацець кніг і дзеяння, верыць у сябе і спадзявацца, што нешта і здолееш.

Адчуванне мэты як абавязку. Але ж і як штурхае: прамяняць такі выдатны дзень на дзяжурную рэцэнзію, якая не будзе адсвечваць гэтым сонцам, святлом, радасцю.

Трэба пісаць важнае, неабходнае, шчырае, высокае, трывалае, светлае, чыстае...

Яшчэ адзнака свежасці: многа дзяўчат, жанчын здаюцца прыгожымі, глянеш — і штосьці дзеецца ў табе веснавое, светла-самотнае...

За лета чатыры смерці, кожная з якіх трымае: Уладзімір Карпаў, Маўзон, Язэп Зазека, Еўдакія Лось. Раснікі — не па даце нараджэння, а па часу смерці.

Істотнасць малога ў нашым жыцці, штодзённая праверка характару, душы — дробязямі.

І важная здольнасць — стаць вышэй дробнага: улас-

най крыўды, дробнай зайздрасці, нечай падножкі. Быццам гэтага няма — яно не для рахункаў, аддачы.

А. Вознесенский. «Песня акына»:

Не славы и не короны,
не шаткой короны земной —
пошли мне, господь, второго —
чтоб вытянул петь со мной!

Прошу не любви ворованной,
не денег, не орденов —
пошли мне, господь, второго,
чтоб не был я одинок.

Чтоб было с кем пасоваться,
аукаться через степь,
для сердца, не для оваций,
на два голоса спеть!

Чтоб кто-нибудь меня понял,
не часто, ну, хоть разок.
Из раненых губ моих поднял
царапнутый пулей рожок.

И пусть мой напарник певчий,
забыв, что мы сила вдвоем,
меня, побледнев от соперничества,
прирежет за общим столом.

Прости ему. Пусть до гроба
одиночеством окружен.
Пошли ему, бог, второго —
такого, как я и он.

Трэба мець, між іншым, моцных сапернікаў, каб не цешыцца сваёй перавагай над іншымі. Не варта і прыніжацца: калі захочаш, змабілізуешся — зможаш не менш за іншых. Толькі не спаць!

Патаемная радасць, якая тут жа становіцца самотай: адчуваеш у сабе нейкія магчымасці, амаль намацваеш свой момант незвычайнага і нечаканага: толькі гэта змываецца нялдзейсненым, тлумна-разыходным. Ручаёк, прарываючыся з першага веснавога снегалёду, робіць велізарнейшую работу, а губляецца, як кропля ў ім, у іншых ручаях, становіцца нязначнай часцінкай паводкі.

Мефістофель (пераклад В. Сёмухі):

Ты быў і будзеш сам сабою.
Хай ты вясёлы, хай ты хмурны,
Надзень парык, абуй катурны —
Усё адно ты будзеш самім сабою.

*27.IX.*

Васілю Жуковічу.

У адным вершы («Джаконда») у Вас ёсць словы «стрымана-крылатае». Вельмі, як мне здаецца, да Вас стасуецца. Можна было б, вядома, пажадаць і нейкай большай дзёрзкасці, размаху, але ў гэтым «стрымана-крылатым» мне бачыцца важная Ваша душэўна-чалавечая рыса: не крыўляцца, не імітаваць уяўныя якасці, а з годнай сціпласцю рабіць сваё і — як належыць.

Адным словам, мне прыемна мець «Мелодыю святла» з аўтарскім надпісам. Канечне, калі б я пісаў артыкул ці рэцэнзію, то нямала, мабыць, з Вамі і спрачаўся, але гэта — калі б артыкул. Да таго ненапісанага пакуль артыкула хачу толькі дадаць: любыя мае друкавана-недрукаваныя меркаванні — чыста чытацкае, і ёсць вялікая доля нахабнасці ў кожнага, хто сам не мае здольнасці да боскае справы вершапісання, а свае празаічныя меркаванні гэтак упэўнена адрасуе паэту ці грамадскасці. Але будзем строгімі да паэтаў (ім болей дадзена) і даруем сёе-тое нам, чытачам і саматужным крытыкам, праўда?

*23.X.*

І пасланы мне гэты стогн з неба — яно такое чыстае, сонца добра сасвятлілася з жоўтым. Пэўна, зараз усюды свежа і хораша — зямля сухая, ціхая, дрэвы яшчэ з сякім-такім лістам. І калі выйсці ў поле — можна шырока развінуць думку, злучыцца з далеччу, паверыць у сябе і адчуць нешта творча-магчымае ў сваім душэўным бязладдзі.

Н. Асеев:

Уголь приближается к алмазу
не одну,
а много сотен лет,
так народом медленно, не сразу
выдается на-гора поэт.

Марцін Коўзкі: — Не крыўдна, калі абганяюць, крыўдна, калі абыходзяць.

Рыгор Бохан: Зубы ў крытыкаў прарэзваюцца марудна, куды лягчэй вырастаюць крылы ў Пегасаў.

«Благородство окрыляет, подлость ползет и жалит».

*21.XI.*

Сустрэча з Шуркам Бабуркам. Якая далеч ужо да школы і школьнага...

Вечар Алеся Разанава ў Палацы мастацтваў. Алег Лойка і я — у ролі крытыкаў. Апалагетычная аўдыторыя. Як звычайна, ніхто не слухае апанента. «Мяне, напрыклад, вучылі, што ў вершы не ўсё можна зразумець адразу, што трэба разумець умоўнасць, што годзе мерыць паэзію Твардоўскім («мерылі Куляшова, мерыце Разанава»)». Замест маёй спрэчкі з Лойкам (так меркавалася) мы, як атрымалася, з'ядналіся, аўдыторыя (тон задавалі маладыя мастакі) — супраць нас.

Адзін хлопец, студэнт з філфака:

«Я — максімаліст. На свеце 20 мільёнаў людзей памірае з голаду, ідуць знішчальныя войны, а гэта — сытая паэзія». Дасталося ж яму!

Між іншым, устае Ала Сямёнава і ўключаецца ў палеміку: «Я проста чытачка і выпадкова сюды трапіла»... А ў «проста чытачкі» на падыходзе кніжка, рэдактарская пасада...

На наступны дзень, 12 лістапада, лекцыя ў спартыўнай школе «Понимайте стихи, как они понимать вас умеют...». Поспех, нават нейкі вынік.

Размовы з Р. С. Бярозкіным у Бараўлянах пра кнігі, якія не вытрымалі выпрабаванне вайной; пра кнігу Яскевіча, нямецкіх паэтаў, living рознае блізкае і далёкае.

Адзін за другім лісты ад Маі Львовіч, просьба выслаць рэкамендацыю («пазваніце Брылю...»).

Штосьці важнае чамусьці не ўпісваецца ў блакнот, як быццам назаўсёды запомніцца.

Пры ўсіх збродных думках, што нараджаюцца і ў мяне, — абсалютная немагчымасць блуду: страты маральныя, духоўныя былі б надзвычайныя.

Мама, як заўсёды, аддадзена людзям... бясконцасць не ўзмоцненых воляй думак і намераў.

Цікавае кастрычніцкае віншаванне з Адэсы — з боскім благаслаўленнем.

І ўсё ж, як сочыш за сабою, не ўдаецца быць вышэй амбіцый і дробнага. Клышка мне гаварыў у Ленінцы: «...падумаеш, калі некага не ўспомніў. Ну і што?» Я спрачаўся: гэта (калі б успомніў) і гуманна, і... г. д., але ж пры гэтым не трэба губляць прынцыповасць, шчырасць.

*12.XII.*

У суботу хадзіў па лесе на «Усходзе» і думаў ліст Бураўкіну — аб драматызме крытыкі, аб крыўдзе паэтаў, аб годнасці, абавязку, сумленні... Пасля перадумаў: крыўдзіцца трэба не за сябе, а за другіх. А ўсё ж, мусіць, трэба. Так, трэба.

**К-й.** Знянацку адгукнуўшыся, Вы зноў зніклі ў нейкіх снягах мінулага, а жыццё пабегла і паімчалася скрозь сцяну будзённага і бяссоння. Апошняе, што я ад Вас чуў, было трывожна-няладным. Часам жыццё ўпарта не хоча, каб светлыя людзі былі абсалютна шчаслівымі. Вы засталіся ў мяне ў сэрцы і ў памяці як чалавек светлы, цудоўны і дастойны жыццёвай удачы і шчасця.

Свежа і рэзка мятуць завірухі, набягае цыклонамі бяссонне... А свет не тускнее — яшчэ больш рэзка і балюча адгукаецца душа на ўсё прыгожае і добрае і не хоча задавальняцца малым...

# 1978



*13.I.*

Год спеху. Хутчэй, хутчэй! Адно на другое. Усё яшчэ трымае артыкул «Паэзія і вершы ў рыфму», а шчыльная праграма ўсяго іншага ўжо не дае дыхнуць. Ліст у «Лит. обозрение», ліст ад Л. Б., ліст Шушкевіча, ліст Маі Львовіч.

*4.—10.II.*

У суботу, чацвёртага, я лістаў Куляшова, на стале свежы «Голас Радзімы» з маім матэрыялам, размовай з А. А. Званок. Адказваю на жартаўліва-бадзёрай ноце. Мікола Гіль пытаецца: «Ведаеш ужо ці не?» Я яшчэ цягну сваё, а ён: «Значыць, не ведаеш. Памёр Куляшоў...»

Усё астатняе адпадае з гэтых дзён.

Твардоўскі Ісакоўскаму. У паэта няма ўзросту, сапраўдны паэт — равеснік усім пакаленням — і свайму ўласнаму і сваіх унукаў.

*28.VIII.*

Вызначыць шлях да шырокіх абагульненняў.

Ганьса Грзалова: Шальда, самабытны і празарлівы крытык, пісаў, што ў пераломныя перыяды літаратурнага развіцця, у перыяды самавызначэння напрамкаў і стыляў, крытык набывае рашаючую ролю.

С. І. Бэлза: «Бялінскі аднойчы сказаў, што крытыка — навука, народжаная мастацтвам. На сучасным этапе набывае права на жыццё і адваротная формула: крытыка — мастацтва, народжанае навукай».

Ноч распачынае восеньскую дажджлівасць. (Пройдзе!) Сёння я не хачу паміраць. Не страх смерці, і не адказнасць за сям'ю — палохае (і патрабуе дзеяння) бяздоннасць неажыццёўленага. Сёння мне патрэбна яшчэ некалькі дзесяткаў год, каб стала вялікай крона.

Сёння я хачу яшчэ раз адолець хваробу; стомленасць, бяссілле, бясталеннасць.

Пімен Панчанка. «Прарастаю ў новы дзень»:

...Я аддам усё, што маю,
Буду голы, як Адам,
Толькі слёзы прыхаваю,
Толькі гора не аддам.

Што яшчэ мяне сустрэне? —
Я пытаюся радзей.
...Зноў варушацца карэнні —
Прарастаю ў новы дзень.

Людзі — дрэвы... Пра гэта напісаць артыкул, успомніўшы «Сасну і бярозу» Куляшова, міфалогію, кнігу Жака Трэвера «Дрэвы», многіх нашых паэтаў і гэта: «Мне кажется, деревьям, а не нам дано величье»... У паэтэс: «Мяне маці ў бары нарадзіла, як сасонку — тата — пасадзіла» (Бічэль), пасля Янішчыц і іншых.

*19.XI.*

Без запісной проста не жылося — незваротна сплывалі дні, вятры, галоўнае ж — сонечныя ўзлёты душы.

У жніўні згубіў запісную з двума аркушамі (пра духоўнасць і пра Вярцінскага), з накідамі іншага, з памяццю пра «Лісты з блакнота».

Рэдагаванне кнігі «Беларуская савецкая лірыка». Вымятанне ўсяго, што мела адзнакі майго слоўнага стылю.

Напісанне тэмы. З наскоку нічога не напішаш, але што паробіш. Збыць, каб вярнуцца ў лепшае.

Ліст з вершамі ад Папова, іярэя (цікава!).

*21.X.*

Пачаліся новыя набегі дажджу і цыклонаў. А да гэтага: увесь верасень халады і дажджы, з аўральнай уборкай, з выездамі акадэмічных груп. (Мы — Тычына, Кабаковіч, Савік, Чыгрын, Жук, як звычайна, у Дрычыне.) Потым два тыдні яснай, светлай, грыбной восені.

І вось — зноў пацямнела і паліло.

Смерць Гены (Генадзя Анатольевіча) Кажушкова. Таксама паслалі на ўборку. Ніхто пазней не згадзіўся падмяніць. Перакулілася машына, загінулі яшчэ шафёр

і маленькая дзяўчынка. Ён заўсёды быў сугучны ў нечым Ігару Хадановічу — безабаронная адкрытасць душы, прага жыццёвага, інтэнсіўнасць аддачы. Душэўная таленавітасць...

Лісты — Марыі Ігнатаўне Хадановіч, Жэні Янішчыц (ёй і Жуку прысуджаны прэміі Камсамола Беларусі).

Артыкул Міколы Мятліцкага «Пад нарачанскімі соснамі» («ЛіМ», 20.X.78) — можна смела ўключаць у любую чытанку.

А. Кушнер. «Воспоминание о любви».

Нельзя оглядываться мне.
Не потому, что тень утрачу дорогую,
А потому, что, прячась в стороне,
Она приблизится — и снова затоскую (...)

Лётаюць — густа і рэдка — сняжынкі. На зямлю ім пакуль што не легчы, але восень ужо ў новай пары.

*24.X.*

Чаму так хочацца патрабаваць удзячнасці? Нават ад самых блізкіх (дзяцей, жонкі)? Колькі ж людзей жыве, не вымагаючы нічога.

І снілася мне ноччу талькаўская Кепціха (нават імя і па бацьку яе не ведаю, не помню) з трыма дзецьмі-сіротамі. І плакаў я ў сне, і стаяла перад вачыма яе гаротная хата. Трэба напісаць Колю Трызне і папрасіць, каб пра яе — ці жыве? — мне расказаў.

Ліст Марыі Якаўлеўне Ярашэвіч, сястры Еўдакіі Лось:

«Вось пішу, а ў душы адгукаецца адно, другое, трэцяе.

Е. Я. была чалавекам рэдкай інтэнсіўнасці жыцця. Адных гэта вабіла, другіх бянтэжыла ці нават адштурхоўвала. Але пасля трагічнага ліпеня імя яе стала зорным, адхінулася ўсё штодзённае і ў пранізлівым святле ўбачылася велічная постаць вялікай працаўніцы, жыццялюбкі, таленавітай паэтэсы, незвычайнага чалавека. Яна пакінула аб сабе вялікую, светлую, балючую і доўгую памяць...

Дар душэўна істотнага і шчодрага слова».

*3.XI.*

Сонца ў тумане, цеплыня, добрая восень для непаспешных спраў. Вярнуліся на зямлю пасля 140 сутак палёту касманаўты Уладзімір Каваленак і Аляксандр Івачэнкаў.

...Па ўсіх, хто рана адышоў, — усё больш самотна. І Лена Грыневіч, і Ігар Хадановіч, і Іван Сяргееў, і Алесь Міклуш, і Сымон Блатун, і Сербантовіч, Нядзведскі, Кажушкоў, Адам Кляніцкі, Самусевіч... Яшчэ, яшчэ — трывожаць адтуль, з незваротнасці.

*13.XI.*

І снілася, што зноў паехаў я да Кепціхі, а нейкі чалавек гаварыў мне, што ёсць у яе новая хата, а я — у сне захлынуўся слязьмі і шкадаваннем. Пэўна ж, яна павінна яшчэ жыць — была зусім не старою, нават маладою. Асаблівасць дзіцячага ўспрыняцця: тое, што яе дзеці — сіроты, тады ўспрымалася як дадзенасць, факт, з якім бадай што згаджаешся. Наогул, у дзяцінстве ўсё ўспрымаеш як норму.

Быць на вышыні духоўнага — недасяжнасць. Маштаб асобы, сіла характару — так многае тут залежыць толькі ад саміх сябе, а мы — тулягі.

*14.XI.*

Ліст Галіне Кажушковай:

«Немыслимая, невероятная беда обрушилась на Вас. Ничего не изменишь, и даже сказать: «Крепитесь!» — пустой звук.

Анатолий — редчайший человек. По какой-то сразу располагающей открытости, удивительной увлеченности жизнью, замечательной общительности, яркой и разносторонней одаренности. Жизнь, к несчастью, почему-то таких не щадит.

У меня Он все время так и стоит перед глазами, не оставляет души. И сейчас слова вязнут, и чувство большой общей и личной потери определяет внутреннее состояние.

Что же говорить о Вас, если горе у Вас стоит в каждом углу, отзывается во множестве шагов, воспоминаний и раннем сиротстве сына.

Судьба уготовила Вам суровейшее испытание. Избавиться от него невозможно. Остается лишь просить у

судьбы, чтобы она совсем Вас не подкосила. Пусть растет Ваш ребенок здоровым, пусть не знает новых бед. Еще много людей скажут ему, что своим отцом он может гордиться. Примите низкий поклон и глубокое участие в Вашем горе».

*3.XII.*

Быў у Толі Псікава. Усё ў парадку. Здаў артыкул у «ЛіМ» — «На ўсё жыццё». У спеху не ўсё сказаў, ды і плошчу можна было ахапіць шырэйшую.

Сёння ад С. П. Шушкевіча чарговая бандэроль з біяграфічнымі матэрыяламі. Цяпер — копіі лістоў Вахмістрава, яго былога начальніка геалагічнай партыі.

Учора — зімні холад. Сёння яшчэ халадней, пароша. Толькі цяпер мінулася паласа вясны і лета.

Усё клопаты з-за Сяргея: кожны дзень здарэнне.

Чамусьці я не здолеў напісаць пра хату Кепціхі, пякарню каля яе.

*6.XII.*

Аб тым, што сны сняцца ўсе толькі вясковыя.

«Ничтожность сделанного». Тут трэба расхінуцца, даць волю ўяўленню. Калі строга глянеш на сваю пісаніну — звычайная драцянка.

И. Франко. Крыло сойки. (Из записок нелюдима):

«Без оптимизма, без излишних надежд, ведь оптимизм — это признак детской наивности, которая видит в жизни то, чего нет, и надеется на то, чего жизнь не может дать.

Без пессимизма, ибо пессимизм — это признак болезненного малодушия, это testimonium pakpertatis (свидетельство о бедности), которое сам себе выдает человек.

Без излишнего равнодушия и без излишнего энтузиазма! Без излишнего упорства и жестокости в житейской борьбе, но и без небрежности и расслабленности. Во всем разумно, осмотрительно, обдуманно, а прежде всего, спокойно, как подобает сорокалетнему мужчине».

«Правда», 14 дек. 78. «Улететь и вернуться». А. С. Иванченков (летчик-космонавт): «Трудно всегда оставаться таким, каким улетел с Земли, и вернуться на Землю таким, каким стал в космосе».

*17.XII.*

Каб рухацца, трэба ўмець пераадольваць уласныя звычкі, змяняць жыццё і самому змяняцца. Што магчыма ў такім выпадку? Больш людзей, дарог і разамкнёнага існавання. Занадта сцяўся.

Калі Ул. Караткевіч піша звычайны артыкул, ён вольны ў асацыяцыях не толькі кніжна-культурнага зместу, але і ў пераходах на рамантыку вольнага і прасторнага ў абсягах жыцця. Пры гэтым адчуваеш, што дарогі, прыгоды ў яго сапраўды былі, а не адной фантазіяй зроблены.

На вуліцы холад (набегла яго з паўночнага ўсходу пасля адлігі) і снег, які ўсё гусцее, гусцее і добра мяцецца. Апісаць гэта? З якою мэтаю? Ці далучыцца да новых планаў, да адчування сённяшняга часу, роздумаў пра сэнс жыцця? Ды яшчэ патрэбен талент выяўленчасці, дакладнасць у слове, што ўжо застанецца недасягнутым...

Л. Мештерхази: «Я писатель и потому не стану отпираться: конечно, я жажду успеха».

Как сказал один мудрец: верьте тем, кто ищет правду, и сомневайтесь в тех, кто нашел ее.

*27.XII.*

Абарона кандыдацкай у Анатоля Вераб'я.

Званіў Пташнікаву — яму Дзяржаўная прэмія БССР імя Коласа за «Найдорф» («—Да гэтага яшчэ трэба прывыкнуць»).

Чытаў Нячуй-Лявіцкага («Заноза», «Среди врагов»), апавяданні Жэмайтэ. Жыццёвыя. Ёсць, вядома, нейкі момант чужаніцы, але галоўнае — веліч нявыдуманага, літаратурнага нявымучанага жыцця.

«Много говорит, да слушать нечего». Быць сціплым — у норме паводзін, у характары сказанага і зробленага. Даеш зарокі сабе, а пасля штосьці робіш не так і адчуваеш сябе кепска.

Важна, вядома, думаць вялікую думу аб жыцці і выказваць яе ў першазнойдзенай велічы, але не менш важна — быць сапраўдным, трывалым, мужным. Што нельга даравацьсабе — бесхарактарнасць. Справа не ў лагоднасці.

# 1979



*3.1.*

Учора ў «Правде» перадавіца з назвай «Добиваться большего!». Сапраўды. Прэч пасіўнасць. Званкі пад Новы год Пташнікава («Больш баявітасці. Каб у паэтаў было болей «дрожи») і Сіпакова. Званок Ул. Караткевіча — пахвалы. Не адразу зразумеў, за што. Пасля падумаў: мусіць, за прадмову да «Беларускай балады».

Думкі пра артыкул-«апавяданне» — «Дарожная размова». Калі ты здаровы чалавек, то, ходзячы ўвесь час каля аратых і ацэньваючы іх работу, чаму не захацець самому працягнуць крыху плуг. Аб звужэнні сферы крытыкі — «спецыялізацыі». А ўвесці ў размову само жыццё, яго працэсы, з'явы, з тым, пра што думаюць і ад чаго гаруюць людзі, а пасля — і кнігі, што вядуць у гэта жыццё.

Адчуванне першаадкрыцця. Празаізацыя ў састарэлай якасці — апісальнасці. Новая якасць — аналітычны ракурс (Вярцінскі 60-х).

Патрэбна крытыка высокіх крытэрыяў (гэта адно) і крытыка высокіх ідэалаў (дакладней, каб не было стылявой блытаніны): крытыка з высокімі ідэаламі, з шырынёй не толькі літаратурна-эстэтычнай сферы, але пранікнення ў жыццёвае і ахопу жыццёвага.

Аб літаратуры сціплых: Ул. Машкоў, чалавек добрай усмешкі, з яго цудоўнымі дзіцячымі творамі, Э. Ялугін.

— А хіба не знаходзіш ты асалоду ў самім пранікненні, у радасці дакладнага, у пару сказанага, трапнага, аналітычна-крытычнага слова. Талент крытыка (дар) — у першую чаргу чытацкі. Хай ты зайздросціш паэтам і пакутуеш ад невыказнасці свайго асабістага, але ты павінен у першую чаргу быць крытыкам-чытачом і з чытацкай неэгаістычнасцю поўніцца ўдзячнасцю, захапленнем, адгукацца на ўсё шчырае, чыстае, духоўнае. Ты

нават павінен быць тым ідэальным чытачом, да якога як да адзінага звяртаецца аўтар.

— Так, але не зусім, не ва ўсім, не заўсёды. Я павінен валодаць большай самастойнасцю, здольнасцю нязгоды і спрэчкі.

— Усё ж правер спачатку не свае адносіны з паэзіяй, паэтамі, а свае дачыненні з жыццём і людзьмі. Мо табе не хапае волі, духоўнай энергіі. Ці не адключаешся ты ад турбот, абавязкаў, як адключаеш тэлефон на ноч? Ці не баішся ты жыццёвага бруду? Нават жаданне быць добрым з усімі — многіх яно раздражняе больш, чым самыя відавочныя хібы.

Недахопы, іх змест і сутнасць. Часта іх ведаюць і ўсведамляюць і чытачы, і крытыкі, і самі аўтары.

Паштоўка ад Ант. Нілаўны Седаковай: «Помогите написать новые воспоминания о Твардовском». Лёгка сказаць.

*15.I.*

Барадулін у выд-ве: «Добра, што хочаш даць паслужны спіс кожнага аўтара. Будзе відаць, хто ваяваў, а хто адседжваўся».

Апавяданні Блаўманіса — уся антыўласніцкая проза моцная. Блізкасць Жэмайтэ, Чорнага, Рэйманта.

Паводле народнага павер'я, калі статак вяртаецца з поля і першай ідзе белая карова, — гэта на добрую пагоду.

Бывае: скажаш, цябе не пачулі і думаеш: ці сказаў? Так і з літаратурным выступленнем.

*30.I.*

Успомніўся дзівосны рытм работы ў 1959—1960 гг. Ленінка, кнігі, штодзённая ўключанасць у новае і паглынутасць ім, адчуванне руху і ўнутраная свежасць, нават сіла, хоць мляўкасць і стомленасць чуюцца ўвесь час.

Для «Дар. размовы»: «Вчитываясь в статьи писателя, начинаешь постигать, что метод анализа, названный им размышлениями, если и уступает общепринятому исследовательскому в многогранности, в широте, то, бесспорно, выкрывает в глубине и, самое существенное, в

одушевленности письма. «Дневниковая форма», исповедальность, самооценка, проверка собственных худож. принципов... Большой эстетический и человеч. такт.

Своеобычная филос. устремленность.

Апавяданне Эдуарда Русакова «Голос пропавшей жены» павяло на іншае: як чуюцца галасы прапаўшых людзей...

*4—6.II.*

На вечар Барадуліна ў Віцебск. Хваляванне (тэлебачанне, з Быкавым, увесь горад) замінала глядзець, бачыць, думаць.

Якія сёлета снягі! Трывожныя, задуменныя, светлыя. Снег за снегам. Узвейныя. Навальна-густыя, рэдкія — здаецца, можна лічыць па сняжынцы.

Шукаю магілу Еўдакіі Лось. Дзе яна? На маскоўскіх могілках, у перадвячэрнім змроку сястра даглядае магілу...

Снег на сонцы, снег у шэрані. Жыццё святкуе свае новыя святы, сонца спяшаецца ў вясну, там гэты снег стане вадою, травою, бярозавым і кляновым сокам... Цішыня і маўклівасць снегу стане шумам і вясёлай гамонкай дрэў і травы.

Даруйце нам, Еўдакія Якаўлеўна, усё, што мы вам не даравалі. Нехта скажа пра каханне яе словамі, нехта ўсміхнецца яе ўсмешкай, у нейчым сэрцы стане самотна ад яе самоты, і зноў і зноў будуць адгукацца, запаляючы святлом, радасцю, болем, трывогай яе паэтычныя радкі.

Нават тым, хто быў у спрэчцы з ёй, не стае сёння яе голасу.

Была яна сястрою тым партызанам і воінам...

З артыкула Р. Барадуліна: «І з кожным новым сакавіком будзе ціха прамаўляцца яна, пакуль будуць чытаць, любіць і помніць, паўтараць яе радкі і ў іх знаходзіць словы для сваіх пачуццяў чытачы. І гэта будзе яшчэ доўга, доўга».

*14.II.*

Чарлі Чаплін: «Пакуль людзі будуць змагацца за свабоду, яна не загіне».

А. Межиров:

> Тоска по дому, по семье,
> По молодому, по себе.

«У меня — нет таланта, есть призвание» (з размовы).
Орлы не собираются в стаи.
Факты святы, толкование свободно.

*19.III.*
Адзначылі 60-годдзе мамы. Было сціпла і прыгожа.
Да 7 сакавіка — сонца, асляпляльны бляск, вясновая цеплыня. Снегу яшчэ вельмі многа — уся дача заснежана. Усё новыя, новыя думкі пра неабходнасць палёту, абсяжнасць і інтэнсіўнасць работы, пра веліч справы.

«Может быть, і правда, секрет творческого таланта — в личном поведении автора» (Пришвин).

*16.IV.*
Доўгае развітанне з набеглым. Пісаў артыкул да юбілею Каваленкі. Усё сніцца: хрумстаю яблыкі, апошнім разам нават з чорнымі плямамі. У горле нешта перасмыкаецца. У небе многа прыгожага, цёплага і халоднага сонца. Выпадковасць і дробнасць зробленага.

В. Незвал. «Витрины» (перевод Д. Самойлова):

> ...Желанья, для которых нет названья,
> Желанья, о которых не запишешь в дневнике,
> Желанья, о которых не прочтут в моих томах,
> Желанья, которые снуют во мне без рассуждений
> и усилий,
> Как игла в проворных пальцах белошвейки,
> Желанья, упрятанные колдовством,
> Как платья в скорлупке,
> Звезда в пламени,
> Ручей в дереве,
> Ликованье в слезе,
> Жизнь в смерти,
> Желанья, которые делают из меня лунатика.

*19.IV.*
Наплыў нескончонай самоты; хада вяла не ўверх, а па плоскасці. Не трэба нам гаварыць пра таленавітасць — міф, а трэба пра недахопы; гэта мо меней заахвочвае, але моцна дзейнічае.

Зноў адчуванне нейкай адкінутасці ад агульнай спра-

вы, ад калектыўнай думкі, на якую ты не маеш уплыву, адзінота.

Патрэбен іншы стан, каб шукаць і знаходзіць новае, не губляцца ў выпадковым.

*30.IV.*

Быў наплыў цяпла, цяпер прахалода і пахмурнасць.

Трапна на 16-й старонцы «ЛіМа» (27.IV) нехта Жорж Патапчук: «Часам, азірнуўшыся назад, можна ўбачыць таго, хто ідзе паперадзе».

Памёр Мікола Ткачоў.

Васіль Жуковіч у вершы «Пад небам журбы»:

Прыгадваю бальніцу. Нават там
«Усё будзе добра», — вы казалі нам
ужо зусім знямелымі губамі.

*4.V.*

На вуліцах пацяплела толькі пасля мая, затое ў доме, на службе — холад.

Пасля вываду яшчэ застаецца: — А можа... Гэта тое, што павінна дапоўніць вывад, зняць з яго закончанасць, канчатковасць.

Язэп Семяжон. «Запрашэнне ў свет паэтычнага». Зб. «Л-ра нашых дзён». Мн., 1963, с. 217. (Пра Е. Лось.)

«Дрэнна, вядома, калі паэт у сваю мудрую сталасць творча не малады, а малады ў свае дваццаць, дваццаць пяць — не мудры. Маладосць — не прывілея аднаго толькі ўзросту. І ўсё-такі, нам здаецца, нашай маладой паэзіі ўласціва такая якасць, як хуткае, не па ўзросту яе творцаў, станаўленне, вызначэнне характэрнасці кожнага з яе носьбітаў, пэўнасці і спеласці талентаў».

«Да и стоит ли жить на свете, если тебя не любят?»

Мікола Трафімчук («Чырв. змена», 3 ст. 1979 г.):

Мембраны тэлефоннай хваляванне
І голас незнаёмы ў німбе дна:
«Я знаю вас...
Хачу сустрэцца з вамі...»
І цішыня,
Жывая цішыня.
Марудзіў.
А ў душы ішоў малебен...

В. Казько: «Каждый раз, читая прозу Олега Ждана, я испытываю волнение. Возникает желание проникнуть в нее, в ту жизнь, которую он показывает, что-то чуть-чуть изменить, повести героя по какому-то другому руслу, дать ему свой опыт. Хочется поспорить. И всегда так».

Натуральна, што ў пакалення А. В. была, ці ёсць, ці павінна быць інтанацыя тугі, болю ці нават надрыву. Але павінна была знайсці выхад і гераічная інтанацыя.

Жыццё сірочае, у ім вельмі часта немагчыма выправіць свае памылкі, яны непапраўныя. Але немагчыма заўсёды быць разумным, мудрым і бездакорным у кожным дзеянні. Мала шчырасці і мала розуму — усё адно праз гады за спіною застаюцца выпадкі ганебнай няўважлівасці, легкадумнасці, неразумення і іншага.

Алесь Камароўскі. «Пачатак» (Мн., 1975. С. 25):

Ля абеліска на кветках —
не росы:
Родных і блізкіх слёзы.

*7.V.*

У азнобістым холадзе. Лісты ад Львовіч — вершы, пераклады.

Евтушенко. «Свидание с Победой»:

Войны тяжкою поступью ходят
По совсем неповинным телам.
Я, узнавший и голод и холод,
Тоже этой войны ветеран...

*11.V.*

Даўнавата не было спатканняў з вершамі на хвалі здзіўлення і радасці. Быццам трэба выйсці з нейкай непрасыпнасці і замаруджанасці.

Першыя выступленні ў друку Яўгена Гарадніцкага — у «ЛіМе», «Маладосці», «Звяздзе». Крытыкаў паэзіі ў нас мала, гаворыцца многа выпадковага, мала супераджывальнасці...

«Так он играл, будто спорил с судьбой...» (Ленау).

Штосьці заіграла добрым промнікам — аб самоце і радасці...

«Он сделал то, что хотел, и умер, когда желанный берег был уже близок, так и не изведав горечи достигнутой цели» (Моэм, «Мэйхью»).

*22.V.*

У мастацтве, паэзіі павінна быць хоць крышачку легенды, небудзённага.

Адчуванне такое, як быццам у многіх пісьменнікаў нешта важнае пройдзена і ўжо ў мінулым. Што? Істотныя духоўныя, маральныя стымулы?

*29.V*

Дні — як у леце. Так хутка адбыўся пераход да зяляніны, цвету, што нічога не ўбачана. Другі тыдзень — толькі сонца, чыстае неба, смутнае адчуванне нейкай страты.

Механічныя артыкулы, неразборлівыя захвальванні — бяда, большая за канкрэтны выпадак.

Н. Рубцов, «Сергей Есенин»:

Это муза не прошлого дня,
С ней люблю, негодую и плачу.
Много значит она для меня,
Если сам я хоть что-нибудь значу.

Апошні радок — важны.
Яшчэ з Рубцова:

...Душа свои не помнит годы,
Так по-младенчески чиста,
Как говорящие уста
Нас окружающей природы...

*2.VI.*

Сядзеў у кватэры — гарачыня, млоснасць, пот. Пісаў артыкул для «Советской Белоруссии» — пра Пушкіна. Не так пісаў, як сумаваў ад ляноты, адзіноты, бесталеннасці, няведання — усё эгаістычныя, па сутнасці, адчуванні. Падыходзіў да акна, глядзеў уніз — людзі ідуць і ідуць. Цмокаў, калі ішлі красуні. Я быў асобна, жыў адзін на свеце, а ўсё было пабочнае, старонняе.

Двойчы прайшоў міма акна Воўка Бабурка — Шуркаў брат, хлопец спакойны, просты, хоць і надзелены дастаткова піжонскай знешнасцю. Прайшоў — ну і

прайшоў, толькі мільганула думка, што добра было б яго дагнаць — спытаць Шуркаў тэлефон і адрас.

Ах, Шурка, Шурка, — я яшчэ нічога не ведаю, быццам сплю.

Выйшаў пазней у магазін — зноў бачу Воўку, каля маршрутных таксі. Здалёк перамахнуліся, я запыніўся і падышоў. Гаворым пра тое, сёе...

Ах, дарагі мой Шурка, што я зараз дазнаюся!..

— Слухай, я згубіў Шуркаў тэлефон, думаў, лёгка запомню.

— Сашы? Няма ўжо яго. Памёр у лістападзе, пахавалі...

Шура, Шурачка дарагі! Такі вясёлы і свойскі, такі прыветна адкрыты, такі ўдзячны жыццю (а ўсё жыццё мучыўся!). Як весела і добра ён гаварыў пра сваё, нават калі аддаліліся. Вось дзе было не фальшывае, не прыніжанае, нічым не азмрочанае дружбацтва.

Ішоў, быў ён прад вачыма, і думалася: я паем, уключу тэлевізар, буду жыць розна драбязой, а яго — няма.

Няма чалавека з тых, дзеля якіх і жывеш, даражыш жыццём, а што без іх...

Для іншых ты — то дурны, то бяздарны, то зайздросны, то хітры, то подлы, то яшчэ нейкім чынам нягодны. А для яго ты заўсёды быў добры таварыш, за якога рады, у якога верыць.

Такі быў ён і мне, хоць мала я шукаў з ім сустрэч, і не ўбачыўся ў гэты апошні год, а цяпер убачу ўжо толькі магілу.

Увекавечваюцца паэты, мастакі, а ён у сваім ціхім бяссмерці скіраваўся ўжо ў свет забыцця, якое чакае ўжо недзе яго праз паўтара пакалення.

Ах, Шурка Бабурка, лепшы мой аднакласнік, таварыш па парце! Не ты з класа першы туды пайшоў, але чаму, нашто так недарэчна і рана...

Твой свет — свет цішыні і вечнасці... Колькі ўжо там: Сярожык Нальгачоў, Коля Кепець, Ігар Хадановіч, Саша Міклуш, не кажучы пра тых, што рана знікалі паўзбоч: напрыклад, Лёня Яцук або Ларыса Кручонак, вучань мой слаўны Адалій Кляніцкі і... доўгі спіс. І нікога з іх нават фатакартак няма, і яшчэ жывуць іхнія маці...

Хіба так трэба жыць, думаць, дыхаць, працаваць, а галоўнае — знацца з людзьмі, калі яны — лепшыя, прыгожыя, рана сышлі, а ты вось маеш ласку жыць, хоць

лёс мог бы выбраць і цябе, што было б больш, можа, справядліва.

І нават цяпер — нічога не рабіць — значыць песціць сваю самоту...

*7.VI.*

Увесь час (ужо тыдні са тры) суха, сонечна, горача. Дачнікі сабе пырскаюць ваду на агароды, а вось на палях пагроза засухі.

Перад сарака гадамі ўжо вычарпаны ўсе авансы, цяпер — будзень жыцця без маладосці, дужасці, перспектывы. Адзін толькі рэсурс — воля, скіраванасць і праца.

Пераправерка стымулаў?

Чаго хочаш? Да чаго імкнешся? Чым жывеш? Галоўны дакор і страх — велічыня страчанага. Колькіх людзей прамінуў, як недарэчна драбніўся, як многа мітусіўся, прытвараўся, сябе і іншых падманваў...

Не мець дзяцей. Цяпер ужо добра адчуваеш, якая гэта страта.

Богомил Райнов «Табачный человек»: «Мы всегда носим в себе своих покойников, а уж то, как мы их чувствуем, — покойниками или живыми людьми, — в большой степени зависит от нас самих».

А. С. Пушкин:

> Пора, мой друг, пора! покоя сердце просит —
> Летят за днями дни, и каждый час уносит
> Частичку бытия, а мы с тобой вдвоем
> Предполагаем жить, и глядь — как раз умрем.
> На свете счастья нет, но есть покой и воля.
> Давно завидная мечтается мне доля —
> Давно, усталый раб, замыслил я побег
> В обитель дальную трудов и чистых нег.

«Глупость и подлость универсальны», и тем беспощадней, когда союзниками их становятся дурной вкус и власть.

*9.VI.*

Да 9-га чэрвеня — гарачыня, сухое паветра, чаканне дажджоў. Усяго 2—3 скупыя дожджыкі, якіх не хапіла нават прыбіць пыл. Гэтай ноччу — маланка, грамы, але зноў нядоўгі і малаводны дождж. Цяпер — пахаладнела.

Як добра было ісці на электрычку і думаць (у міну-

лы панядзелак): навакольны свет, расхінутая прастора, свежасць паветра — усё было для душы як спеў, і хацелася ісці і ісці, ад ранку да цемнаты, і гаманіць з добрым сябрам, а не горш — з прыгожай сяброўкай, пераплываць рэкі... Але набягала новая стомленасць, і — без запісу — знікла тое лёгкае і радаснае адчуванне.

Уражанне — не ў вывадах, а ў множнасці адчуванняў, глухіх (невыразных) і праясненых.

«Сильна та власть, которая не вся употреблена, мудра та мудрость, которая не вся высказана».

Лев Озеров. Читая Пришвина:

Сиянье снега в феврале
Поэт назвал весною света.
И вот — по милости поэта —
Весны чуть больше на земле.

*16.VII.*

Усё яшчэ — дзякуй ім! — знаходзяцца раптам кнігі, што ўстрывожваюць, уздымаюць на незвычайную вышыню, дзе так трудна і так светла сэрцу. Тут усё становіцца душэўнай неабходнасцю, і тут — у кожнай наступнай старонцы ўсё новае і такое ж свежае, трывожнае, знананечаканае. І апаноўваюць слёзнасць і роздум, узнікае рашучасць да мужных і простых учынкаў, і вяртаецца надзея, што ты яшчэ не зусім гіблы, калі даецца табе гэтакае глыбокае перажыванне.

Перачытваў «Живи и помни» Распуціна. І там, дзе Гуськоў і Насцёна бачылі «обоюдный» сон, як не ўздыхаць, не плакаць — за Насцёну, за ўсіх.

Хочацца жыць толькі шчырасцю і працай — а без гэтага не можа быць шчасця.

А. Межиров («НМ», 1979, № 7, с. 147):

Льется дождь по берегам, по ивам,
Приминает цветы на лугу.
Стало горе мое молчаливым,
Я о нем говорить не могу.

Мне желанья мои непонятны,
Только к цели приближусь — и вспять,
И уже тороплюсь на попятный,
Чтоб у сердца надежду отнять.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

...Не печалься о разрыве,
Стал букет еще красивей
Оттого, что он увял.

*19.VI.*

У апошнім «Голасе Радзімы» нататка Г. Каханоўскага «Сто раманаў». Сцвярджае, што раман Б. Сачанкі «Вялікі Лес» — «соты раман бел. літаратуры». І яшчэ: «У 1976 годзе пяройдзены рубеж пяцісотай аповесці». Як ён гэта вылічваў, невядома. Але цікава.

*20.VI.*

Піша Гранін: «...каким душевным здоровьем надо обладать, чтобы чувствовать счастье от ежедневного преодоления».

У жыцці чалавека бывае раптоўны момант вострай пераацэнкі сябе і ўсіх каштоўнасцей (напрыклад, хвароба). Але для мастака гэта, уласна, — кожны твор.

Дарэчы, як піша Валянцін Распуцін пра шчасце Насцёны — хай кожны сабе возьме:

«С малых лет Настена, как и всякий живой человек, мечтала о счастье для себя, наделяя его своим, с годами меняющимся представлением. Пока ходила в девках, и счастье ее тоже гуляло легко и свободно, в любой момент оно могло нагрянуть отовсюду, все четыре стороны для него были распахнуты. Так и грезилось: она стоит посредине, а оно, заигрывая, подлетает то слева, то справа, дразнит, щекочет мимолетным ласковым касаньем, зовет за собой и до поры, оставив обещание, отлетает. Так его много было, столько в нем чудилось красивой, непознанной радости, столько любви и удовольствия, что не терпелось тут же окунуться в него и купаться, купаться, тратя его напропалую каждый день и каждый час, чтобы не оставить после себя сиротою...» І не спыніцца — далей будзе складаней.

Шкадаваць Гуськова можна толькі да той яшчэ пары, пакуль Насцёна не зацяжарала. Далей немагчыма, паколькі ён звальвае на яе галоўны груз. А да гэтага ён усё ж вытрымаў трохгадовы франтавы цяжар вялікай вайны.

Што павінна сказаць крытыка пра кнігу? Даць адчуванне і маштаб перажытага з кнігай, узбуйненую высноўу, вынік з прачытанага, паказаць духоўны абсяг твора яшчэ і ўласным роздумам-выхадам на новыя духоўныя і жыццёвыя прасторы. Але яшчэ варта і трэба колькі можна разоў перагукнуцца з творам, пабыць у

ім не знадворку, а ў самой яго ўнутранай атмасферы — яшчэ раз азвацца на яго водсветы, агонь, лёд, цяжар, свабоду.

*17.VII.*

Халодныя цыклоны, а ўсё адно душа прагне прасторы і чуе бязмежжа.

У суботу ў Зялёным, на дачы — з Вярцінскім, каля аўталаўкі, у мяне, у яго. Доўгая размова аб усім і ні аб чым; шмат гадоў жа не гаварылі ні трохі.

*1.IX.*

Многа было і featured рознага, але галоўнае: вострае адчуванне нястачы часу. Кожнае лета час адпачынку неяк асабліва гэта выяўляе.

Рэцэнзіі на рукапісы кніг М. Яроша «Пятрусь Броўка» і Р. Няхая «Цана жыцця».

Прыслаў дзіцячую кніжку Павел Марціновіч.

Нарачанскія дзесяць дзён. Зноў радасць ранішняга купання і чыстай азёрнай вады. Грыбное лета.

У «ЛіМе» — добры артыкул Валянціны Коўтун «Наталіце зямлю дажджом...» — пра Янку Сіпакова. Артыкул вылучаецца над усіхняй — і маёй — пісанінай: узмах крыла.

Узрушанасць, мера пранікнёнасці, стылёвая свабода, гнуткасць думкі, раскаванасць формы, напоўненасць зместу. Ёсць паэтычнасць, народжаная суладдзем з першакрыніцай, і паэтычнасць, якая ідзе ад асабістага багацця душы і здольнасці адгукацца на прыгожае ў жыцці і паэзіі. Дзесьці, магчыма, ёсць перабор, эмацыянальнае пераважае над аналітычным, але пад уладу артыкула я трапіў і добра адчуў, што лепей пра Сіпакова я напісаць бы не змог.

Прапаведзі сумлення і шчырасці ў нас — у літаратуры, крытыцы — часта не хапае іменна сумлення і шчырасці. Яны як быццам і ёсць, але побач — маленькія хітрасці, дробныя падтасоўкі і вось ужо — няшчырая шчырасць, шчырая няшчырасць.

Увесь час пытаеш сябе: а ты? І не магу адказаць, не магу ўбачыць староннім вокам, як жа я сам успрымаюся.

Раман Віля Ліпатава «И это все о нем...». Вельмі таленавіта, але выдумана. Хлёсткасць, эфекты побач з заяўкай на сур'ёзнасць. Урэшце галоўны пачатак першажыццёвай істотнасці паглынаецца стылёвым бляскам.

Пейзажы, партрэты, характары — у аздобе перабольшванняў. І ў выніку ніводнага характару з прынцыповай самабытнасцю асобы, лёсу, унутранага свету. Дапушчальныя варыянты. Замены.

А сэрца сцялася з весткі пра ягоную смерць. І ў анатацыі сказана правільна: «Имя Виля Липатова хорошо известно каждому читающему человеку».

Щедрость и систематичность труда — черта, как мне кажется, только истинно одаренных людей.

У свеце шмат яшчэ ў людзях жывога, прыгожага, яно шчымліва чуецца, і трэба толькі ім натхняцца.

*8.X.*

Напрыдумвалі шмат метафар і вобразаў адзіноты, самоты, болю і ўмеюць іх выявіць у тонкіх і складаных асацыяцыях, а ўсё гэта проста і строга глядзіць з душ і вачэй людзей, якія жывуць пакутай і цяжкасцю без думак пра тое, як гэта скажацца.

*13.X.*

Са старой «Юности» (1971, № 5).

Михаил Квливидзе. «Монолог Бараташвили» (перевод Д. Самойлова):

Собираюсь жить! Очи видят свет,
Сила есть, и ум не теряет нить...
Сколько лет уже, сколько долгих лет
Собираюсь жить, собираюсь жить!

Собираюсь жить! Сборам нет конца.
Собираюсь все и не соберусь!
Тают в кулаке вроде леденца
Сладость детских дней, молодости вкус!

*15.X.*

Сіноптыкі назвалі гэта «сяродземнаморскі цыклон», а гэта — другі тыдзень сонца, паружавелага небасхілу і светлай сінечы.

*16.X.*

І сённяшняе, і ўчарашняе, і папярэдняе: гэта восеньская святочнасць сонца, шапаценне лісцяў. Некалькі дзён назад — раніца ў тумане. З трывогай. З прыглядаennем да поля і лесу, з павевамі ветру і шапаценнем лісця. Забываўся на ўсё і самапаглынаўся нейкімі думамі,

але гэтыя думкі раптам набывалі шырыню і істотнасць, бо недзе і ў іх жыла гэта восеньская святочнасць: гэты шорпат лісцяў, радасць і сум, надзеі на справу і безнадзейнасць, яднанне з людзьмі і светам і адасобленасць ад усяго.

Сёння ездзіў у Астрашыцкі Гарадок. Калі ўбачыце там, што соўгаецца па вуліцах нейкі дзівак у расхлістаным плашчы, узіраецца ў твары людзей, быццам яны ў нечым яму знаёмыя, разглядае гэтыя прыземістыя і старыя, аселыя ў зямлю хаты, задумліва глядзіць на раку, сажалку і возера, прастойвае без выразнага сэнсу на могілках... — то гэта я.

Дзіўнае жаданне ўсё абысці, абгледзець і прыпомніць. А ўсё паўстае з трыццацігадовай даўнасці не надта і змененым: цэнтр стаіць у той жа каардынатнай сетцы: шавецкая майстэрня, сельмаг, школа, сталярная, бальніца. Але няма, няма знаёмых: яны сустракаюцца толькі на могілках, на надпісах: Лявіцкі, Якунін, Кручонак, Мураўскі, Пашыкі, Абмёткі, Бацяноўскія, Аносік... яшчэ, яшчэ.

Дзесьці раскручваюцца новыя і новыя плёнкі знятага памяццю дзяцінства. Вось было два масты і млын, тут кралі мы ў завознікаў сена, цікавалі, каб адрэзаць конскі волас на вуды. Клуб — на рамонце, стаяць толькі сцены. Тут — цэлая процьма розных успамінаў. Між іншым — Я. пускаў мяне ў кіно бясплатна, але ж я з некім спрабаваў праскочыць так, і быў злоўлены. На возеры пад ледзь чутнай імжакай гойдаліся памалу лодкі з рыбакамі. Возера стала малым, як і ўсё іншае ад часу дзяцінства: усё-ўсё тужліва зменшылася, але яго было так яшчэ многа. Як заўсёды, я пагубляў думкі.

Магілу Веры Фамінічны ўсё засыпаюць новым ламаччам і смеццем, а што рабіць — не ведаю.

На брацкай магіле пакрысе сціраюцца надпісы, некаторыя ўжо не чытальныя. Забыццё працуе, працуе; старэюць сосны на могільніку, магілам цесна, вольнага месца ўжо няма, а скрозь ляжаць маладыя-маладыя...

*23.X.*

Дзіцячы час. Наплывы таго, што, можа, і самому не помніцца.

Мы з Гешкам забрыдаем у крапіву, плачам.

Астравок-купіна на сажалцы. Ён рухаецца. На ім — аерыны і чароціны. Да яго — блізка, і ён — наш. Паха-

ванне ката. Збіранне шаймораў (пабіліся з-за іх, і я плакаў).

Лугавіна каля рэчкі, па дарозе на Селішча. Месца для мяне (пяць-шэсць гадоў) ужо далёкае, а таму зваблівае і загадкавае. На схіле лета палім кастры, нехта накладае вуголле ў бляшанку і раскручвае — здорава! А печаная бульба. Як меншаму мне дастаецца нямала крыўд, але яны ўспрымаюцца як нешта аб'ектыўна дадзенае — я з гэтым расту, і не можа быць іначай.

Я мог бы распісаць характары: былі пераросткі... На горках — акопы, ямы. Туды сцягваем міны, снарады, і мне даводзіцца скідваць іх у агонь. Страшна, але не гэта галоўнае. Пасля кожнага выбуху найперш гляджу, ці жывая ўнізе мая Муська. Але каровы мірна сабе пасуцца, пасуцца...

Бясконца далёкая і бязмежна блізкая далеч. Мы жывём у Будзёнаве. З Юркам Зезюлінскім ірвём памідорную расаду з клумбы — горка. Пасля нас лупцуюць — баліць. Мы чулі, што памідоры ядуць, але ж не ведалі, што ядуць не расаду.

*29.X.*

Учора снег, і на траве ён ужо крыху затрымаўся. Панурае неба, кватэрны холад.

Ходзіш каля старых хат, паглядваеш — усё іншае. Другія і неба, і вада, і дрэвы. Вось тут жылі Саі. Для майго дзіцячага ўспрыняцця нешта недружалюбнае, але я з імі знаўся. Аднойчы гоняцца за мной мае заклятыя ворагі — Жэнька Назарэнка і яго хеўра. За што яны мяне ганялі, не ведаю. І вось я шмыгаю да Саяў і зашчыкваю дзверы на кручок. Дома толькі дзеці, збольшага — мае равеснікі. Прашу, але няўпэўнена: не адчыняйце. Адчыняюць, а нават і са зларадствам. І вось мяне выводзяць з хаты — тут біць нельга, строгае дыпламатычнае правіла. Вядуць. Праз вузкія праходы каля бальнічных плоцікаў. І вось тут, выбраўшы момант, я штурхаю Жэньку, трашчаць штакеціны. Але нядоўгая радасць — мяне зноў схапілі, а тут яшчэ строгі выкрык: мяне ўгледзела Шатэрнік, урачыха. Непрыемнасць — скажа маёй маці. Выводзяць на вуліцу. Тут ужо іду сам. Нешта накшталт джэнтльменскага пагаднення: мяне не будуць трымаць, а я не павінен бегчы. Каб не ўмешваліся дарослыя. І тут новая непрыемнасць. Падыходзіць Наталля Васільеўна Нальгачова.

— Варлен, ты што робіш?

Тут я павінен спыніцца, і мае канваіры спыняюцца таксама, што паробіш.

— Ды вось гуляем.

— Дык ты, калі ласка, хуценька схадзі да мамы ў школу і перадай ёй, што я...

Тут ужо зусім складана. У школу яны мяне, ясна, не адпусцяць, выслізну я з іхніх рук. Адмовіць Наталлі Васільеўне я таксама не магу: не ў характары нашых адносін і майго выхавання. Але ж выхаду няма.

— Н. В., я не магу зараз.

— А ты што — заняты?

— Я гуляю...

— ?

І дзеля чаго? Дзеля таго, каб яны адвялі мяне зараз у які кут ды пабілі да плачу (а мне яшчэ ўсяго шэсцьсем гадоў)?

Аднойчы, мы тады пераехалі ўжо на гэты самы бок Гарадка, дзе жывуць Назарэнка і яго сябры, яны мяне зноў падпільнавалі. А пільнавалі так: я хадзіў гуляць да сваіх ранейшых сяброў, а вяртацца мог праз адзін з трох мастоў. І выпільнавалі мяне, прычым не без падласці. Нехта з іхніх жа гаворыць: ідзём каля Данэйкаў, там ніхто цябе не зловіць. І вусцішна, і нехаць, але і выхаду няма, і хочацца верыць. І толькі я зайшоў у ваду (там можна было пераходзіць раку), як ужо і ў іхніх руках. Зноў вядуць, і чамусьці не б'юць. Мне ўжо гадоў з дзевяць (ну, восем). Праходзім каля дома Зезюлінскіх. Я — шусь у хату. Пра нешта са мной гавораць. А выйсці мне нельга.

Я цягну, цягну, пакуль Юркаў айчым не гаворыць мне:

— Табе дамоў пара.

А я муляюся.

— Можа, ты баішся?

Зноў жа не. Іду як на пакаранне. Але на вуліцы ніхто не чакае. Імчу да хаты. Збавенне.

*25.XI.*

У адносна цёплы і не дажджлівы (нават праблёскі сонца) дзень — Прылукі. Хваляванне і стомлена-абыякавы стан перамяшаліся. Тое, што было незвычайным, штодзённым, стала нязвыклым, да няёмкасці. Чаго ты

ў гэтым аўтобусе, дзе ведаюць, што ты ўжо не звязаны з ім, але і пазнаюць яшчэ адзін аднаго.

І вось як сон (усё знаёмае і нязвыклае): прылуцкая асфальтаванка, контуры саду, як востраў замшэлай правечччыны — прылуцкі Шанхай. Усюды — змены, якія значна пацiснулі і архаізавалі маё мінулае. У былым будынку школы (колішняя карчма, а ў мае гады — цэнтр жыцця) — сумны спакой, бітыя вокны, пахілы (як збуцвелы крыж) калідор прыстройкі. А новая школа перайшла за горку, пад Атоліна. Старыя вербалозы — былі жэрдачкамі. Дарогу і мост перасунулі, дагніваюць старыя сваі — каля іх неяк брудна, неглыбока, пуста. А якое было зачараванне глядзець на рэчку, мост і берагі дваццаць сем гадоў назад. Танцы на мосце — не верыцца, але было. Шуравалі яльцы, верхаводкі, плоткі, каля рэчкі былі нейкія важныя асяродкі жыцця, прыгажосці, духоўнасці. Мутная, брудная вада змыла ўсё сонечнае, вабнае. Яго спакваля размывала яшчэ ў мой час — будаваўся РЦ, потым — вопытная станцыя, большала людзей, абсягі шырэлі, але гублялася маналітнасць, адчужэнне расло...

Машыны, легкавушкі. Дарога каля пашэрхлай (не замерзла, але і згусцела, зальдзілася) і сумнай старыцы. Скрозь нейкія агароджы, скрозь відавочныя перамогі прагрэсу (раней — жаданыя, важныя). Упіраюся ў драўляную агароджу-сцяну: раптам не стала дарогі — і ўсё. А да могілак пхнуўся па нейкім тунелі, прарытым у Барысёнкавай гары. Панавіслі карані падкапаных дрэў. Ах, якія ж чарадзейныя былі горкі. Дзесьці тут засталіся і такія кавалкі дзяцінства, што стогнеш. Паваляны, выкарчаваны сад, які мы садзілі з Шуркам Бабуркам. Сумна гляджу на наваколле. Усё былое пракручваецца, чую шум, галасы, бачу блёсткі ўсяго даўняга-нядаўняга, што тут было. Паныла-адзінока. Многае захоплена новым часам, беззваротна адваявана ў нас.

Імчуся — ну, не бягом — а вокам да дзедавага помніка. Вунь ён — каменнае, абсечанае дрэва. Скрозь абступілі іншыя магілы. Ну, дзень добры, дзед. Знімаю шапку. Дзень добры, Павел Максімавіч. Яшчэ раз сустрэліся. Можа б, не так усё чулася востра, калі б ведаў, што і сам лягу на гэтых могілках. Прыходзілі б людзі, нехта мяне ўспамінаў бы, і я быў бы тут свой...

Тут іду, і розныя часы, і велізарны аб'ём жыцця ад-

біваецца ў драматычнай завершанасці і незваротнасці. Лена Красоўская, Міра Гробар, Соф'я Фролаўна Саковіч, Кашканы, брат Івана Сабалеўскага, бацькі Яні Сушчынскай. Новыя, аглушальна раптоўныя магілы: Ганчарык, Жудро, побач — Тарноўскі, Рудовіч.

І шкадуеш усіх іх больш, як сябе, і мутнеюць вочы, і напружаны пачуцці, і вяртаецца столькі ўспамінаў. Хто тут помніць цяпер маю аднакласніцу Лену Грыневіч? А гэту Міру з Атоліна (апрача сваіх)? Мельнічонкі, а сярод іх Коля... Чаму? Што за драмы? У каго спытаць?

Могілкі ўшчыльнілі часы і ўзросты. Ляжаць маладзёны побач са старымі — равеснікі не па нараджэнні, а па смерці. Яны ўжо не старэюць, але і застаюцца нашымі равеснікамі. І дзесяцігадовы Сярожа Нальгачоў рос і сталеў са мною, я адчуваю яго сённяшнім сваім равеснікам.

І вось у альховых жэрдках кавалак выкатанай з дзёрну зямлі. Калі я плакаў апошні раз, у якім дзяцінстве? Не помню. Каб плакаў — было б лягчэй. Плачу, плачу, гладжу гэтыя шэрыя жэрдкі. Дарагі таварыш Шурка Бабурка — тут ты, побач, і ў бясконцай далечы. Плачу ўсё-такі, але не лягчэе. Тут не раз бачыў яго каля магілы бацькі, і вось ужо лёг. За дзвесце метраў ад нашай школы, за некалькі метраў ад урокаў фізкультуры (школьная горка, лыжня), непадалёк ад многіх сцежак, дарог, на якіх вадзіла школьная пара...

Пайду. Не, зноў вярнуся. Пайду. А прад вачыма гэтая магіла. І прад вачыма ён сам, і ў часы школьныя, і час апошняй сустрэчы. І я гавару з ім, і ўголас, і ў маўклівым дыялогу. Калі б ён стаў дрэвам, гэта было б каструбаватае дрэва, але якое прыветнае. Можа, дуб. Не разгалісты, не велічны, але дуб.

Але спыняюся: вось тут недзе плакала мінулай вясной тая жанчына ў гумовых ботах. Але цяпер тут дзве магілы. Няўжо і маці ўжо лягла побач з дачкой? Можа быць. Бо ледзь пазначаны крывы, няпэўны надпіс жоўтаю фарбай на дошцы: Анна Хм... Не разабраць.

Іду з могілак, і ўсе ідуць за мной. Ах, я пераключаюся, я гавару: хлопец з Каханаўкі, Міша Мяцеж, Воўка Юховіч. Думаю пра Васіля Паўлавіча — ёсць жа нехта і для мяне ў Прылуках. І раптам дазнаюся: жыве яшчэ Анна Іванаўна Сцешчуковіч. 90 гадоў! Звязвае ўсе часы, усе нашыя пакаленні — колькі дасягнуцца, аж да дзеда майго. Хай жыве!

*14.XII.*

Гродна, чацвёрты дзень поўнай адзіноты, а галаве ўсё кепска — санлівае ўтрапенне, ды кашаль, ды стома, ды нерухомасць пачуццяў — вось тут і жыві.

Але ж нешта павінна адбывацца! Нарэшце прыйшоў мароз і лёг снег, перамянілася неба — яшчэ болей аддалілася яго прастора, і зноў пачулася, як многа не вернецца. Глянуць бы ўперад, а гляджу ўсё яшчэ назад — вось адна з паездак у Зялёнае, яе злоўленыя штрыхі...

Дык не. Незачэпна плыву ў днях, гавару аксіёмы гродненскім студэнтам, жыву пад порсткай апекай Міхася Губернатарава.

А што — жыць бы тут, глядзець на Нёман, вывучаць мясцовыя лясы, новае неба. Добры, утульны горад. А ўсё ж ужо не такая Беларусь, не Мінская, Лагойская, Пухавічская...

Званок. — Может быть, желаете познакомиться? Приходите в семь часов в ресторан.

Канечне ж, адмовіўся. Але ж і цікава ў нейкім сэнсе.

Аўтарэферат ад Анатоля Дабранскага. Толькі ў сорак пяць узбіваецца на ступень. Нешта ж было, што яму замінала.

«Желаю, чтоб твоя любовь пережила меня» (Щипачев).

Дакладнасць тону, інтанацыі — адна з гал. асноў праўдзівасці лірыкі.

Барадулін — паэзія рухомых і зменлівых чалав. адчуванняў. Яго стыхія — няўрымслівасць, рух, імпульсіўнасць, давер да імправізацыі, разняволенасць таленту, які жыццёвае і мастацкае можа шчасліва паяднаць, а можа даць уроссып, уроскід — як ужо атрымаецца. Хоць, трэба сказаць, у яго ёсць і ўстойлівая ўнутраная аснова, і пастаянства матываў, і маральна-грамадская арыентаванасць таленту, і ўсвядомленыя кірункі пошуку.

Вярцінскі выяўляецца звычайна ў засяроджанай эмоцыі, у ключы роздуму, вываду, пераканання. Свет яго эмоцый, настрояў, перажыванняў узважваецца, правяраецца, узбагачаецца, развіваецца на аснове сацыяльна-грамадскай развагі, удумлівага асэнсавання праблем жыцця і часу. Паэтыка пытання-адказу, часам аголена спрошчаная, часам суадпаведная самым тонкім і прані-

клівым мастацкім рашэнням — устойлівая рыса яго творчасці, адзнака адметнага таленту.

Паслядоўнасць развіцця ідэі-думкі можна прасачыць ледзь не ў кожным творы.

Моэм У. С. «Малый уголок; Театр» (Мн.: Маст. літ., 1979, с. 344): «Если бы актриса испытывала все те эмоции, которые она изображает, она бы просто разорвала в клочья свое сердце».

Пришвин как-то заметил: «В поэзии (искусстве слова) происходит борьба неведомой стихии, похожей на воду, с рассуждением, похожим на берег, и победа бывает только, если вода размывает берег».

# 1980



*25.I.*
У Панчанкі дома. Неяк проста і добра, хоць я і сарамеўся. Спачатку ў кабінеце. Пакрытая байкавай коўдрай канапа. Завалены газетамі стол. Заспеў за пераробкамі верша «Схема жыцця». «Хацеў, каб сказаць без лішніх слоў». Галоўліт прымушаў перарабіць канец. Званок Вялюгіна — яшчэ патрэбны пераробкі. На гэта: «Ты сам, Анатоль, нешта прыдумай, а другім разам я табе».

Пра Куляшова: быў горды і ранімы. Я лічу, што пасля Купалы другі беларускі паэт...

*31.I.*
Увод нашых войск у Афганістан, амерыканскія «санкцыі» супраць нас: адмовіліся ад продажу пшаніцы, байкот алімпіяды.

*2.II.*
Пасля адлігі — галалёд, але якое сонца! Промні шчабечуць, булькочуць, падплывае пад ногі вада, а ў цені — стрыманы холад і светлы снег, а настрой — вясновы, душа, здаецца, зазелянее, калі апынуцца на прасторы, сам-насам з гэтым сонцам, ветрам і снегам.

Шчасце як доўгае актыўнае дзеянне было згублена, але яно будзе, калі ўзяцца хутка.

Кандратовіч пра Твардоўскага. У 15 год — характар, мэта, свядомасць, воля. А хлапчук жа. Галоўнае — наяўнасць самастойнасці і дарослаcці. А пазней — адчуванне прызвання.

Прасвятленне ад снегу, які ідзе за акном Ленінкі — прывітанне ад бясконцасці, ад паэтычных прастораў, ад усечалавечай згоды і нязгоднасці.

Мароз і сонца, некалькі дзён антыцыклону. А птушкі заспявалі, а вясна ўсё бліжэй, а душа дзесьці пад снегам. А ў людзей — галоўныя беды, а ў самога — другараднае.

На беразе вясны адны бяссонніцы і поўныя недарэчнасці сны.

М. Танк:

Рэкі смутку і радасці
Я пераходзіў не раз.
Хвалі іх бурныя вымылі
З сэрца нямала руды.
Толькі чамусьці пакінулі
Чуласць — нібыта яна
Самай была непадатлівай,
Самай цяжэйшай была.

*18.II.*

Дзень нараджэння Васіля Паўлавіча. Званіў яму. Вось добра каму — жыве з адчуваннем, што жыццё споўнена.

Астрашыцка-гарадоцкія масты. Цуд дзяцінства. Асабліва каля млына, дзе вада б'е праз застаўкі і шчыліны. Яе цёмна-зялёныя плыні, гульня са струменьчыкамі. Захапленне не толькі цудам гэтых зададзеных мноствам прычын напрамкаў, але і адчуваннем, што ты стаіш на дне загароджанай ракі. А заглядваць уніз, бачыць там рыб... Хто жыў без ракі і без лесу, страчвае больш, чым толькі іх: у музыцы, паэзіі, усіх мастацтвах недабярэ ён проста, ды і ў душы ж застаецца незапоўненае месца.

Нядаўні сон. Выцягваю рыбіну, чую яе трапятанне, гнецца вудзільца, азарт і радасць. Вялікі акунь. Адразу чамусьці паверылася, што сон вяшчунны і добры.

Е. Евтушенко («ЛГ», № 40, 1979):

Мерзавцы все скучней, все деловитей,
все недостойней страшного суда.
Я так хочу кого-то ненавидеть,
что ненавидеть начал сам себя.
Поэт не в том, чтобы воспеть
себя, на прочих огрызаясь,
а в том, чтоб даже не успеть
понять, что это значит — зависть.

«Як бы ні быў спецыфічны лад верша, — адзначаў Б. В. Тамашэўскі, — гэты лад належыць мове і не можа

быць паўторан за межамі нац. формы мовы. У гэтым прычына таго, што паэзія застаецца найбольш нацыянальнай формай мастацтва». (Б. В. Томашевский. «Стих и язык». М.-Л., 1959, с. 27.)

Для «ЛГ».

Ну, ладно: быт отстранен. Он мелок, суетен, ничего не стоит. Лирика поднялась над буднями, воспарила, обратилась к серьезным, вечным вопросам бытия. И что же? Где же эти вопросы? И могут ли они иметь значение, смысл и получить читательский отзвук, если они — вопросы вообще, то есть вне судьбы, характеров, обстоятельств жизни, если они — прямо говоря — всего лишь умозрение?

А нравственный самосуд? Исчез. Остались поучения, самоаттестации. Эгоистическая занятость собою — другие как-то в стороне. Еще — расчет с противниками. За что? Да все за нее, славу. Это скорее не противники — конкуренты.

А будничная жизнь не возвышается, не встает в своей удивительной героике, поразительном драматизме, потаенной существенности, а подается серой, зряшной, удручающим мелководьем, без борьбы, страсти поглощающая людей. И надо же, еще как будто и кокетничает.

Карл Эгон Эберт (1801—1882). «Фрау Хитт». Поэзия Европы, т. I, с. 29 (перевод Л. Цывьяна):

Фрау Хитт ее слушает, злобно смеясь,
Во взоре недобрый огонь —
И камень берет, с седла наклонясь.
И нищей кладет на ладонь.
И нищенка с болью ей вопиет:
«Коль сердце твое, как скала,
Так стань же и телом, как камень тот,
Что убогим ты подала!»

Генрих Манн. «Молодые годы короля Генриха IV» (М., ХЛ, 1978, с. 510):

«Он избрал путь борьбы: но спросил ли он себя, что означает этот путь? А означает он прежде всего — готовность выносить, не уклоняясь от них, многие страдания, зачастую либо напрасные, либо почти бесполезные. В жизни не начинают с больших и решающих битв».

Алёг Лойка («Маладосць», 1979, № 9):

Не год карціць мне і не век...
Вавек мне не забыць:
Калі я ў свеце чалавек,
Свет мусіць вечным быць!..

---

Вось, вось яны, жыцця парогі:
Святло — святлом, а ценем — цень,
І дзень, пражыты без трывогі,
Ужо зусім нібы не дзень.

І дзень, пражыты без натхнення,
Без радасці і без цярпення,
Без вытрымкі, непрымірэння,
Пераадолення, здзяйснення,
Ужо зусім нібы не дзень.

«Достоинство обдуманных речей» (Баратынский).

В. Шкловский. «Воспоминания о Паустовском»:
«...уже поэт Навои говорил своим ученикам:
«Если хотите быть золотом и драгоценными камнями, будьте землею. Землею будьте! — говорю я вам».

Р. Барадулін — талент шчодры, дзівосны, радасны, балючы, пяшчотны. Радзіма, народ, роднае слова, песня.

Вобраз бацькі.

Нацыянальная стыхія і далеч інтэрнацыяналістычных даляглядаў.

Арганічны дэмакратызм і гуманістычнасць, шчодрасць успрыняцця, незвычайная пластычнасць.

Імя і творы яго знаходзілі на старонках самых строгіх анталогій, і гэтыя творы з высокай годнасцю і сапраўднай дасканаласцю прадстаўляюць беларускую паэзію і наш народ у велізарным сусвеце чалавечай культуры.

Выдатныя вершы «Бацьку», «Палата мінёраў», «Світанняў я з табой не сустракаў», «Трэба дома бываць часцей», «Нянечкі».

Багацце і разнастайнасць таленту: пранізлівая лірыка, шчодры гумар, драматызм успрыняцця і радасная адкрытасць прыгожаму, незвычайная лёгкасць палёту і загружанасць сучаснай складанай праблематыкай жыцця і часу. Гульня гукаў, чарадзейства колераў, непаўторная музычнасць, дзівосная слоўная эксцэнтрыка,

асацыятыўная вынаходлівасць, віртуозны артыстызм, аж да гульні са словам, сапраўдны бляск імправізацыі і глыбінная вынашанасць душэўна, па-грамадзянску важных высноў.

Гумарыст, парадыст, перакладчык Ясеніна, Лоркі. Лаурэат прэмій — Маск. фестывалю, ЛКСМБ, Дзярж. прэміі БССР.

Належыць да тых паэтаў, якіх радасна чытаць, пра якіх радасна гаварыць (і ніколі ўсяго не скажаш) і без якіх немагчыма ўявіць ні нашу паэзію, ні сябе самога. Яго творы — актыўная і важная частка духоўнага багацця народа.

Паколькі я не стану зараз цытаваць, маё слова пра паэта можа здавацца дэкларатыўным. Але вершы паэта многім тут добра вядомы, ды мы іх сёння багата чуем.

Сухамлінскі цытуе Гейнэ:

«Каждый человек — это мир, который с ним рождается и с ним умирает. Под каждой могильной плитой лежит всемирная история».

*4.III.*

Снежная замятуха. У мінулыя дні: аж белае ад пушыстых і буйных сняжынак паветра, а раней — сонца, сонца, холад і адліжнасць на сонцы зімовага з вясною. Цяпер: дробны снег з парывістым моцным ветрам, намакрэлыя насы грамадзян, сыпкія думкі, што разлятаюцца ў бясконцай маркоце.

Творчае жыццё магчыма толькі праз намаганне і дзеянне. Калі іх няма — ізалюешся ў прыватным, адступаеш ад свайго характэрнага. Форма, магчыма, таксама вымагае напружання. Яна «трымае» і мабілізуе змест. Ненапоўненая яна адразу ж адчуваецца пустой, полай — як бутафорскія гіры, якія выкарыстоўваюцца на цыркавой арэне.

Лермонтов:

И не хладеет гордая душа;
Судьба ее так скоро не убьет,
А лишь взбунтует.

Твардовский:

Братство павших и живых
Да пребудет в чести.

У нас жыве інстынкт самазахавання: людзі гінуць, калечацца, хварэюць, а мы ледзьве не імкнемся забыць гэта, адгарадзіцца. Ды і як іначай — усё ж у душу не забярэш. Тады зусім не стане святла і радасці, зрэшты — і мэты, і пошуку, і веры ў будучыню. Але жыццё суровае: вось памёр блізкі друг, вось дайшло гора да самога цябе, і людзі да яго прылучаюцца, і ты ўжо не збоку, а ў самым цэнтры хвароб, смярцей і няшчасцяў.

Учора — аварыя аўтобуса, паводле газет — 21 смерць, а яшчэ ж калецтвы. На маскоўскіх могілках — аэрафлотаўскія калектыўныя, брацкія магілы. На фота — маладыя лётчыкі і красуні-сцюардэсы...

У свеце — жорсткасць, разгул рэакцыі, дэмагічныя маршы і дэмаршы. У нас многа ўсялякай свалаты, аж страшна, але ж на Захадзе сама сістэма свалачная, жорсткая, подлая. Шах Ірана змардаваў і абрабаваў свой народ, але мае магчымасць затуліцца і беспакарана заканчваць свае дні.

Блок:

Бороться с мраком и дождем,
Страдальцев участь разделяя...

*5.III*

Галіна Каржанеўская. «Мой сад» (1976). Ёсць драбяза, літаратуршчына, нават поза. Але ж і талент, моманты свежага бачання, радаснай вышыні. Адкуль даецца людзям гэтае боскае ўмельства: дыхнуць — і жыццё?

«Лит. газ.» 13.XII.78 апублікавала пісьмо, дзе гаворыцца: «На трамвайной остановке я спросила ў водителя, как нам добраться до крепости. Он ответил, что ему пора в парк, но ради нас он готов сделать еще круг. И повез нас бесплатно...» Згубная для такога матэрыялу памылка: у Брэсце няма трамвая.

*24.III.*

Трэці тыдзень — халодны антыцыклон з Новай Зямлі. Ноччу за 20 градусаў. Затое днём — сонца, сонца, сонца. Ад Масквы да Брэста. Паколвае вушы сухім марозам, халадзіць каля шыі, але прасторна, лёгка. Ружовы небасхіл, сіняе неба. У лесе цішыня, абвіслае голле бяроз — яны чакаюць, маркоцяцца, думаюць.

На дачнай сядзібе — непраходны снег.

*29.III.*

Памёр 24 сакавіка Пятрусь Броўка. Тут трэба было б запісаць многае, але я нават не быў на пахаванні: адолела нейкая бестэмпературная хвароба. І вось — бяздзейнасць, учадзелая галава, ломіць косці, круціць ногі.

Тым часам нарэшце пераламаўся халодны арктычны антыцыклон. Было пашарэла, снег зноў сыпаўся, але ўжо без холаду і надзейнасці. А цяпер — на вясну, хутка цяплее, сонца, вада. За акном — гул вясны, нейкіх галасоў, імпэтнага руху.

«Последний поклон» Астафьева — непаспешлівы шматводны рух, дзе нішто быццам не губляецца: і радаснае, і балючае, і ўспаміны пра добрае, і нялюдскасць. Зрэдзьчасу здаецца, што ёсць і перабор эмоцыі, адступленняў, падрабязнасцей. Але суперажывальнае пачуццё нагружваецца і ў іх; нясе шматводная рака жыцця... У што надзейна дае веру кніга: у невынішчальнасць дабраты і чалавечнасці, што ўсё яшчэ існуе ў простых людзях і павінна быць заўсёды. Тут бескарыслівае, добрае, спагаднае мацнее ў душы. Свет разгортваецца ў адзінстве з душой уражлівай, чуйнай, але і загартавана-ўстойлівай. Таймені, чарамша, вада, раматус, пірагі, голад, тытунь, адламаны палец маці з залатым пярсцёнкам, аднавокі дзед Павел...

Некага (і самога сябе) шкадуеш, нечаму радуешся. Вінаваты чагосьці, усё прыблізілася да цябе і расхінулася ў прасторы. Чуеш кожны гук у яго асобнасці і ўсе мелодыі разам. Радасць самотная, а самота — радасная.

У Астаф'ева ёсць цудоўны раздзел: як ён слухаў музыку, скрыпку Васі. Да гэтага — страх і адзінота, трывога і іншае.

Потым:

«Растроганными слезами благодарил я Васю, этот мир ночной, спящее село, спящий за ним лес. Мне даже мимо кладбища не страшно было идти. Ничего сейчас не страшно. В эти минуты не было вокруг зла. Мир был добр и одинок — ничего, ничего дурного в нем не умещалось.

Доверяясь доброте, разлитой лунным светом по все-

му селу и по всей земле, я зашел на кладбище, постоял на могиле матери.

— Мама, это я. Я забыл тебя, и ты мне больше не снишься».

*30.III.*

Той халодны сон, з якога пачалася хвароба. У цемені сна раптам выходзіць да мяне Ігар, расхінуўшы рукі. Я ведаю, што яго няма, ён памёр, і ручкаюся з ім неяк неахвотна, прытым выразна адчуваю поціск. Мяне бянтэжыць і гняце адчуванне нерэальнасці. Гэтага не павінна быць, Ігара няма, а вось жа як адбываецца. Далей Ігар ідзе следам, есць марковіну, а я бачу, як морквіна знікае: яе есць чалавек, які не існуе. Дзеля нечага недарэчна жартую: Ігар дэматэрыялізуе моркву... Сам адчуваю недарэчнасць сну і жарту, бянтэжуся яшчэ болей, і сон патанае ў цемры ночы ці прабуджэння. Падумалася: няўжо хвароба? А днём яна ўжо сціснула, заліхаманіла мяне, і вось ужо тыдзень я пад яе ўладай.

Пісьмо Д. Л. А што напішаш і чым дапаможаш. Ён закахаўся, а цёткі з ім ваююць.

*4.IV.*

Вясна ў шэрым убранні туманоў, трывожна-сумная мляўкасць. Напісаць артыкул з назваю, напрыклад «Штрыхі» або «Млечны Шлях», дзе — разрозненыя нататкі пра розныя прачытаныя кнігі — ад Панчанкі да Каржанеўскай (Якубовіч — як характар, творча арганізаваны і скіраваны да мэты).

*11.IV.*

Не разгубіць нешта важнае, далучанае да вясны і ад яе адасобленае. Павольнае, вельмі павольнае прыбаўленне цяпла — і снягі яшчэ падаюць, не разбярэш дождж ці снег, нешта хліпкае, халоднае... Але не гэта галоўнае, а адчуванне раптоўнай унутранай прасторы, з востра-балючай неабходнасцю і спраў і ўчынкаў, засяроджанасцю і разамкнёнасцю, бушаваннем неажыццявімых намераў.

«Пастух и пастушка» Астаф'ева.

«Рождали в душе мелодию беспредельной, вечной, всегда заново переживаемой, никогда и никем до конца не испитой и неразгаданной человеческой печали, а пепельным тленом отливающая степь и угрюмо нависаю-

щий над нею древний хребет, устало и глубоко вдавившийся в равнину, и бельма солончаков, все так же холодно и немо отсвечивающие вдали, делали эту печаль еще пространственней, запредельней, так что уж ни краю, ни дна в ней не ждалось и не виделось.

Скорбно шелестели немощные травы, похрустывал костлявый татарник, звучало вечное утешение над вечным покоем, и ни время, ни люди были не властны над этим».

«— Почему ты лежишь один посреди России?»

Гэтая зноў мільгнуўшая думка: калі чытаеш сапраўдны твор, яднаюцца два розныя адчуванні — быццам усё гэта ты даўно ведаў і адчуваў, яно было ў табе, і быццам ты толькі цяпер, зараз усё гэта адчуў, зразумеў і па-сапраўднаму перажыў. І тое, што ты гэта ведаў і разумеў — толькі цяпер і зразумеў, зведаў.

З аповесцю Астаф'ева, як і раней з Распуціным, не хочацца развітвацца: трымаў бы ўсё ў сабе і побач, і наколькі б больш чуйным і дзейным быў бы, усё ўнутры жыло б, а не сонца нерухомілася.

*14.IV.*

Раданіца, сёлета як ніколі ранняя, але затое шчодра сонечная. На могілках у Чыжоўцы — як у горадзе людна, тлумна. Знікае сцішанасць месца. Учора нават (кажуць) узнікла бойка, то сёння многа міліцыі, патрульная машына. Паклалі кветкі Сымону Блатуну, Анне Іванаўне, Зінінаму суседу, які загінуў у арміі салдатам...

А раней — Астрашыцкі Гарадок. Думалі з мамай, што знайшлі магілу маці Веры Фамінічны.

Праз доўгія гады сустрэў Элу Нальгачову, светлую пакутніцу, дачку Наталлі Васільеўны.

*17.IV.*

Дзіўна ж аналізуюць творы ледзь не ўсе нашы крытыкі: разглядаюць асаблівасці формы, кампазіцыю, сюжэт, стыль, нейкія якасці зместу як самацэнна галоўныя, істотныя, а не вытворныя. Для мяне галоўнае — духоўна-эмацыянальны змест, маральнае дзеянне твора. Тое, дзеля чаго чытаюць кнігі ўсе «звычайныя» чытачы: суперажыць, захапіцца, штосьці зразумець. Спецыфічная асалода ад формы «прысмак» для дасведчаных.

Прышвін піша: «Хороший хозяин в каждой овечке видит свое, как будто он любит всех, но каждую боль-

ше». Такім гаспадаром павінен быць і крытык, які піша пра сапраўдных паэтаў.

Яшчэ Прышвін: «Дневник — это способ сосредоточиться на чем-нибудь и привлечь его из жизни к себе на помощь».

*24.IV.*

Вось нарэшце і цеплыня — тая, ад якой радасна. Хочацца дыхаць — паветра хвалюючае, прыветнае. Што б зрабіць сёння добрае, прыгожае?

Віктар Гардзей («ЛіМ», 21.III.80):

Першы снег сыпануў на світанні —
Светлы пух на платах, на траве.
Што сказаць вераб'ю ў спачуванне?
Пастаю, памаўчу —
хай жыве.

Весні гром пракаціўся нясмела —
Быць цяплу, быць святлу, дабраце.
Што сказаць гэтай яблыньцы белай?
Памаўчу і пайду —
хай цвіце.

*9.V.*

Адзін з нямногіх цёплых дзён сёлетняй вясны. Амаль што нервовае свята: столькі прыгожага, урачыстага...

Міх. Дудзін (пераклад М. Лужаніна) — «ЛіМ», 9.V.80:

Бывайце! Сыходзім з парога
Пад сівага лёсу званы:
Канчаецца наша дарога,
Дарога прыйшоўшых з вайны.

*18.V.*

Толькі і было цяпла на першае і дзевятае мая, а так — усё стынь, ноччу замаразкі, вільготны снег, вецер.

Раз'яднаны прырода, хатняе, згублены іх рух, стымулы... Зеляніна павольна гусцее, і часам было нават дзіўна, што, нягледзячы на холад, цвітуць кветкі, расце трава.

Альберта Маравіа — «Римлянка», «Презрение». Гэта ўсё перамешана са штучным; Астаф'еў, Распуцін, Абрамаў — нашмат праніклівей і глыбей, народна пішуць. **Народнае** — тое, што пазбаўлена эгаістычнага, рэф-

лексійна, гіпертрафіравана асабістага. Народнае — натуральнае, паўсядзённае, у псіхалагічным змесце карнявое, глыбіннае.

Учора — ад 10 да 13 г. у Вярцінскага. Доўгія ўласныя маналогі, а трэба больш было слухаць. Чуўся ў ім і той самы А. В., з якім калісьці было добра на Нарачы. І запраста схадзіў у яго дзяцінства, і крыху адчынілася далеч.

Ліст Марыі Ігнатаўне Хадановіч:

«Сорак год Вашаму цудоўнаму сыну. Дзесятага я схаджу да яго, памаўчым з ім і моўчкі пагаворым. Пакуль мы жывём, і ён з намі — таленавіты, прыгожы, душэўна адкрыты, незабыўны.

Мусіць, часта і памногу прылятае да мяне яго добры анёл — бо я пра Ігара ўспамінаю часта, ён каля маёй душы, ды і не павінны мы адзін аднаго пакінуць... Мне ён, апрача многага іншага, даў шчасце знаходзіць у раёнавесніку душэўнае багацце, духоўнасць, стымулы для росту і неспакою».

*10.VI.*

Дарагі Ігарок! Ты з намі, мы з Табою. Твой светлы і самотны прамень свеціць сёння ў Твой дзень нараджэння. Паклон Табе нізкі, другу святла і шчырасці, навек сумленнаму, назаўсёды маладому. Хай убачыць сёння Твой анёл: дзень прыгожы, зялёны, сонечны, і мы з Табою.

*6.VII.*

Сапраўдны твор абавязкова мацнее і расце, уся яго веліч адчуваецца пасля апошняй старонкі. Эпасу неабходна лірыка, яна надае пранізлівасць, пачуццёвую сілу.

Марджори Киннан Ролингс. «Сверстники». М., 1970:

«Всю свою жизнь он будет одинок. Но надо принимать свою судьбу и жить дальше.

Начав засыпать, он крикнул сквозь слёзы: «Флажок!» Но это был не его голос. Это был голос мальчика. Где-то за провалом, мимо магнолии, под дубами пробежали бок о бок мальчик и годовалый олененок — пробежали и исчезли навсегда».

*5.IX.*

3 верасня дома ў Панчанкі. Перад гэтым — артыкулы ў «ЛіМе» «Ці адстае паэзія?» і «Сэрца паэта ўмясціла...», пра якія ён мне па тэлефоне: «Так я сам думаў пра сябе ў часы гардыні. І некаторае ўгадана з таго, пра што я думаў: няўжо ж ніхто гэтага не бачыць». Паказаў пісьмо пухавічскага хлопца. Перапіска ў сувязі з купляй хаты Куляшова. Любіць чытаць «Дзённік» Рэнуара, Стэндаля. Не можа Заля. Імпрэсіяністы. З паэтаў найперш: Купалу, Багдановіча, Куляшова. З сучасных Барадуліна, і «не ўсё» Бураўкіна (ці — трохі Бураўкіна).

Расказваў пра знаёмства з Купалам у 38-м годзе. Усяго знаёмілі чатыры разы. Першы раз у Доме пісьменніка двойчы ў адзін дзень. Купала сказаў: «Чуў». Другі раз: «Ведаю-ведаю». Пазней, у 39 годзе: «Чытаў, чытаў». Нарэшце ў поездзе з Беластока ў Мінск Броўка прывёў Панчанку ў купэ і зноў прадставіў Купалу. «Вельмі прыемна...»

Броўку ў прыватных размовах можна было крытыкаваць колькі хочаш. Толькі ў друку ўжо не...

У паэме «Новае рэчышча» Куляшова былі яшчэ радкі пра тое, як хавалі мару Шайпака (закалочвалі цвікі ў труну і г. д.).

...Тыя некалькі пагодных дзён у жніўні (а было іх нямнога), калі мы хадзілі купацца ў Дзічкі і пад добрым сонцам хацелася сказаць: — Спыніся, імгненне! Нават не гэта. Проста было адчуванне, што недзе пасля памяць будзе вяртаць незваротныя тыя, добрыя, прыгожыя моманты. Мы адны, двое мясцовых хлапчукоў, глыбіна пагружанага ў ваду вялікага каменя. Дарога ў васільках і жыце, зараснікі піжмы, а ў лесе — лісічкі, а то і баравікі, а скрозь сонца, сонца, сонца...

Як мяне вылучалі ў партыйныя сакратары інстытута.

*7.X.*

4-га раптоўна загінуў Пётр Міронавіч Машэраў, які меў добрую папулярнасць, і яго па-сапраўднаму шкадуюць. Іменна ён сёння здаецца самым незаменным. Кіраўнік з цёплай усмешкай, якая выклікала давер. Была веліч у яго свойскасці і сціпласці.

*21.X.*

Такая прывабная восень — і пасля пакроваў цеплыня, і ўсё яшчэ няма адчужэння ад лесу і палявых прастораў, хоць лісце ўжо злягло і ўсё пусцее, пусцее...

Аднак сваё, што рупіць, не рухаецца з-за гультайства і слабасці. Кепска з кнігаю, а тут то адно, то другое. Дысертацыя Тарасюк. Сумненні ва ўласных магчымасцях. Хатняя мітусня. Непрачытаныя кнігі як дакор, як недасягальнае шчасце ведаў і мудрасці. Што ж, паспрабуем яшчэ раз прымусіць сябе — раптам словы знойдуцца, прыляцяць з дальніх выраяў думкі, душа закрычыць празрыстай плынню... Раптам, раптам.

*28.X.*

Адчуванне неабавязковасці і нікчэмнасці зробленага, тлумня, разгубленасць.

В. І. нагаворвае ўсё, нагаворвае, і ўжо не толькі на мяне, але і на жонку. Ліццё памыяў, па сутнасці, за тое, што ў свой час зрабіў ёй дабро: адмовіўся на яе карысць ад кнігі пра... І пасля таго пайшло: усюды ён пралезе, за ўсё ён бярэцца...

Никитин:

Живи, как отшельник,
Гуляй или плачь, —
Найдет тебя сплетня,
Придет твой палач.
Дверей не отворит,
Под дверь подползет,
Ограда мешает —
Сквозь камень пройдет.
В чем грешен, не грешен,
В набат прогудит,
Навек обесчестит,
По гроб осрамит.
И ■ грязь тебя втопчет
И недруг, и друг...
Проклятая сплетня,
Проклятый недуг!

Калі расцеш і працуеш, тады ўсё гэта не так чуецца, а цяпер дык лезе ў начныя бяссонныя думкі, зліваецца з усёй восеньскай хліпатой, дробнымі і большымі няўдачамі — гідка, бр-р-р.

Даклад Адамовіча на семінары — тое ж, што і ў СП пра Чорнага. Як заўсёды ў яго — змястоўна, але з

суб'ектыўнымі дамешкамі — ігнараваннем Пташнікава...

«ЛГ», 10 марта 1982 г.:

— Считаете ли вы, что любви все возрасты покорны? — спросила Евг. Сазонова одна из почитательниц его таланта.

— Безусловно! — убежденно ответил знаменитый душелюб. — Особенно, если говорить о любви к себе.

— Так хочется хорошо посмеяться! — сказала как-то одна из знакомых Евг. Сазонова.

— Взгляните на себя глазами своей подруги, — посоветовал знаменитый людовед.

# 1981



*7.I.*

Збор партузносаў. Пратаколы бюро. Пасяджэнне сектара, метадалагічны семінар, праца на будоўлі.

3-га ездзіў да Марыі Ігнатаўны Хадановіч і так няўдала: яна паехала ў Мінск. А там сказалі, што захварэла, і я бег у Кавяр'яны ў бальніцу. Затое каля 20 км пехатой па калдобістых прасёлках і па гравейцы на Вязань. Лёгкая і цяжкая дарога, з расшпіленымі думкамі, з успамінамі пра Ігара. Прымаразкі на слупах, шэрая густая хмарнасць і пунсовае сонца. Чыстая бязлюдная дарога, ледзь прысыпаная снегам, а болей — зусім бясснежныя пагоркі.

У Доме настаўніка чытаў лекцыю. Падыходзілі жанчыны, былыя знаёмыя, — не пазнаваў. Пасля дваіх успомніў — па Плісе. Але галоўнае: адна падсела да мяне і расказвала пра сваю вёску, пра лёс адной жанчыны-падпольшчыцы. У гэтай жанчыны ўзялі фашысты ў заложніка сына. Пра лёс яго яна нічога не ведала. Нібыта быў спалены фашыстамі, але калі, дзе і як — невядома. Раптам яна дазнаецца, што адна кабета ведае нешта пра яе сына. Што? Як? Не прыступіцца, бо тая не ў сабе: ад перажытага і ад фашысцкіх запалохванняў. Усё некаму прагаворваецца: сын падпольшчыцы — жывы, недзе вывезены, ён сапраўды гарэў, але — уратаваны і ацалеў, толькі абпалены твар і адно вуха.

Час ідзе, безвыніковыя пошукі. І раптам на пляжы курортнага горада напаткаўся малады чалавек з падобнымі прыкметамі. Былая падпольшчыца кідаецца да яго, пытае імя. Імя — супала з імем яе сына. Яна тут жа на пляжы губляе прытомнасць. Ачуняла ў бальніцы — хлапца няма, знік, і болей не адшукаўся.

Размова з Барысам Сачанка ў СП — пра выданне спадчыны Хадыкі (даўно хацеў, меўся і думаў) і пра каментарыі да пісьмаў Глебку.

На з'ездзе трэба б выступіць.

«...кожны сапраўдны паэт, на якой бы прыступцы мастацкай годнасці ні стаяў, а тым больш кожны вялікі паэт, ніколі і нічога не выдумляе, але ўвасабляе ў жывыя формы агульначалавечае. І таму ў творах паэта людзі, якія захапляюцца імі, заўсёды знаходзяць нешта даўно знаёмае ім, нешта сваё ўласнае, што яны самі адчувалі, або толькі чамусьці не маглі знайсці яснага вобразу, чамусьці не маглі знайсці слова, і што выходзіць, толькі паэт мог выказаць. Чым вышэй паэт, г. зн. агульначалавечней змест яго паэзіі, тым прасцей яго творы, так што чытач здзіўляецца, як яму самому не прыйшло ў галаву стварыць што-небудзь падобнае: гэта ж так проста і лёгка!» (В. Г. Бел-й. Полн. собр. соч. М., 1955, т. 7, с. 310).

«Торопись обрадовать добрым словом встречного, может быть, в жизни не придется больше повстречаться».

*9.IV.*

Усе апошнія месяцы чытку газет пачынаю з паведамленняў пра Польшчу. Зрэшты, і размовы пра міжнародныя падзеі ва ўсіх круцяцца найперш вакол Польшчы.

Адна з размоў з Анатолем Казловічам. Ён, як відаць, раўніва ставіцца да свайго пакалення. Сам жа пачынаў з вершаў, і не горш за іншых. Дык ён прачытаў мой артыкул у «Немане» («Обретение высоты») і незадаволены: захваліў. І раптам:

— Для «Литературки» ты напиши более честную статью.

— А што ж ты разумееш пад «честностью». Хіба яна паддаецца нейкаму заказу?

Урэшце, услед за Серафімам Андраюком, які ідзе на пасаду галоўнага рэдактара, М. Ф. Дубянецкі прапанаваў і мне пераходзіць у выдавецтва — намеснікам галоўнага. Чутка хутка разыходзіцца, і вось ужо многія перапыняюць і ўгаворваюць ісці.

Пераклад Г. здзівіў: драўляная мова, калькі і канцылярызмы, немілагучныя выразы. Замест лёгкай і зграбнай фразы: нагрувашчванне слоўнай няўдобіцы, глухата да рытму.

«Вакол яго расказаў нібы калыхаўся лёгкі туман,

які надаваў апісаным ім персанажам контуры прыблізныя і формы, што выходзілі за мяжу чалавечага».

Апісаным ім персанажам — гэтыя тры — **м** — вязкія і наводзяць на сумненні адносна яго паэтычных перакладаў...

«Мяне пужае гэта сустрэча». Хаця б: палохае.

«Рэдкая з'ява, каб яна (жонка) прыходзіла да яго раніцай». Цікава, што там у арыгінале, або ў рускім перакладзе. Няўжо: явление?

«— Вы вялікі эгаіст, мой дарагі... Вы ў здзіўленні?...» Што гэта значыць? Вы здзіўлены?

Ды справа не ў асобных выразах. Агульнае адчуванне нейкай няўкладнасці, грубасці мовы, кідае цень не столькі на аўтара, колькі на беларускую мову, нібыта няздатную да свецкасці, да лёгкай арыстакратычнай размовы, да арганічнага прамаўлення.

Зноў чытаў Э. Сетана-Томпсана. «Рассказы о животных». Зноў чытаў з радасцю і хваляваннем, як у дзяцінстве. Кніга пра жывёл, але і пра нейкія непарушныя законы жыцця і існавання. Добрае ўсечалавечае пачуццё ўвагі і павагі да жывога, дакладная мера аб'ектыўнасці і лірызму, сур'ёзнасці і іранічнасці.

«Солнце село за Голдерские горы, и мягкие сумерки, которые так любят все животные, разлились над морем холмов и равнин. Закат пылал, а маленькие долинки были наполнены кротким сиянием, лишенным теней. Высоко на холме, невдалеке от реки Шобан, зеленела сосновая роща. Хорошо и спокойно было здесь в сумерки. Посреди этой рощи на полянке жила семья лисиц». Здавалася б, звычайны пейзаж. Але асаблівая яго чароўнасць — у суладдзі з падзеямі, сюжэтам, усім унутраным светам твораў.

Звяры маюць характары, і з усімі развітваешся са шкадаваннем. Як часта бывае: каб жа самому напісаць нешта такое.

Наваселле ў Ш. І зноў у яго прыгода. Напіўся сам. Пасадзіў на калені жонку В. Ч.:

— Я цябе пагушкаю. Дай бусеньку.

Тая таксама лахта добрая. Ці яна не так крутанулася, ці ён сам пахіснуўся, але ўпаў і разбіў вуха. Дзед Трахім сядзеў пры ім цэлую ноч і трымаў руку на пульсе:

— Усё можа быць.

Урэшце салодкі храп сына пераканаў яго, што небяспекі няма.

Артыкул «Пра надзённае...». Як заўсёды сумненні (назва можа падацца нясціплай). Паспешлівая форма. Частка недагаворанага. Можна чакаць крыўд ад Шаўні, Бондар, Макарэвіча, Янішчыц.

Рыгор Барадулін («ЛіМ», 26.2.82):

Чэхаў перакладаю,
Замураваны слоўнікамі.
Выблісні, маладая
Радасць імгнення злоўленага!

Светла ў славянскім змроку.
Словы, як тыя совы ўначы,
Моўкнуць пры кожным кроку,
Новы лес асэнсоўваючы.

Дыхае тванню bahno,
Touha — туга галадае мая.
Першаславянствам пахне
Фраза неперакладаемая.

Старый летчик Иван Савельевич в повести «Балтик» Владислава Крапивина: «Учиться быть большими как раз и надо, пока маленькие, потом поздно будет».

Васіль Быкаў. «Яго батальён». У кн. «Пайсці і не вярнуцца». Аповесці. Мн., 1979.

88. «Усё ж у яго быў батальён, лёс якога ў многім залежаў ад яго, жывога. Мёртвы ён батальёну быў непатрэбны».

99. «Нават калі ён ніколі не вернецца да свайго батальёна і будзе назаўсёды аддзелены ад яго лёсу, ён не мог так проста і раптам вырваць са сваёй душы гэтую сотню людзей, з якімі яго зраднілі сумесна перажытыя імі пакуты і пралітая кроў».

135. «Яна (воля выпадку) не ўладарна толькі над яго чалавечнасцю. Над тым, што адрознівае яго ад Маркіна, што ў ім — Чалавек».

Таму што Чалавек, часам не гледзячы ні на што, становіцца вышэй за свой лёс і, значыцца, вышэй за магутную сілу выпадку.

Ні шавец, ні кравец, ні каваль, ні стругаль, а проста гаварыльшчык.

З прысвячэнняў М. Львовіч:

Варлене, і я Вам зычу... Нічога
Так не бажаю, як щоб розкрите
Завжди сердце было для світу
Живого і близького.

---

Я знаю світлі душі, вразливі і тверді,
До лакомства байдужі, беззахисні і дужі,
Я знаю душі, в дружбі
Великі, в доброті.

*6.X.*

У другой палове верасня было столькі сонца і цяпла, так было ўтульна і лагодна. Ды і зараз яшчэ ўсё добра, і душа з наваколлем у згодзе, хоць трохі самоціцца. Шархаціць лісце, халоднае неба, пустыя палі.

Варта было б запісваць, бо ўвесь час, штодня штосьці адбываецца. Нейкі няўхільны татальны наступ: дайце! друкуйце! І свае трагедыі: хадзіў і прасіўся Міхась Рыгоравіч Ларчанка, раптоўна памёр. Прасіўся Іван Маркевіч — зусім ужо нечакана не стала.

Нагарэла за Бартохаву (пацыфізм, які нам. гал. рэдактара камітэта Жарко яшчэ і ўраўняў з фашызмам).

Валынданне з кнігай Алы Церахавай. Разбіраўся сам старшыня камітэта Міхаіл Іванавіч Дзялец.

Артыкул «Толькі не сю-сю...» у «ЛіМе». Спачатку — выступленне на Дні якасці ў «Юнацтве». Пасля Авяр'ян Дзеружынскі пацісную руку, хоць я шмат яго крытыкаваў. Прыйшоў з адпачынку Машкоў (загадчык рэдакцыі). Дзеружынскі яму:

— Шкада, што ты не быў, як мяне Бечык хваліў...

А потым Каршукоў зняў з яго прагрэсіўку: яго ж Бечык крытыкаваў.

Рэцэнзія на «Вечалле» Барадуліна — «Свет увесь жывы табой...».

А свет увесь — напяты, адусюль трывожнае водгулле.

Учора паведамленне пра гібель прэзідэнта Егіпта Анвара Садата. Бясконцыя пакаранні ў Іране. Партызанская вайна ў Сальвадоры.

Самаахвярныя галадоўкі вязняў лагера Лонг Кеш у Паўночнай Ірландыі. Дзесяць — усе маладыя — памерлі. Галадоўка спынена па просьбе родных і блізкіх. «Никогда не забудутся и не простятся Лондону эти со-

значельно пошедшие на смерть, чтобы привлечь внимание к тому, что происходит на их несчастной земле» («ЛГ»).

*9.X.*

Пра што трэба дбаць — пра высокае і сапраўднае. Скрозь бачыцца і такое дбанне, але часта разам з няшчырым.

Учора ў СП — двухсерыйны тэлефільм «Людзі на балоце» ў пастаноўцы В. Турава. Зрабілі этнаграфічнае відовішча ў цудоўных колерах, у вынаходлівых здымачных ракурсах. Далі мяшаную руска-беларускую мову і пахваліліся, што першы фільм на беларускай мове. Але мова ў Мележа — золата, аснова, а тут — неразборлівая мешанка.

*10.X.*

Еженедельник «Жечивистость» в статье «Решающий момент» пишет: «Каждый, кто трезво смотрит на развитие событий, не может не понимать, что пора незамедлительно остановить такое опасное явление, как разложение государства».

*12.X.*

Калі хадзілі з дырэктарам да старшыні Камітэта Дзяльца наконт кнігі А. Церахавай, то М. І. раптам узяў са стала сігнал кнігі Ю. Сviркі «Біяграфія памяці». «Выдалі вы яго, як Пушкіна». (Сапраўды, палепшанае выданне на афсетнай паперы № 1 з раскошным афармленнем, у якім чамусьці скрозь зроблены чарнавікі пад Пушкіна.) Стаў чытаць нам:

Мой любы край!
Калі мая рука
Падымецца свяціць не так, як трэба,
Ты пракляні мяне высокім небам
І гневам, што не стыне і ў вяках.

Я адразу падумаў: — І тут перападзе. Усё-такі што за логіка: калі падымецца рука свяціць не так, як трэба(?) — то пракляні, радзіма. Твардоўскі не мог бы і разважаць пра такое: калі здраджу... Навошта!

Але высокі кіраўнік сказаў: вось хай бы так пісала ваша паэтэса...

*23.X.*

Прачытаў у Віктара Канецкага: «Человек входит в коллектив через общий труд и личную ответственность».

Віталь Кароціч («ЛГ», 14.X.81):

А я-то и не думал, каюсь,
жизнь принимая как игру,
что опытом чужим питаюсь,
краду его
и в долг беру.

Што за найгрыш і поза? Што за пакаянне? Так, мы прысвойваем чужы вопыт і павінны быць удзячнымі за гэта сваім папярэднікам, усім... Але чаму — краду?

Далей верш «Листопад»:

Стареющие женщины —
печаль какая, Боже!
С неповторимых лиц
спадает красота.
Хоть и осени весна
совсем пропасть не может,
стареющие женщины —
осенняя тщета.

**Послесловие автора.** Мне представляется очень важным, чтобы жизнь литератора и все им написанное срастались в целостность — стихи, статьи, повести, сценарии, слова и поступки должны дополнять друг друга».

Нічога сабе публіцыст, калі ён не думаў, што карыстаецца чужым вопытам.

Далей: «Я благодарен Роберту Рождественскому, **мужественно** (!) и точно переведшему эти стихи».

Вялікая мужнасць!

*30.X.*

Прыдбаў «Русскую лирику XIX века». Аказалася, яшчэ не ведаю многіх вершаў. Сярод іх і гэта.

Петр Вяземский. «Друзьям» (1862):

Я пью за здоровье не многих,
Не многих, но верных друзей,
Друзей неуклончиво строгих
В соблазнах изменчивых дней.

Я пью за здоровье далеких,
Далеких, но милых друзей,
Друзей, как и я, одиноких
Средь чуждых сердцам их людей.

*19.XI.*

Пасяджэнне прыёмнай камісіі СП, з трох да васьмі вечара без перапынкаў. Здаецца, дружна абмяркоўвалі, але галасаванне адсыпала шэсць чалавек з васьмі (сярод іх А. Жыгуноў і К. Тарасаў).

Тарасава разглядаў Пташнікаў: павярхоўная белетрызацыя, няма характараў, асаблівых ідэй. Усё гэта з агаворкамі, але досыць настойліва. Казько пярэчыў, нават (здалося) не без варожасці.

Жыгунова, маладога хлопца, самі ж уцягнулі ў гэта: прапанавалі падаць дакументы, а ён яшчэ нават кнігу не здаў у выдавецтва. Хлопец, відаць, здольны, неметуслівы, удумлівы. То, відаць, неасцярожна зрабілі.

Калі абмяркоўвалі Конана, Р. В. Шкраба расказаў, як рэдактар «Полымя» (Кавалёў) калісьці зарэзаў артыкул Конана, хоць далі станоўчы водзыў Крукоўскі з Лушчыцкім. Пасля артыкул быў надрукаваны ў Маскве. Прыносіць аўтар яго з надпісам Шкрабу.

— А вы падарыце і рэдактару.

Той аднёс. І вось прыходзіць Кавалёў:

— Бачыце, вы гаварылі, што пакрыўдзіцца хлопец, а ён мне падарыў з надпісам.

Усе рагаталі (Кавалёва на камісіі не было).

Даўно хацеў запісаць: у «Комсомольской правде» 26.8.1981 нататка **«Дотанцевался...»** Д. Братаноўскага: «Александр Чекоткин, руководитель студии современных бальных танцев Центрального Дома культуры железнодорожников нанял Юрия Л., работника таксомоторного парка, и Ю. Котова, чтобы они за 3 тысячи убили Станислава Попова, вместо которого Чекоткин рассчитывал поехать на международный фестиваль бальных танцев. Убийство тщательно готовилось, но в конце концов наемники явились в милицию с повинной. Четыре года лишения свободы в колонии усиленного режима А. Чекоткину».

Да чаго можа прывесці зайздрасць. Па назіраннях, пачуццё гэта ўзрастае ў людзей, якія ўступаюць у спаборніцтва. Сумленныя літаратары яго прыглушаюць, але, відаць, нямногія яго зусім пазбаўлены. Што ж датычыць нашых малодшых пакаленняў — чамусьці ў іх, досыць многіх, найбольшы сверб.

*24.XI.*

Дырэктар зрабіў спробу надрукаваць у 3-м томе Збору твораў Васіля Быкава «Мёртвым не баліць». Дамовіўся з сакратаром ЦК А. Т. Кузьміным, узгадніў з двума аддзеламі, напісаў спецыяльнае пісьмо ў Галоўліт. Але начальнік Галоўліта Маркевіч звярнуўся ў Маскву. Адтуль катэгарычна: не друкаваць. Звоніць старшыня Камітэта: не друкаваць. Дырэктар (ён у адпачынку, але дома): — Друкаваць. Гэткія званкі то Андраюку, то ў вытворчы аддзел. Урэшце звоніць сам дырэктар (яму дахаты пазваніў М. І. Дзялец): «Што ж, друкаваць не будзем». Але назаўтра даў тэлеграму на імя сакратара ЦК КПСС М. Зімяніна: «Считаю, что решение не публиковать это произведение является политической ошибкой».

*27.XI.*

Учора — выступленне ў Доме літаратара (Ін-т літаратуры), з пачуццём незадаволенасці.

Мэта чытання — веды ці самаўдасканальванне? Вядома ж, і адно, і другое. Але часта акцэнт ставіцца толькі на першым. У З. Н. рэдкі дар — яна жыве кнігай і ў снах. Таму часцей помніць усё з драбніцамі, як помняць толькі сваё. Магчыма, так чытала і Тамара Мікалаеўна, але дакладна не ведаю.

*4.XII.*

Учора — пахаванне Р. С. Бярозкіна (памёр 1 снежня). Выступілі Быкаў, Палтаран, Барадулін, Тарас... Тарас мне пра трагедыю (і ў жыцці Б-на яны былі) — хвароба, смерць як збавенне.

*6.XII.*

Ці трэба і ці магчыма запомніць сёлетнюю восень як нешта, што мела свой самастойны і асаблівы душэўны лад, з якім ціха пагаджаўся? Ці трэба, ці магчыма скрыжаваць у адной плыні свае нямногія думкі, службовую спешку, нейкія штуршкі незадаволенасці, барахтанне ў звычайнасці?

Бельгійскі фільм «Кончиками губ». Закаханасць падлетка ў маладую жанчыну. Фільм добра перадае напружанне, усё звініць, напята... Гэта сапраўды трывожыць

і змушае чакаць чагосьці. Але спатрэбіўся секс, яго далі — заходняе, брыдотнае.

*20.XII*

Снегапады. Снег, снег — адзін на адзін. Пачаліся дзесьці 12-га, усё засыпалі, спыняюць транспарт. 13-га, тыдзень назад, — уведзена ваеннае становішча ў Польшчы. Вельмі моцная прамова Ярузельскага, агульнае адчуванне своечасовасці мер. На захадзе — ад нечаканасці — пэўная разгубленасць. Цяпер — брэшуць і брэшуць. Адно што можна сказаць з крыўдаю: на жаль, тры пасляваенныя кіраўнікі ў Польшчы (Берут, Гамулка, Герэк) скампраметавалі высокія ідэалы, забрыдзілі бюракратызмам, карупцыяй, самаўзбагачэннем (хто-што, а Герэк — усё адразу). Ганебна! Засмуродзілі, запэцкалі, усё развалілі...

*25.XII.*

На завяршэнні спецкурса падышоў хлопец і даў сшытак вершаў другакурсніка. «Вершы-стихи». Так на вокладцы. Шмат саматужнасці, нейкай безнадзейнай непрафесійнасці, але нешта ўстойліва вабіць:

Ты хочаш, каб я зорку падарыў?
Няўжо табе мяне самога мала?

«Я ўсё сцярплю, бо я мужчына».

ТРЫЯЛЕТ

Хто скажа мне аб тым,
Кахаеш ты ці не?
Што бачыш ты ў сне,
Хто скажа мне аб тым?

Зірні ты на мяне,
Не называй чужым.
Кахаеш ты ці не,
Хто скажа мне аб тым?

Што без кахання чалавек?
Калека!
Ды ці падобны ён на чалавека?

# 1982



*24.I.*

Найвялікшая з пакут — адчуванне бездапаможнасці. Ты не можаш нічога зрабіць.

Пакута ад бесталеннасці — вострая і істотная для духоўнасці, развіцця самасвядомасці, руху і росту. Але яна эгаістычная.

Наогул, калі хочаш не мець гэтых пакут, хоць трохі зменш іх — дбай пра іншых, не пра сябе. Тады, хоць часам, будзеш адчуваць у сабе нешта добрае і дужае. Наогул, эгаізм, самазанятасць, самадбанне павышаюць і няўпэўненасць.

Вось галоўны пісьменнік — з мноствам рэгалій, ужо, як можна лічыць, «преуспевший». Прыносіць новы том у выдавецтва і адразу нечага нервуецца. Быццам тут жа гэты том павінны хапаць і везці ў набор. А ёсць жа ў яго і апломб, і пыха. Зрэшты, гэта быў таленавіты і добры чалавек, істотны для часоў нашага студэнцтва. Праз гады ім набыта горшае — зуд кар'еры, погляд на людзей зверху ўніз, імкненне праштурхнуцца. І вось — чаго ён нервуецца?

Андраюк — мне: — Ад няўпэўненасці.

Чамусьці стома навальваецца на стому. А так жа, здаецца, добра ў бібліятэцы, і востра маркотна, што тут увесь час рухаецца і багацее людскі розум, пакуль ты плывеш у бясконцай тлумні.

Корчыц, размова з ім дома ў мяне. Спакойнае, стрыманае жыццё — без прэтэнзій. Магчыма, у нечым паабывательску сцішанае (але ці ведаю я гэта, ды і ці маю права гэтак лічыць), але затое немітуслівая ацэнка лю-

дзей, роўная шчырасць, прастата і арганічнасць ва ўсім. Магчыма, і талент, які я, не ведаючы яго прац, мог проста не зразумець.

*3.II.*

Шупенька гаварыў пра Валю Канаш — з ёю бачыўся ў Доме літаратара. Цудоўная і чыстая сяброўка майго пятага курса. Па маладой легкадумнасці так лёгка разыходзіўся з дзяўчатамі, а іменна ў ёй быццам свяціўся нейкі незамутнёны крышталік. Нават адчуванне было: дзе такія бяруцца. Каб усё разам — і цнатлівасць, і чысціня, і святло. У нейкай рэдкай устойлівасці.

Цудоўны быў смутак шасцідзесятых гадоў. Сам яшчэ малады, пачуцці маладыя, але — трывога сталення, адчуванне страт і незваротнасці. Усё яшчэ новае, але і ў навізне ўжо адчуванне паўторнасці. Побач — новая маладосць, для якой ты ўжо стараваты... Усё-такі яшчэ не было такой звыкласці, будзённасці, яшчэ ва ўсім — шырыня і загадкавасць.

Цяпер — як нейкая прадвызначанасць рэчышча, з дня ў дзень, усё як не самім накрэслена, без рыўкоў, рамантыкі...

З 24-га лютага — на курсах у ВПШ. Лекцыі, лекцыі, семінары. Шмат пра недахопы. Лектары-кіраўнікі як быццам усё ведаюць, чытаюць. Усе недахопы кіравання, арганізацыі, гаспадарання. Добра тлумачаць, чаму і як усё адбываецца, што трэба рабіць, каб перайначыць. Але ці змяняецца ўсё ў лепшы бок, ці павышаецца і паляпшаецца маральнасць, духоўнасць (маральная духоўнасць) грамадства?

Чарговы лектар: «Изменить содержание и стиль руководства», «Грамотно решать социальные вопросы». «Умение развить социальную активность масс».

Днямі — доўгая-доўгая размова з Аксанай Фёдараўнай Куляшовай. На лаўцы ў парку Горкага. Якраз было прыгожае сонца, лёгкі ўгрэў (але ж і халадок памалу з выцемкаў прабіўся ў рукавы, ногі). Дзве яе галоўныя заўвагі: «Паўтараеце Бярозкіна, гаворачы пра ўплывы». Можа, трохі і паўтараю, але ж спачатку несамастойнасць была. Талент яе пераадольваў, і трэба было паказаць і ўсвядоміць гэты шлях пераадольвання.

— Свядома ці несвядома ўсё прыпісана Алесі.

— Не ўсё, але падумаю.

*21.III.*

На вяселлі ў дваюраднага брата Н.

Нейкая там сваячка ці суседка бяжыць па калідоры і бачыць: у закутку яе муж, п'яненькі, некага цалуе. Яна малоціць кулакамі мужа, але дападае да жанчыны. Лямант, выгаворванні. Уцягненне сведкаў.

Назаўтра А. І. таксама падключаецца з мараллю. Тая прызнаецца: «Ён сказаў: — Вы такая прыгожая. — Мне было прыемна. Тады ён гаворыць: — Можна, я вас пацалую. — І я не змагла адмовіцца».

Смяюцца з яе. А мне бачыцца сірата, расла без бацькоў, кульгавая, заўсёды без добрых акрас і строяў, муж няўважлівы. І ёй сапраўды было прыемна, што вось нехта яе заўважыў і ўсё такое...

Дзень сонечны, чыстае неба, ціхая веснавая свежасць — паляцець птушкаю, нарабіць глупства, праветрыцца ветрам, знайсці няўрымслівасць і надзею, закахацца да стогну...

Яўг. Янішчыц у закр. рэцэнзіі на зб. вершаў Л. «Колеры».

> У дваццаць няпоўных гадоў —
> Ужо саламяныя ўдовы.
> Замест любых вуснаў мядовых
> Быў роспачны колер ільдоў.

Пара б паэтэсе ўжо ведаць такую жыццёвую ісціну: айчынная ўдава — гэта ніколі! — не саламяная!

У кнізе «Польский рассказ» (М., «МГ», 1974) апавяданне Леслава М. Бартэльскага «Жена — краеугольный камень» з прысвячэннем «Марии — единственной». «Сентябрь» Е. Путрамента (М., 1975) напісаны ў 1952. Бел. проза тады такіх набыткаў не мела — паводле інтэлектуальнай, светапогляднай шырыні, стылявой разнастайнасці.

Польскія часці ў верасні 1939 года адбіваліся 35 дзён (Англія, Бельгія, Францыя і Галандыя ў 1940—38 дзён).

Михаил Русинек. «Дикий пляж».

361. «...видно, былые обиды и поражения не дают мне покоя, и я совершенно не выношу ничего немецкого, вернее, гитлеровского».

362. «Это комплекс неотмщенного злодеяния, незавершенного счета истории. Такое злодеяние не может быть искуплено за одно поколение. Они, впрочем, вооб-

ще не платили и не платят. Они не только не признают своей вины, а становятся все спесивее, готовы убить правду, убить память... Они будто не помнят о войне, не хотят, чтобы другие ее помнили... будто не они умерщвляли людей в газовых камерах. И в конечном счете травмированы мы, в том числе и я, а не они. Черт возьми, ведь я и в самом деле стыжусь своей искалеченности».

Мирослав Жулавский. «Предчувствие». С. 132: «Это было тяжелое и трудное время, памяти которого мы остались верны, как каждый, кто, начав борьбу, возвращал себе и человеческое и национальное достоинство, поскольку одного без другого не существует».

Яр. Ивашкевич (с. 20): «Моим учителем здесь является Чехов, который с кажущейся легкостью достигает той прозрачности и глубины, о которых я и веду речь... мне кажется, что попытки передать нашу сложную действительность при помощи нарочито усложненной формы несостоятельны. Таким путем нельзя добиться ни правдивого отображения нашей действительности, ни создания подлинных ценностей в литературе».

Заключэнне Р. Яўсеева на рукапісны зборнік «10 на 10» А. Глобуса:

«Не магу сказаць, якой будзе наша паэзія ў 21 ст., думаецца мне, што яна будзе трымацца народных традыцый. У гэтым жа рукапісе, у прыведзеных прыкладах паэзіі няма, бо ў ёй няма жывой душы, не бачна за ёй чалавека. Усё вельмі нежыццёва, красвордна».

Ул. Караткевіч. Рэцэнзія — яна ж невялікі ўступ.

«Пачуўшы гэта, каліф здзівіўся». Або: «Тут візір і каліф страшэнна здзівіліся». Такімі вось сказамі аж стракацеюць старонкі казак «Тысячы і адной ночы». Яны здзіўляліся, а нас не здзіўляюць ні прыгоды Сіндбада, ні джын (у сэнсе дух) у бутэльцы, ні Багдад, убачаны ў чароўным крышталі. Для нас гэта такая самая рэальнасць, як дываны-самалёты.

І, аднак, неўтаймоўная Шахразадаа — паэзія не-не ды паднясе нам нешта нечаканае. Вось як у гэтым выпадку з кнігай (першай) Адама Глобуса «10 на 10»...

І не будзем перашкаджаць маладым у іхніх сумленных пошуках.

Галоўным чынам таму, што ніхто не ведае, нават той, сямі пядзяў у лобе, які ён будзе заўтра — магістральны шлях паэзіі.

Я, напрыклад, люблю свае вершы, але не магу награчацца, што на вялікім радаслоўным дрэве паэзіі мая галіна не з'яўляецца тупіковай. І ніхто не можа.

І менавіта з гэтых прычын мы павінны абраць сваім дэвізам «цярпімасць». Бо вось будуць спрачацца год праз пяцьдзесят нейкія студэнты, і нехта ў запале гордай маладосці кіне: «Хлопцы тады новае пачыналі, тое, чым мы жывём, а шлях гэтага напаўзабытага Караткевіча — вёў у тупік!» Ён не будзе тады ведаць, што, магчыма, і лінія «хлопцаў» праз сто год будзе тупіковай, і гэта заканамерна, бо паэзія — рэч вечна жывая — і ідзе дарогаю спроб і памылак.

І тады нехта крыху больш памяркоўны, магчыма, скажа: «Гэта ты кінь. Адкуль ён мог бачыць дрэва ў такім малым яшчэ парастку». І дадасць: «Прынамсі, хаця нікому не перашкаджаў».

Давайце ўсе заслужым гэтыя словы.

*23.VI.*

Раптоўная гібель Рыгора Семашкевіча. Усіх узрушыла. 37 гадоў. Таленавіты і ўдумлівы. Мікола Ермаловіч расказваў мне, што ён пазнаёміўся з Рыгорам у Маладзечанскай бібліятэцы, куды той хадзіў за кніжкамі з Дамашоў яшчэ школьнікам...

*10.VII.*

У «ЛіМе» 25.6. публікацыя вершаў Алега Бембеля.

Нібыта ласку матчыну,
Ручнік вякоў разгарні
І перадай, як спадчыну,
Рэліквію дабрыні...

Аргенціна пацярпела поўнае паражэнне ў канфлікце за Мальвінскія астравы. З дзяцінства ва ўсіх такіх войнах кожны дзень чакаеш і спадзяешся, што горшы бок будзе пабіты і адпрэчан, але...

Цяпер Ізраіль штодня бамбардыруе Бейрут, у ход ідуць усялякія шарыкавыя бомбы, гахаюць магутныя гарматы.

Наш спакойны магутны свет, роўны рытм, улада будзённасці не даюць адчуць, што лёс чалавецтва — на тоненькай нітачцы. Так да пары чалавек, асуджаны на рак, не ведае пра сваю хваробу і жыве бесклапотна. Зрэшты, і надзвычайнасць хваробы не выключае з плыні дробнага, неістотнага — колькі бачыў ужо.

12.VIII.

Увесь час (другая палова ліпеня і пакуль што жнівень) сухое цяпло з устойлівым сонцам, нават дні спёкі. І ўсё, здаецца, стаіць, нават вецер быццам стаіць — устойлівы, роўны. А між тым усё імчыць, імчыць: вось ужо і чарнічніку няма, і сунічнік аддаў апошняе, а ў садзе, у агародзе штодня імклівы рух — адцвітае, выспявае, высыхае, і вось пачынаецца першы перадвосеньскі смутак: тут агаліўся лапік зямлі, там, а ты сонна, марудна, жахліва адстаючы ад гэтага рытму — што робіш?

Экерман «Разговоры с Гете» — непаспешна чытаецца, думка ўвесь час некуды збягае, яе б лавіць ды запісваць.

Все, — ты сказал мне, — поглотили годы:
Веселый опыт чувственной природы,
О милом память, о любовном вздоре,
О днях, когда в безоблачном просторе
Витал твой дух. Ни в чем, ни в чем отрады!
Не радуют ни слава, ни награды,
Нет радости от собственного дела,
И жажда дерзновений оскудела.
Так что ж осталось, если все пропало?
«Любовь и Мысль! А разве это мало?»

12 жніўня ў газетах («Звязда»): «Памяці паэта»: Імя А. В. Пысіна прысвечана Палужскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школе Краснапольскага раёна. Вырашана выдаць Збор твораў паэта, устанавіць мемарыяльную дошку на доме № 35-А на праспекце Міру ў Магілёве, у якім ён жыў.

Афтальмолагу Юрыю Яўгеньевічу Батманаву 36 гадоў, у 34 стаў доктарам медыцынскіх навук. У год робіць каля 350 аперацый, а значыць — больш як 5 тысячам хворых вярнуў зрок. Вось узор. Можа, ён мала чытае мастацкіх кніг, але ці можам мы папракнуць яго за гэта?

У свеце, такое часам узнікае адчуванне, не меншае цемрашальства, церпяць паражэнні сумленнасць, гуманізм, чалавечнасць. Войны то там, то там (Ірак — Іран і г. д.). Бясконцыя бамбёжкі Лівана і вынішчэнне палесцінцаў. Тэрарыстычныя акты, глабальныя махінацыі, разгул дэмагогіі ў міжнародных спрэчках, змовы і перавароты. Сквапнасць, аказваецца, валодае універсальнай

сілай, нішчыць адных, дастасоўвае да сваіх патрэб дру-гіх.

Дачныя дні разам з кнігай Васіля Бялова «Повести» («Роман-газета»). Пасля стаў чытаць Буніна — побач з Бяловым ён салодкі, надта вытанчаны, інтэлігенцкі, далёкі бясконца ад жыцця простага, грубага, народнага.

А настрой Бялоў умее трымаць, і да сэрцаў чытачоў прамаўляе скупым і дакладным словам, ды яшчэ і ўсмешку трымае, усё пульсуе ад жыццёвых штуршкоў.

«Иван Африканович весь задрожал. И никто не видел, как горе пластало его на похолодевшей, еще не обросшей травой земле, — никто этого не видел».

Жыццё застаецца суровым, драматычным, лёсы камечацца, людзі выдаткоўваюць сілы на нешта ўзбочнае...

Буніна чытаць таксама — асаблівая насалода, паглыбленне духоўнасці, усталяванне ў сабе нейкага тонкага і прыгожага мастацкага ладу, адчуванне роўнай і радаснай сувязі з усёй рускай «дваранскай» класікай (Тургенеў хаця б).

Дачны мой дом усё патрэсквае, трэшчыны нібы бягуць па дрэве, і адчуванне такое, як нехта ходзіць уверсе па столі, і слых нават настройваецца на прыслухоўванне: ледзьве не жудасць нейкая бярэ. А тым часам цікаюць тачыльшчыкі, а за сценамі — ц-р-цр... Конікі.

Рухацца, рухацца, накіроўваць сваю волю на мэту і справу, хоць кожны дзень нешта ўнутры смокча, расслабляе, не дае разгарнуцца: сны з ускладнёнай бяссэнсіцай, загадкавае пабольванне нечага ўнутры, каля сэрца, паніжаны тонус. Але што гэта перад усім тым, з чаго па-сапраўднаму пакутуюць людзі!

*15.VIII.*

У «Правде» нехта Н. Плёнкін, кандыдат пед. навук, заслужаны настаўнік, даводзіць, што надта многа пішуць у школах, што «нужно уменьшить объем письма, нужно меньше писать». А раней даводзілі: трэба як мага больш пісаць. У педагогіцы, медыцыне, як і ў сельскай гаспадарцы, шмат супрацьлеглых, самых нечаканых павеваў. І дужа часта яны генералізуюцца.

Пачаўся вывад палесцінцаў з Лівана. Па сутнасці, Ізраіль атрымаў поўную перамогу і дамогся свайго. Цяпер ён можа канчаткова разбурыць Ліван, брацца за Сірыю, Іарданію і гэтак далей.

*23.VIII.*

Сёння з работы тэрмінова да заг. аддзела культуры І. І. Антановіча. Прапанаваў ісці рэдактарам часопіса «Мастацтва». То хіба ж гэта для мяне. Адмовіўся рашуча і канчаткова.

Запар прачытаў нарыс Ул. Паўлава «Хлеб і соль» у «Чырвонцы» і нататкі пра паездку ў Польшчу ў «ЛіМе». Кл-а польскімі нататкамі сёння абураўся, а мне здаецца, і там і там ёсць мясціны спакойнай і някепскай эсэістыкі, хоць і спады ў рэпартажнасць, пустапісанне — часам таксама. Але чалавек ён здольны, бясспрэчна.

Люба Тарасюк:

Маленькая вёсачка,
Звонка ўраслася, —
Які падгалосачак
Лесу вясенняга!

Пяе, не баіцца,
Што горла застудзіць
Світальнай вадзіцай, —
Нястомная студня.

І ціхім падхватам
Адклікнецца там яшчэ
За кожнаю хатай
Зарослае хатнішча.

Лісцінай-калінай
Той голас калышацца
На тонкай галіне
Дарогі зацішнай.

Андрей Вознесенский:

Чего уж, все одно — не выживешь,
Летучей Вечности товарищ.
Из этой мглы тебя не вызовешь,
Лишь ты ночами вызываешь.

*24.VIII.*

Размова з Клышкам пра Семашкевіча, пра адоранасць, пра шырыню, трываласць зробленага, і ў той жа час недастатковасць зробленага. І — пра загадкавы эпізод часоў студэнцтва, што, магчыма, паўплываў на лёс.

*25.VIII.*

Верш М. Танка («Полымя», 1982, № 8, с. 15):

Ты яшчэ толькі намёк на чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на маці;

Ты яшчэ — чвэрць чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на дружбу;

Ты толькі паўчалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на любоў, —

І толькі тады становішся чалавекам,
Калі ўсе могуць спадзявацца
На цябе.

«Калі хочаш некаму зрабіць зло, зрабі дабро», — напамінаў мой бацька.

«Прыгожых людзей у поўным сэнсе гэтага слова, калі ў чалавека — спагаднае сэрца, залатыя рукі, мудрыя думкі, светлая душа, — нямала». Гэта праўда. Але ў атмасферы кар'ерызму, агалцелага здабывання даброт, спажывецтва, хабараў праядаецца часам самы ўстойлівы метал, адбываецца драбненне і самаабкраданне.

*26.VIII.*

Ціхі перадвосеньскі спакой. Неназойлівае цяпло і святло, калі так хараша і прыгожа наўкруг, што рабіць трэба таксама толькі прыгожае.

Бічэль-Загнетава. «Запаведзь»:

Нічогачка не страчана,
ані!
Быць лёгкай,
хоць і вырасту пры пні.

На дармавінцы
не папасвіцца нідзе.
Любіць людзей,
нібы сваіх дзяцей.

*29.VIII.*

Мышы і пацукі, што ноччу абрынуліся на хату, першымі (было яшчэ так цёпла, утульна, прыгожа, сонечна) абвясцілі канец добраму лету.

«Теперь, заканчивая эту книгу и вспоминая все, что я слышал и видел за эти страшные годы, я могу только пожелать моим будущим читателям, чтобы им не пришлось испытать самое ужасное, что может быть в нашей жизни, — всесокрушающего урагана жестокой и бессмысленной войны». Так заканчваецца аповесць В. Яна «К последнему морю» (1941—1951).

«Чем меньше у человека способностей, тем больше он способен на все».

«Недостатки легче всего изжить, окрестив их достоинствами».

*1.IX.*

З рукапісу Хведара Гурыновіча «Шматгалосая кветка».

Вагоны шалёна нясе
Слупоў ганаровая варта.

Варта тут ужо не ганаровая, а вар'яцкая.

*8.IX.*

Чытаю рукапіс І. Ралько «Свет зары вячэрняй». І зноў думкі, што людзям трэба больш памагаць пры жыцці. Ён і тады быў варты гэтай кнігі. А вось ціха сышоў, лёг у балоцістую зямлю на Паўночных могілках.

Пачатак восені — як позняе каханне...
Зялёных дрэў буйное красаванне
Сям-там дазволіць жоўтаму лістку
Павіснуць сіратліва на суку.
Ці, як выгнанніку,
На стылы дол апасці...

---

Спасціг я вечны сэнс быцця
І сутнасць мудрасці людское:
Не наракай — пакуль жывеш і бачыш,
Не наракай — пакуль жывеш і чуеш,
Не наракай — пакуль жывеш і помніш,
Не наракай — пакуль жывеш і верыш...
Не наракай.

Однажды, будучи совсем юным, повинуясь неясному порыву, Лермонтов составил завещание: «Похороните мои кости под этой сухою яблоней, положите камень; и пускай на нем ничего не будет написано, если одного имени моего не довольно будет доставить ему бессмертие!»

Имени оказалось довольно...

Лермонтов — М. А. Лопухиной:

«Страшно подумать, что настанет день, когда не сможешь сказать: я! При этой мысли весь мир не что иное, как ком грязи».

Вельмі любяць — бяздумна! — згадваць пра Данка. У рукапісе В. Гардзея ёсць нават такое:

Чарнее лугоў самабранка.
Змрачнеюць лясы і жніўё.
І жораў ужо, быццам Данка,
Распальвае сэрца сваё.

У Танка («Полымя» № 8—82) ёсць верш:

Не магу паверыць, што
Пасля таго,
Як да свайго дзяцінства
Дадаў гады юнацтва,
Дадаў гады сталасці
І яшчэ
Невядомую рэшту гадоў, —
У суме атрымаў
Адзін міг жыцця!

Пра свой міг жыцця нарэшце пачынаеш адчуваць. Многіх, хто сёння ў сталым веку, помню такімі маладымі. І сваю маму, і настаўнікаў, і суседзяў. Ды і школьныя сябры, і аднакурснікі — хочацца гаварыць з імі на вы; адны — праз усе наслойкі — бачацца ўсё такімі ж, а некаторыя нібы ніколі і не былі маладымі.

Купіў кніжку Івана Яўсеенкі («Крик коростеля») — параіў Янка Брыль. Нашы бел. празаікі добра ведаюць і пішуць вяскоўцаў, асабліва старых, але сучасныя калізіі, быт, моладзь у вёсцы — пра гэта нібы і няма каму. Праблемнасць у творы павінна быць невычэрпнай, як і само жыццё. І калі мне скажуць (ці я сам скажу): у творы пастаўлены вось такія і такія праблемы, то трэба запярэчыць: і толькі? Бо павінна быць іх безліч. Вырашальныя, невырашальныя, вечныя, часовыя...

*14.IX.*

Насалода рэдкая — проста сядзець за сталом і думаць, раскідана і вольна, безадносна да дажджу, які па-восеньску нудна цурчыць за вокнамі, і разам з гэтым дажджом, бо яму ўсё ж падначальваецца (нібыта) сам лад мыслення, нешта няпэўнае тчэцца, а воля не можа даць гэтаму кірунак, а нейкія ўнутраныя органы вяла спяць, а жыццё ідзе, ідзе... І з адчуваннем, што нічога не робіш, усё больш адстаеш, адстаеш... І становіцца маркотна, хоць невядома, калі маркоты больш — ці ў сённяшні дождж, ці ў той вераснёўскай бясконцай соне-

чнасці, калі ўсё унутры трапятала, але і не менш смуткавала.

Фергана (з Масквой) — з 17 па 25 верасня. Здавалася б, рай павінен быць там, дзе так хораша было разам з сонцам, непарушным жыццёвым спакоем, багаццем садавіны і ўсяго іншага... добра, добра... Але ж хіба для беларуса гэта рай, калі няма нашай рэчкі, возера, мурожнай лугавіны, грыбнога сосніку, бярозавых гаёў?..

Знаёмства з Аляксеем Ільічом Паўлоўскім — негаваркім, ціхім, самазасяроджаным, някідкім і гэтым адметным сярод заліхвацкіх танцораў, ультрасучасных крытыкес і пісьменніц з Масквы (ці хто яны там — не адразу разбярэш).

Удмурцкі крытык Шкляеў — такі старанны, сціплы, някідкі, да ўсяго дапытны.

Ноч у Дамадзедаве — глухая цемра прымусовага бяссоння, калі няма дзе прыткнуцца.

Зваротны шлях з Уладзімірам Кастровым — сімпатычны рускі мужчына, прыемна інтэлігентны. Я прыгадаў яму, як ён быў калісьці ў Мінску яшчэ недзе ў годзе 62-м, ці што.

— Мая жонка была беларуска.

— Была?

— Памерла, і я цяпер усё больш адчуваю гэту страту.

Перакладчык афраазіяцкіх паэтаў М. Курганцаў — якія ў нас маглі быць з ім агульныя тэмы для размовы... Яны носяць свой інтэлект, асвечанасць, як спартсмен мышцы (і напаказ таксама). Але знаходзілася.

*5.X.*

40 год «Молодой гвардии». Яшчэ жывыя Валя Борц, Вольга Іванцова, Анатоль Лапухоў — ды іх не так і многа. Ці лёгка ім жыць і за тых, хто тады загінуў, — хто, можа, тады загінуў, што больш на сябе ўзяў.

Зноў — цёпла, і восень — хоць у вецер ледзьве не пазвоньваючы сыплецца лісце — здаецца такой чыстай і добрай для душы, побач з ссаматнелым добра прыядноўваецца лёгкае, светлае. І лес — твой, і дол, і неба ў сваім настроі, і быць з імі — непаўторная насалода, і нехаць ісці ў хату, у справы. Як адарвацца ад самага вабнага і істотнага.

Горкая супярэчнасць, інтэлігенцкая сапсаванасць: калі нешта добрае, сумленнае робіш па неабходнасці, нешта пераадольваючы ў сабе. Натуральна — рабіць гэта без усялякага, проста, без устаноўкі. Як чалавек вышэйшай пробы, які ўнутрана цэльны і зробіць сваё усё адно, ці жыць яму ці памерці, ці зарабіць міласць ці гнеў, ці з адным змагацца ці з тысячай. Мама мая так можа (часта можа). Хоць без кампрамісаў не абыходзіцца, вядома, ніхто. Хіба што толькі прарокі, але ад прарокаў людзі адхіналіся. Прарок патрэбен на вялікую справу, а ў штодзённым жыцці з ім цяжка.

*25.X.*

На прыёмнай камісіі ў СП выступае Д. (абмяркоўваюць У. рус. празаіка, 18 кніг, некалькі ў Маскве): «У. цудоўны чалавек, выдатна ўмее расказваць дзецям, зрабіў больш чым хто... з беларускіх пісьменнікаў і г. д., яму толькі бракуе таленту. (Рогат.) Але яго бракуе і многім з тых, хто прыняты ў СП. (Зноў рогат.)

...З часоў, калі загадчыкам рэдакцыі перавыданняў быў Леў Салавей:

Клейте разумное, доброе, вечное
И не жалейте клей.
Клейте. Спасибо вам скажет сердечное
Лев Соловей.

*4.XI.*

Многія кажуць: «Дай!» Іх становіцца ўсё больш.

*16-га* — смерць Андрэя Макаёнка, сёння пахаванне. Узрушэнне тут яшчэ і ад таго, што ён быў надзвычай жыццялюбны.

«Природа будто говорила: жизнь должна быть прекрасной, как я». Ці толькі гэта? Мне яна гаворыць: не будзь дрэнны, не мітусіся, стань таленавітым, лёгкім на справу і вартым многага.

Чалавеку неабходна пашырацца, а ён (хай сабе я) — так часта звужаецца.

*4.XII.*

Лісты Сасідку, Русецкаму (70 год), Маі Львовіч. Выступленне ў Палацы прафсаюзаў (юбілей СССР),

для замежнага радыё (пра Русецкага), нататка для «ЛіМа» пра «Отче імʼя».

«Три Дюма» Маруа.

«Поэзия — открытая связь людей... Поэзия — самая необходимая ветвь в искусстве». Гэта ў Вазнясенскага гаворыць англійскі скульптар Мур. Добра гаворыць.

Апякло будзённае, знізіліся высі, пакінулі парыванні і думкі — чаму? Толькі таму, што мітуслівая служба ад ранку да вечара? Ці вычарпаны рэсурсы. Наўжо ж ужо зусім няма будучыні? Ці варта толькі ў яе закахацца, паверыць — і прыйдзе новае.

Александр Лацис. «Диковинные усложнизмы». «ЛГ», 6.10.1982.

Пушкин — Киреевскому: «Избегайте ученых терминов; и старайтесь их переводить, то есть перефразировать».

Пушкин — Вяземскому: «Да говори просто — ты довольно умен для этого».

Из «Болдинских чтений» (выпуск третий): «Инвариантность этих пар, кроме их тематической итеративности, выражается еще и в том, что они сводятся в некую парадигму».

*9.XII.*

На прыёмнай камісіі ў СП. Прынялі Рубанава, Лаўшука, Тарасава. Адклалі Дзюбу, Шкляраву, Якутава. Па Дзюбу давялося выступаць, прытым адмоўна. Але ўвесь час, і пасля, не выходзіла з галавы прысвячэнне: «Бацьку, які загінуў, калі яму было столькі ж, колькі зараз мне». Нарадзіўся ён у 46-м, бацьку маглі ўзяць у армію пасля вызвалення.

Часам самая засмечаная, груваскткая, самая чужаземная мова — у моваведаў. Чытаю П. Нікалаева (доктар, вядомы вучоны) — нататкі з V кангрэса Міжнароднай асацыяцыі выкладчыкаў рус. мовы і л-ры. Ніводнага жывога слова. Быццам робяць сумную, нудную справу. Пра гэта варта аднойчы стрэліць артыкулам.

...Сяргей і яшчэ пяць хлапцоў з класа пастрыгліся дагала — на спор з дзяўчынкамі (тыя купяць торт). У нейкі момант, агледзеўшы сябе ў люстэрку, плакаў.

Настаўнік не той, хто вучыць, а той, хто вучыцца.

*30.XII.*

Трывожны сённяшні сон. На нейкай страсе прабіраюся ўверх, а на комін села нейкая шэрая, шызаватая птушка з моцнай глюгай. Нейкая пагроза, боязь. Але ж ведаю, што вараннё лёгка спалохаць. Жменяй імшанінку — туды. А яна — ага, вось ты дзе. Пырх — і побач. Я адчуваю: павінен яе гнаць, зараз яна нешта мне благое зробіць, клюне ў вока ці яшчэ што. Але такія млявасць, утрапенне, нямогласць. Са сполахам і прачынаюся. І не першы раз уначы ляжыш, ляжыш, ляжыш.

# 1983



*9.I.*

Артыкулы, нарады, размовы пра дысцыпліну. Дай Бог!

Успаміны пра першы ад'езд на цаліну. Думка тады пра залатое пакаленне, будучыню. Таварныя вагоны, мая ватняя коўдра, на якую заўсёды нехта пхнуўся ўзлезці. Прыкметныя — хто дужасцю, хто абліччам — хлапцы, як і прыгажэйшыя з дзяўчат. Хваляванне ад Смаленска, кармёжка ў салдацкіх сталовых. Пераезды ў тамбурах — пажадана з якой дзяўчынай на пару. Кожны дзень (едзем на ўсход) усё больш ранні ўзыход сонца. Святло як усюды, а як цяпер адчуваю — святло біла знутры. Я яшчэ тады быў чысцюткі-чысцюткі, без аднае брыдоцінкі. Едзеш дні і ночы, а дарога здаецца бясконцаю, а ўсё кожны міг новае і нязвыклае, і ўсё нова, нова. Вось Ражск (Ряжск, вельмі руская назва, хай яе ніколі не забяруць). Бяжыш нейкімі дварамі, між вострых частаколаў, пераскокваеш нейкія раўчакі ці то пойла свіное і патрапляеш у захаусны магазінчык (крамка), дзе яблычнае віно і кансервы. З бутэлькаю хутчэй назад. У вагоне хлопцы быццам цябе чакалі, абселі. У пяцісотграмовы металічны кубак наліваюць: ты першы і пі. Па нявопытнасці я выжлуктваю амаль усё. Дык жа хлопцы як — глядзяць пракісла і недаўмёна. І Ханяўка, і Валодзя Вязевіч любяць — ого! Хутчэй зноў туды, і яшчэ адна бутэлька ванючага пойла. І яно быццам само такое ж задворнае, з дамешкамі пахаў вываранай бялізны, мыльнай пены, свінога пойла. Хлопцы лагаднеюць, вагон імчыць і імчыць, набягаюць здарэнні. Нехта кінуў у акно бутэльку — разбіў хлопцу галаву. Папярэджваюць — не выстаўляйце ногі — звешваюць. І вось высокі перон — жах! — і нехта інвалід, і гэта праходзіць міма, як чыгуначныя станцыі. Усё жыц-

цё — а я ж заўсёды быў асцярожны — помніцца імгненнямі пагрозлівай небяспекі, і колькіх жа такая небяспека паглынае.

Паездка на трактарны завод, выступленне з Шушкевічам. Жанчыны слухалі, нават куплена пяць экземпляраў «Дня паэзіі».

Па дарозе жыцця брыду, еду, бягу сорак чацвёрты (божухна!) год — знаходжу і губляю. Рухацца, жыць — у людзі!

У мамы — госці. Мужчына, старшы дыспетчар аўтазавода Міхаіл Вардамскі, яго жонка, работніца. Былыя партызаны са спаленых вёсак. Яна, паводле адной версіі, была сярод расстраляных. Знайшлі яе прымёрзлай. Сякерай адсеклі прыліплыя валасы. Засталася жыць.

Расказвае, як тройчы соўгалі ёй пісталет у рот (да рвоты), як стаяла ў сарочцы (сукенку парвалі), а пасля павалілася, ішоў з яе («даруйце») кал...

Пражылі без выгод, без ільгот. Нават заказ іхні паддучаў нехта спрытны (ён усё абураецца: трэба было аддаць заказ Саю, а не гэтаму блатаку). Перад строем партызанскай брыгады было аб'яўлена аб узнагароджанні яго ордэнам (Чырвонай Зоркі). але ордэна так і не атрымаў. Не трапіў у кнігу «Мы будем жить», паколькі Астаська, расказваючы Сіманавай, як выкралі зброю ў немцаў, назвала свайго брата і дадала: а з ім яшчэ адзін партызан.

*7.III.*

Ужо не вясна, а сумны морак хлюпаты і снегу.

Прамы і запомнены страх, жах — ужо ў самае вызваленне — хаванне ў зямлянках каля могілак у Астрашыцкім Гарадку. Дзень сонечны, цёплы, мы ўсё таўчомся наверсе, як раптам нізка-нізка (на брыючым) нямецкі самалёт з крыжамі — жах і паніка, кінуліся ўсе да бліжэйшай ямы, праламіўшы страху, збіўшыся ў кучу. Страшна было ад паверхні і ад зямлі, ад агульнага страху, які няўпраўна ціснуў мяне, душыў. Я не крычаў, нічога нават сказаць не мог. А тут яшчэ наверсе пачуўся голас Веры Фамінічны, яна мяне шукала, без страху і панікі, ■ нехта (усе?) на яе злаваў, і ад злосці было яшчэ боязна, ды і лупцоўкі ад В. Ф. я ўжо чакаў...

Ва ўспамінах Чукоўскага:

«В Петрограде, в Генишевском зале, он, помню, процитировал по какому-то поводу такое идиотское двустишие:

Скажи, где кончается наш поцелуй
И где начинается запах сирени.

И тут же прибавил: «Как сказал Александр Сергеевич Пушкин».

— Маяковский, вы врете, у Пушкина этого нет!

— Ну, так у Ратгауза! Не все ли равно?»

Да Пушкіна далекавата, але ідыёцкім называць гэта двухрадкоўе няварта.

Напісаць калі-небудзь артыкул «Жыццёвасць». Некалі Блок пісаў: «нигде не жизненна литература так, как у нас в России». Паэты пайшлі ў вытанчанасць, абразкі, эцюды, імпрэсіі — па-за абставінамі, дачыненнямі, рэаліямі жыцця. Няма кантактаў са штодзённасцю. Прыхільнікі Алеся Разанава (вечар у Доме мастацтваў) паляць свечку, гавораць пра моц і свята інтэлекту (няхай), крычаць: «Слава Разанаву!» (гэта недарэчна); але ж не рабіць усю паэзію інтэлектуальным шаманствам — хадзіце па зямлі, бачце жывых людзей, чуйце пахі і гукі, не забывайце пра хлеб, станок, карову і авечку...

Загадкавае, таямнічае (іншы кірунак думкі) знікае ў літаратуры. «Венера Ільская» Мерымэ сёння не з'яўляецца. Але ж у паэзіі магчымасці фантастычнага невычэрпныя — як выдумкі ўяўлення.

О, я хочу безумно жить:
Все сущее — увековечить,
Безличное — вочеловечить,
Несбывшееся — воплотить!

Пусть душит жизни сон тяжелый,
Пусть задыхаюсь в этом сне, —
Быть может, юноша веселый
В грядущем скажет обо мне:

Простим угрюмство — разве это
Сокрытый двигатель его?
Он весь — дитя добра и света,
Он весь — свободы торжество!

Муза становіцца ўсё больш вынаходлівай, ускладнёныя формы, насычаная паэтыка нібы даводзяць рух

мастацтва і прагрэс, але застаецца магутнай, невычэрпнай, бязмежнай, усеўладнай паэтыка прамога, адкрытага выказвання. Простае, дакладнае, арганічна шчырае і ёмкае само кладзецца ў душу і прамаўляе такое галоўнае, хвалюючае, неабходнае, шчодрае.

Вынік паэзіі — пра гэта трэба гаварыць таксама.

Дыскусія ў «ЛіМе» — саматужная, школьная. Куды ідзе паэзія, што адбываецца (з'явы, заканамернасці, формы, працэсы) — ніхто не бачыць, не задумваецца. Гаворка вакол другараднага і безадносна да галоўнага.

Не здзіўленне вынаходлівасцю, формай павінна быць галоўным ва ўспрыманні, а адчуванне мэтазгоднасці, неабходнасці слова, думкі, прыёму. А пасля гэтага (і разам) — ужо і захапленне самою формай. Самамэтная форма (як ні круціце) — дэгуманізацыя мастацтва, што азбучна.

Раптоўная смерць Аляксандра Каверзнева, тэлекаментатара. Вельмі сучасны, інтэлігентны, мяккі, дакладны ў слове, прыгожы.

Чалавек з зайздроснымі якасцямі. Але такім нельга зайздросціць. Можна толькі смуткаваць, што ты не маеш такіх якасцей, што ты — не такі.

Можна, відаць, сказаць, што гэта быў народны мастак — простым людзям было добра яго ўважна слухаць.

Нямоўклыя страсці хатняга жыцця. Сямейная дастаеўшчына.

Пасля змроку і халадоў — сонца, цяпло, тая радасная ружовасць промняў і паветра, лёгкае дыханне дрэў і кустоў, што становіцца ўжо ўнутраным станам. Душа разлятаецца і раствараецца ў іх. Калі б не кабінет, не рукапісы, не мітусня...

Нататка пра Маю Львовіч для «ЛіМа».

«Маякоўскі на зямлі беларускай» — для «Беларусі».

Твардовский:

За тысячу верст  
В стороне приднепровской —  
Нежаркое солнце  
Поры августовской.

Магчыма, магія імені, але мне і гэтыя нехітрамудрыя радкі кладуцца ў душу з хваляваннем як радасць, сум, прастора, думка, як нешта адчувальна мастацкае, чамусьці нават шчымлівае.

*8.V.*

Пярэдадзень вялікага і балючага свята. І зноў — фільм «Ляцяць жураўлі». Вялікі фільм. Увесь час трымае слёзы на вачах, усё проста, і ва ўсім — сімволіка смутку, болю, здрады, вернасці, дабраты, жорсткасці.

У гэтыя ж дні — чытанне «Блокаднай кнігі». У бесчалавечных умовах — вышыня чалавечнасці. І строгі допыт: а на што ж здольны ты сам? Але яны і не пытаюць — яны жывуць.

*10.V.*

Трэба нешта ўспомніць, а яно патанула ў бездані, і ўжо незваротнае, хоць адчуванне ёсць, што ўсё ж нешта ведаеш ці ведаў. А пасля — ці то ўзрушэнне, ці раптоўны сон, і раптам бачыш тое (не тое), і — успомнілася...

Дачны сусед Платонаў, ён заўсёды жвавы, з лёгкай, адчуваецца, жыццёвай хадою. Пырхае, пырхае... Вось спявае, заліваецца.

Г. (не любіць яго):

— Вы толькі паслухайце: на тым тыдні пахаваў маці, а цяпер вось заліваецца.

Нарэшце гаворыць яму:

— Лёша! Ты ж маці толькі пахаваў, а спяваеш. Людзі сорак дзён носяць жалобу.

Ён (гэтак жа бесклапотна):

— Вось бачыце, як дрэнна не ведаць традыцый (звычаяў)... І ўсё.

Вось так сеюць мак.
Да цябе хваліў і поп, і Ярмошка, і я трошку.
Дай, Божа, мне, а нікому не.
Дасць Бог дзень, а чорт работу.
Дзе болі двух — там гавораць услух.
За адным заседам вячэра з абедам.
Люблю цябе, ды не так, як сябе.

Экспедитор Гаршиков из повести Вл. Мирчева «Зеленая крыша»:

«Когда я стою с девкой рядом, она, как Хиросима после атомной бомбы, плавится и обнажается до сокровенного». Якое кашчунства!

Прашу ўключыць у выдав. план на 1985 год маю кнігу літ.-маст. крытыкі «Прад высокаю красою...».

*21.V.*

Зялёнае. Сёлетні май — у небывалым цяпле, ліпеньскае адчуванне. Пад 29° цяпла, спякотнае сонца.

Алесь Разанаў на сваім творчым вечары. Патушылі святло, і ён, як прарок, выходзіць са свечкаю.

Даваў інтэрв'ю:

«Геній бачыць не тое, што наўкол. Яны адчуваюць хвалі ў вышынях». І пасля гэтага: «Я свае вершы не пішу. Я запісваю адчутае ў вышынях».

Дзень хваляванняў (і яны не скончаны). Мама сказала, што яе маюць палажыць у анкалогію. І я, перабраўшы ўсе свае грахі, пакляўся не грашыць болей — толькі б горшае з ёю не здарылася.

Нехта N дае заяўку на кнігу і піша пра сябе:

«N пришел в поэзию в зрелые годы. Он не может представить творчество без житейского опыта... Если учесть еще, что он человек одаренный поэтическими способностями, что он глубоко интересуется жизнью, то можно с уверенностью утверждать: ему есть что сказать читателю!

...В лучших своих стихах NN предстал перед нами как лирик, мягкий и чуткий, подкупающий своей искренностью. У него острая наблюдательность, тонкое чувство к окружающей действительности».

*5.VI.*

Час белых начэй. Чаго хоча душа — драм, эфектаў, змагання? А можа — цёплага ветру, цішыні, сонца, спакою? Драмы прыходзяць самі сабою. Жыццё нараджае ўсё новыя тыпы спажыўцоў. Іх стала многа. Дзеткі шаноўных бацькоў, жонкі шаноўных мужоў, спадчыннікі, спекулянцкія і махлярскія адросткі...

І сапраўды, часам (як Фама Гардзееў казаў) праўду нельга падслухаць.

У «ЛГ»: «Сколько недостатков у моих достоинств».

«Упущенное, не сотворенное вовремя добро — невозвратимая потеря человечности... Это не искупается ничем».

*17.VII.*

Зялёнае. Адпачынак. Штодня добрае сонца, спакой, і ажно наноў пачынаеш верыць, што можна жыць сва-

бодна і лёгка. Ілюзія, якая перарываецца рознымі клопатамі, але ўзнікае зноў, як толькі застаешся сам-насам з летам і лесам.

Тым часам — артыкул «Лірыка» для БелСЭ, выступленне «Маякоўскі на зямлі беларускай» для замежнага радыё. Рэцэнзія на кніжку А. Вераб'я «Жывая повязь часоў» (пра Караткевіча) для «Навукі і тэхнікі».

«Наватары» не менш ваяўнічыя, чым тыя, хто іх адвяргае. Скідалі Пушкіна з парахода сучаснасці. Французскі кампазітар-авангардыст П'ер Булез заявіў, што оперныя тэатры трэба проста ўзарваць, бо яны тармозяць прагрэс мастацтва, перашкаджаюць публіцы «мадэрнізаваць» свой музычны слых.

Купіў № 7 «Беларусі». Некалькі змяніўся часопіс і пацікавеў (хоць кадры амаль тыя ж) пасля замены гал. рэдактара (замест Калачынскага стаў Шабалін). Усё-ткі ёсць што чытаць, і гісторыя наша, культура выйшлі на авансцэну.

*7.VIII.*

І калісьці канчаецца ўжо назусім жыццё бяздумнае, лёгкае, і трывога навісае над усім самым светлым, спрыяльным. У самую прыгожую, радасную часіну адчуваеш пагрозу бяды, прытым раптоўнай. Вось мама захварэла (аперацыя ў Бараўлянах), вось ты сам. Скінула дрэва адзін жоўты лісцік, другі — яшчэ не восень, але раптам, усё зжоўкла і пасыпалася. Крышацца зубы, выпадаюць валасы... І ўжо як толькі спакой, ціша, лагода — цягне толькі да самазабыцця, бяздзейнасці, бяздумнасці... Але і ў гэтым стане адчуваеш яго прычыну, выток (і таму няма самазабыцця, а толькі сцішаны непазбыўны смутак), і ва ўсім, што пакутуе, гіне, гарыць, мрэ — пакутуеш, гінеш, гарыш і мрэш ты таксама.

4 жніўня памёр Юрый Левітан.

Віктар Гардзей. «З пяшчоты лісця маладога»:

На помнік з сіняга бяздоння
Сцякае сонечная ніць.
І ясна, што яшчэ не сёння
Людское гора адбаліць.

Леанід Панфілавіч Бечык, нарадзіўся ў 1914 г. у г. Жлобіне. Яго бацька працаваў слесарам на лесапіль-

ным заводзе, ваяваў, быў чырвоным партызанам, загінуў у 1919 г. Трох братоў выхоўвала маці, працавала, батрачыла.

У 1930 скончыў сямігодку. Пасля скончыў ФЗУ, паехаў у Новарасійск, працаваў на цэментным заводзе «Пралетарый». З 35 па 39 гг. педінстытут. З 41 па 45 ваяваў, камандзір батарэі, начштаба асобнага артпалка. Чл. КПСС з 1949.

Апошнія 14 год працаваў дырэктарам сярэдняй школы ў Ленінградзе.

*3.IX.*

Артыкул «У чаканні галоўнага» (дыскусія па паэзіі ў «ЛіМе») — у адзін прысест. Адчуванне правалу.

Пасля віншаванні: Левановіч, Сямёнава, Скрыган, Сачанка (доўга хваліў), іншыя, Гілевіч у дакладзе, Стаֹвер. Заўвагі: Казбярук, Букчын, Разанаў, трохі і Драньֹко. Някляеў: добра завяршыў дыскусію.

*12.IX.*

«Змеелов» Л. Карелина («Москва», № 4, 1982). Можна лічыць, бестселер. Але ж, адпаведна, лоск, нібыта майстэрская, ды ўсё ж знарочыстая, стылізаваная лёгкасць. Усё на эфект: экзатычная прафесія, прыгожыя жанчыны, дэтэктыўны сюжэт, вострая сітуацыя. Што казаць — чытаецца. Але які ўрок? Якая духоўная работа спадарожнічае гэтаму чытанню? Трохі спагады... А так — салодкае, лёгкае, хуткае чытанне.

*8.X.*

Зрэшты, хіба ўсё маё (сямейны крах, хвароба) — няшчасце, калі параўнаць з бедамі людзей.

Эгаізм, паводле назіранняў, уласцівы нават добрым, чулым людзям. Прынамсі, толькі адзінкі не шкадуюць сябе, калі датычыць нейчага гора. А так — адмяжоўваюцца. Ды ўсяго на сябе і не возьмеш.

Артыкул Дубаўца ў «ЛіМе» пра нізку крытычных артыкулаў Семашкевіча. Яшчэ шмат чаго не ўмее, але ёсць адчуванне формы, напорнасць, вартасці, па якіх нават сумуеш. Ёсць, мабыць, талент — рэдкасць; якасць, па якой нездары так сумуюць.

«За верность одной теме хвалят тогда, когда хвалить больше не за что. Если и полезен один такой «полушаг», то только для того, чтобы следующий был полным».

«Звязда», 21.10.83. Заір Азгур. «І калмык з беларусам — браты»:

«Калмыцкі народ — не маленькі. 350 гадоў назад ён добраахвотна ўвайшоў у склад Расійскай дзяржавы не дзеля таго, каб згубіцца ў ёй, а каб быць упэўненым у захаванні нацыянальнага аблічча і самабытнасці, у росквіце культуры».

Василий Федоров:

За болями,
За горькой трудностью
Я не успел проститься с юностью.

«Просвещенный» аматар украінскага фальклору П. Лукашэвіч паслаў Т. Шаўчэнку прыязную запіску, траха не замарозіўшы ў зімовую сцюжу свайго прыгоннага. Калі ж Шаўчэнка абурыўся такой бесчалавечнасцю, той адказаў яму хамскім пісьмом, маўляў, у яго ёсць яшчэ трыста «такіх свінапасаў, як аўтар «Кабзара».

Эпиграф к первому очерку итоговой книги Т. Тэсс «Друзья моей души»:

Но в памяти такая скрыта мощь,
Что возвращает образы и множит,
Шумит, не умолкая, память-дождь,
И память-снег летит и пасть не может.

Плакатик в ред. приемной «Чудака»: «Пишите короче, вы не Гоголь».

«Известия», 2.6.1983. — Л. Амиридис.

«Сердце матери» — пра лёс эстонскага хлопчыка Леанхарда Эдуардавіча Лаўк, які ў 11 гадоў трапіў ва Узбекістан, стаў там Луна Імідавым (гадаваўся ва ўзбекскай сям'і), не ведае эстонскай мовы. Сустрэча з маці Леанцінай Густаўнай Лаўк. «...У времени свои суровые законы. Не состоялась, к сожалению, встреча двух матерей. В ноябре прошлого года Леонтины Густовны Лаук не стало. Словно путник, что всю долгую

жизнь суровой дорогой шел к заветной цели, осуществив счастливо мечту, останавливается, чтобы, наконец, отдохнуть, остановилось сердце матери».

*9.XI.*

Восень ідзе, цеплыня застаецца. Увесь час градусаў на 5—10 вышэй звычайнага, а таму лета і прыемна на вуліцы. Учора — у лесе прылуцкім (электрычка на Памыслішча). Па ўзлеску прамчаў заяц, ціша была і бязлюднасць. І ўсё аднастайна, і ўсё добра. І маўчаць бы, стаіцца, успамінаць, думаць. Тут таксама, як у Гарадку, Тальцы, стала ўсё чужым: імчалі па асфальтаванцы машыны, з імі нахлынуў у лес бруд: скрынкі, шыны, адыходы... Пустое ворыва па дарозе з Памыслішча ў Прылукі — заарана дарога юнацтва, на якой былі і халепа, і сонца, і начная вусцішнасць, і ранішняе святло.

М. Пришвин, т. 6:

«В молодости, когда слух был острее, я дослушивался так до шепотов снежинок между собою».

«Единый образ природы, вытекающий из непосредственных человеческих впечатлений, зарождается в городе у людей высокой культуры» (378).

«По зависти можно много наделать, но сделать нельзя ничего». (460).

«Кому-то вчера написал, что сыт теперь не количеством прожитых лет (арифметикой), а качеством остающихся дней жизни: хоть один денечек остается, да он мой, небывало единственный» (721).

У «Комсомольской правде» 29.II.83. Андрей Дементьев («Тот мир, что мы спасти должны»):

Как на Земле сейчас тревожно
И все страшней день ото дня.

*29.XI.*

Пасля снягоў, холаду — цёпла, восеньскае. Чаго трэба баяцца — бяссонніц. Начныя кашмары, калі раптам насоўваецца нешта злавеснае, роспачна намагаешся закрычаць, крык не даецца, вязне, як ногі, а потым прарываецца праз мычанне, палохаючы блізкіх. Сэрца, сэрца...

Сон — малое дзіця, радуемся яму, нарэшце! Пасля бачыш, што гэта ўжо не немаўля. Дзівішся падману і

нібы палохаешся: чаму. Чамусьці ніколі не сняцца сны лёгкія, радасныя.

Напісаў артыкул «З векам імклівым...». Для «Беларусі» (да 70-годдзя Куляшова).

Мікола Мішчанчук (чытаю рукапіс яго кнігі «Трывожуся за белы свет») адкрывае кнігу вершам:

Скрываўлена сэрца праз болі, пакуты,
Прастрэлена сэрца трывогай планеты.
Пакуль не забіты, пакуль не закуты,
А сэрца працята маланкавым ветрам.

Скрываўлена сэрца: так жорсткасці многа,
А літасць, дабро не заўсёды ў пашане.
А каты выходзяць з пячорнай бярлогі,
Каб людзям нанесці смяротныя раны.

Скрываўлена сэрца: хоць сам не забіты,
Хоць можна смяяцца пад небам блакітным,
Ды ў вочы глядзяць мне ракеты адкрыта.
Пакуль не забіты? Магу быць забіты!
Збалелае сэрца падобна на студню.
Яно халадзее ў грудзях штомінутна.

Ну і сэрца — скрываўленае, прабітае наскрозь, падобна на студню, халадзее ў грудзях штомінутна. А ён жыве, чытае лекцыі, спіць.

«ДП», 1982. К. Ваншенкин:

...И сорок прошло уже лет
с тех пор, как ударил в их лица
холодный военный рассвет.

«Берег» Ю. Бондарева. Вайна — дзейнае; замежнае — слаба, драма — рассмактана старонкамі пра рэстараны, шалманы, парнаграфію.

З кнігі Ф. Абрамава «Трава-мурава»:

— Ешь досыта, работай до слез.

— Не теперь сказано: сын-то мой, а ум-то свой.

— Чем людей маять, лучше самому маяться.

— Живешь не человеком и умрешь не покойником.

— Красивой не бывала, а молодой была.

— Ничего, и на том свете жить можно: никто еще не воротился назад.

С. 74: «Зарок блокадницы»:

— После войны я ни разу не плакала. Грех великий плакать, кто пережил блокаду да войну.

«Пока мещанству выгодно — оно лебезит, стелется. Когда выгоднее убить — берется за оружие».

*5.XII.*

Позневячэрні парк. Змрочная злавесная цемень і такое ж святло. Быццам усё знікла ці вынішчана — поўнае бязлюддзе. Усяго толькі некалькі дальніх постацей. Між тым на праспекце — шум, жыццё. А тут — ідзеш, з табою пяць-шэсць тваіх ценяў; адчуванне нерэальнасці і перадстраху. Прывіднае...

# 1984



*4.І.*

Снягі, дажджы, адлігі. Тэмпература трымаецца ў плюсе. Вецер, вятры. Сумнае перадднавагоддзе. Памерла раптам Любоў Канстанцінаўна Ізотава. Была яна прыгожая, добрая, шчырая. Умела працаваць недакучліва і далікатна. Сама справа рабілася прыгажэйшай. Пяшчота, шкадаванне, смутак, боль.

А следам — гібель прыбіральшчыцы Ганны Ціханаўны Пахілька.

*8.І.*

І ўсё яшчэ вышэй нуля, хоць ужо ёсць прагноз на холад. Ідзе снег з паасобных сняжынак, якія падоўгу кружляюць у паветры. Гусцее, цямнее. Газеты, кнігі — усё жыццё. Між тым страсцей не менее: Ул. Карызна ў паэме «Размова наросцеж» («Звязда», 7.1; што за назва? наросцеж?) не гаворыць, а хлюпае словамі.

А за акіянам істэрыка,
Шантаж і разбой.
Пентагонаўская Амерыка
Хвост узняла трубой.

Евтушенко:

Классики в бессмертье не ломились,
Шло оно за ними, словно тень.
Классики по-своему ленились —
Плохо написать им было лень.

Нібыта і трапна, а трохі мітуслiва: класікі дастасоўваюцца да паэтавых схем.

Оказывает вечность снисхожденье
Лишь тем, кто снисхожденья не просил.

Паміраючы, Пушкін прасіў скласці спіс даўгоў і падпісаў іх.

Даль пра бяссмерце:

«Бессмертие — непричастность смерти, свойство, качество неумирающего, вечно сущего, живущего; жизнь духовная, бесконечная, независимая от плоти. Всегдашняя или продолжительная память о человеке на земле, по заслугам или делам его.

Незабвенный, вечнопамятный».

У сне падбягае вялікі сабака. Не палохаючыся, дастаю яму і кідаю цукерку, нават аскабалак цукеркі. Ён наласа падбірае. І нічога не астаецца, апрача думкі: навошта бегаюць у сне гэткія сабакі. Зрэшты, і не ў сне ад іх адцукерваешся.

Яшчэ адзін прыклад, як не трэба пісаць палітычныя вершы. («ЛіМ», 10.2.84):

Жыву заўсёды пад прыцэлам,
І думы чорныя снуюць,
А тыя, што душу ад цела
Адвейваюць, кактэйлі п'юць.

Начамі цешаць маладзіцы
Іх за паслугі і прэзент,
І кожны трохі маладзіцца,
Нібы заморскі прэзідэнт.

Яны нясуць жанкам букеты,
І ў дзверы стукаюць не ў час,
А іх крылатыя ракеты
Даўно нацэлены на нас.

Аўтар жа — паэт таленавіты. Відаць, насядае «на горло собственной песне».

*24.II.*

Чытаю рукапіс новай кнігі Макаля «Калыска долі». У вершы «Мужчына ружы прадае»:

Ружовай прыгажосці каралевы
Рабынямі глядзяць у твар бяды
З карзіны —
Адмысловай каравелы,
Якая з поўдня прыплыла сюды.

Гэта каравела прыплыла з літаратуршчыны, зноў жа дзеля дробнай, зацяганай: каралевы — каравелы.

*26.II.*

І сон, калі чамусьці сніцца, што ты ваенны лётчык. Вось скамандавалі баявы вылет, а ведаеш, што ты не пілот, не радыст, не стралок, не штурман. То і што ж паробіш. Адчуванне непазбежнай, але неабходнай гібе-

лі. І ўжо нават адчуваеш фізічна, як твой самалёт урэжацца ў зямлю. Цемра і ненатуральная атмасфера сна — праз сон — арганічна здаецца атмасферай ваеннай небяспекі і баявой сітуацыі.

Сёння ў «Комсомольской правде» гісторыя хлопца, цяжка параненага ў Афганістане (куля ў пазваночнік і грудзі, паралюш ног). Як мыторылі яго ў Нікапалі — грэх наш агульны, і грэх цяжкі.

И. Руденко. «Долг». «Комсомольская правда» 26.2.1984. Хлапцу 23 гады, Нямцоў Аляксандр Іванавіч.

У апошнія гады (і сярод пісьменнікаў) стаў папулярным довад (просяць кватэру ці кніжку або яшчэ штонебудзь): «Я не прашу большага, чым іншыя». А ў «іншых» заўсёды ёсць нешта, чаго ў нас няма... Але ж колькі людзей мае «менш» — чаму ж мы на іх не гледзімо.

Грамадству трэба мудрэць, а яно хоча сыцець, тлусцець, што роўна хваробе.

Ходзіць па хаце смутак, хаваецца за кніжкамі і пад газетамі, навявае нейкую нуднасць і тлумнасць. А імя гэтаму смутку — бяздзейнасць.

«Курьер ЮНЕСКО». Декабрь 1982, с. 22—23.

Максим Танк. Однозвучны с именем Белоруссии: Купала и Колас, певцы свободы.

Алексей Сурков. «Бессонница» («ДП». 1979):

...За осенью всегда идет зима,
Таков закон. Оспаривать не будем.
Лишь только бы не выжить из ума,
Не стать в конце дороги в тягость людям.

Да, молодость крылата и задорна,
Да, зрелости под силу все дела,
Но мудрых мыслей золотые зерна
Судьба в награду старости дала.

Шевченко в поэме «Тризна»:

И сохранить полет орла
И сердце чистой голубицы —
Се человек!..

*16.III.*

Даць нешта большае — зрабіць добрае, ачысціць душу, сцвердзіць існае. Рэагаванне на артыкул «КП» — «Долг». Пакаранні суровыя: выключэнні з партыі, зняцце з пасад. Аднак людзі кажуць: яшчэ і не так ім трэба..

Хлопцы з Афганістана. Панявечаныя, пра іх увесь час гавораць (і выходзіць, што беларусаў там асабліва многа). Яны павінны атрымаць усё, што можам мы ім даць. А найперш — увагу, павагу, любоў.

Рукапіс кнігі Леаніда Дайнекі «Вечнае імгненне». Занадта многа рахункаў з крытыкай (не прызнаюць, не цэняць, чэпяцца), прага прызнання мацней за дэкларацыі разумення, спачування, шчырасці і г. д.

Есць невядомы нехта,
Маленькі нехта ёсць...
З упартасцю ландскнехта
Сваю ён тоіць злосць,
Ён падбірае ключык,
Пляце паклёпаў ніць,
Каб мне зрабіць балюча,
Каб з ног мяне зваліць.
Ні ў лесе, ні ў харомах
Не збегчы ад яго.
Мая няўдача, промах,
Як свята для яго.
Ды хмару ў небе ўкусіць,
Змарнуе ночы, дні —
Я смелы. Не баюся
Мышынай мітусні.

Хутчэй — комплекс баязлівасці, амаль манія. I столькі выпадковага (ландскнехт, падбірае ключык і г. д.).

Пра крытыкаў («Крытыкі»):

Добрых крытыкаў і злых
Бачыў я аж лішку,
I прыходзіў кожны з іх
Са сваёю лыжкай.

Урэшце — верш, які адкрываў кнігу:

Бяссонны агонь у сяброўскім акне
Шацёр непагаснага неба,
На гэтай зямлі палюбіце мяне,
Бо потым любоў мне не трэба,
Навошта пачуцці, як грошы, хаваць (!)
I верыць не жаўранкам, совам?
Мы выйшлі за шчасце людзей ваяваць
Са зброяй адзінаю — словам.
Не ўсе нашу песню прымаюць на «ўра» —
Хто п'яны, хто дужа цвярозы.
Мы слова бяром, як вугольчык з кастра,
Праз радасць нясём і праз слёзы.

I тут: галоўнае не «мы выйшлі за шчасце людзей ваяваць», а — «на гэтай зямлі палюбіце мяне».

Возраст Земли, по новейшим данным, определен в 4,55 миллиарда лет.

*29.III.*

Умельства жыць у атмасферы або ў чаканні нечаканага і незвычайнага — паэтычная якасць. Мітусня, штодзённасць зніжаюць не толькі ўласны рост — ніжэйшымі, будзённымі здаюцца ўсе. А людзі прыгожыя, цікавыя, таленавітыя — скрозь.

Вось 22-гадовы Аляксандр Стоўба, афіцэр. Загінуў, пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Леніна. У «ЛГ» 27.8.1982 яго вершы (рыхтуецца да друку яго кніга).

Усё суадносіцца з лёсам. Подзвіг — вышыня ўнутранага росту душы. «Ты, дорога, не кончайся, чтобы жизнь длинней была, Чтоб шагать с мечтой о счастье, Чтобы песня не спала».

Серебряную чашу поднимаю,
Хваля и воспевая небеса,
При этом никогда не забываю
Земных дорог земные чудеса,
Могучих рек весенние разливы,
И тополя, нацеленные ввысь,
И щедрым солнцем залитые нивы,
Где все земные запахи слились.

«Мы не можем судить беспристрастно о творчестве поэта в отрыве от его реальной жизни, тем более, если жизнь его уже свершена и если была она необычной...» (Петр Ткаченко).

У кніжцы Г. Казака «Сегодня на заре» (Л., 1983) ледзь не адзінае (ну яшчэ трохі ёсць). «Мамы нет, ее не будет, мамин свет погас».

Канфлікт дзеяння і канфлікт ідэі. Апошні час часцей за ўсё — у паэзіі. Не так: паэзіі ўласцівы ён сама больш.

Затое — Максім Танк. («Правда», 2.1.84) у добрым перакладзе Я. Хелемскага:

Поэзия, о развяжи язык мой,
Чтобы живая речь — мы к ней привыкли!
Вошла в стихи. Владеет ею плуг,
Беседуя с землёй. И мой пернатый друг —
Веселый жаворонок, вторя зорям,
Той речи верен. Люди все вокруг
С ней кровно дружат, счастьем или горем
Делясь в минуты встреч, часы разлук.

Поэзия, дозволь, слова постигнув эти,
Все заклинания от лихолетья
Произнести. И, став самим собой,
Стихами выразить и боль,
И то, чего я всей душою чаю
И, нашей речи вняв, предощущаю.

*20.IV.*

Калі пераступаеш нейкія асновы і прынцыпы раз за разам, незаўважна становішся цынічным і подлым найгоршай подласцю: лічыш сябе «нармальным», ад іншых патрабуеш устойлівасці і нормы, быццам сам імі валодаеш.

«Все они сотворены из глины и золота, подумал он. Из лжи и потрясений. Из жульничества и бесстыдной правды». (Пра жанчын у Рэмарка. «Трыумфальная арка».) Ці ўсе? Неаднойчы ўзнікала адчуванне, што ёсць жанчыны надзейныя, верныя, без «жульничества» і «лжи».

Маска вечнасці... Найчасцей — уродства. Рэдка, калі вечнае супакаенне робіць прыгожым. У маладосці я не мог, не хацеў глядзець у твары нябожчыкаў. Цяпер — гляджу. І бачу, што рэдкія з іх лёгка адыходзяць.

Адчуваць красу жыцця пастаянна.

Гогаль у «Арабесках»:

«Как сравнить вас между собою, три прекрасные царицы мира? Чувственная, пленительная скульптура внушает наслаждение, живопись — тихий восторг и мечтание, музыка — страсть и смятение души...»

«Нравственность, нравственность страждает — вот что главное».

*17.V.*

Доўгі час заняпаду. Хвароба, стомленасць.

Ніяк не магу больш-менш арганічна ўключыцца ў жыццёвы рытм пасля смерці Джыма Арыстахавіча Сінакіна. Памёр ён 4 красавіка. Мама ў вялікай скрусе: Быў Д. А. харошым другам і мне, і брату. Вік. за жалобным сталом нават прыраўняў яго да бацькі. Пайшоў у небыццё надзвычай сумленны, праўдзівы і добры чалавек, без ані якой фальшывінкі. Нікога не мог абразіць, пакрыўдзіць: імкнуўся дапамагчы, падзяліцца. Ніколі не наракаў на жыццё, а нягод у яго было пад завязку. Рашылі з мамай не заказваць аркестр (будуць ісці за дамавінай абыякавыя людзі), а цяпер думаецца.

што трэба было. Пахавалі ў Прылуках, недалёка ад майго дзеда...

Як мала мы (я) знаем пра сваіх продкаў. Мама нічога не ведае пра сваіх дзядоў (іх дзеці рана асірацелі), акрамя таго, што былі сяляне і жылі ў нястачы. Мая бабуля Вячаслава Ульянаўна з сямі гадоў без бацькоў. Была парабчанкай (пасціла гусей, свіней), а потым служанкай. Неяк (пры мне) размаўляла яна з суседкамі каля хаты. Прайшла нейкая жанчына, і суседкі пра яе: «Ваендама пайшла», «Мадам, што насіла ваду жыдам». Бабуля засмяялася і сказала: «Ну, апошняе пра мяне. Служыла я і славянскім, і іудзейскім гаспадарам». У 1914 годзе — бежанка, трапіла ў шпіталь. Там яе трохі падвучылі, і стала яна міласэрнай сястрой. Так і даслужылася ў наш ужо час (без спецыяльнай адукацыі, амаль непісьменная) да мізэрнай пенсіі... Затое падтрымлівае памяць: як любілі яе хворыя, дзеці.

Пра Д. А. у кіеўскай завадской газеце «Орденоносний транссигнал» (10 ліпеня 1964). Узяў у мамы, каб сёе-тое выпісаць.

БАТЬКІВСЬКИЙ ЗАПОВІТ

Перший день травня видався напрочуд гарним... Та люди в святковому вбранні не помічали... квітів. Уважно слухали вони промовця, що вибрався на невелику колоду, яка правила зараз за трибуну. Схвильовано говорив він про тяжке життя простого народу... про важкий гніт столипінськоі реакции, про те, що пролетаріат Росії ...не припинить боротьби за свою свободу...

Раптом затріщали... кущи... і на галявину выскочив урядник на... коні.

— Ось де ви, соціалісти, пролятущи!..

В руках урядника зміівся нагай... свиснувши, оперезав чоловіка. Той здригнувся, швидко схопив занесену над ним руку, з силою одвів від себе.

— Ти ще й битися! — захлинувся люттю урядник. — Ось тобі, ось!

Знову засвістив у повітрі нагай. Промовец, високий кремезний чоловик, відхиляючись від

ударів, підняв важкий кулак. Ще мить, представник влади лежав на землі.

— Біжим звідси, — сіпнув його за рукав товарищ, — поки полицейські не злетілися.

— Тобі, Аристарху, тут в Росії не жити. За те, що посмів на урядніка руку підняти, надовго засадять за грати, а то й життя позбавлять — зараз час лютий. Ти людина молода, ще богато чого в житті зробити зможеш. Ідь за кордон. А там не забувай про нашу боротьбу...

Перебрався він... аж в Америку.

Цю історію маленький Джимі ладен слухати хоч кожен день. І він знову просить татка: — Роскажи про батьківщину!

...Вдома маленький Джимік розмовляв по-російському. А на вулиці, граючись з хлопчаками, жваво сипле англійськимі словами. Бо живе він у місті Кливленді...

Одного разу батько прийшов додому збуджений, веселий.

— Чуеш люба, збираймо чемодани, — звернувся він до дружини. — Дозволили! Ідемо!

Було це в 1920 році... в Росії сталася революція...

А значно пізніше, коли Джимі було... шістнадцять років, батько сказав йому:

— Коли ты народився... я назвав тебе Джим в знак поваги да країни, яка дала мені притулок. Але пам'ятай: твоя батьківщина тут, на Радянськіі землі. Любі іі, як люблю я, заради неі, якщо треба, віддай все, що маеш, навіть свое життя.

Навіки запам'ятав Джим слова батька.

Чи мало доріг пройшов він... В грізні роки Вітчизняноі війни був штурманом. Різнобарвні стрічки на гімнастьорці воіна красомовно говорили про це — три поранення, три контузіі. Вони й не дали довоювати до кінця... Але... був він на бойовому посту — працював в політуправлінні, керував будівництвом...»

Канешне ж, пра 5 пакутных гадоў, калі Д. А. быў адарваны ад жыцця, у артыкуле ні слова.

Расказваў:

— Выклікалі... І раптам старшыня камісіі звяртаецца да мяне: «Таварыш Сінакін...» Я прытомнасць страціў, пачуўшы гэта святое слова «таварыш»...

Пра маці сваю Ірыну Якаўлеўну ўспамінаў з нейкім асаблівым піетызмам. Яна ўмела лячыць, асабліва вывіхі.

Пра тое, як хрысцілі яго бацьку:

— Мой дзед з папом не ладзіў. І калі нарадзіўся мой бацька і панеслі яго хрысціць, хацеў поп даць яму імя Пуд. Ну, тут дзед прасіць пачаў: «Няўжо, бацюшка, ты хочаш, каб сына майго дражнілі «Сорак фунтаў»? І поп даў яму імя Арыстарх.

Мама выявіла, што на 4 студзеня (па ст. стылі) прыпадаюць, акрамя названых, і такія імёны: Агаў, Аліпан, Амілій, Апалос, Асінкрыт, Ахаон, Варнава, Ермлаг. Праўда, ёсць і Арцём, Анісім, Іаан, Клімент (дарэчы і майго прадзеда — Кандрат), Прохар, Фадзей, Філіп — усяго 55. Так што поп усё ж выбраў не самае незвычайнае...

Як цяжка пахаваць чалавека. Калі б не дапамога выдавецтва, не ўяўляю, як бы мы абышліся.

А затым доўгі час заняпаду, хвароба, стомленасць, а над зямлёй усе дні красавіка і мая сонца, ружовасць, веснавы рух і спеў. Цяпер трошкі халадней.

Прыязджаў Генка (мой дзядзька і друг — ён на 4 мес. старэйшы). Яго высакароднасць у дзяцінстве (2—3 кароткія ўспаміны). Ёсць у яго талент, душа, але непапраўны дылетантызм, схільнасць да гарэлкі. Адчуванне нейкай прывяласці яго.

*27.VI.*

У. Скарынкін у кнігу «Пасадачныя агні» дае верш «Пасля навальніцы»:

Цяжка быць незалежным
І гордым,
Праўду рэзаць у вочы мане...
Крывадушніку
З луджаным горлам
Захацелася спляжыць мяне.

Пазайздросціў,
Што лётаў высока
І натхнёныя песні складаў.
Выпаўзае вада з вадасцёку

На гарачы асфальт,
Як удаў.

Абурэннем
І крыўдай няўтольнай
Грудзі сціснуты,
Што ні раблю.
На сурвэтцы
Ля лямпы настольнай
Шнур пярэсты
Згарнуўся ў пятлю.

Не задушыць ён
Палкае слова,
Што клякоча
У маім гарляку.
Праясняецца далеч вясновa —
Будзе свята і ў нас
На вяку!

---

Сярод вясновай
Буяковай —
Ночы
Мяне ў дрымотным
Векавым бары
У адной кашулі
Кінулі аднойчы,
Забылі
Падгуляўшыя сябры.

*15.VII.*

Зноў Зялёнае, летні адпачынак, на які прыпала так многа самых неабходных спраў (рукапісы Ралька і Каравушкінай — рэцэнзіі; кніга пра Панчанку — пачаць і скончыць...).

Вечнае, заўсёднае: лес з чарніцамі і суніцамі, яго загадкавасць, ціхае сненне жывога і суладных з усім думак.

Адна з іх: трэба, трэба, трэба варушыць мінулае, каб не забывалася.

Увесь ліпень — з дажджамі і без цяпла, лета — як кніга, без душы. Хаця не — ёсць душа, толькі выйсці да яе ў лес, на прастор, на луг, і ўсё навакольле — твае душа, сэрца і памяць. Думаеш, успамінаеш, смуткуеш, маўчыш, дыхаеш.

Мария Петровых:

Не зря, не даром все прошло,
Не зря, не даром ты сгорела,
Коль сердца твоего тепло

Чужую боль превозмогло,
Чужое сердце отогрело.
Вообрази — тебя уж нет,
Как бы и вовсе не бывало,
Но светится твой тайный след
В иных сердцах... Иль это мало —
В живых сердцах оставить след?

Рамантыка — гэта мужнасць і змаганне. Там, дзе ціша і ідылія, — няма рамантыкі.

У «Известиях» (9.7.84) Н. Кривомазов. «Здравствуйте, соседи!» Пра жанчыну-блакадніцу. «Ей казалось, что за столом твоей хаты, или в соседнем доме, или через улицу кто-нибудь голодает, и кусок становился у нее поперек горла».

И. Земская. «Достанет всем тепла». «Правда», 22.7.1984.

В стране 944 детских дома и школы-интерната. Один из пионеров-детдомовцев после «Артека»:

«Если бы у меня была волшебная палочка, я бы вызвал сюда весь свой детский дом, чтобы каждый попробовал апельсин...»

У Скарынкіна — нармальная, нават неблагая падборка ў «ЛіМе» 13.7.84. З верша «Беларускае застолле»:

Ад чачоткі зухаватай
Хата захістаецца.
І прыпеўкаю са сватам
Сваццця развітаецца:
— Эх, узлескі-пералескі,
Вочы ў свата, як пралескі.
Ты прыходзь мяне шукаць —
Я на печы буду спаць.

*28.VII.*

Амаль адначасова тры смерці: Васіля Бурносава, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Барысенкі. Караткевіч — перад вачыма. Ён заўсёды ўражваў неардынарнасцю, таленавітасцю. Некалькі сваіх успамінаў. Разы са тры ён званіў мне. Аднойчы: — Ну, малайчына. (Пасля прадмовы да «Беларускай балады». Там была фраза пра тое, што ён здзейсніў сапраўдны подзвіг.) У некралогу, падпісаным на самым высокім узроўні, і на пахаванні было, нарэшце, выказана ўсё, чаго ён варты.

*29.VII.*

Піша Віктар Шклоўскі («Ветер наполняет наши паруса...». «ЛГ», 15.2.84):

«Чего мне больше не хватает сейчас? Молодости. Я согласен, пусть не целиком, но чтобы она была рядом со мной и иногда можно было бы уходить в нее через потайную дверь».

Андре Вюрсмер. «Мое прощальное «но». «ЛГ», 11.4.84. (Незадоўга да смерці, 85 гадоў.)

«Счастливый характер, сотканный из оптимизма и доверия, прекрасная подруга рядом, серьезные дети и внуки, миллионы друзей, разделявшие мое негодование, боль, надежду, — достойная жизнь, без компромиссов и отступничеств... Я желаю вам прожить такую же жизнь, мои дети!

Но только еще более длинную».

*16.VIII.*

Марыя Шаўчонак:

Баяцца шчырасці, як беднасці,
Не дапускаюць прастаты.
Сябруюць толькі ў адпаведнасці:
Ты — мне, і я табе — як ты.

Мальдзіс прыводзіць песню 30—40-х гг. XIX стагоддзя:

У мяне ножанькі не дрыжаць
цябе, мой мілы, праважаць,
У мяне устанькі не свярбяць
цябе, мой мілы, цалаваць.

*20.IX.*

Уражанні Масквы, Браціславы і Прагі (чэшска-славацкі семінар перакладчыкаў і выдаўцоў). Браціслаўская задуха. Але — цудоўная атмасфера таварыскасці, нацыянальнай прыгожай годнасці, культуры і парадку. Прывабныя людзі, нейкая згарманізаванасць усяго ладу зносін, паводзін, побытавай культуры.

Рудольф Хмель — славацкі крытык. Мэтаскіраваны і шматгранны клопат пра сваю літаратуру ў аспекце яе ўласных праблем і ў ракурсах міжнароднага прызнання, надзейнага, належнага і пэўнага месца ў свеце.

Цёплыя-цёплыя ночы, павольная дунайская плынь. На беразе — лаўкі, прывабныя парачкі.

У дакладах — шаблоннае мысленне, без непаўторнасці і руху. Агляднае слізганне — і не болей.

Юбілей славацкага народнага паўстання — яго вод-

гукі і водгулле ва ўсім. Часам недарэчныя (у вітрыне, дзе жаночыя калготы і дамская бялізна, лозунг: «Адстаім заваёвы сацыялізма!»).

Як разабрацца — фантастыка. Ходзіш, сядзіш, спіш у далёкім свеце, пра які чытаў і ведаў, але ніколі не думаў, што будзеш там.

Вечар у Цімбаху — у цудоўнай карчме (як назваць?). Столь і сцены — з лакіраванага круглага дрэва (цёмны лак), сцены — народная вышыўка і тканне, гліняны, прыгожа аздоблены народны посуд (усё прад вачыма), шкуры коз, аўчына і г. д.

Грае народны аркестрык — цымбалы, скрыпка, кантрабас (?) Усе спяваюць, заходзяць людзі, сядаюць на лаўкі (не за сталы), падпяваюць, выходзяць...

Семінар — гурток людзей, якія ведаюць адзін аднаго, сустракаюцца тут праз кожныя два гады, і іх ведаюць, гэта ўжо амаль кампанія — ёсць свае традыцыі, звычкі, усталяваная танальнасць адносін.

Засілле піва і кавы (здаецца, турэцкая). Вядома ж, не нам тут пачувацца лепш — у інтэргатэлі («Кіеў»), ці ў Добжычы, дзе ўсё «велькапанскае», не на нашых пабытовых узроўнях.

Горы і пагоркі, утульныя камяніцы пад чарапіцаю, палісаднікі з ружамі, кукурузныя палі, плантацыі хмелю, маленькі сланечнік.

Чэшская чыннасць, як добжыцкія герцагскія выгоды.

Леа Метсаар, эстонскі празаік і перакладчык, прыехаў атрымліваць прэмію Недвала. Выступаў па-чэшску («я па-руску гавару дрэнна» — гэта выклікала вясёлы смех, асабліва ў заходніх немцаў).

Манера эстонцаў трымацца сціпла і стрымана, іх прывабная мяккая гаворка.

Ян Козак. «Адам и Ева».

«Я буду твоей, ты будешь владеть моим телом, пока владеешь душой». «В такие минуты я люблю в ней, обнимаю в ней саму жизнь. Землю, пламя, солнце, звезды и росу, поле и наш сад — все, что есть красота и полнота жизни».

Бывцам не гаворыш, а спавядаешся. Стан зачараванасці, які ўзнікае ўсё-такі, калі ты зусім адзін, калі ты адчуваеш прыроду і агорнуты ёю, калі ты плывеш у вадзе і ў паветры — і дыхаеш усім, што шэпча, звініць, дыхае, спіць.

Иван Скала. «Не хочу» («Панорама чеш. л-ры», 1983 — 6, с. 3.):

Зачем поток прекрасных слов,
Стихоплетений благовонье?
Прикройте мир от катастроф
Стихотвореньем, как ладонью.

Тым часам мінскія трывогі. Гіне кніга пра Панчанку. Не паспяваю. Неадкладна трэба здаць «Песні змагання» — не паспяваю. Важна зрабіць буклет «Радзіме — радок і жыццё» — не браўся. Наспявае артыкул у «Дружбе народов» пра Танка — ці змагу?

Заўсёднае адчуванне, калі нейдзе выйдзеш на людзі, — як многа праспаў і як мала зрабіў. Галоўнае — можна было ж зрабіць.

Не чытаць па-чэшску, славацку — абраза ўласнай годнасці.

Словы прарока чэшскага народа — чэха: каб чэшская зямля квітнела дарункамі прыроды.

Думка пра тое, што невядомае, нечаканае, таямнічае, загадкавае павінна быць у мастацтве.

Але не выдумкаю, а — рэальнасцю, якая вакол нас, пры нас, з намі. Некалькі звычайных фота: пустая лаўка, апалы ліст, контуры дрэў. Як зрабіць здымак. У ім могуць быць і смутак, і тайна, і надзея, і жыццёвая радасць.

*24.IX.*

У «КП» цытуюцца радкі з выдадзенай у Мурманску касеты «Хибины»:

Здравствуй, брат мой во хмелю,
Без действительных и мнимых!
Я за то тебя люблю,
Что не муж и не любимый...

*(Р. Маркова)*

Брыда.

Инна Кашежева. «Не уходите в сытость, люди...» («Октябрь», 1984, № 4, с. 61):

Не будет музыки без лютни,
Без боли в сердце мертв поэт.
Не уходите в сытость, люди,
Назад пути оттуда нет.

«Мир стареет с нами, но быстрее нас... И никуда не деться от преждевременных потерь, кому-то на роду написано уйти до срока».

Гёте считал смерть самым красивым символом из придуманных людьми.

У «Роздуме ля парадней брамы» Ведзьмака Лысагорскага:

О, колькі лезла іх, бывала,
У наш мастацкі агарод!
І вельмі часта шанцавала
Лаўцам чыноў і ўзнагарод.

У сценах гэтай установы (філармоніі)
Саміх сябе не пазнаём.
Тут нават слова роднай мовы
Не адшукаем днём з агнём.

Пра кнігу Айры Уолферта «Банда Тэккера» Д. Заслаўскі піша: «Следует вообще отметить как существенный недостаток романа чрезмерную склонность его автора к психологическим экспериментам и изысканиям, в том числе и в области подсознательного, которые мешают правильному восприятию изображаемых Уолфертом явлений и снижают художественное достоинство произведения».

Наадварот. Імкненне да псіхалагізму ўзмацняе твор.

Чингиз Айтматов. «Земля и птица вдохновения». «Правда». 18.9.84.

«Такова всякий раз многообъемлющая и многосложная суть подлинно великого мастера: он говорит о камне, а сказано о горе, он говорит о хуторе, а сказано о планете, он говорит об одном дне, а сказано о целой эпохе».

Янка Брыль:

«Момант чалавечай блізкасці, глыток высокай радасці жыцця».

«Крытык павінен быць другам».

«Два найвышэйшыя званні — пісьменнік і чалавек. Адно мне вельмі хочацца набыць, другое — яшчэ больш — не страціць».

Академик Д. С. Лихачев. «Лики слова» («ЛГ», 25.I.84):

«А если обратиться непосредственно к произведениям древнерусской литературы, мы обнаружим в ней такие черты, как глубокая эмоциональная и интеллектуальная насыщенность, истовая убежденность, стрем-

ление в сжатой форме ответить на коренные вопросы бытия, утвердить добро и справедливость. Эти черты перешли потом в творчество великих русских писателей XIX века — Толстого и Достоевского, они продолжаются и в советской литературе, вплоть до наших дней».

«Для меня интеллигентность — это повышенная восприимчивость к культуре, искусству, деликатность в отношении других людей, принципиальность. И еще: интернационализм. Я убежден, что национальное в его лучших проявлениях сохранится всегда. Но это не исключает подлинного интернационализма, который заключается в отсутствии национальной спеси. Кстати, я должен напомнить, что «интеллигенция» — русское слово! Корень — заимствованный, он есть почти во всех европейских языках, но в нынешнем своем значении — социальном, нравственном — слово и понятие «интеллигенция» родилось на нашей земле. А теперь, обогащенное новым смыслом, пришло в европейские, и не только европейские, языки».

«...Мы убеждены, что лицеприятие, так называемые отношения и тому подобные чуждые литературные примеси довели нашу критику до поразительной бесцветности и сделали ее ни в каком случае не полезной и, вероятно, очень скучной для читателей».

Пімен Панчанка:

Век прайшоў,
А дзень яшчэ ўсё цягнецца,
У наступны век
Зары вячэрні сцяг нясе.
Кожны дзень упарта я шукаю
Будучыню,
Ды яна ўцякае.
Будучыня,
Пра цябе усе мы
Друкавалі вершы і паэмы,
Мы цябе гукалі:
«Залатая!»
Зрэдку ты прыходзіла...
Не тая.

### МЛЫНЫ

Млыны за вайну анямелі,
Бо вельмі быў горкі памол.
Журыўся над жорнамі Мележ,
Ды Мележ памёр.

...А час наш ідзе грозным ходам,
Усюды грымяць перуны.
Звяліся зусім донкіхоты,
Як здані, знікаюць млыны.

Павел Нилин. «О товарищах, о литературе» («ЛР», 25.5.84):

«Разделяю и, в общем, могу рекомендовать следующие правила:

— будьте влюблены,

— пишите постоянно,

— не ленитесь смотреть кругом и деятельно — по крайней мере в молодости — участвуйте в жизни,

— общайтесь с хорошими писателями — важно убедиться, что достижения, даже при больших способностях, требуют усилий,

— не теряйте времени,

— читайте,

— не ставьте себе задачей рассказать именно о себе...

— не избегайте развлечений,

— молчите: на разговоры расходуется творческий дух».

Алесь Камароўскі («Маладосць, 1975, № 4, с. 50):

У мармуры, метале
Бацькі з вайны прыйшлі
Ваенныя медалі
Унукам прышпіліць.

Забітых, пакараных
Калекам і жывым
Перадаліся раны,
Пакут і болю швы.

Як трэба — кожны пойдзе
І ворага саб'е:
У кожным спее подзвіг
І вера у сябе.

Якая лухта і недарэчнасць!

Ю. Фучик. Из Баутцена, тюрьмы для подследственных в Берлине:

«Вы, кажется, думаете, что человек, которого ждет смертный приговор, все время думает об этом и терзается. Это ошибка. С возможностью смерти я считался с самого начала... Но, по-моему, вы никогда не видели,

чтобы я падал духом. Я вообще не думаю обо всем этом. Смерть всегда тяжела только для живых, для тех, кто остается».

Паводле слоў Гётэ, каб лепш спасцігнуць сэнс твора, мала ведаць яго змест, трэба прасачыць, як ён ствараўся.

*2.X.*
Бялінскі. ПСС, т. 6, с. 485:
«Ні адзін паэт не можа быць вялікім ад самога сябе і праз самога сябе, ні праз свае ўласныя пакуты, ні праз сваё ўласнае шчасце: усякі вялікі паэт таму і вялікі, што карэнні яго пакут і шчасця глыбока ўраслі ў глебу грамадскасці і гісторыі, што ён, такім чынам, ёсць орган і прадстаўнік грамадства, часу, чалавецтва».

Юсцінас Марцінкявічус. «Дзённік, што не мае датаў» (Пераклаў А. Разанаў):
«Адбываецца спрадвечная барацьба паміж чалавекам і рэчамі. Перамір'я тут няма. Нават пераможаныя, рэчы не столькі служаць, колькі валодаюць чалавекам. Яны нібыта вымазаны надзвычай ліпкім клеем, і мы не можам адарваць іх ад сваіх рук. Часам — і сэрца.
Рэчы — крышталі чалавечага розуму, ягонай дзейнасці, ягонай працы. Яны досыць лёгка запалоньваюць чалавека, бо ў іх ужо «ёсць» чалавек».
«Скажы, як ты глядзіш на крытыку, і я скажу, які ты пісьменнік».
«Паэт без уздыху — не паэт».

*23.X.*
П. Панчанка:

Я гляджу на ўсё з высокай меркай
Той вайны.
І гэтак буду жыць.
І адно на сэрцы турбаванне,
Каб гарачай ядзернай пургой
Не змяло зязюлі кукаванне
І жыццё дзяцей зямлі маёй.

Толькі ў партызанскіх атрадах Беларусі змагаліся 25 тысяч байцоў дапрызыўнага ўзросту, з іх 5 тыс. піянераў.

Што табе трэба, чалавек? Чаму нельга людзям пагадзіцца, зразумець, не лічыць чужую ўдачу сваёй няўдачай?

Гудзе вецер, гоніць трывогу, кружыць лісце, наганяе смутак: мама, жыві доўга!

*28.X.*

...Учора ў лесе — ціхім, грыбным. Выйшаў прама на ласіху. Сухая бярозавая паляна. Стаім, гледзімо адзін на аднаго. Чуйна дрыжэлі яе ногі, але пагляд быў спакойны. Я паціху стаў адыходзіць.

На стале — цукеркі, яблыкі, вінаград. Бяры — не хачу. Усё, пра што ў дзяцінстве і не снілася. Не было, і не ўяўлялася, што можа быць. Калі мама стала купляць цукеркі — адны падушачкі, нават карамель у абгортцы была б казкаю — я вёў нястомныя пошукі. І знаходзіў, дзе б ні хавалі. Пачынаў цягаць па адной, а ўсё хацелася, хацелася. Аднойчы знайшоў нават у нейкай дзежцы, дзе паводле любой логікі іх не павінна было быць. Але быў нюх на антылогіку.

Яшчэ цукеркі: Талька. У нас «сярэбраная» капілка — ад дзеда, прыгожая бочка. Адтуль стаў цягаць серабро і медзь — на цукеркі. На сто грамаў падушачак. А прадавала іх у буфеце Ліда, пляменніца Серафімы Аляксееўны. У буфеце, здаецца, толькі і былі кансервы і падушачкі. (Буфет на станцыі.) Яна і далажыла дома пра мае візіты. Следства было нядоўгае.

Сёння я ўпершыню стаў айчымам, а да гэтага быў папай. Сяргей запаўняў анкету прызыўніка, а ў ёй юрыдычная мова, а не хатняя. Шмат гадоў ён нічога не ведаў, а дазнаўся спакойна.

Дазволілі вярнуцца ў СССР і аднавілі савецкае грамадзянства Алілуевай і яе дачцэ.

Паведамленне аб пазбаўленні воінскага звання генерала арміі былога міністра ўнутраных спраў СССР Шчолакава (чаму з такім спазненнем).

Перамога Рэйгана на выбарах. Забойства Індзіры Гандзі.

...Дэльфін ніколі не спіць: калі адна палавіна яго мозгу адпачывае, то другая ў гэты час «бодрствует», і наадварот!

*18.XI.*

Радкі Яўгена Замерфельда:

Як пражыць, каб гады-хвалі
Не злізалі, не змялі
Хоць маленькі ў дальняй далі
След-слядочак на зямлі.

Сапраўды.

Мая Львовіч (пер. Н. Мацяш):

Паэце, дзякую за верш.
Ён твой, у ім звініш ты ўвесь.

Ды ў ім — і я, ды ён — і мой.
Здаецца нават: быць ён мог

Тым вершам, што калісьці мне
Прымроіўся, прычуўся ў сне

І воблачкам растаў і знік.
Сустрэлася з тваім як з ім.

Достоевский:

«Искусство есть такая же потребность человека, как есть и пить. Потребность красоты и творчества, воплощающего ее, — неразлучна с человеком, и без нее человек, может быть, не захотел бы жить на свете».

*19.XI.*

Перачытаў пісьмы Ігара Хадановіча Рыце — ён без выдумак інтэнсіўна жыў, меў пяшчотную і прыгожую душу, быў аддадзены літаратуры без карыслівасці, аглядак, мітусні. Можна смела сказаць — гэта была прыгожая маладосць, яна вяла яго ўглыб, уверх і наперад, і ён скіроўваў лёс да мэты яснай і высокай. Мяне звёў з ім выпадак — адзінота пасля заканчэння універсітэта, калі, па сутнасці, трэба пачынаць жыццё нанова. І вось інтэрнат на Свярдлова, мы там, а пасля ў Мінску, і нас усяго трое, хто адзін за аднаго зачапіліся. Выпадак, у нечым нават празаічны, а пасля ўпрыгожыў мне жыццё. Але як склаліся б пазней нашы дачыненні? Як узляцеў бы ён? Цяпер толькі смутак задае гэтае пытанне.

Уласныя пісьмы вярнулі безнадзейна страчаныя кавалкі жыцця, і ў іх — таксама трапятанне, рух, пошук. Не такая пустэча, як здавалася.

У інтэрв'ю для «ЛіМа» Алена Абразцова (2.1.1981): «Чым больш я спяваю — тым лепш я спяваю...»

*9.XII.*

Гаворыць: — Я захварэю. Мне снілася, што я павінна жыць у доме, дзе ўсе кватэры на адзін бок калідора. Як у бальніцы.

Елена Образцова. «Записки в пути. Диалоги». — Цікавая кніга, многа штуршкоў. Вобраз работы і вобраз сапраўднага жыцця ў мастацтве. Водгулле сапраўднай музыкі і чуйнага да яе спеву.

Добра, што кніга ўвесь час да нечага абавязвае і на нешта кліча, яна — у адказах, што ў мастацтве ўсё абавязковае і неабходнае. У мяне, зразумела, усё праігрывалася на паэзію, і я па-новаму чытаў (і хацеў чытаць) Блока, Ясеніна. Пакрыўдзіўся за Галянішчава-Кутузава — вершы яго, маўляў, не вельмі значныя і не засталіся ў рускай паэзіі. Проста трэба некаму пра іх напісаць. Крытык павінен пісаць пра паэзію так, быццам яна сама яму ўсё гаворыць.

Адзін «Орел» Галянішчава-Кутузава ўжо класіка.

В раздумье гордом и немом,
Вперив в пространство взор глубокий,
Орел на камне полевом
Сидел, как странник одинокий.
Крикливых птиц враждебный рой
Над головой его кружился,
И вихрь, взметая прах земной,
Кругом испуганно носился.
Но недвижим, питомец спал,
Не внемля суетному шуму,
Орел на камне отдыхал
И думал царственную думу...
Когда ж, очнувшись, оглянул
Весь этот жалкий мир бессилья,
Затосковав, он развернул
Седые, медленные крылья.
И — царь заоблачных высот, —
Случайный гость земли печальной, —
Направил вольный свой полет
За грани туч, к лазури дальной...
Высоко от красы земной
Вознесся, праху неподвластный,
И, к дольней жизни безучастный,
Исчезнул в бездне голубой.

Адзінота, гордасць, узнесенасць. Мірское і высокае... і яшчэ, яшчэ.

І што мой смутак? Смутак чалавека, які не ведаў сапраўднага гора?

**Прабачце.** Я галадаў і мёрз, я не меў дзяцінства, я дзічэў у адзіноце 43-га — 44-га года, я быў інвалідам другой групы, я не буду мець уласных дзяцей і наўрад ці прыйдзе хто на маю магілу.

У некаторых людзей — не параўнаеш з маім. Але ці можаце вы сказаць, што я ўжо зусім не ведаю гора? Каб сцвярджаць гэта, вам трэба зведаць хоць трохі больш.

Брытва лёсу некалькі разоў была каля самага майго горла.

*21.XII.*

Выклік у аддзел прапаганды — дырэктара і гал. рэдактара. Кружышся, жылы рвеш, а яшчэ і лаюць, прытым моцна. Ды і пагражаюць. У пачатку наступнага года мяркуецца калегія па нашаму выдавецтву.

Але што гэта? Жыў, не ведаў, вяла думкі чыста літаратурная плынь.

Пасля публікацыі ў «Литературной газете», дзе я гавару як намеснік гал. рэдактара выдавецтва пра першыя кнігі, — званкі, лісты.

Толькі што — рукапіс на маё імя ад Леонтьевой Нины Викторовны. «...Очень хочется узнать, к какой категории пишущих Вы отнесете меня — к тем, кому Вам хотелось бы помочь (в профессиональном отношении) или, наоборот, к другим...»

Кніга Кандратовіча пра Твардоўскага («Ровесник любому поколению») — цікавая кніга, і А. Т. бачыцца з яе, і добра, што яна ёсць. Але ж не ўстрымаўся ад доўгіх маналогаў, якія нібыта гаварыў Твардоўскі, часам выразна бачыцца перабор, хоць тон (адносна свайго месца і ролі) дакладны.

Сябры Пушкіна. Як і кніга пра дзекабрыстаў, асноўным сваім матэрыялам і тонам гэта кніга пра высакароднасць, вернасць, абсалютную несфальшыўленасць у галоўным і неабходным. Не разумець гэтага, ісці іншай дарогай — дзеля чаго? Дарослым людзям (якія мы сёння) нельга па-дзіцячы лічыць цукерку за радасць. Зрэшты, і памагчы чалавеку — не радасць, а неабходнасць, нават і смутак: чалавеку давялося пакарыстацца тваёй паслугаю.

Григорий Виеру. «Радуйтесь» (перевод А. Старостиной):

До поры, пока струятся
Родники по белу свету,
Радуйтесь тому, что живы,
Радуйтесь зиме и лету.

До поры, пока есть место
Золотому винограду,
Радуйтесь тому, что живы,
Миру радуйтесь и ладу.

До поры, пока деревья
Песней дрозд легко колышет,
Радуйтесь тому, что живы,
Радуйтесь, кто песню слышит.

«Достоинство и благородство» — у перакладзе пачынаюць гучаць аднагучна: «годнасць і высакароднасць».

Па ціхім снезе, спакоі начных зорак, слабым ветры халоднага поўдня — прыбавіўся дзень на адну мінуту. Выкарыстаць гэту прыбаўку, і тады я ўсё паспею.

Самае немагчымае — убачыць сябе чужымі вачыма. Хто ты — няздора? Кар'ерыст? Вузкалобы артадокс і дагматык? Самазадаволены тупіца?

*24.XII.*

Сёння ў «Известиях». Артыкул «Приговор» В. Смирнова пра судовы працэс у Смаленску над былымі карнікамі. Адзін з іх, Васіль Кувічка, пасля вайны, «стремясь выдать себя за героя-фронтовика, купил в военторге и носил на пиджаке четыре колодки орденских планок».

«Из слов Василя Бойко следует, что, оказывается, ничего из ряда вон выходящего он не сделал. Он готов согласиться лишь с тем, что совершил разве что... ошибку (!).

Мол, изменить Родине не хотел, но был молодой и глупый, испугался, хотелось жить — вот по чистой случайности и попал в отряд Гитлера».

*29.XII.*

У марудным і выпадковым, быццам гэта неабходнае.

Вячеслав Шапошников (Кострома). «ЛР», 13.1.84:

Радуюсь ясной погоде,
дали небес золотой.
Вольно в меня переходит
сила земли и покой.

В. Даль: «...Народные слова наши прямо могут переноситься в письменный язык, никогда не оскорбляя его нагрубою противу себя ошибкою, а напротив, всегда направляя его в природную свою колею, из которой он соскочил у нас, как паровоз с рельсов». И далее: «...Коль мы скоро начинаем ловить себя врасплох на том, что мыслим не на своем, а на чужом языке, то мы уже поплатились за языки дорого: если мы не пишем, а только переводим, мы, конечно, никакого подлинника произвести не в силах и начинаем духовно пошлеть. Отстав от одного берега и не пристав к другому, мы и остаемся межеумками».

М. Лужанін. «Спавядальнае слова» («ЛіМ», 21.12.84):

...Выбачайце, сябры, што пачаў я піць
болей, чым трэба,
З маладых ручаёў, з кубка перадсвітальнага неба.

Што выбачаць? І як разумець: «болей, чым трэба»?

У Віктара Гардзея — добры тон, без выпінання, даверлівая споведзь і роздум, сцвярджэнне чыстага, прыгожага, адчуванне радасці жыцця і лёгкая шчымлівінка. У стылі — водгулле Ясеніна, Рубцова, Блока, Пысіна. Але ўсё — у сваім вопыце, ва ўласнай някідкай і яснай манеры, але дастаткова гнуткай і паўнагучнай, здольнай на ўзмацненні і пашырэнні, на заглыбліванне, на сімвалізацыю.

Пасвятлее ў ваколіцах шэрых —
Толькі б сонца хутчэй узышло.
Не пражыць без надзеі і веры
У дабро, у любоў, у святло.
*(«ЛіМ», 6.7.84.)*

# 1985



*3.1.*

Любыя абяцанні, што сябе пераменіш, становяцца неістотнасцю, як словы п'яніцы. Доўжыцца бяздзейнасць — на фоне цудоўнай зімы з сыпкім снегам і прыемным марозам; сёлетняя зіма — сёння — нешта сапраўднае, рускае, спрадвечнае: не хлюпае, не імжыць, не расхіствае нервы: жыві, дыхай, бегай на лыжах, чытай лёгка, хутка і многа. — Ды шмат захацеў; усё завалена, запушчана і сіл стае толькі дапаўзці з работы дахаты.

Далей... Толькі шматкроп'е. Калі давядзецца паміраць? Пэўна ж, кожны думае — яшчэ не заўтра.

Памерлі ў пярэдадзень Новага года Мікола Лобан і Макар Паслядовіч. Лобана ўсе шкадавалі — трэсла яго, згасаў, жонка...

Пайшоў, урэшце, пакутнік.

Флабэр піша: «...Мальчиком я мечтал о любви, юношей о славе; став мужчиною, я мечтаю о могиле, этой последней любви тех, у кого нет более никакой иной».

Два тамы Флабэра, купленыя чамусьці неахвотна, ужо не хочацца выпускаць з рук.

Четкое, точное, уверенное письмо, незаемные мысли, неожиданные и верные, — мечта моя.

Мары збываюцца толькі тады, калі ты іх сам здзяйсняеш. Мала спраў, якія ты вёў бы па-сапраўднаму, застаючыся ў гушчыні жыцця, пераскокваючы і перапаўзаючы праз перашкоды. Таму і ўспаміны — дзённік неістотнага.

Найвышэйшы грамадскі тонус паэзіі часоў вайны і найвышэйшая яе маральнасць — не было мітусні, самавыхвалення, позы, зайздрасці; у кожным існавала адна, зададзеная ўсенародным настроем і станам высокая мера паводзін, адносін, пачуццяў, жаданняў. Нельга

19. Зак. 192.

было схібіць. Кожны паэт у самым святым, запаветным быў і на віду; народныя боль, пакуты, гераізм, чаканне, змаганне абязвалі да маральнай і грамадзянскай суаднаведнасці ім у кожным слове, у кожным імпульсе. І гэта далося ўсім як само сабою, без нейкага спецыяльнага дамагання — такая была атмасфера нашага жыцця і гістарычнай творчасці. Дэкларацыі таксама ў ваенны час мелі асаблівую цану — іх, гэта ўсе адчувалі і ведалі, у любы час можна пацвердзіць учынкам, крывёю; надта блізка было ад слова да бомбы, снарада, кулі; надта часта слова пацвярджалася з абсалютнай вернасцю яму.

Паштоўка ад Пімена Емяльянавіча Панчанкі:

«Дарагі Варлен Леанідавіч!

Сардэчна віншую Вас і Вашу сям'ю з новым 1985 годам! Зычу Вам усім многа здароўя, шчасця, сонца, радасці, поспехаў! Шчыра дзякую за кнігу «Прад высокаю красою...». Гэта выдатная кніга. Вы надзвычай добра адчуваеце і разумееце паэзію. Творчых удач вам і ў далейшыя гады!

*Ваш Пімен Панчанка*

*24 XII-84 г.»*.

Мне пашчасціла на прыхільнасць двух цудоўных паэтаў, прычым абодвух я любіў і паважаў асабліва.

Для працы «Васіль Быкаў і паэзія» трэба не забыць кнігі А. Качана «Перечитывая войну» і «Стихи и судьбы». У іх — бібліяграфія. Ёсць абедзве ў Пушкінскай бібліятэцы.

У «Звяздзе» трэці артыкул А. Бажко і В. Пепляева пад рубрыкай «Каталіцызм і антыкамунізм» (12.1.85 — «Тактыка надточаных рук»). Памфлетны замах, але часта самамэтны — без аргументацыі, мэтаскіраванай падачы матэрыялу.

У сувязі з артыкуламі Мальдзіса пра «Бел. бібліятэку» ў Лондане цікава прачытаць: «Сваёй казырнай картай усе яны лічылі» патрыятызм», любілі паразважаць аб ім у сваіх пісаннях, як, напрыклад, той жа спадчыннік нябожчыка Чэслава Сіповіча, падстаўны генерал манаскага ордэна мар'янаў айцец Аляксандр Надсан-Бучко. Гэта адзін з самых актыўных, добра замаскіраваных важакоў антыкамуністычнай раці зорна-

паласатага спрута. Аднак немагчыма назваць інакш, як здрадніцкімі, яго дзяляцкія адносіны да гістарычных каштоўнасцей беларускага народа, што стараннямі недабіткаў БЦР аселі ў музейнабібліятэчным комплексе ў адным з прыгарадаў Лондана».

*21.1.*

Сёння лісты ад М. Львовіч — настойвае на выданні сваіх вершаў на бел. мове, ад Г. Грыбоўскай з «Литературной газеты» — пытанні пра крытыку да «Круглага стала».

Даведка для Яцко пра ганарар за рэцэнзіі. Інфармацыя М. Высоцкай пра новыя выпрабаванні Галоўліта.

Візіт А. Вераб'я. Рэцэнзіі на артыкул «Лірыка Купалы» — Капранавай. Рукапіс Бірылы вярнуў у рэдакцыю.

Стандарт «Рэдакцыйныя серыі» па комплекснай сістэме. Спісы кніг да 27 з'езда і да 70-годдзя Кастрычніка.

«Прорабы духа» А. Вазнясенскага. Чытаць, вядома, цікава. Аднак занятасць сабой, самарэклама, снабізм.

У № 11 «Октября» за 1984 г. артыкул А. Адамовіча «Делайте сверхлитературу!..». Усё ж, асмельваюся думаць, рабіць трэба літаратуру, толькі сапраўдную...

...Магільны камень як вобраз. Нешта цяжкое, глухое, жорсткае? Абыякавае? Вернае, надзейнае? Сімвал памяці? Вобраз забыцця? Увасабленне нябыту? Апошняя матэрыяльная кропка жыцця?

Н. Минский. «Любовь к ближнему»:

Любить других, как самого себя...
Но сам себя презреньем я караю.
Какой-то сон божественный любя,
В себе и ложь, и правду презираю.

И если человека я любил,
То лишь в надежде, смутной и чудесной,
Найти в другом луч истины небесной,
Невинность сердца, мыслей чистый пыл.

Но каждый раз, очнувшись от мечтаний,
В чужой душе все глубже и ясней
Я прозревал клеймо своих страстей...

І калі спытаць самога сябе: Што ж ты зрабіў добрага ў апошні час? — то адкажаш: — Нічога.

Жыццё паглынаецца нейкай цінаю.

Літ. норавы. Склалі рэдкалегію «Анталогіі бел. паэзіі». І Г. бунтуе: чаму ўключылі Б.? А Б.: Навошта тут В.? Гэта яго Бечык усюды цягне. (А прапаноўваў не я.)

Людзі добрыя! Навошта вы так. Трошачкі аб'ектыўнасці. І вытрымкі.

...І калі жыць усё горш і горш, а не стае вытрымкі, волі і характару, то што тады — крах, утрапенне, занядад, бязволле?

Справа — слава. Рыфмуецца, як афарызм. Але што слава? Радасць? Ці страта асобы, паколькі забірае сябе ад сябе, звужае сферу суверэннага нефальшыва свабоднага жыцця.

Што цешыць, што саграває душу ў густым бязладдзі і тлуме — гэта ўзаемаразуменне з Серафімам Андраюком. Імпануе ўсё: і яго бездакорная сумленнасць, і прынцыповасць, і адданасць справе, і творчая і адміністрацыйная таленавітасць. Адчуваю ў ім не проста аднадумца — сапраўднага друга. Наогул тут, у выдавецтве, адчуваю прыязнасць многіх — і не горшых — людзей.

*21.VI.*

Твардоўскі — усюды волат. Друкуюць неапублікаванае, і дзівішся — чаму не друкавалася.

«Под Сталинградом» («ЛГ», 3.4.85):

У всякой силы слава есть,
Но не у всякой силы — честь.
И в горький час судьбы своей,
В тяжелый год родной России
Мы не сдались бесчестной силе.
Мы знали: честная сильней.
И, видно, немец, твой черед
Спешить назад, а не вперед.
. . . . . . . . . . . . . . . .

Гляди, на силу сила есть
Но против чести — где же честь?
Но против права — где же право?
И против долга — где твой долг?

75 год Твардоўскаму.

Як амаль заўсёды, ноч з 21 на 22 чэрвеня і абодва дні — ясная і шчымліва-трывожная пагода, якая і сама па сабе (белыя ночы) хвалявала б нас, але ж яшчэ з

ёю — бяссонне памяці пра вайну. Уяўляецца тая ноч: як яны чакалі, як не спалі мы на граніцы; як мы не чакалі і спалі, гулялі ў тую ноч, нехта цалаваўся, нехта мроіў; цішыня і зоры здаваліся зусім іншымі.

(Крокодил, № 17, июнь, 1985): «А во избежание нарушения спокойствия жителей в ночное время лаять собакам на улице разрешается с 7 часов утра до 23 часов вечера».

Корней Чуковский. «От двух до пяти»:
Басом:
— Баба мылом морду моет!
— У бабы не морда, у бабы лицо.
Пошла поглядела опять.
— Нет, все-таки немножечко морда.

«...вера в человека больше, чем мир, и шире, чем вселенная».

У «Чырвонай змене» 30 чэрвеня 1985 вершы Януся Мальца, нешта ёсць. Запомнім імя і — паглядзімо.

Анатолий Преловский. «Литературная газета», 12.6.85.

ДАР ПАРОДИСТА

Дар пародиста — славный,
Но не главный:
Напоминает ловкая строка
Блеск переперевода с языка —
С талантливого на забавный.

ТОЖЕ ДИАЛЕКТИКА

Не просто быть возлюбленной поэта:
бог, сатана и свет казнят за это.
А от нее нет жизни ни поэту,
ни сатане, ни господу, ни свету.

НЕПРЕМЕННОЕ УСЛОВИЕ

Коль вдохновение крылато,
а жизнь открытьями богата,
а истине служенье свято,
то даже небольшой поэт
в своем явлении на свет
обязан обойтись без блата,
а нет — так и поэта нет.

«...Лучшая на свете шутка — шутка над самим собой».

Нешта прыйдзе, нешта пройдзе, а і з самім — усё так.

Начны ўспамін, як ладзіў сабе Коля Любаўскі куфэрак — ехаў пастулаць у «мараходку». Перагінаў фанеру, прырабляў ручку і замок... Часы ўсеагульнай беднасці, калі заможнасць была амаль дзікасцю. яна здзіўляла і зневажала.

У Баешкаў мне далі аднойчы кавалак тлустага селядца — было адчуванне недасягальнай, немагчымай для нас раскошы, якую толькі і дасягалі тыя, хто краў (працаваў ён бухгалтарам у школе і ў піянерскім лагеры, то пра яго так і казалі).

І ўсё ж нядаўна зноў лётаў у сне — з адчуваннем, што лётаць магчыма, але не заўсёды, з пераходамі ад бяскрылля — да крылатасці. Здаецца, былі спробы ўзляцець і ў пакоі — ад падлогі да столі.

Ул. Някляеў:

...Аднойчы, прачнуўшыся ўночы,
Ты ўспомніш, што ўмееш лятаць,
І стане наіўныя вочы
Халодная бездань смактаць.
І зманлівай згадкай быцця
Цябе праця не аж да поту, —
І ўласнае станеш дзіця
Вучыць не хадзе, а палёту.

Януш Корчак. «Как любить детей»: «Мы наивно боимся смерти, не сознавая, что жизнь — это хоровод умирающих и вновь рождающихся мгновений. Год — это лишь попытка понять вечность по-будничному. Миг длится столько, сколько улыбка или вздох».

Роберт Бёрнс. «ЛіМ», 5.7.85. (Перевод Г. Дубенецкой):

МЕЛОДЫЯ
ДЛЯ НЕКАГА

У сэрцы ціха боль жыве —
У сэрцы боль пра Некага;
Мне спаць уночы не дае
Той ціхі боль пра Некага.

Маладыя гады — шчаслівая магчымасць адхіляцца, проста жыць і проста плысці.

Лермонтов. «Молитва»:

Окружи счастием душу достойную;
Дай ей сопутников, полных внимания,
Молодость светлую, старость покойную,
Сердцу незлобному мир упования.

Гісторыя, літаратура нібы падабралі прозвішчы, лепш за якія не ўяўляецца: Пушкін, Лермантаў, Гогаль, Някрасаў, Ляскоў, Дастаеўскі, Талстой, Чэхаў, Бунін... У саміх прозвішчах — дзівосная прыгожасць і рускасць. І крыткі: Белинский, Чернышевский, Добролюбов, Писарев...

«Способный, очень способный, способный на все».

«Как сильно отличается разговор умных людей от умных разговоров». («Лаконизмы», Литературная газета, В. Борисов. 27.2.85).

А. Салтук. «Пра што баліць» («ЛіМ», 5.7.85):

Сяброў шукаю днём з агнём —
Так мала іх чамусьці стала.
Адзін вунь робіць ход канём,
А той ужо на п'едэстале.
Конь убрыкне, а п'едэстал —
Яго і трактарам не зрушыш...
Няўжо і я інакшым стаў,
Няўжо і я ў грахах па вушы?
Суджу не іншых, а сябе
Судом няўмольным і суровым.
У малацьбе і на сяўбе
Шукаю праведныя словы.
Грабу палову на бакі,
Аж на руках смыляць мазолі
І асцюкі, як нажакі,
Да болю твар і сэрца колюць.

Але ж дзе тут бязлітасны самасуд?

*3.VIII.*

Дзве запіскі Ігара Хадановіча з бальніцы ў найцяжэйшы час яго хваробы.

I

Риточка, милая моя. Я не нахожу сабе места. Какой же я несчастный человек. Этот вопрос мучает и мучает

меня. Прошу врача дать мне гипнотизера, может, он излечит — не соглашается. Мне никто не верит, что болезни у меня нет, а есть только болезнь воображения, которая отбирает у меня силы, нервы, дух, сон. Что мне делать, спаси меня. Я не хочу умирать. Но с этим вопросом я не смогу и жить.

II

Риточка, милая! Безнадежный я человек. Почему ты не оставишь меня? Я уже сомневаюсь, поможет ли мне гипноз. Врача из Мин-ва не было, но в тот день вечером еще раз смотрел меня главврач (может, по звонку), он владеет гипнозом, но делать отказывается. Перевел на инсулин — в ближайшие дни.

Я ни с кем не говорю и уже не думаю ни о чем. Одно безысходное состояние.

Не ходи ко мне. Мне уже конец. Вот только дождаться конца всех этих лечений-мучений, а там выпишусь (если выпишут) и жить я не буду. Боюсь, что не выпишут. Попрошу тебя забрать меня под расписку. Потом, сейчас не разрешат.

Все.

Асела сонца, і спякотны, сонечны (нарэшце! а то былі халады, халады) дзень перайшоў у ціхі, ружова-светлы вечар. Унізе — спакойныя цені, уверсе — спакойнае, ружовае ззянне, перамешанае з чыстым блакітам і празрыстымі смужынкамі. Было б зусім добра, калі мець хоць тыдні са два такога адхлання, з спакойным сном, ранішнімі паходамі ў лес, вольным бестрывожным чытаннем.

Але і ў адпачынку, каторы год, нераспрэжаны.

Дачная суседка К. Я. Здавалася, жыве толькі для сябе, нічым не абцяжарваючы сябе, ні на што не выдаткуючыся. Словам, было трохі скепсісу. А яна — падпольшчыца, працавала з Клумавым. Была ў Трасцянцы, удзельнічала ў французскім Супраціўленні. І ніколі пра гэта — ні гуку.

А. Латынина. «Гарсон, кружку пива!». «Литературная газета», 1.1.1985.

«Выясняется, что у писателя Н. язва — инсульт — инфаркт. У него творческий спад, резкая статья превра-

тит его в кризис. У него творческий подъем, резкая статья вызывает спад. От него ушла жена, — зачем ранить человека дважды? Он только что женился, и что за подарок к медовому месяцу? У него родился ребенок, и что будут говорить о нем дети?

Есть и другие случаи, когда писателя нельзя ругать. Нельзя ругать начинающего, потому что у него может не выйти первая книга. Нельзя ругать после выхода первой книги, потому что могут не принять в Союз писателей. Нельзя ругать неруганного: еще не окреп. Нельзя ругать руганного: настрадался...»

Расхвальваюць Сімянона. Разліванне пустэчы. За вартасці (у імя чаго?) выдаецца тое, за што — у традыцыі сапраўднай літаратуры і крытыкі — ганяць: бязмерная пладавітасць, бясконцая гонка аркушаў і твораў. «Верно ли, что в работе над сотнями своих книг вы пользовались не более чем двумя тысячами слов?» — пытаецца карэспандэнт. «Две тысячи — это слишком много, до такой цифры я не поднимался». Сам ён нібыта сціплы (хоць, зразумела, пры такой вядомасці і поспеху — гэта цудоўная якасць) — увесь час выхваляецца («мои книги переведены на сто тридцать языков»), то абвяшчае («это интервью будет действительно последним»), то, аказваецца, падлічвае, колькі меў кватэр («это моя тридцать третья квартира»). Бог з ім.

Александр Яшин. «Золотые слова» («ЛР», 2.8.85):

«Надо работать ежедневно...»

«Я пережил страшное — не писал. Я жил, но разве это жизнь?..

Талант — это и здоровье, и выносливость, без чего не может быть работоспособности.

...Дописываю последнюю главу, жалко кончать.

Жалко кончать книгу жизни. Последняя глава пишется особенно трудно».

«Што такое паэт? — пытаўся Аляксандр Блок. — Чалавек, які піша вершамі? — і адказваў: — Не, вядома. Ён завецца паэтам не таму, што піша вершамі, але ён піша вершамі, а гэта значыць прыводзіць у **гармонію** словы і гукі таму, што ён сын гармоніі, паэт». «У паэта павінна быць не кар'ера, а лёс».

*25.VIII.*

З 23-га (пятніца) — у хірургіі 3-й бальніцы. Ляжаць, чакаць, цярпець. У Ю. Трыфанава: «нет близкого человека — и это значит нет никого».

У бальніцы, па-свойму, горш, чым у турме. У турме ведаеш, за што сядзіш.

Суседняя койка — нешчаслівая. Спачатку хворы, якога мусілі дачасна пакласці на аперацыю. Ён ствараў нам пэўны дыскамфорт, але гэта было яшчэ так. А потым прывезлі здаравеннага пузача, неўгамоннага ў капрызах, і ні хвіліны перадышкі: усё пад сябе, кропельніцы, пераліванні, крык, змена прасцін і г. д.

Жонка пазваніла яго сястры. Чуўся тэлефон з калідора. Сястра, відаць, не адразу настроілася — нядзеля, канец дня, пасля дачы. Былі і нейкія свае рахункі. Сказала: «Ён у цябе ў хляве спаў». Жонка: «Ужо стаў непатрэбен. Як памрэш, я яе на парог не пушчу».

Ноч у палаце са святлом, з сёстрамі, нянечкамі. А дзень зноў, каторы, пачынаецца ясным сонцам і шчаслівай цеплынёю. Зноў будзе крычаць стадыён (футбольны чэмпіянат свету для юніёраў). Зноў будзе тужліва ад немагчымасці выйсці і пайсці ў сонца, зяленіну і вольны шум, як ужо даўно немагчыма проста спакойна пабыць дома, паспаць і паесці...

Як многа гора — пачынаецца вымушаная адаптацыя: адгароджваешся і нечага не ўспрымаеш. Іначай усяго не пацягнеш. Баліць за бліжніх і дальніх, сваіх і чужых, за ўсіх і ўсё — і спачуваеш, і разумееш, але ж немагчыма толькі гнуцца і курчыцца ад болю.

Леанід Галубовіч. «Птушыны лёс». («ЛіМ», 23.8.85):

Ледзь сок пасочыцца з бяроз —
І я чакаю птушак першых.
Нас парадніў апошні лёс,
Як лейтматыў у хоры пеўчым.

І рознасць волі, і крыла,
Што прыцягае да Радзімы...
І, як сіло, для нас сяло,
Што нас вяло ў час адзіны.

Не ўсе вяртаюцца, не ўсе...
Як вырак, губіць птушак вырай.
Ды чым іх меней на страсе,
Тым песні іх званчэй і шчырай.

**У вершах Ларысы Геніюш (той жа «ЛіМ» за 23.8.)** — нямала выпадковага, неабавязковага. Знак дылетантызму, пры ўсёй адоранасці, раптоўных празарэннях на нешта спеўнае, чыстае, родна-прыгожае.

Сшытак С. (прыслаў маме).

«В Москве на Красной Пресне родился мальчик. Особо ничем не отличаясь от своих сверстников. Если, конечно, не считать, что он ровесник Октября. Да еще по замечанию видевших его, мальчиком он родился крепышом да еще и симпатичным».

Жывыя штрыхі ёсць, з водгаласам гісторыі. Між іншым, бачыў пахаванне Алілуевай («везли гробницу на четырех белых конях, запряженных попарно»).

Заканчвае: «Что касается старости, не знаю как кто, а я считаю это самый отвратительный период всей человеческой жизни».

*28.VIII.*

Было тыдзень вельмі цёплага, прыемнага сонца, калі неастудна ў любым кутку і так добра ў лесе, на полі, ля рацэ. Было б добрае, летняе...

*29.VIII.*

Ляжанне ў палаце. Бяздумна, трывожна, сумна. Заплюшчыш вочы — зялёныя кругі.

Незастылыя ісціны жыцця — чаго жывеш? Як жывеш? З кім жывеш? — не знаходзяць развіцця і працягу.

За акном сонца, лірыка і нечая радасць.

Неаднойчы думаў: спытаю ў таго і таго, якое ў іх запаветнае жаданне, каб дапамагчы ажыццявіць. Не спытаеш. І недарэчны намер. Рабі не пытаючы.

Адсвечваюць на сонцы стадыённыя лямпы, ноччу чуецца вялікі гул, у дрэвах шапоча лагодны вецер.

Думкі зноў: жыць трэба інакш! Аднак так не жывецца. Як наліпаюць ракаўкі на карабель, так наліпаюць розныя дробязі.

Пашарпаныя тумбачкі, скрыпучыя койкі, зашмальцаваная бялізна, няўважлівасць персаналу (дзіўна перасцярожаная з увагаю) — усё здаецца нармальным і нават лепшым за раскошу. Бо мы занадта расквельваемся...

*30.VIII.*

Адзін сон: кусае за палец чорны чалавек...

Другі: круты нахіл страхі высокага дома, качуся па ім да абрыву і вось-вось палячу ўніз...

Малады хлопец з апендыцытам. Пасля аперацыі. Усе яму спачуваем. Скардзіцца: баліць, хочацца піць і г. д. Але вось прыйшлі з уколам, і ён хныкае, што ўкол балючы, іранічныя ўсмешкі.

Хлопец з велазавода. Траўма галавы. Паводле яго слоў, упаў, гуляючы ў футбол. Праз два дні налівaецца сізасцю вока.

Гаворкі пра ваўкоў і іх норавы. (Стары дзед палез на грушу, зваліўся і пабіў нагу.)

Мінімум літаратурных думак, але вакол разваг пра сумленне, абавязак, шчырасць і шчодрасць нешта верціцца.

Уяўляю, калі б прыйшоў Сяргей. Хто я яму? Нехта шэры, чужы, змізарнелы і непатрэбны.

Антал Гидаш (пер. Л. Мартынова):
— Тому не бывать! — возвещает мне кто-то.
А я отвечаю:
— А вот и бывать!
Лишь ради чего-нибудь.
И против чего-то.
И может поэзия существовать.

«А при невесте стыдно струсить, при дочке нельзя опускаться, от жены не скроешь правду». (Наровчатов о женщинах на войне.)

Виктор Тельпугов о Недогонове:

«Алексей Недогонов часто говорил мне, что он видит поэзию даже во сне — то в образе девушки, у которой многие просят руки, но не получают в ответ и небрежного взгляда; то в виде птицы, у которой каждое перо может стать крылом».

О. Берггольц:

Знаю, чем меня пленила
Жизнь моя, красавица,
Одарила страшной силой,
Что самой не справиться.

*31.VIII.*

Учора прыходзіў Вярцінскі. Гаворка пра Скобелева, яго вершаваную драму пра Купалу. Пра гэта, магчыма, яшчэ давядзецца пісаць.

За акном — кусцяцца ў залацістым сонцы дрэвы. Мяккая ненастылая блакітнасць, чатыры лініі правадоў і роўны гул жыцця. У калідоры — бразганне, галасы, шоргат. Санітаркі, сёстры, хворыя. Субота.

У «Полымі», № 8 аповесць Т. Бондар «Жывыя жывуць». Нешта ёсць, хоць у заблытаным, выпадковым. Не, яна не няздара, гэтая Таіса. «— Каму зязюля кувала, той лета ведае...»

Скажам, прастае. Прыходзіць дзяўчына да маці. «— Кахаю я яго, мама. Так кахаю, што за шчасце сваё баюся». Што скажа маці? «— Не шчасця трэба баяцца, вачэй нядобрых». Не зусім матчыны словы, але ж нічога.

«У дзве солі мачаў...» «І зямля кажа...» «Не маладосцю жывём, не старасцю ўміраем...» «Крыві на крыві не відаць...» «Адна бяда — не бяда...» «Тагды маю, калі ў руках трымаю...»

«Я всею душой желал быть хорошим; но я был молод, у меня были страсти, а я был один, совершенно один, когда искал хорошего» (Толстой, «Исповедь»).

«Настоящим, задушевным рассуждением нашим было то, что мы хотим как можно больше получать денег и похвал».

«Я искал во всех знаниях и не только не нашел, но убедился, что все те, которые так же, как и я, искали в знании, точно так же ничего не нашли. И не только не нашли, но ясно признали, что то самое, что приводило меня в отчаяние — бессмыслица жизни, — единственное несомненное знание, доступное человеку».

«Суета сует, — говорит Соломон, — суета сует — все суета! Что пользы человеку от всех трудов его, которыми трудится он под солнцем. Бывает нечто, о чем говорят: «смотри, вот это новое»; но это было уже в веках, бывших прежде нас. Нет памяти о прежнем; да и о том, что будет, не останется памяти у тех, которые будут после».

«Жизнь есть то, чего не должно бы быть, — зло, и переход в ничто есть единственное благо жизни», — говорит Шопенгауэр.

«Теперь мне было ясно, что для того, чтобы человек мог жить, ему нужно или не видеть бесконечного, или

иметь такое объяснение смысла жизни, при котором конечное приравнивалось бы бесконечному».

И спрашивал его народ, что же нам делать? И он сказал в ответ: у кого есть две одежды, тот отдай неимущему; и у кого есть пища, делай то же. (Луки, III, 10, 11).

«Не собирайте себе сокровищ на земле, где моль и ржа истребляют и где воры подкапывают и крадут» (Мтф. VI, 19).

*4.IX.*

Цякуць людзі праз палату. Пайшоў Цімох Гоманаў, інжынер з мотавелазавода.

Грунтоўная, нетаропкая, трохі абеларушаная гаворка. Бацька быў сакратаром райкома, памёр у 37 гадоў. Адна дзяўчынка была прыціснута варотамі — мужчыны не маглі ўзняць, а маці адна ўзняла і дастала.

Пайшоў Саша Шапіцька — дваццаць адзін год, безалаберны хлопец таксама з велазавода, разбіў галаву на футболе; плыве па жыцці не шмат думаючы, але ж па натуры кампанейскі і зусім неблагі.

Былі Шэршань з Кенькам, пасля зноў Шэршань, Шарамета з Законнікавай, Слава (ужо тройчы).

Сніцца Сяргей. З ім і ў снах нядобра.

Сон. Воз з вугалем. Трэба везці, але вугаль раптам знікае, вывальваецца — скрозь дзіркі.

Сон. З'яўляецца нейкі чалавек, злавесна загадкавы, чорназвярыны, наганяе жуць і гаворыць: прыходзь пасляздаўтра.

А паслязаўтра зноў прызначае сустрэчу праз колькі дзён. І адпаведна сон зноў паўтараецца.

Сонца праз воблакі, а ўсё ж зноў і зноў сонца, цёплае і добрае.

Расказваў Мікалай Паўлавіч Сініца, ссівелы і дзядоўскага выгляду (пабіў нагу — лез на грушу і зваліўся), як у арміі пазналі, хто краў хлеб. Падсыпалі тоўчанага хімічнага алоўка ў хлеб, а пасля праверылі ва ўсіх языкі і знайшлі адразу.

Віктар Шніп («Полымя», 1985, № 8):

Яшчэ хапае ў свеце зла,
Нібыта пустазелля ў жыце.

Калі вы хочаце дабра,
Дабро тварыце.

. . . . . . . . . . . . . .

Чаго на свеце ні было!
Ды не было вось так трывожна.
Як мы не пераможам зло,
Хто ж пераможа?

*15.IX.*

Прафесар Барадзін Іван Фаміч:

— Ваша язва находится в таком месте, что никогда не заживет. Все равно придется к нам обращаться, только может быть уже поздно. Можете, если хотите, посоветоваться.

— Я не боюсь операции, но я свою язву никогда не лечил, диеты не соблюдал. Поэтому надеюсь с ней справиться.

Анестэзіёлаг падскочыў:

— Чем болели? Аллергия на лекарства есть?

Міхаіл Антонавіч Ажгірэй з Мінскага паштамта, чалавек універсальных практычных ведаў, былы падводнік.

Можна распыліцца і ў бальніцы: выпадковыя хаатычныя размовы, вялыя думкі, бяздумнае ўтрапенне. Плынь густога, штодзённага, хаця побач ядуць людзі, увесь час вязуць на катафалках апераваных людзей — апендыцыт, страўнік, ногі, ныркі і г. д.

І скавана, зацягнута нешта загадкавае і пагрозлівае, злое і цёмнае; толькі ноччу, прачнуўшыся, востра адчуеш сябе ў плыні і за ёй, падступіць да сэрца і душы трапяткое і шматаблічнае сненне, зрушыцца свядомасць і сэнсава акрэсліцца нешта больш істотнае і важнае, ад чаго захінуўся сном звыкласці і пасіўнай, непрацоўнай адзіноты.

Прыходзілі Вера Вярба і Раіса Баравікова. Вера імгненна закруціла і да шаленства давяла дзяжурнага ўрача (зрабіў заўвагу, што без халатаў): — А вы стажер или практикант? А почему у вас под халатом рубашки нет? і г. д.

Бяздзейнасць — як заўсёды, нарастанне занепакоенасці і трывогі. Абрывісты ход думкі, кароткае і аблегчанае, звужанае ў аглядзе ўспрыняцце наваколля — без далечы, парыванняў, узлётаў.

Недзе да 10-га — цудоўная цеплыня ў прыродзе, запозненае сапраўднае лета, потым халодны бесперапынны цыклон з нізкім цёмным і брудным небам; халепа і вецер, няўтульнасць жыцця, якой пасуюць толькі настроі паныласці, безнадзейнасці, адзіноты. Нарэшце зноў сонца, але ўжо восеньскае, неадчэпнае ад настыласці і свежака, але ўсё яшчэ душы мілае, свойскае...

У бальніцы колькі ўжо праплыло міма мяне людзей, а ўсе ў аснове сваёй былі нязлыя, кампанейскія, ветлыя, люд просты, якога шмат што ў апошнія дзесяцігоддзі псавала (гарэлка, грошы, блат), а ўсё застаўся свойскім, спагадным.

И. Тургенев. «Я шел среди высоких гор...»:

Я шел среди высоких гор,
Вдоль светлых рек и по долинам...
И все, что ни встречал мой взор,
Мне говорило об едином:
Я был любим! Любим я был!
Я все другое позабыл!

Сияло небо надо мной,
Шумели листья, птицы пели...
И тучки резвой чередой
Куда-то весело летели...
Дышало счастьем все кругом,
Но сердце не нуждалось в нем.
Меня несла, несла волна,
Широкая, как волны моря!
В душе стояла тишина
Превыше радости и горя...
Едва себя я сознавал:
Мне целый мир принадлежал!

Зачем не умер я тогда?
Зачем потом мы оба жили?
Прошли года... прошли года —
И ничего не подарили,
Что б было слаще и ясней
Тех глупых и блаженных дней.

*Ноябрь, 1878*

«Когда я лежу в постели и мрак облегает меня со всех сторон — мне постоянно чудится этот слабый и непрерывный шелест утекающей жизни.

Мне не жаль ее, не жаль того, что я мог бы еще сделать... Мне жутко» («Песочные часы»).

«Я поклонился моей улетевшей жизни — и лег в постель, как в могилу.

Ах, кабы в могилу!» («Я встал ночью...»)

Уладзімір Койныш, трохі блажны (і, вядома ж, на ўліку ў псіхдыспансеры). Працуе грузчыкам у кафэ-сталовай «Сузор'е»; яму разбіў галаву прадавец — гнаў за гарэлкаю. Адміністрацыя ўгаворвае, каб як замяць справу. Ахвочы ўсім дапамагчы, паслухмяны. Бясконца рады любой увазе. Цвёрда разважлівы ва ўсім і бясконца прастадушны. Адказвае на ўсе пытанні. Радасная мара і спадзяванне, што ажэніцца (1949 года), а ўсім расказвае, што з яго не бяруць за бяздзетнасць (даведка дыспансера).

Ноччу раптам успомнілася: мне ж трэба зрабіць юбілейнага Купалу, а я тут, узяты хваробаю і запалоханы ўрачамі, на ўсё забыўся. Дзіва што забудзеш! На кожным абходзе прафесар, загадчыца аддзялення і яшчэ нейкія халаты: — Вам яшчэ трэба жыць. Ваша язва незагойная. Пазней будзе ўжо позна. Такія язвы лёгка перараджаюцца...

Але ж не згадзіўся. Але ж паспрабую лячыцца сам.

І ўсё ж — кніжкі і ручку ў рукі, час працаваць.

Палатныя жарты: пойдзем да дзяўчат у рэанімацыю.

Мяне абплыла ўжо недзе чацвёртая змена.

А. Твардовский. «Письмо о л-ре». М., 1985, с. 126:

«В нашем с Вами возрасте уже наивно ждать легкой жизни, ее радостей обычных, уже в замену им остается одна радость, одно прибежище: работа, размышление, понимание, постижение».

Пасля ўсяго. Пасля таго, як прафесар Барадзін (Іван Фаміч) яшчэ раз сказаў: «Я вам советую сделать операцию. Как близкому родственнику говорю: такая язва не заживает. Потом может быть поздно». Пасля таго, як палохалі то саркомаю, то ракам. Пасля таго, як па чарзе прыходзілі, а на абходзе ўсім гуртам...

Пасля таго, як праводзіла ўся палата (Яскевіч, Вячаслаў Іванавіч, Папруга, Міpановіч, Ясеніцкі) ажно да выхаду, пасля многіх трывог і нялёгкіх роздумаў — у Зялёным, у восеньскім лесе, то халодна-няўтульным, то прыветна шумліва-сцішаным, засыпаным апалым ліс-

цем — без разгону, без думак, без асабліва чытання, без увагі, — проста адпачываю з З. і патроху пачынаю падсумоўваць нялёгкі этап жыцця. Было ўжо і паўгода бальніцы (2-й савецкай), але цяпер іншы ціск бяды і небяспекі.

Сон мамы. Нешта датычыць мяне. Пазаісная сіла: — Всё у него будет хорошо.

— А саркома?

— Ее унесли.

**Мой сон.** Мне даюць, ці я прыдбаў, чорненькага шчанючка. Поўныя міласці да мяне ягоныя вочкі, невялікая, трохі вастраватая галоўка, **бліскучая гладкая** поўсць. Адчуванне, што я, і душа мая, у ім, што гэта нешта надзвычай роднае і роўнае мне...

Яшчэ сон. Чамусьці мне трэба дапісаць нейкую, некім распачатую працу, напрыклад — пра «Сцяг брыгады». Пішу лёгка, удала, з добрай ахвотаю, словы гучаць у вершах. Іду, акрылены і лёгкі, калідорам вялікага будынка, паўз дзверы і вокны Аркадзя Куляшова, ён мяне нібыта бачыць, **яны** мяне бачаць, але патроху сплывае ўсё.

Напісаць пазней артыкул, як чытаў вершы ў палаце — сабе і людзям, у часопісах і ў «ЛіМе», а яшчэ — Твардоўскага і Вярцінскага.

Халодны дасевак верасня, паўночны (з Нарвегіі) вецер. Восеньскія грыбы, два баравікі на лясной дарозе, зялёнкавыя купінкі...

Музыка — таямнічае, невыказнае, смутак, боль і радасць без слоў, у адчуваннях і прадчуваннях, у пяшчоце, скрусе, трывогах...

Паэзія — выказанае, сканцэнтраванае словамі, самымі дакладнымі і азначальна акрэсленымі, але і поўнае той жа невыказнасці, загадкавасці, няпэўнасці, па-за слоўнага снення трывогі, радасці, прадчуванняў...

Моцарт у фільме (тэле): «Чтобы жить по-княжески, нужно работать».

Ярац у рэцэнзіі на маю кніжку нічога не вычытаў і не знайшоў, хоць хваліць і хваліць, але недахопы ўбачыў і вызначыў даволі дакладна: і мне яны так бачацца, і іншыя прыкладна гэта адзначалі. То і дзякуй за тактоўна выказаныя заўвагі. Але навошта яму я — чужы, далёкі.

Лев Озеров. «С чего начинается понимание?» («ЛР», 27.9.85):

«...иные авторы думают, что высшее на свете критическое благо — похвала. О нет, много дороже похвалы — понимание. Похвала проходит, какой бы она ни была искренней, а понимание не проходит, оно способно расти и углубляться, доискиваться до сути, и в этом не знать предела».

І адзін толькі ўрок жыцця даецца пэўна і неадменна: пакуты непазбежныя, і чым болей.

Не заўважыў у Ясеніна раней:

Прозрачно я смотрю вокруг
И вижу — там ли, здесь ли, где-то ль, —
Что ты одна, сестра и друг,
Могла быть спутницей поэта.

800 год «Слова аб палку». Веліч «Слова». Яго маштабнасць — грамадз. мышленне і дух. далягляды, магутная і пранікнёная вобразнасць, патрыят. страснасць, абсяжнасць падзей, насычанасць рэалій, эпічны размах, лірызм, урачыстасць і смутак, драматызм, палітычна-духоўны агляд і разгляд часу, моцная трывалая і найтанчэйшая стылістыка, выразны і актыўны гукапіс, шматгранны псіхалагізм, высокі мастацкі лад і г. д.

*3.X.*

Цёплае залатое сонца, светла і прыветна ў паветры, лагодная чысціня неба, спакой наваколля, стракаценне неапалага лісця. Хай нічога не раблю і дзень ідзе на тлумню (пашпартны стол, магазін, кнігарня, нешта яшчэ), але — пасля таго, што згадзіўся ўжо не жыць, не быць — шчымлівая хваля, што дажыць да такой пагоды, быць у ёй і з ёй — ужо шчасце, дзеля якога варта намагацца трымаць лодку на плаву і вычэрпваць ваду.

*8.X.*

Дні залатой восені і амаль што ціхай радасці. У Зялёным. Сядзелі проста ў лесе, у лагчынах і на ўзгорках. Была ціша. Было добра. Было грыбна — трохі пройдзеш, і кошык поўны.

*12.X.*

Апошні (паводле прагнозу) дзень цяпла. З раніцы дождж. Апошні раз у бальніцы. Хоць не ўсё яшчэ доб-

ра, але адчуванне перамогі і надзея, што яшчэ можна будзе трохі пажыць і нават нешта зрабіць.

Марыя Башкірава памерла ў 24 гады, пакінула звыш 150 карцін, мноства малюнкаў і эскізаў, акварэлі і некалькі скульптурных эцюдаў, 109 сшыткаў свайго спавядальнага дзённіка. 1860—1884.

Сергей Орлов. («ЛГ», 4.1.78):

«Остается небольшая малость — жизнь дожить без лишней суеты, так, как в дни, когда она касалась ежечасно огненной черты. И могла сгореть в одно мгновенье, может, тыщу раз на каждом дню, не пугаться, не искать спасенья, не питать надежды на броню».

Ліст М. Львовіч:

«Добры дзень, Мая Давыдаўна!

Прашу Вас даравáць мне, што памногу маўчаў. Амаль два месяцы адбыў на бальнічным і ў бальніцы, у хірургіі, прычым трапіў туды ў нядобрым стане... Ставілі мне самыя розныя дыягназы, у тым ліку самыя горшыя, настойвалі на аперацыі, зноў жа — абяцаючы, што іначай мне не жыць, але я патроху ачомаўся і выпісаўся з язвай страўніка ўжо лепшага выгляду, аднак жа з пагрозаю, як яны кажуць, малігнізацыі. Таму зноў і зноў узнікае праблема аперацыі, але я пакуль не згаджаюся.

...Гэта, аднак, — прэч. Адносна Вашай кнігі. Яснасці пакуль няма ніякай. Справа не ў тым, ці ўхваляецца сам рукапіс — ясна, што рэдакцыі перакладныя праводзяць своеасаблівы конкурс кандыдатур, кожная з якіх звычайна мае свае і немалыя заслугі. У нас выдаецца штогод фактычна па адной кнізе з украінскай паэзіі, уключаючы і класіку. Напланавана ўжо, як водзіцца, на нямала гадоў наперад. Вас мяркуюць выпусціць разам з яшчэ двума-трыма ўкраінскімі аўтарамі, але да планавання канкрэтнага выдання яшчэ не дайшло. Таму і цяжка сёння абгаворваць будучы склад Вашага рукапісу і весці перамовы з перакладчыкамі. Але — будзем спадзявацца. Я гавару гэта не з бяздумнай лёгкасцю, а з разуменнем, як важна гэта для Вас.

Майце на ўвазе хаця б тое, што Ваша кандыдатура ўжо на цвёрдым уліку... Гэта пішу Вам, вядома, не маючы пэўнасці, ці застануся я ў выдавецтве.

На працу хадзіў сёння першы дзень. Там — тлумня і тлумня. Не бачу ў ёй асаблівага сэнсу...

Яшчэ раз — прабачце. Не крыўдуйце. Адказы з выдавецтва Вам некалькі разоў рыхтавалі — за подпісам галоўнага, але я іх затрымліваў, паколькі ў іх не бачылася нічога пэўнага. Будзе нейкі зрух — адразу ж паведамім.

Жадаю Вам здароўя, здароўя.

Паклон Вашай маме.

*14.10.1985, Мінск».*

*20.X.*

Вера Вярба. «У спалучэнні вобраза са словам...»:

Шчаслівы той,
Хто быць каханым
мусіў,
Хто сам кахаў без часу і мяжы.
Я непазбежнай смерці
Не баюся,
Баюся, каб цябе не перажыць.

*27.X.*

Яшчэ адна бальніца, цяпер ужо абласная. Зноў хірургія, цяпер ужо, мабыць, з аперацыяй. На вуліцы была яшчэ добрая, не сумная восень.

Юбілей Ул. Паўлава. Ездзілі да яго з Тулупавай.

Кніга Ігара яшчэ не здадзена — не напісаў прадмову.

Римма Казакова. «Достоинство» («Известия». 27.10.85):

Есть черта души: достоинство.
И оно важней всего.
Будет все на свете спориться,
если сохраним его.
То, что на добре настояно,
и к добру должно вести.
Надо сохранить достоинство,
а коль нету — обрести.

Пусть твоя работа — скромница,
в ней достоинство одно,
что достоинство не скроется,
если все же есть оно.

Надо так сердцам настроиться:
мы достойно жить должны!
И равнять свое достоинство
на достоинство страны.

*28.X.*

Што павінен адчуваць чалавек, якому пастаўлены дыягназ: рак або лімфасаркома. Або пазней, пастаянна: падазрэнне на магнілізацыю. Што?

Ды нічога асаблівага. Нельга панікаваць. Страх толькі за іншых — за маму і жонку. Што чакае тады іх?

Што датычыць самога, то можна падбіць рахункі: жыў, як умеў, сумленна і нікому не жадаў зла (хоць, бывала, уступаў з некім у канфлікты, страшэнна канфліктаў не любячы).

Колькі людзей пражыло менш. Таму зусім не палохае сама смерць — жыцця, калі на тое, было дастаткова. Усё жыццё — тайны, схаваныя думкі, патаемныя ўчынкі. Надта многа адзіноты, але яна патрэбная душы, як паветра.

Падышоў палатны сусед:

— Што ён усё рысуе? — і зазірнуў у запісную...

Сёння зноў ФГС (японскі зонд), потым ізатопны кабінет, зноў кропельніца, заўтра — рэнтген страўніка, ЭКГ.

Трэба жыць і выжыць! — Выжыву! — упэўнена казаў я ў жніўні і верасні.

— Можа, і выжыву, — няўпэўнена кажу я сёння. — Але трэба жыць і выжыць.

*4.XI.*

Учора напісаў прадмову да кнігі Ігара. Аддаў. Сёння карціць — блага, не так.

На абходзе: — Больной готов к операции.

Пуста ў акне. Сасняк адбірае прастору. Бярозка з неапалым лісцем. Голле ўвесь час у звівах і рухах. Вараннё, сарокі. Вербалознік яшчэ таксама не асыпаўся.

Смутак. Бараўлянскі смутак. Шкода прапушчанага, нязробленага.

Смутак па тым жа Ігару, па яго так недарэчна абарваным лёсе.

Прыходзіў Мікола Гіль, гаварылі. Пра што? Пра паэму Някляева «Наскрозь», пра вершы Янішчыц у сувязі з хваробай сына...

Пасля мне здалося, быццам каркнуў воран.

Някляеў, вядома, чалавек таленавіты. Але ёсць рэчы, якія нельга «эстрадзіць», яны патрабуюць гаварыць пра іх сутнасна, «гола». Колькі адзёжак, апратак ні ўздзень, як ні выкручвайся — астанешся голенькім, нават непрыстойна голенькім...

Апошні ліст, прачытаны ім...

*7.XI.85.*

Дарагі мой Чалавек, Варлене!

Хацеў бы быць бліжэй — дактары не пускаюць, хацеў бы сказаць болей — папера не дазваляе. Усё разумею, хачу зразумець, радуюся за цябе, за тваю мужнасць. Ведаю, што няма большай хваробы, як хвароба духа, і ведаю, што дух наш трымае нас на зямлі. Каб ты ведаў, як мы чакаем твайго голасу **на волі,** голасу, які з'яўляецца адбіткам не толькі свайго жадання. Гавару пра ўсё гэта на паперы, бо з-за нейкай дурной сарамлівасці не сказаў яшчэ іначай, не пасмеў сказаць. Трывайся і выходзь да нас.

Абдымаю — твой *А. Кудравец.*

**Бечык В.**

Б 56 Радкі і жыццё: Старонкі дзённіка /Уклад Л. Л. Кароткай; Прадм. П. Е. Панчанкі. — Мн.: Маст. літ., 1993.—295 с.

ISBN 5-340-00770-1.

Бечик В. Строки и жизнь: Страницы дневника.

Варлен Бечык (1939—1985), чыя заўчасная смерць балюча ўдарыла па нашай культуры, пры жыцці паспеў выдаць мала кніг («Шлях да акіяна», «Свет жывы і блізкі», «Прад высокаю красою» і інш.), але ўклад яго ў беларускую крытыку і літаратуразнаўства неаспрэчна вялікі. Гэтая кніга — старонкі з яго дзённіка, які ён вёў на працягу ўсяго жыцця. Гранічная шчырасць, глыбокае і тонкае пранікненне ў жыццё і літаратуру, нязмушаная, вобразная мова і многія іншыя прывабныя якасці гэтай кнігі робяць яе жаданай шырокаму колу чытачоў.

Б $\frac{4702120201—015}{М 302 (03)—93}$ 131—91 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

Бечик Варлен Леонидович

*Строки и жизнь*

Страницы дневника

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

Бечык Варлен Леанідавіч

*Радкі і жыццё*

Старонкі дзённіка

Загадчык рэдакцыі Г. С. Шупенька
Рэдактар В. М. Хлебавец
Мастак С. А. Сцяпанаў
Мастацкі рэдактар В. А. Губараў
Тэхнічныя рэдактары Л. М. Шлапо, Г. Г. Федарук
Карэктар Я. Ф. Харко

ІБ № 3563

Здадзена ў набор 13.02.92. Падп. да друку 29.12.92. Фармат 84×108 1/32. Папера друк № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 15,54. Ум. фарб. адб. 15,54. Ул.-выд. арк. 14,32. Тыраж 1800 экз. Зак. 192. Цана 25 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Мінск. 220600. праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.